АЛЯКСЕЙ КУЛАКОЎСКІ

# РОДНЫЯ ШЫРОТЫ

АПОВЕСЦІ
І АПАВЯДАННІ

МІНСК «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА» 1978

# РОДНЫЯ ШЫРОТЫ

## I

На сход збіраліся прыцемкам. Хіба хто выберацца тут, пакуль не прыйдуць з пашы чароды, не падоіцца дома карова ды не зварыцца свежая бульба на вячэру?

Ля ўсходцаў старога ганачка ляжала, уткнуўшыся белым гузыром у пачарнелы ад вільгаці стаячок, новая бярозавая мятла. Марасіў надакучлівы асенні дождж, мятла паблісквала ад яго і нібы наўмысля звяртала на сябе ўвагу, быццам прасіла тых, хто прыходзіў на сход: «Вазьміцеся за гузыр, пакуль ён яшчэ чысты, абмяціце гразь з абутку — і самім будзе зручней зайсці, і гаспадыня вам падзякуе».

Але ніхто не нагінаўся, каб узяцца за бярозавы гузыр. На ўсходцах некаторыя трохі грукалі нагамі, некаторыя сяк-так абскрэбвалі ліпкае месіва аб канты прыбуцелых дошак, а большасць заходзіла як ёсць: усё роўна не абаб'еш і не абмяцеш таго, што набралася на абутак за дзень.

Мяне таксама пацягнула на гэты дамашні сход. Жыў я тады ў Клімавічах і працаваў у раённай газеце «Камуна», але час ад часу прыязджаў дадому на кароткую пабыўку, праведаць бацькоў. Каб не тырчаць там лішне ў хаце — ведаў, што сход пачнецца не так хутка,— прыпыніўся непадалёку і стаў аглядваць знаёмыя і з маленства блізкія мясціны. Тут не то што ўсе двары, прыгуменні, будынкі, а нават і кожнае старое дрэва ў садах было некалі зведана: наўрад ці знайшлося б такое, пад якім у свой час не збіраў падалыя, а то і стрэсеныя яблыкі ці ігрушы.

У будынках заўважыў пэўныя змены. На дзвюх сумежных сядзібах не так даўно раскулачаных аднавяскоўцаў размясцілася Старобінская МТС. Ёй, пэўна, знайшлі б месца і ў самім Старобіне, які быў тады раённым цэнтрам і знаходзіўся зусім блізка ад нас, але наша вёска была, відаць, больш спадручнай у геаграфічных адносінах. Тут з'явіўся дамок для канторы МТС, яшчэ нейкі складзік, а

непадалёку — цагляная майстэрня для рамонту трактароў.

На вуліцы паказаўся чалавек у доўгім чорным паліто. Ён толькі і выдзяляўся тым, што насіў паліто, а ўся астатняя адзежа, як я ўжо ведаў, была ў яго вясковая: кепка, трохі абвіслая на адзін бок, талстоўка з даматканага сукна з нашытымі кішэнямі зверху на грудзях і знізу па баках, боты юхтовыя, мясцовага пашыву. Гэта быў дырэктар МТС Васіль Іванавіч Казлоў. Ён ішоў на сход. Я стаяў воддаль пад старой вінёўкай і быў упэўнены, што ён не заўважыць мяне ў паўзмроку або не зверне ўвагі.

Але выйшла іначай. Падышоўшы да ганка, ён спыніўся і стаў настойліва глядзець у мой бок. Тады я падышоў бліжэй.

— Здаецца, тутэйшы? — спытаў ён, не зусім упэўнена працягваючы мне руку.— Я Казлоў, амаль што сусед ваш. Пойдзем на сход, паслухаем добрых людзей, то мо і самі што скажам.

— Пачакай, Васіль! — пачуўся бойкі жаночы голас з прыгумення.

Я не пазнаў, хто гаворыць, але здагадаўся, што нехта блізкі. Хацеў ісці ў хату адзін, аднак Васіль Іванавіч прытрымаў мяне:

— Не спяшайся, зойдзем разам. Гэта мая жонка... Відаць, з работы.

— Ты куды? — спытала жанчына, як толькі падышла. Глянула спачатку на Васіля Іванавіча, потым на мяне. Вясёлыя вочы paблісквалі, і голас быў звонкі, а сама да таго запыленая, што здавалася — толькі вочы і зубы засталіся чыстымі.

— Дзе ты гэтак? — не ўтрымаўся ад запытання Казлоў.— І пазнаць цябе нельга.

— На гумне была, ячмень ручною малатарняю малацілі.

— Ну, а мы ідзём на калгасны сход. Яго прызнаеш па прыродзе?

— Ды хто іх цяпер, маладых...— памяркоўна сказала жанчына.— Гарадскімі сталі.

— Мікалая-палявода сын,— удакладніў Васіль Іванавіч.— Амаль што сусед наш.

— Ляксей,— упэўнена сказала жанчына і наблізіла свой, да шэрасці запылены твар да мяне.— Чула

ад мацеры. А мяне завуць Фрося.— Яна падала мне руку, на якой я адчуў цвёрдыя мазалі.

— Ефрасіння Яўхімаўна,— папраравіў Казлоў і лагодна ўсміхнуўся.

— Ніякая не Ефрасіння і не Яўхімаўна,— запярэчыла жанчына.— Проста Фрося. Я на паню не хварэю.

Мне ўспомнілася, што маці мая аднаго разу сказала пра гэтую жанчыну:

— Не відно, што дырэктарша... Зусім не відно... Разам з намі і на поле, і на гумно, і ў сушню лён церці. Ён просты чалавек, усім даступны, а яна яшчэ прасцейшая.

...Сход адкрыў старшыня калгаса Дрызгаловіч.

Забягаючы крыху наперад, скажу, што некалькі год наш калгас называўся «Свабода». Потым некаторыя вастракі з абібокаў пачалі шкіляваць: «Калі ў нас свабода, то хачу раблю, хачу — не». І сапраўды не выходзілі на работу. Калгас потым перайменавалі, а як гэта памагло, добра не памятаю.

Дрызгаловіч прапанаваў выбраць Казлова ў прэзідыум сходу. Пачуліся нават апладысменты. У цеснай хаце яны прагучалі моцна, нават агонь замігаў у вісячай лямпе. Васіль Іванавіч выйшаў пад святло без паліто, без шапкі, і я адразу заўважыў, што ён быццам памаладзеў: густыя чорныя валасы былі ў яго хараша зачэсаны на цемя, шчокі хоць крыху і ўпадзістыя, але гладкія і нядаўна паголеныя, каўнер талстоўкі шчыльна і роўна аблягаў шыю. Сеўшы за стол побач са старшынёй, ён звычна паклаў рукі на стол і стаў добразычліва аглядваць тых нашых вяскоўцаў, што прыйшлі на сход. Некаторым з усмешкаю ківаў галавой.

Мне хацелася паслухаць выступленне Казлова. Я ведаў ад людзей, што чалавек ён здатны, але адукацыі не надта высокай: скончыў Мінскі двухгадовы камвуз, куды быў накіраваны з пачатковай асветай. Да вучобы працаваў на Жлобінскай чыгунцы, служыў у Чырвонай Арміі.

І цяпер на гаворку чалавека зважаецца не мала, а ў тыя часы ўменне добра выступіць з прамовай лічылася амаль галоўнай якасцю таго ці іншага кіраўніка. Я ўжо неяк успамінаў, што той старшыня

роты, які некалі прыязджаў у нашу вёску агітаваць за калгасы, заваяваў маю любоў і адданасць пераважна тым, што ўмеў хораша і доўга гаварыць на сходах. Мне ўяўлялася, што такім «божым дарам» валодаюць толькі выключныя людзі, а сам сябе бачыў прамоўцам часам хіба толькі ў сне.

Доўга з горыччу і шкадаваннем я ўспамінаў, як аднаго разу нейкая сляпая сіла падбухторыла выступіць на калгасным сходзе майго бацьку. З хвіліну ён трымаў руку ў паветры і памахваў ёю ў бок прэзідыума, ужо дачасна чырванеючы і дрыжучы павекамі. Калі ж яго заўважылі, то не мог адразу вырашыць, якім словам прасіць дазволу выступіць, рускім, як часам прыезджыя прамоўцы, ці сваім, вясковым. І пачаў блытацца: то разрашыце, то дазвольце, то проста — дайце сказаць. Урэшце амаль нічога і не сказаў, калі атрымаў слова, запнуўся, неяк ненатуральна закашляўся і з вінаватымі, ледзь не вільготнымі вачамі сеў на сваё месца, апусціў галаву.

Некалькі дзён пасля таго я пазбягаў глядзець бацьку ў твар. Не папрок і расчараванне адольвалі маю душу, а горкае здзіўленне: як гэта можа быць, каб такі чалавек, дужы і смелы ў жыцці — глыбокімі, цёмнымі начамі ездзіў у далёкі лес секчы жэрдзе для агароджы і не заблудзіўся там з возам, у імперыялістычную хадзіў пад Сіняўку капаць акопы, у грамадзянскую быў тут першым старшынёй сельсавета, і калі прыйшлі польскія легіянеры, то даў аднаму па пыцку за тое, што акупант назваў яго «псякрэвам» і лез біцца. Бацьку маглі расстраляць за гэта, аднак не пабаяўся. А вось выступіць на калгасным сходзе не знайшоў сілы.

Мой бацька і то не асмеліўся. А як было б мне самому? Уяўлялася, што ніколі не навучуся выступаць. Тым больш што спроба такая была.

У тыя часы, калі жыў яшчэ дома, чыжэвіцкая камсамольская ячэйка (свае ў нас тады не было) даручыла мне выступіць з прамовай на першамайскім мітынгу, які павінен быў адбыцца ў маштабе сельсавета. Напісаў я гэтую прамову, паказаў Бегуну, старшыні сельсавета, з якім у мяне былі прыяцельскія адносіны, хоць ён старэйшы, і пачаў вы-

чыць тэкст на памяць. Шэптам вывучыў і паўтараў без запінкі, а як толькі пераходзіў на голас, ды яшчэ на аратарскі, як толькі пачынаў уяўляць, што мяне слухаюць людзі, дык не толькі асобныя словы выляталі з памяці, а нават і цэлыя сказы. Роспач брала ад перакanання, што не здолею выступіць, што падвяду і камсамольскую ячэйку і Бегуна. Адчуваў, што трэба пераламаць у сабе боязь і нерашучасць, што для гэтага, пэўна ж, неабходна вучыцца гаварыць моцна і трохі памахваць рукамі. Але дзе вучыцца? Пачаць крычаць у лесе, пасучы коней? Дык нехта пачуе, засмяе потым. Дома тым больш не крыкнеш. І пачаў я на змроку хадзіць у наш садок. Там расла малінаўка з сядлом каля самай зямлі. (Яна і цяпер расце.) З самых малых год я любіў узбірацца на гэтае сядло і падоўгу сядзець там, назіраць, як вераб'і і сініцы, зусім не баючыся мяне, садзіліся на яблыню, пераскоквалі з галінкі на галінку і падавалі свае аднастайныя, але зусім шчырыя галасы. Гэтае месца кожны раз заспакойвала мяне, наводзіла на роздумы і часам нават выклікала жаданне што-небудзь напісаць ці хоць запісаць якое ўражанне або назіранне.

Цяпер, стаўшы на гэтае, ужо трохі таўсцейшае сядло малінаўкі, я па-ранейшаму заспакойваўся, без асаблівага страху ўяўляў перад сабою тых чыжоўцаў, што збяруцца на мітынг, і нягучна, аднак з аратарскімі націскамі паўтараў сваю прамову.

Ішоў на мітынг з адчуваннем, што, калі нават і вельмі разгублюся, хоць і паджылкі затрымцяць ад страху, і ў вачах пацямнее, усё роўна не саб'юся з тэксту: колькі разоў нават у сне паўтаралася кожнае слова.

Праходзіў мітынг на сярэдзіне Чыжэвіцкай вуліцы, на сухім пятачку. Тут каля плота аднаго гаспадара ляжала стосам бярвенне. Нехта з мясцовых актывістаў (я не ведаў яго) узышоў, як па прыступках, на вышэйшае бервяно, сказаў сам прамову, адкрыў мітынг, а тады даў слова Бегуну. Той узабраўся яшчэ на вышэйшае бервяно, бо быў меншы ростам, выпучыў грудзі з бліщчастымі вайсковымі гузікамі, моцна кашлянуў і пачаў гаварыць, паглядваючы на паперку, якую трымаў у левай руцэ.

«Можа, і мне трэба выняць з кішэні паперку»,— падумаў я. Потым стаў вачамі выбіраць тое бервяно, на якое стану, калі прыйдзе мая чарга і мне дадуць слова.

Але чаргі свае я так і не дачакаўся, слова мне не далі. Проста забылі, як стала вядома пазней.

Неяк асабліва свежа і яскрава мільганула ўсё гэта ў памяці, калі старшыня калгаса даў слова Казлову. Я з цікавасцю і захапленнем сачыў за кожным яго рухам, выразам твару і ўхваляў у душы яго простую, незанослівую спакойнасць, яго ўпэўненасць, далёкую ад самаўпэўненасці. І гаварыць ён пачаў гэтак жа проста, разважліва, не вельмі старанючыся ўжываць газетна-мітынговыя, аднак жа, як на чый погляд, больш эфектныя словы. У яго хапала сваіх жыццёва-вясковых слоў і выразаў, якія знаходзіліся лёгка, зусім натуральна і добра разумеліся людзьмі. Гэта надавала яго прамове даходлівую пераканаўчасць, рабіла яе зусім суладнай з думкамі і імкненнямі тагачасных калгаснікаў.

Васіль Іванавіч гаварыў пра неабходнасць далейшага гаспадарча-эканамічнага ўмацавання калгаса, пра павышэнне ўраджаяў.

Я ўважліва слухаў Васіля Іванавіча, у душы згаджаўся з кожным яго словам і ў той жа час адзначаў для сябе: «Вось жа і так можна выступаць з прамовамі, не абавязкова вышукваць нешта нязвычнае, націскаць на кожнае слова і нібы ўтрамбоўваць яго рукамі».

## II

Усё гэта нагадалася мне, калі нядаўна зноў прыехаў на сваю радзіму і надвячоркам, ужо наглядзеўшыся тут на ўсё і нагаварыўшыся з землякамі, шпацыраваў па вуліцы імя Героя Савецкага Саюза В. І. Казлова ў Салігорску. Вуліца шырокая і доўгая: ідзе яна ад самай Кавалёвай лазы, былога чыжэвіцкага пасёлка, цяпер занятага дзіцячым паркам, і ледзь не з'ядноўваецца з маёй роднай вёскай. І вельмі чыстая гэтая вуліца, дагледжаная, уся ў газонах і маладых прысадах. На ёй размешчаны амаль усе гарадскія і раённыя ўстановы.

Толькі што прайшоў ціхі дождж, асенні ўжо, але цёплы, не назойлівы. Шырачэзны, як цэлая вуліца ў некаторых гарадках, тратуар свежа пабліскваў перада мною, у ім адбіваліся раскошныя, з густам і ўмеранай шыкоўнасцю афармленыя вітрыны магазінаў. Яшчэ не адляталі на седала галубы. Яны весела і жвава ўспырхвалі, калі я набліжаўся да іх, і зноў садзіліся каля газонаў на тратуары. Газоны былі яшчэ зеленаватыя, амаль не прыяленыя холадам, месцамі на іх яшчэ дацвіталі познія астры і гваздзікі. Галубы нешта тут знаходзілі для сваёй вячэры, старанна, спехам штосьці дзёўбалі і запівалі вадою з чыстых, празрыстых лужынак.

Засвяціл ў вочы вітрыны... Мацней, як магазінныя, аж тратуар у гэтым месцы быў святлейшы. Глянуў я, што тут, і прачытаў на адной вітрыне: «Ашчадная каса». Прайшоў далей — і там гэтакі ж надпіс. Вітрыны асвятляюць увесь ніжні паверх вялікага шматпавярховага дома. Дык колькі ж тут ашчадкас? Можа, з усяго горада сабралі ў адно памяшканне?

Праз шырокія вітрыны відны людзі: хто стаіць, хто ходзіць — значыць, касы яшчэ працуюць, спакойна, без спешкі і мітусні абслугоўваюць людзей пасля іхняй работы, калі не лічыць начных змен.

Параўняўшыся з двайнымі дзвярамі, зайшоў у памяшканне і я, каб паглядзець, колькі тут устаноў ці службаў, як людзі размясціліся і якія абавязкі выконваюць. Аказалася — толькі адна гарадская ашчадкаса. Усе яе аддзяленні і сектары ў святле і прасторы, у зале многа сталоў і крэслаў для наведвальнікаў. Па гэтай зале можна і прагуляцца, калі хто мае час,— месца хапае нават і для добрых крокаў.

Тым жа шпацырам, што і па тратуары, рушыў я па зале ашчадкасы, толькі ў адваротным кірунку. Шматлікія касіркі і кантралёркі, усё найбольш маладыя і мілавідныя, хораша і модна адзетыя, не звярталі на мяне ніякай увагі: у іх заўсёды людзей хапае, і сваіх і прыезджых. Нібыта шукаючы свайго, толькі мне патрэбнага акна, я чытаў на хаду розныя шыльдачкі, хоць яны мяне амаль што і не цікавілі.

Выйшаўшы з ашчадкасы, яшчэ лепш адчуў я свежасць і чысціню салігорскага паветра, і хоць ужо не

бачыў — прыцямнела хутка, па-асенняму, але ведаў з дзённага агляду, што непадалёку ціха плешчацца і ўжо нават гадуе рыб Салігорскае мора. Хоць вуліца Казлова і не набярэжная, але жыватворны марскі водар даходзіць і сюды. А ёсць тут людзі, якія жывуць і каля самага мора. І там узведзены дамы, белыя, высокія. І вуліца тая афіцыйна называецца Набярэжнай. І пансіянаты там ёсць, і пляжы, і лодачныя станцыі, ды мноства ўсялякіх зручнасцей і выгод для аматараў-рыбаловаў.

А з чаго ўтварылася гэтае мора?.. Тут зноў успаміны адольваюць мяне, і не магу саўладаць з імі, бо працінаюць душу нечым надзвычайным, балюча-прыемным і, на жаль, вельмі далёкім...

Працякала тут некалі рэчка Случ. Не глыбокая была яна ў гэтых мясцінах: каля Стамагіл (такая вёсачка тут некалі стаяла) быў такі перамел, што мой бацька пераходзіў яго, толькі падкасаўшы калашыны нагавіц. А мы, малыя падпаскі, калі ў гарачы поўдзень дабіраліся сюды са статкам кароў, то ўвесь стойлавы час купаліся ў цёплай, як у печы нагрэтай, вадзе і, разганяючыся з пясчанага берага, подскакам дабягалі аж да сярэдзіны ракі.

На перамеле любілі пастаяць і каровы, намачыць у вадзе мяцёлкі хвастоў і абдаваць імі прыпацелыя ад спякоты бакі. А пасля кароў вельмі ж прывабна было тут ракам. Яны, вялізныя і кляшнястыя, часам сядзелі тут і ўдзень, і мы найбольш асцерагаліся іх, бегаючы па перамеле: можна накалоць ступню.

...Мабыць, ніколі не забудуцца тыя цудоўныя і ўжо непаўторныя летнія вечары, калі я з бацькам прыязджаў сюды з цабэркам на возе. Два-тры разы пройдземся з невадком па перамеле — і поўны цабэрак ракаў. Вязём іх дадому, жывых, варухлівых. Потым яны яшчэ ўсю ноч жывуць у цабэрку з вадою, а на світанні бацька іх перабірае: вялікія кладзе ў чыгуны, а малыя пускае ў сажалку, якая была ў нас у садку.

А колькі мянькоў было ў той рэчцы! Зімою бацька лавіў іх проста рукамі з палонкі. І прыносіў дадому мёрзлыя, як ледзяшы.

...Тая рэчка Случ была ад нас кіламетраў за чатыры. І цяпер яна недзе ёсць, відаць, каля самага

Слуцка. А да нас, цяпер ужо салігорцаў, падплыло мора, шырокае, неабсяжнае, нават з узгорка вокам не акінеш, са сваім самабытным водарам, са сваімі чайкамі. Жыльцы Набярэжнай вуліцы кладуцца спаць і ўстаюць на світанні пад вясёлыя і неўгамонныя галасы чаек.

...У майго бліжэйшага друга і земляка Леаніда Бруя ёсць магнітафонныя запісы гэтых галасоў, а таксама спевы іншых птушак. Часам ён запускае плёнку ў кругу сяброў, каб даць магчымасць на месцы паслухаць і ўявіць, які ў нас цяпер навакольны пейзаж і птушыны свет. А для параўнання і для вясёлага жарту ён запускае і тую плёнку, якая была некалі запісана з адчыненага акна Салігорскага горна-хімічнага тэхнікума, дзе Леанід Васільевіч працаваў тады завучам. Магнітафон падае рознагалосае бэканне чарады авечак. Доўга чуюцца авечыя галасы і чамусьці нечым зачароўваюць, выклікаюць захапленне, задорны смех і смутак. У тых галасах няма надакучлівасці, іх хочацца слухаць, як нешта блізка знаёмае душы, зусім жыццёвае і натуральнае. І толькі калі ў гэтую нязладжаную, але вельмі каларытную гаму ўрываецца прыхрыплы голас пастуха з лясканнем пугі і зусім незапіснымі слоўцамі, плёнка абрываецца.

Усё, як для каго, а для мяне дык і гэта пэўная гісторыя. Быў я некалі на закладцы гэтага горада, трымаў аберуч цэментавы слупок з надпісам, а дзяўчаты-падсобніцы засыпалі ямку зямлёю, потым утрамбоўвалі тое месца спрытнымі нагамі.

Пасля некалькіх баракаў, якія салігорцы пабудавалі тут, каб размясціць першыя брыгады будаўнікоў, былі ўзведзены клуб і кінатэатр. Цяпер яны выглядаюць ужо нібыта гістарычнымі — так імкліва жыццё ідзе наперад. Тады ж быў пабудаваны і тэхнікум. Стаяў ён у чыстым полі і, здавалася, вельмі далёка ад горада. Каля тэхнікума пасвіліся авечкі, і часта здаралася, што заходзілі нават у самы пад'езд.

Вельмі даўно гэта было? Не, не вельмі. Але некалі грандыёзны корпус тэхнікума цяпер неяк заціснуўся паміж дзевяціпавярховымі дамамі і зменшаў, знізіўся. Аднак прайшоў я паўз яго з пачуццём зям-

ляцкага гонару за тое, што салігорцы яшчэ ў той час прадбачылі, як патрэбны будуць тут свае кваліфікаваныя кадры.

...Іду, іду па вуліцы, здаецца, што і канца ёй не будзе. Дыхаю ўсімі лёгкімі, не баюся, што нечым засвідруе ў нос, сцісне дыханне. Відаць, такая насцярожанасць з'явілася ў мяне пасля нядаўняга прабывання ў Нью-Йорку. І не хацеў бы ўспамінаць, але ўспомнілася. Там я не асмельваўся выйсці на вуліцу. Не таму, што баяўся заблудзіцца, не ведаючы мовы. Арыентацыю знайсці лёгка, а вось дыхаць там вельмі цяжка. Сціскала мне грудзі ледзь не з першых крокаў: туманны, атрутны смог не асядаў нават і ноччу, не сплываў часам па некалькі сутак. І тады падалі на тратуары нават мясцовыя жыхары, у каго было ўжо разладжанае склерознае дыханне. І мяне яшчэ больш цягнула дадому. Хутчэй бы закончыць сваю тутэйшую місію і — на радзіму! Нідзе мне так лёгка не дыхаецца, як дома, на сваіх родных шыротах. Таму ў вольныя хвіліны, у часы сваіх нярадасных прагулак вакол свайго будынка ў чужым горадзе, я часта думаў пра тыя незабыўныя вячэрнія прагулкі, якія выпадалі на маю долю ў родных мясцінах. І ўяўлялася, нават начамі снілася мне тая роўная і гладкая сцяжынка, якая ішла ад мае вёскі да Салігорска. Вуліцы Казлова тады яшчэ не было. Сцяжынка ішла праз якія-небудзь пасевы, кожны год розныя: праз кукурузу, калі яна была тут вельмі ў модзе, потым праз жыта, пшаніцу, бульбу, буракі.

Не надта гэта добра, што людзі вытоптвалі сцежку праз пасевы, але ж што зробіш, калі прастай дарогі не было.

Сцяжынка станавілася прыкметнай ужо на другі дзень пасля таго, як яе заворвалі. Потым вытоптвалася да асфальтавай цвёрдасці і добра відна была нават ноччу, прывабна адсвечвалася, калі ўзыходзіў і станавіўся над ёю нябесны ліхтар — месяц.

Я любіў прагульвацца па гэтай сцяжынцы позна вечарам, а то часам і ноччу перад сном. Нават калі і не было месяца, то сцежка лёгка намацвалася нагамі. Не зусім давяраеш нагам, то выстаў перад сабою рукі: не трапляюцца ў пальцы каласы, не ка-

вычуць нос вострым жытнім пахам, значыць — ідзеш правільна.

У шуфлядах майго тутэйшага пісьмовага стала некалькі год захоўваліся спелыя каласы, выпадкова сарваныя ў часы маіх позніх прагулак. Кінуць іх пад ногі я не мог: хлеб жа гэта. Нёс дахаты, а там клаў у шуфляду.

Здаралася, што ішоў да Салігорска і вобмацкам, бо насупраць свяцілі ў вочы гарадскія ліхтары і трохі падслепвалі мяне. Затое на звароце дадому было лёгка і прыемна: ліхтары з-за спіны, нібы наўмысля пастаўленыя, паказвалі мне дарогу, а наперадзе ўвесь час віднеўся чароўны арыенцір — агеньчык у акне той хаты, дзе я тады пражываў. І я ўжо ведаў: матуля мая яшчэ не спіць, калі гарыць агеньчык. Яна сядзіць недзе ля парога, хоць, можа, і дрэмле, абапершыся на сваю ядлоўцавую качарэжку, але чакае мяне...

А дзённыя прагулкі мелі іншыя маршруты. Яны скіроўвалі ў лес. Там чароўныя сцяжынкі майго маленства і юнацтва. Там партызанскія сцежкі таго чалавека, незабыўнае імя якога нададзена вуліцы, па якой я сёння іду.

## III

Трывожным начным сігналам уварвалася ў кватэру вайна... Першае пасяджэнне бюро ЦК КПБ у ваенных умовах... З гэтага бюро ўжо і не давялося Васілю Іванавічу вярнуцца дадому — яму як другому сакратару Мінскага абкома партыі былі даручаны неадкладныя справы па абароне горада ды эвакуацыі людзей і матэрыяльных каштоўнасцей.

Эвакуіраваў Казлоў многа і людзей і рэчаў, толькі сам не эвакуіраваўся. Ён астаўся ў падполлі, каб працягваць змагацца з фашысцкімі акупантамі вось тут жа, каля свайго дому, на той зямлі, якую ведаў ледзь не да кожнай пядзі, у тых лясах, якія амаль што даходзілі да маёй роднай, а яго — колішняй эмтээсаўскай вёскі.

Фашысцкія полчышчы з грукатам і лязгатам, на кожным кроку натыкаючыся на нечуванае па сме-

ласці і гераізму супраціўленне нашых войск, ірваліся на ўсход, а Казлоў з невялічкай групай сваіх аднадумцаў прабіраўся на захад. Ён ішоў ад вёскі да вёскі, ад ляска да ляска. Ледзь не кожны тутэйшы чалавек быў яму знаёмы, ледзь не кожны куст мог служыць часовым утулкам.

Але не аб зручным утулку, не аб уласным паратунку думаў тады гэты чалавек. З першых дзён вайны ён арганізоўваў узброенае змаганне з ворагам. Такі быў наказ партыі, такая была мэта душы і сэрца. Спачатку — групы і групкі, нават адзіночкі-падпольшчыкі. Яны з'яўляліся і пачыналі дзейнічаць усюды, дзе Казлоў пабываў. Потым — партызанскія атрады, брыгады і цэлае злучэнне.

...Чырвонае возера на Палессі... А ў мінулым — Князь-возера. Канаўка, якую мясцовыя людзі празвалі Ездаўнёй... Давялося па гэтай канаўцы заплысці на невялічкі грудок у балоце. Іншага ходу не было — пэўны час неабходна прабыць там. Сувязныя, блізкія і далёкія, таксама дабіраліся па гэтай канаўцы, каб параіцца з сакратаром абкома, цяпер падпольнага. Адсюль ішлі патрэбныя ўказанні ва ўсе бліжэйшыя раёны вобласці.

А праз нейкі час акупанты і іхнія памагатыя з мясцовых здраднікаў высачылі дыслакацыю абкома і паставілі кулямёты на Ездаўні. Каб нельга было выбрацца балотам у іншым напрамку, размясцілі патрульныя групы ва ўсіх вёсках і хутарах вакол Чырвонага возера. Гэта была блакада, яна пагражала абкомаўскай групе галоднай смерцю. Ніхто не мог выбрацца на сушу, каб прызапасіць хоць якоганебудзь харчавання, і з сушы нікому нельга было дабрацца сюды. Акупанты і трымалі такую мэту — замарыць абкомаўцаў голадам, холадам і малярыяй.

Як было выжыць, вытрымаць? Ніхто ж не выпраўляўся ў падполле, як у якую экспедыцыю,— не было ў людзей ні цёплай адзежы, ні прадуктаў. Як былі на службе, так і пайшлі: ні раздумваць асабліва, ні збірацца не было часу. Нават з сем'ямі не паспелі пабачыцца і развітацца.

На возеры — сырасць і часам холад начамі, бо ўжо бралася на восень. Агню не раскладзеш вялікага — усюды навакол немцы. А з харчамі дык і зусім

пагібель: дайшло да таго, што нічога не асталося ў лагеры — ні кусочка хлеба, ні сухарыка, ні бульбіны.

— Асінавае пюрэ варылі,— з сумнай усмешкаю гаварыў мне пасля вайны Казлоў.

— А што гэта такое? — для дакладнасці цікавіўся я.

— А толькі тое, каб не памерці,— дадаваў Васіль Іванавіч.— Клалі ў кацялок усё тое, у чым — мы ведалі — няма атруты: трохі асінавых галінак, трохі бярозавых, якую ягадзіну, калі ўдавалася знайсці. Заварвалі ўсё і пілі. Трэба было жыць...

Казлоў не любіў гучных слоў і часта намагаўся абходзіць тыя падзеі, што адбываліся пры яго непасрэдным удзеле. «Трэба было жыць...» І больш ён мог бы нічога і не ўспамінаць пра сябе. Але там былі яго паплечнікі, члены абкома Раман Навумавіч Мачульскі, Аляксей Георгіевіч Бондар, Іван Дзянісавіч Варвашэня, Іосіф Аляксандравіч Бельскі. Было таксама некалькі нашых пагранічнікаў, якія асталіся жывымі пасля цяжкіх баёў і трапілі ў акружэнне. Пра ўсіх гэтых людзей Васіль Іванавіч не мог не расказаць. Вось маленькая вытрымачка са стэнаграмы яго вусных успамінаў:

«Вельмі цяжка нам стала, калі фашысцкія злыдні ранілі Аляксея Бондара. Ён хадзіў у разведку і натрапіў на засаду. Мы і самі ледзь варушыліся ад галадухі і зморанасці, а тут яшчэ паранены таварыш, друг. Цяжка паранены. Ні лякарстваў у нас, ні бінтоў; горшай бяды не прыдумаеш. І справы нашы павярнуліся так: або страціць таварыша і самім загінуць у балоце, або выбірацца адсюль і выносіць параненага. Хоць з апошніх сіл, хоць з вялікай рызыкай для жыцця, але ісці трэба».

І яны выйшлі. Уратавалі жыццё Бондару і самі вярнуліся ў строй.

Яшчэ адна вытрымка са стэнаграмы:

«Балотнае жыццё, недаяданне, недасыпанне, а то і поўнае галаданне падарвалі маё здароўе, не надта моцнае і да гэтага: стала часта біць трасца, паднадараліся і іншыя хваробы. Аднаго разу ішоў бой, а мяне як пачало калаціць! Немцы пруцца на нашы пазіцыі, а я не магу ўстаць, каб адступіць ды заняць

новую абарону. Ледзь не схапілі. Нават не памятаю, як выратаваўся,— гарачка вялікая была. Людзі, канечне ж, памаглі, паплечнікі мае. Тады ўжо атрад Далідовіча ў нас быў і некалькі баявых груп».

У той стэнаграме ёсць маё запытанне:

— Ці ведалі што-небудзь пра сваю сям'ю: Ефрасінню Яўхімаўну, дачку Вольгу?

— Нічога пэўнага не ведаў,— сумна адказаў Васіль Іванавіч.— Даходзілі весткі, што яны быццам бы эвакуіраваліся. А як і куды — не ўдавалася высветліць. Ды не толькі ў мяне так было. Здаралася яшчэ горш: людзі даведваліся, што іх сем'і расстраляны, або закатаваны, або жывымі спалены фашыстамі... І неяк пераносілі, вытрымлівалі і зброі з рук не выпускалі.

Так. Усё вытрымлівалі, усё пераадольвалі. І кожным днём мацнелі і духам, і зброяй. І выраслі, пашыраліся. Ад засад і невялікіх дыверсій пераходзілі да значных партызанскіх аперацый, рэйдаў, наступленняў. І мелі свае партызанскія зоны, куды акупанты не маглі падступіцца. І не было ў Мінскай вобласці і ва ўсім Палессі такога кутка, дзе б фашысты адчувалі сябе спакойна.

Тут, дзе цяпер узняўся і з кожным днём усё больш вырастае і прыгажэе вялікі горад хімікаў і шахцёраў, было ў тыя часы даволі глухое і аддаленае ад асноўных дарог месца. Акупанты разлічвалі, што іхнія тутэйшыя гарнізоны будуць весці малатурботнае, нібы курортнае, жыццё, хіба толькі час ад часу памагаць буйным гарнізонам у Любані і Старобіне.

Але выйшла не гэтак. Любанскі гарнізон быў разгромлены адным з першых. Аперацыяй кіраваў Казлоў. Не раз папаўняліся фашысты і ў Старобіне, бо ледзь не кожны дзень партызаны іх вынішчалі. Стаў парушацца спакой і ў тутэйшых гарнізонах, самых блізкіх ад мае вёскі. Часам у гэтых быццам бы ціхіх мясцінах разгараліся вельмі цяжкія баі.

У адным з такіх баёў загінуў смерцю героя лепшы друг і саратнік Васіля Іванавіча Мікіта Бандаравец.

Яго імем названа тут вуліца.

~~Непадалёку адсюль~~ аддаў сваё жыццё ў жорст-

кай схватцы з фашыстамі бясстрашны камісар партызанскай брыгады Дзмітрый Гуляеў.

Яго імем названа тут вуліца.

Мяне цягне звярнуць на тыя вуліцы, прайсціся там, паглядзець, як яны змяніліся, выраслі, як папрыгажэлі за апошнія часы. Раней бываў я там не раз, бо гэтыя вуліцы з'явіліся намнога раней той, па якой цяпер іду. Па тых партызанскіх вуліцах даводзілася праходзіць яшчэ разам з Казловым, калі мы прыязджалі сюды на новабудоўлі.

## IV

Пасля вайны Казлоў часта бываў на маёй радзіме, а калі пачалася праходка ствалоў для шахтаў і будаўніцтва горада, ён гатоў быў і не выязджаць адсюль, калі б дазвалялі ўмовы.

Іншы раз запрашаў у паездку мяне. Я з ахвотаю прымаў гэта, бо ведаў: ніякая іншая вандроўка не дасць мне столькі ўражанняў, назіранняў і сустрэч з рознымі людзьмі. Казлоў ведаў многа людзей і не цураўся нікога. Калі толькі выпадала магчымасць, ён супыняўся ў якой-небудзь прыдарожнай вёсцы, іншы раз і на полі, калі ішло жніво ці бульбакопка. Яго адразу пазнавалі і збіраліся, як да свайго. Амаль усе ведалі яго з партызанскіх часоў, і здаралася, што ўспаміналі такія эпізоды і падзеі, пра якія Васіль Іванавіч і сам не меў дакладных вестак.

У той час ён ужо быў старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Некаторыя з былых партызан і падпольшчыкаў звярталіся да яго з рознымі просьбамі і прапановамі, часам асабістымі і не зусім сціплымі, з разлікам на тое, што па знаёмству Казлоў уважыць ва ўсім. Васіль Іванавіч выслухоўваў усе просьбы, не адмахваўся ні ад адной, але з усёй шчырасцю даваў зразумець, што знаёмства і добрыя ўзаемаадносіны не могуць уплываць на справядлівасць і партыйную прынцыповасць. Калі падавалася слушная просьба, скарга ці прапанова, Казлоў прымаў яе і прасіў свайго памочніка запісаць. Тое, што лічыў малазначным або залішне суб'ектыўным, адхіляў адразу і гаварыў пра гэта чалавеку ў вочы.

Ніколі нічога не абяцаў з ходу, не праверыўшы фактаў, не ўзважыўшы ўсіх абставін і акалічнасцей.

Помню, ехалі мы аднойчы на востраў Зыслаў, што на Палессі (там некалі быў партызанскі аэрадром), праязджаем вуліцаю невялічкай вёскі, а насустрач — чалавек, на самаробнай калясачцы, на роліках. На абедзвюх нагах калашыны падгорнуты і заціснуты раменьчыкамі. Папіхае каляску драўлянымі калодкамі, прымацаванымі да рук,— ролікі коцяцца па сухім грунце, хоць і з натугай.

Казлоў бярэ шафёра за рукаў, просіць спыніцца.

— Што — тутэйшы? — звяртаецца да інваліда.

— Ды вось...— махае той запыленай калодкай.— Не далёкі адсюль. Прыязджаў у капераціў.

— На чом?

— Што — на чом?

— На чом прыязджаў, кажу?

— Ды вось...— ён паказаў другою калодкаю на сваю каляску.

— А іншага транспарту няма?

— А які ж яшчэ?

— Ну, вела, мота?..

— Ніякага ні вела, ні мота!

Чалавек сабраўся ўперціся рукамі ў зямлю, каб адштурхнуцца і ехаць далей, але Казлоў прыпыніў яго:

— Скажыце, на вайне гэта ці...

— А то дзе ж!

— Завуць як?

— А нашто вам?

— Трэба, калі пытаю.

— Каму мы цяпер трэба, інваліды...

І чалавек паехаў далей.

Васіль Іванавіч моўчкі крануў шафёра, нічога не сказаў ні мне, ні памочніку і наогул нейкі час быў неразгаворлівы, нібы пануры. Пра інваліда не ўспамінаў: ці мала цяпер пакалечаных людзей?

Праз некалькі дзён, ужо ў Вярхоўным Савеце, раптам заходзіць да мяне (там у нас быў асобны творчы пакой) і пытае:

— Помніш, як у мінулую паездку нам сустрэўся адзін інвалід на роліках?

— Помню, канечне.

— Можа, што дазнаўся пра яго тады? Я ж ведаю: у цябе блакнот заўсёды напагатове.

— Не, не дазнаўся. Не было калі.

— Чаму не было? Мы ж яшчэ раз спыняліся непадалёку: на бярвеннях з цеслярамі сядзелі.

— Там ніхто не ведаў пра таго інваліда.

— Шкада. Праўда? Вось падумаў і каюся: трэба было распытаць усё пра яго ды памагчы чалавеку.

Потым мне сказаў памочнік старшыні Прэзідыума, што Казлоў даручыў яму знайсці таго інваліда і напісаць у Міністэрства сацыяльнага забеспячэння, каб пацікавіліся ім і памаглі чалавеку транспартам.

У Салігорску аднаго разу мы прабылі ўвесь дзень, а на вечар Казлоў папрасіў сабраць будаўнікоў, каб пагаварыць з імі.

Пасля змяркання людзі сабраліся ў клубе. Васіль Іванавіч завёў мяне ў асобную бакоўку і выняў з бакавой кішэні сціснутыя вялізнай скрэпкай ледзь не гербавыя лісты паперы.

— Глянь хоць бегла... Тут мне рыхтавалі, пісалі...

Я прачытаў выразна аддрукаваную на машынцы прамову.

— Ну як? — з прыкметнай насцярогай спытаў Казлоў.

— Мне здаецца...— Я трохі сумеўся.

— Кажы, кажы! — таварыскім тонам настойваў Васіль Іванавіч.

— Можа, лепш было б расказаць аб тым, што вы сёння тут бачылі, чулі, якія думкі ў вас узнікалі пры аглядзе новабудоўлі. Па ходу вы падавалі нямала і прапаноў, і парад і заўвагі рабілі. Няхай бы і рабочыя аб гэтым пачулі, а не толькі тыя кіраўнікі, што вас суправаджалі.

— І я так думаю,— згадзіўся Казлоў.

Мне ўжо колькі разоў даводзілася заўважаць, што калі Васіль Іванавіч трохі паддаваўся інерцыі і пачынаў выступаць па напісанаму, то ў яго выходзіла сумна і нецікава. Ведаючы яго натуру, я адчуваў, чаму так здаралася: яго шчырая сялянская душа не заўсёды ўспрымала некім зараней напіса-

нае і не надта верыла яму. Дык ён часам і не перачытваў тое, што загадзя пісалі памочнікі, не звыкаўся з тэкстам і чытаў яго з трыбуны, як нешта чужое, не асвоенае. Бывалі выпадкі, што адкладваў гэтыя адборныя лісткі і пачынаў гаварыць сам. Тады і красамоўства ў яго з'яўлялася і патрэбны каларыт, і слухалі ўсе з цікавасцю і захапленнем.

На тым сходзе будаўнікоў Васіль Іванавіч нават і не вымаў сваіх тэзісаў з кішэні. Ён стаў размаўляць з людзьмі ў форме таварыскай гутаркі, часам нават звяртаўся да сваіх знаёмых, пытаў у іх парады:

— Вось ты, Іван Трухановіч, што сказаў бы наконт гэтага?

І геадэзіст Трухановіч, мясцовы чалавек, знаёмы Казлову яшчэ з часоў МТС, уставаў і выказваў свае меркаванні, падаваў прапановы, як лепш і хутчэй будаваць новы горад.

У які куток ні глядзеў Казлоў у асветленай яшчэ дрыжачымі лямпачкамі зале, усюды сустракаўся са знаёмымі вачамі, добразычлівымі ўсмешкамі. Заўважаліся былыя партызаны, сёй-той з работнікаў колішняй МТС, проста знаёмыя з блізкіх і далёкіх адсюль вёсак. Нават тагачасны парторг будаўнічага трэста быў у вайну адным з бліжэйшых саратнікаў Казлова.

— Будуйце з розумам! — наказваў тады ўсім ім Васіль Іванавіч.— Глядзіце наперад. Не толькі для сябе будуем, а і для нашых дзяцей, для ўнукаў. Плануецца горад на трыццаць — сорак тысяч жыхароў. А ці правільна гэта? Пройдуць гады, і тут можа быць сто тысяч. Ёсць думка ў вучоных, што нашы солі — гэта толькі пачатак вялікіх радовішчаў. Тут можа з'явіцца некалькі камбінатаў. Будзе ў нас свая шахцёрская армія, будуць розныя спецыялісты, свае вучоныя і прафесары. Таму менш баракаў ды розных скараспелых часовак! Памятайце, што ўсё гэта хутка давядзецца зносіць. Паявяцца харошыя дамы, і людзі не захочуць жыць у бараках. Чыгунка ідзе праз самы горад! Яна ж будзе потым пасярэдзіне і ператне горад на дзве часткі. А што такое пераезды ў гарадах? Вы самі добра ведаеце...

Мяне і тады ўразілі гэтыя словы, і цяпер часта

ўспамінаю іх. Баракі яшчэ стаяць у Салігорску, але яны ўжо тырчаць, як нешта недарэчнае. І тыя метровыя вуліцы, што спланоўваліся некалі на невялічкі гарадок, вельмі бедненька выглядаюць цяпер на фоне шырокіх праспектаў і раскошных плошчаў. А пераезды?.. Мала таго, што яны мазоляць людзям вочы, дык ужо і «пробкі» на іх. І думаюць цяпер мясцовыя ўлады, і сушаць свае мазгі спецыялісты, як перанесці чыгунку ў другое месца. Але ж гэта цяпер ужо вельмі складана.

...Адзін дачнік у Мінску сказаў мне:

— Паехаў у Заслаўль купіць хлеба і натрапіў на закрыты шлагбаум. Прастаяў гадзіну. Рушыў потым у вялікай шарэнзе на першай хуткасці, і толькі даехаў да чыгункі, шлагбаум зноў апусціўся. Прастаяў яшчэ паўгадзіны. Сцямнела. Ужо на поўным газу і ўжо з фарамі дамчаўся да хлебнага магазіна, накіраваў фарыну на дзверы і ўбачыў вялізны вісячы замок. Вярнуўся на дачу без хлеба... Цяпер пішу фельетон пад назвай «Заслаўскі пераезд».

Мы можам уявіць, што фельетон гэты напішацца, што ён надрукуецца ў газеце ці будзе пасланы на рэагаванне. Але ж пераезд у Заслаўі астанецца. Як і ў Маладзечна, як у Барысаве і іншых гарадах Беларусі. А чыгуначныя дыспетчары будуць працягваць свае транспартныя манеўры якраз на гэтых пераездах.

Ці абавязкова пераймаць гэты грэх зусім новаму і сучаснаму гораду Салігорску?

Той сход будаўнікоў зацягнуўся позна. Людзі звярталіся да Казлова з рознымі пытаннямі, вуснымі і пісьмовымі. А потым яшчэ і пасля сходу доўга акружалі яго: у кожнага была свая справа, свае клопаты, грамадскія і асабістыя, з якімі хацелася падзяліцца з блізкім чалавекам.

А ў рэстаране астывала яшчэ ўдзень заказаная вячэра. Мясцоваму кіраўніцтву вельмі хацелася, каб Васіль Іванавіч пабываў у новым рэстаране, які вось толькі што ўступіў у строй. Бо што ж гэта за знаёмства з горадам, калі не пабываць у рэстаране?

Кіраўнік будаўнічага трэста праціснуўся скрозь даволі шчыльны людскі кружок, па-сваяцку ўзяў Казлова пад руку:

— Пойдзем, Васіль Іванавіч, колькі ж гэта можна...

— Куды ты мяне вядзеш?

— Ну, там у нас... Павячэраць трэба.

— А я паеду дадому,— з прыязнай усмешкай сказаў Васіль Іванавіч і адшукаў вачамі мяне.— Хачу пабываць у сваёй вёсцы, між тых людзей, побач з якімі пражыў некалькі год. Калі маеш час, то паехалі разам.

Мае дамашнія яшчэ не спалі, калі мы ўехалі ў вузенькі, але доўгі, яшчэ зялёны дворык і магутныя фары ЗІСа асвяцілі вокны хаты. Першы выскачыў насустрач мой брат Міхась, а следам — маці, тады яшчэ без кіёчка, але ўжо не на жвавых нагах. Шафёр не выключаў фараў, пакуль Васіль Іванавіч здароўкаўся з гаспадарамі. Мая маці пазнала яго адразу, хоць не бачыла многа год, аж ад тых даваенных эмтээсаўскіх часоў. Казлоў таксама пазнаў яе. Брата ён мала ведаў, бо Міхась у тыя гады быў яшчэ школьнікам.

Я шапнуў Міхасю, каб ён хуценька арганізаваў усё неабходнае і магчымае дзеля такога надзвычайнага выпадку. Але, убегшы першым у хату, зразумеў, што яго жонка, заўсёды добразычлівая і кемлівая вясковая настаўніца, ужо сама амаль лётам ухапілася за падрыхтоўчыя справы. Уключыўшы поўнае святло ў абедзвюх палавінах хаты, яна на бягу падлепшыла тут парадак, паставіла на сваё месца дзе крэсла, дзе зэдлік, накінула на канапу вышыванае пакрывальца, заслала распісным абрусам круглы стол.

Пакуль госці распраналіся і пры Міхасёвай дапамозе вешалі адзежу ў першай палавіне хаты, а потым, пад яго ж кіраўніцтвам, мылі рукі пад умывальнікам, прымацаваным ля калодзежа (фары падсвечвалі), увішная і гаспадарлівая Любоў Нічыпараўна ў другой палавіне нарэзала на талеркі сырога ляжалага сала, прынесла міску пахучых ад прыпраў салёных гуркоў. Кінулася яшчэ па нешта, але тут яе ўжо перасцігалі госці.

— А гэта — хто такая? — жартаўліва спытаў Васіль Іванавіч.

— Малодшая гаспадыня,— сказаў кіраўнік трэ-

ста. Ён ведаў Любоў Нічыпараўну, пэўна ж, і яго дзеці вучыліся ў гэтай школе.

Маці адразу запрасіла гасцей за стол, улічваючы тое, што час ужо не ранні, што калі нават людзі і абедалі дзе, то ўсё роўна ўжо захацелі есці. А Любоў Нічыпараўна прыпынілася пасярод пакоя, усміхнулася сваёй шырокай дабрацкай усмешкай і запраста спытала:

— Скажыце па праўдзе... Вось калі я ў адзін момант спяку на электраплітцы добрую яечню, то, можа, і не пашкодзіць?

— Зусім не пашкодзіць,— згадзіўся Казлоў.

— А калі прынясу гладыш кіслага малака з вяршком?

— Таксама не пашкодзіць.

Гарэлку брат паставіў тую, што я прывёз з Мінска, ды прыяднаў да яе тое-сёе ад сябе. Стол атрымаўся дабротны, як для вясковага ўзроўню, і маё страшэннае хваляванне пачало трохі ўлягацца. А да гэтага два розныя, ледзь не процілеглыя пачуцці раздзіралі маю душу: я зарадаваўся, калі Васіль Іванавіч сказаў, што едзе да нас, і трывога брала ад думкі, што, можа, дома нічога на скорую руку няма і не ўдасца хутка прыгатаваць вячэру.

За вячэраю старэйшая гаспадыня вельмі асцярожна і далікатна, каб не быць назойлівай і ў той жа час не паказацца гасцям малагаваркой, задавала Казлову пытанні:

— То, можа, гэта і праўда, што вялікі горад тут будзе, аж да самых нашых Кулакоў? (Так і цяпер завецца вёска.)

— Да самых, не да самых,— ахвотна тлумачыў Казлоў,— а разрасцецца горад, дык трохі наблізіцца і сюды.— Запытальна паглядваў на кіраўніка трэста, чакаў, што скажа той.

— Кулакі пакуль што не будзем накрываць,— дадаваў кіраўнік.— А Вішнёўку, відаць, накрыем, Пясчанку і Кавалёву лазу знясём.

— А людзей куды ж? — са шкадаваннем пыталася маці.

— Іх перасялім,— з прыхаванай паблажлівасцю адказваў кіраўнік трэста і, ледзь прыкметна ўсміхаючыся, паглядваў на Казлова.— Хто захоча — у

горадзе прытулак дадзім, толькі без агарода і без хлява для каровы, свінней і іншай жыўнасці. А хто не захоча развітацца з гэтай раскошаю, таму адвядзём пляц, паможам забудавацца.

— А калі садок у каго?

— Сады будзем саджаць новыя, маладыя.

Тут ужо кіраўнік зусім прысмешыў свой тон, і я адчуў, што калі б не пры Казлове, то ён не стаў бы працягваць гаворку з маёй матуляй. Па сваёй натуры ён быў чалавек круты і занослівы. Гэта я заўважыў яшчэ раней, калі ён аднаго разу вельмі ж жорстка і бязлітасна разносіў свайго падначаленага, у мінулым блізкага мне чалавека. А чалавек той не заслугоўваў такога разносу, але стаяў маўкліва і навыцяжку, па звычцы нядаўняга вайсковага кадравіка. Рукі былі апушчаны ўніз і дрыжалі ад хвалявання і крыўды. Мне тады стала шкада гэтага чалавека: я ведаў, што, каб даслужыцца да той пенсіі, якой чамусьці не атрымаў у арміі, ён часта вытрымліваў здзекі ад кіраўніка трэста.

А некалі гэта быў даволі самастойны, вялявы вясковы актывіст.

Адчувалася ў час спакойнай і ўтульнай вячэры, што Казлоў больш хіліўся да нас, і пагаварыць яму хацелася якраз з намі, асабліва з матуляй. Але кіраўнік трэста сюд-туд ды і падаваў якую-небудзь службовую рэпліку і адцягваў Васіля Іванавіча ад сямейнай размовы.

І ўсё ж мая маці знайшла зручныя моманты, каб высветліць яшчэ два пытанні, якія вельмі непакоілі і трывожылі яе.

Пытанне першае:

— Ці праўду кажуць людзі, што за нашымі агародамі будзе пабудавана бойня і ўсякую нягодную жывёлу будуць зганяць сюды і біць?

Кіраўнік трэста ад гэтых слоў зарагатаў, і на яго круглым, пачырванелым ад чаркі твары выступілі расістыя выпарынкі. А Васіль Іванавіч паглядзеў на яго сур'ёзна: адчувалася, што ён не ведаў пра гэта, а сказаць жанчыне няпраўду — было б для яго самае горшае.

Казлоў пачакаў, пакуль кіраўнік высмеецца, а потым звярнуўся да яго даволі патрабавальна:

— Дык што ты на гэта скажаш? Давай, выкладвай!

Кіраўнік моцна церануў насоўкай лоб, ад гэтага на ім прабіліся белыя прожылкі. Потым, нібы гумкай, прамакнуў успацелыя шчокі і загаварыў гучна і афіцыйна, быццам у тэлефонную трубку:

— Дакладных вестак не маю, гэта кампетэнцыя адпаведнага міністэрства. Але наколькі мне вядома, то мясакамбінат будзе пасаджаны не тут, не за вашымі агародамі.— Ён зніходліва дакрануўся да мультановага рукава матчынай кофты.— Тут непадалёку мы хлебазавод саджаем. Трэба, каб людзі свой хлеб елі. Не прывазны. І каб заўсёды свежы, пахучы...

— Хутка і вы пачуеце той хлебны пах,— дадаў Казлоў.— Калі з ветрыкам, то ён даплыве сюды.

Маці падзякавала гасцей за добрыя словы, але Васіль Іванавіч адчуў, а мо і па вачах пазнаў, што яна хоча яшчэ пра нешта запытацца, каб ужо больш не думаць кепска аб тым, чаго не ведаеш.

Пытанне другое:

— Кажуць жа вось, што тут шахты будуць капаць і пад нас падкапаюцца. То як нашы хаты стаяцьмуць ды іншыя будынкі?

Кіраўніка трэста зноў пацягнула на рогат, але Казлоў кінуў на яго стрымлівы позірк, і ён толькі закруціў галавой, квола і паблажліва. Адказваць на запытанне матулі ўзяўся сам Васіль Іванавіч.

— Шахты, калі і пойдуць сюды, то яны ж глыбока пойдуць, можа, на якога паўкіламетра ці больш пад зямлёю. Дык як жа такая тоўшча зямлі наверсе зрушыцца ці ападзе? Вытрымае яна і не такія будынкі, нават каменныя...

— А пад горад мы шахцёраў не пускаем,— ціха дадаў кіраўнік трэста.

Казлоў трошкі сумеўся:

— Ну, горад гэта... Там высокія дамы будуць... Там цяжасць... Але я думаю, што і пад горадам капаць можна. Толькі, вядома, значна глыбей, як пад вёскай.

Мая маці ўдзячна паглядзела на яго, аднак не сказала нічога. Я разумеў яе няпэўнае адчуванне: Казлова яна вельмі паважала і не верыць яму не

магла. Аднак жа яе ўнутраная насцярога не прайшла, і ўжо нельга было яе чым-небудзь прыглушыць ці згладзіць.

## V

Трывогі, насцярогі і перакананні трымаліся ў маёй матулі вельмі ўстойліва. Скажу хаця б пра тое, што ні я, ні мой брат Міхась, ні нявестка-настаўніца не маглі пераканаць яе ў тым, што над намі няма такога неба, дзе мог бы жыць бог ды ўсялякія іншыя святыя духі. Нават калі нашы спадарожнікі пайшлі ў космас і касманаўты пачалі лятаць па высокіх арбітах, яна яшчэ доўга сумнявалася і часам выказвала меркаванне, што, можа, людзі не даляцелі да таго месца, дзе знаходзяцца багі, а можа, не ўбачылі іх — гэта ж толькі духі.

Доўгі час яна не верыла тэлевізару. Глядзець глядзела, але не верыла.

— Выдумка ўсё гэта,— пярэчыла нам, калі мы спрабавалі пераканаць яе, што тэлевізар паказвае тое, што ёсць у жыцці.— Не можа таго быць, каб недзе далёка нешта было, а тут, у хаце, усё само паказвалася. Без ніякіх правадоў, без нічога, па адной толькі паветры.

Потым неяк выйшла так, што ў нашай тэлестудыі намерыліся зняць адзін сюжэт па майму салігорскаму нарысу.

— А маці можна будзе ўвесці? — пацікавіўся я.

— Думаю, што можна,— паабяцаў рэжысёр.

Здымацца, пазіраваць і нават гаварыць перад тэлекамерамі маці згадзілася ахвотна; аператары былі задаволены, што гэтыя кадры атрымаліся ў іх добрыя і цікавыя. А на далейшае старая не надта і зважала. Па сваёй шчырай гасціннасці ёй перш за ўсё хацелася ўгадзіць людзям, а там прышлюць яны тыя фотакарткі ці не прышлюць — мала клопату. Было ўжо не раз, што яе фатаграфавалі прыезджыя карэспандэнты: яшчэ тады, калі яна выходзіла на праполку і, нягледзячы на ўзрост, перавыконвала нормы, і на гэтых гадах — па розных іншых выпадках. Але здымкаў ніколі не прысылалі, хоць і шчыра абяцалі, што ашчасліваць памяццю.

На гэты раз выйшла іначай: аператары зрабілі тэлевізійны нарыс, пусцілі яго на экраны, і маці ўбачыла там сама сябе, мяне і ўсю нашу сям'ю. Пасля гэтага некалькі дзён не падыходзіла да тэлевізара і пазбягала спрэчак з намі. Аднак жа наўрад ці назусім адступілася ад сваіх ранейшых думак і ўяўленняў.

Так было ў яе і з новабудоўлямі. Назірала іх больш са свайго агарода, прыклаўшы далоню да лба. Іншы раз і доўга стаяла, прытуліўшыся плячом да слупка варот, што выходзілі на выган. Глядзела на высокія краны, падобныя здалёк на калодзежныя жураўлі, на белыя, як чыжэвіцкая царква, муры. Да нядаўняга часу толькі гэтая царква і ўзвышалася ў наваколлі. Уяўлялася яна вялікай і высокай, купалы тырчалі з верхавін прысадаў.

А цяпер царква ўсё больш і больш меншала ў параўнанні з новымі будынкамі — тыя на вачах раслі, а яна быццам бы ўсё асядала разам са сваімі прысадамі і тым вясковым бугарком, на якім стаяла.

Часам дзіва забірала матулю: каля царквы заўсёды было суха, нават у вясенняе разводдзе, бо стаяла яна на ўзвышшы. Новыя ж дамы стаўляюць у Калясішчах, дзе нельга было ні прайсці ні праехаць. І тыя дамы ўжо засланяюць царкву, хутка не ўбачыш і яе купалаў.

А па Вялікай гары снуюць сюды-туды грымучыя машыны, іхні гул нават з агарода чуцён. Мабыць, скопваюць яны і звозяць адтуль пясок, засыпаюць і падымаюць Калясішчы.

«Колькі ж гэта трэба скопваць?.. Колькі вазіць?..»

Пра шахты тады яшчэ хадзілі толькі чуткі. Потым наняўся туды на работу наш суседні хлопец, і маці стала цікавіць за ім, каб улучыць зручны выпадак для роспытаў. Прыходзіў ён дадому зморaны і часам аж да вачэй залеплены і замурзаны граззю.

— У калгас дык не хадзіў,— неяк сказала мне пра яго маці.— А там, бачыш!..

У суседзяў калодзежа не было, і яны хадзілі па ваду на наш двор. Для гэтага былі зроблены насупраць маленькія варотцы ў плоце, якія амаль ніколі не зачыняліся і часта скрыпелі пры ветры нават ноч-

чу. Хлопец-шахцёр рэдка калі хадзіў па ваду, бо ўжо не знаходзіў на гэта часу, аднак маці ўсё ж прыпільнавала яго ля калодзежа і пачала ўпэўняцца:

— Дык што... капаеце вы там гэтыя самыя?..

— Капаем,— адказаў хлопец, выцягваючы вядро з вадою.

— А як? Нібыта калодзезь ці іначай?

— Машынамі такімі... Спецыяльнымі.

Гэта маці не дзівіла, бо да новага будаўніцтва ў нашай вёсцы базіраваліся геаразведчыкі, якіх тут звалі «вышкаўцамі» за тое, што яны то ў адным месцы, то ў другім стаўлялі буравыя вышкі. Але ж тыя машыны-круцёлкі толькі свердлам уядаліся ў зямлю.

Маці абводзіла рукою цэментавы круг калодзежа і ўдакладняла:

— Гэтакія шырынёю ямы ці большыя?

— Такіх, можа, дзесяць у адну,— сказаў сусед.

— Шырыня-а...— дзівілася маці.— А глыбіня якая?

Сусед-шахцёр нейкі час глядзеў у калодзеж, назіраў там паварушаны хвалямі свой круглы твар, натапыраныя пасля ночы густыя валасы і на першы момант не знаходзіў даходлівага для старой параўнання на глыбіню.

— Мо сто такіх калодзезяў,— няпэўна сказаў ён.— А можа, і дзвесце. Сам яшчэ добра не ведаю.

— То як жа вы?..— Маці таксама глянула ў калодзеж.— Бачыш, як тут блізка вада? Залье там усё.

— Не залье, бо мароз пускаем.

— Дзе ж той мароз? Яшчэ цёпла на дварэ.

— Машынамі пускаем.

Праз некаторы час я ўпрасіў маці паехаць са мною пад Тамілаву гару (там ішла праходка першых ствалоў) ды паглядзець, як гэта ўсё людзі робяць. Едучы назад, завітаць на будаўніцтва горада і зблізку пабачыць мураваныя дамы, праехаць па гарадскіх вуліцах.

Пры мне быў тады «Масквічок» першага выпуску. Некалькі год таму назад я купіў яго ў мінскім аўтамагазіне проста з ходу: падышоў да касы, выбіў чэк, як на самую звычайную рэч,— ніводнага чала-

века ў чарзе не было. Выклікаў па тэлефоне знаёмага шафёра, выбралі лімузін, селі і паехалі.

У дужках скажу: пазней я трохі каяўся, што не паслухаў тады касіркі.

— Бярыце лепш «Пабеду»,— прапанавала яна.

А я падумаў: як жа мне купляць «Пабеду», калі Міхась Лынькоў яшчэ ездзіць на «Масквічы», калі нават Кандрат Крапіва ўмяшчаецца ў такую маленькую машыну.

Маці падышла да майго «Масквічыка», тады яшчэ блішчастага першай лакіроўкай, палашчыла яго рукой, нібы дамашнюю жывёліну, і ніякавата сказала:

— А можа, каня папросім у брыгадзіра? Няхай бы яна пастаяла дома чысценькая.

Але мне хацелася правезці матулю на сваёй машыне, угаварыў, села побач са мною на пярэдняе сядзенне. Выехалі на вуліцу, і матор заглох. Я і цяпер, пры вялікім аматарскім стажы, часам губляюся, калі неспадзявана спыніцца машына, а тады яшчэ толькі пачынаў ездзіць, таму вельмі збянтэжыўся ад такой нечаканасці і не ведаў, што рабіць. Стараючыся не глядзець матулі ў вочы, раз-пораз націскаў нагою на стартэр і ўсё чакаў, усё спадзяваўся, што машына загудзе, што яна выручыць мяне, не будзе доўга трымаць у такім нязручным становішчы. Прыйшла ж яна ад Мінска да Кулакоў і нідзе сама не спынялася. Я гатоў быў аж упрошваць сваю «антылопу», каб яна завялася, каб хоць скранулася з месца ды трохі прайшла, каб выбавіцца з вуліцы, а то вунь ужо вясковыя хлапчукі згледзелі і з вясёлым галёканнем сыплюць сюды.

Мая няёмкасць блізілася да адчаю перш за ўсё праз матулю. Я ведаў, што яна вельмі не любіла паказвацца перад суседзямі ў нядобрым святле, іншы раз нават якую нястачу ці няўдачу сваю прыхоўвала або паказвала яе не з таго боку.

Баяўся я, што вылезе маці з такой машыны і пойдзе дадому.

Не, не зрабіла так мая матуля, не пакінула мяне аднаго ў бядзе.

Прыбеглі хлапчукі, акружылі машыну.

— Во, такая маленькая, як каробачка! — голас-

на здзівіўся адзін з іх, чорнагаловы, нібы цыганчук.— Давайце папхнём!

Я ўткнуў галаву ў адкрытае акенца і дазволіў дзетвары папхнуць машыну. Да іх далучыўся нехта з большых, і мой «лімузінчык» пакаціўся па вуліцы. Я час ад часу падключаў хуткасці, але матор не заводзіўся.

— Цяжкая стала,— паскардзіўся той жа чарнявы хлапчук-завадатар, часта і моцна сапучы.— На мост не ўскоцім!

— Чаму не ўскоцім? — запярэчылі яму сябрукі.— Давайце яшчэ! Да самага горада дакоцім, а там майстэрня.

— Каб жа ў канаву не ўкацілі,— ціха перасцерагла мяне маці.

Вылезшы з машыны, я падзякаваў хлапчукам і сказаў, што больш пхаць не трэба.

— Яны там нічога не папсавалі? — спыталася маці.

Мае спробы знайсці ў маторы бяду і паправіць самому не мелі поспехаў перш за ўсё таму, што я тады вельмі мала ведаў, што там да чаго. А потым — хлапчукі перашкаджалі сваім залішнім стараннем: паўтыкаліся ўсе, паўсоўвалі галовы пад капот і сталі сыпаць мне парады адзін перад адным.

Пярэднія дзверцы машыны асталіся адчыненымі. Маці нейкі час паглядвала праз іх на хлапчукоў, а потым я пачуў яе спакойны добразычлівы голас:

— Міша, а твой бацька часам не дома?

Адзін з хлапчукоў неахвотна адарваўся ад матора, павярнуў на голас потную галаву, ужо дзе-нідзе падплямленую адходамі масла.

— Не, яшчэ не прыходзіў.

Гэта быў той самы цыганчук-завадатар, што арганізаваў папіханне машыны.

— А хто твой бацька? — ціха спытаў я ў малога, але маці пачула і адказала сама:

— Дык гэта ж Колі Касміцкага сын. Я думала, што ты пазнаў яго.

Хлапчука я не пазнаў, а Колю Касміцкага ведаў добра, чуў таксама і аб тым, што ён цяпер працуе ў трэстаўскай аўтамайстэрні.

Спадзяванне маё пусціць машыну самому ці на-

ват пры дапамозе гэтых хлапчукоў усё меншала, і я адчуваў, што матуля вельмі правільна падумала: трэба шукаць Колю Касміцкага, без яго не абысціся. Звярнуцца да яго мне не было сорамна, бо чалавек гэты быў зусім блізкім у нашай хаце, да таго ж ён вельмі памяркоўны, адзыўлівы. Галоўнае ж — мае вялікую здатнасць да тэхнікі, да шафёрскай справы. Вось толькі — дзе знайсці яго?

— Міша! — зноў адарваў я ад матора чарнявага хлапчука.— Дзе ўсё-такі цяпер твой бацька? Сам бачыш — нічога мы тут без яго не зробім.

Мой самы актыўны памочнік, але такі ж яшчэ бездапаможны, як і я, зусім вылез з-пад адхіленай палавіны капота, выцер рукавом прыпацелы лоб і нос і пачаў пільна ўглядацца ў невялікі ланцужок людзей, што ішлі адзін за адным па сцежцы ад горада.

— Здаецца, ён...— паведаміў хлапчук няпэўна, але ў яго голасе пачулася радасць: мабыць, і яму хацелася, каб машына пайшла, каб я мог праехацца з матуляй каля пляцовак надзвычайнага будаўніцтва ды па вуліцах новага горада.

Вострае хлапчукоўскае вока не падвяло: праз некаторы час я і сам ужо бачыў, што ідзе Коля Касміцкі. Збянтэжанасць мая стала паступова ўлягацца: чамусьці я зусім цвёрда верыў, што Коля адразу знойдзе прычыну заглухання матора і дасць ёй рады. Я і сам разумеў, што нешта тут звязана з падачай гаручага, некалькі разоў падсосваў, але не памагала.

— Якраз у яго абед цяпер,— удакладніў Міша.

— Ці паспее? — Гэта спытала маці. Пра тое ж падумаў і я.

Касміцкі здалёк заўважыў, што нешта здарылася з маім транспартам, і прыбавіў кроку. Падышоўшы, добразычліва і весела заўсміхаўся, потым падаў руку мне, заглянуў у кузаў і павітаўся з матуляй.

— Дык што тут у нас? — спытаў, нібы ўрач «хуткай дапамогі», не губляючы ўсмешкі і не зніжаючы вясёлы тон.

— Падачы няма,— адказаў Міша.

— Дык што ж ты не падаў! — жартаўліва папракнуў бацька. А потым глянуў на свой ручны га-

дзіннік, перакручаны цыферблатам уніз, і нібы спахапіўся: — Табе ж у школу пара. Забыў? От механік! Бяжы збірайся, без цябе тут справімся!

Хлапчуку вельмі не хацелася пакідаць машыну, але не паслухаць бацькі ён не адважыўся.

— Інструменты ёсць? — спытаў Касміцкі, праверыўшы бензападачу.— Дастаньце! Тут у карбюратары нешта.

Хуткімі і ўмелымі рухамі пальцаў ён абмацаў патрэбныя шрубкі і вінцікі ў карбюратары, потым адвінціў некаторыя з іх, жвавенька выняў бронзавую сетку, падобную на напарстак, падзьмухаў на яе і пачаў праціраць ражком свайго пінжака.

— То, можа, анучку якую? — затурбавалася маці і пачала аглядвацца вакол сябе, шукаючы чагонебудзь мяккага.

Я дастаў праціралку з-пад сядзення.

— Ды нічога! — махнуў «напарсткам» Касміцкі і наставіў яго на сонца, прыжмурыў адно вока.— Тут трохі пылу сабралася за дарогу, а вокісу няма.

Праз якую хвіліну ён паставіў сетку на сваё месца, а патрэбныя шрубкі нібы самі закруціліся пад яго пальцамі. Адхіліўшы з сядзення дываповую накрыўку, каб не замазаць яе рабочымі штанамі, зграбна, быццам увесь час толькі і ездзіў на гэтай машыне, сеў за руль, націснуў на стартэр, і машына паслушна завялася і загула роўна і мілагучна, як пчолка.

— Можна ехаць,— клікнуў ён мне, не заглушаючы матора.

А маці паціху, але настойліва папрасіла:

— То, можа, Колечка, завярні да паедзем дадому. А то, не тут кажучы... Лепш я заўтра сама к брыгадзіру схаджу.

— Смела едзьце! — запэўніў Касміцкі.— А калі хочаце, то і я з вамі праеду. Вы куды? На будаўніцтва?

— Табе ж паабедаць трэба,— не згадзілася маці. І гэта перайначыла яе намеры: калі не паверыць машыне і мне як шафёру, то Коля не паабедае. Яна ведала, што гэта такі чалавек — абавязкова паедзе, можа, нават на работу спозніцца.

Касміцкі вывеў машыну за масток, а далей мы

паехалі адны. Я паказаў матулі тыя капры, што ўдзень з нашага агарода яшчэ і не відны былі, а толькі ноччу загараліся далёкімі чырвонымі зоркамі. Велічыня іх здзівіла старую: такая шырыня, такая вышыня! Не пабачыўшы, яна не магла б нават і ўявіць гэтага.

Паказаў потым амічныя ўстаноўкі, якія замарожвалі грунт для праходкі ствалоў.

— Гэта ж цэлыя заводы,— дзівілася маці.

Я не парушаў яе параўнанняў, бо ведаў, што, акрамя старобінскага паравога млына ды Пагосцкага бровара, ніякіх заводаў яна на сваім вяку не бачыла.

— А як яны робяць гэты самы мароз? Каля іх жа не холадна?

Гэтага і я растлумачыць не мог, а маладзенькі і заносlівы інжынерчык, які там быў, сказаў нам толькі тое, што ні да гэтых установак, ні да капроў блізка падыходзіць не дазваляецца.

Калясішчы матулю здзівілі менш, яна амаль што і не заўважыла, як мы праехалі іх. Месцамі на гарадскіх вуліцах ужо ляжаў асфальт, і калі мы ўз'язджалі на яго, то машына пачынала нібы плысці. Не чутно было ні матора, ні шоргання калёс, не адчувалася штуршкоў з-пад нізу, і маці недаверліва азіралася па баках, быццам хацела ўпэўніцца: едзем мы ці плывём.

— А той слупок, што ты некалі казаў?.. Горад ад яго пачынаўся... Дзе ён цяпер?

— Забудавалі яго, ды прысадамі зарос. Не відзён адсюль. Калі хочаце, то можам спыніцца, пашукаць.

— Не варта,— параіла маці.— Вельмі ж хораша едзем. Ды што ён: слуп ёсць слуп, чаго б на ім ні напісалі. А тут жа во!.. Дамы якія! Гладкія вуліцы!..

Будынкі тады былі яшчэ невялікія: мураваныя баракі для рабочых, двухпавярховы магазін (на першым паверсе прадукты, на другім — прамтавары), незакончаны клуб будаўнікоў — аднапавярховы, падобны на калгасны, незакончаная школа № 1. (Цяпер ужо ёсць і № 7; у адну яе ўмесціцца можа тры тых першых.)

— А што гэта з такім бліщчастым ганкам? — пацікавілася маці.— Адно толькі шкло... Не мытае...

— Кіно тут будуць паказваць.

— І хутка?

— К зіме, відаць, закончаць.

Маці больш нічога не сказала, а мне чамусьці адчулася, што старая перш-наперш падумала пра сваіх унукаў ды нявестку-настаўніцу. Не ўтрымаць іх ужо тады дома нават і ў халады, пры кожнай вольнай гадзіне будуць бегаць у кіно. Яны ў кіно, сын з урокамі ў вячэрнікаў, а ты сядзі адна дома, вер не вер, а глядзі тэлевізар, пакуль не сапсаваўся.

Новы горад уражваў матулю, аднак не вельмі здзіўляў, бо ён пачынаўся зусім блізка ад нашай вёскі і ўжо трохі прымігаўся вачам: на яго паглядвала маці кожны дзень. Не ведала, што ўжо ёсць такія гладкія вуліцы, але пра гэта можна было трохі здагадвацца і трохі чуць ад людзей. Недасягальнай загадкай аставаліся толькі шахты, таму яна часта задумвалася наконт такой нечуванай справы, распытвала пра гэта ў каго толькі магла. Таму ўсчала такую гаворку і пры гасцяванні ў нас Казлова.

...У той вечар Васіль Іванавіч аставаўся ў нас доўга. Кіраўнік трэста ўжо стаў раз-пораз пазіраць на свой ручны гадзіннік, рабіў гэта быццам непрыкметна, але Казлоў убачыў.

— Не спяшайся! — сказаў адкрыта, каб і ўсе чулі.— Я не быў тут ад самай вайны. Мне прыемна пасядзець з суседзьмі.

Маці глянула на нявестку, улавіла ў вачах яе згодлівае разуменне і прапанавала Васілю Іванавічу:

— То калі захочаце і адпачыць, дык у нас тут бакоўка асобная... І ложак...

— Не, чаму ж? — усумніўся Казлоў.— Думаю, што начлег мы знойдзем.— І запытальна паглядзеў на кіраўніка трэста.

— Тут пакой для прыезджых,— з гатоўнасцю хоць у гэты ж момант устаць і рушыць туды сказаў кіраўнік.— Амаль побач з нашай канторай.

— Вось туды і пад'едзем.

Назаўтра ранічкою, па просьбе матулі, я пайшоў на трэстаўскую, былую эмтээсаўскую сядзібу, каб запрасіць Васіля Іванавіча на цёплае снеданне. Сам

яшчэ добра не ведаў, у каторым з тутэйшых будынкаў адведзены пакой для прыезджых, таму спытаў пра гэта ў аднаго трэстаўскага супрацоўніка, які сустрэўся мне на вуліцы.

— Вунь у той хаце,— паказаў мне чалавек.— Пад ліпаю.

Я ўспомніў: гэта ж тая самая хата, дзе некалі жыў Казлоў будучы дырэктарам МТС. Толькі трохі падладжаная, падноўленая. Значыцца, і паначаваў Васіль Іванавіч дома.

Ля самай хаты стаяў чорны ЗІС, каля яго ўходжваўся шафёр з вядром і шчоткай у руках, і тут жа заклапочана паходжваў і паціраў доўгія, нібы ацёклыя, пальцы рук высокі, худашчавы аграном, тадышні другі памочнік Казлова. У зубах памочніка спорна дымілася папяроса. Можа, таму ён і выйшаў, каб пакурыць?

Машына ўжо да таго ззяла кузавам, што абодва мужчыны відны былі ў ім, як у люстры. Усё падрыхтоўвалася быццам бы для ад'езду.

Убачыўшы мяне, памочнік выняў з рота папяросу, прыняў сваю заўсёдную добразычлівую ўсмешку, якая хоць і маршчыніла яго твар, але адразу змятала ўсе непрыемныя адценні, і ступіў мне насустрач. Я перадаў яму просьбу матулі і заўважыў, што тая ўстойлівая ўсмешка, якая амаль пры ўсіх умовах і абставінах не знікала з твару гэтага чалавека, стала паступова змрачнець.

— Не пойдзе ён,— упэўнена сказаў памочнік.

Гэта было нязвычна для мяне, таму што раней, як я ведаў, ніхто з падначаленых не адважваўся завочна гаварыць што-небудзь ад Казлова. Характар у Васіля Іванавіча быў самабытны, своеасаблівы і ніколі не межаваў з якім-небудзь стандартам: гэта ён можа, а гэта не можа. Цяжка было прадбачыць, не пагаварыўшы з ім, на што ён напэўна згодзіцца, а на што не.

— Чаму не пойдзе? — здзіўлена спытаў я.— Мая маці пакрыўдзіцца.

— Таму, што ён, не тут кажучы, прыхварэў,— прыцішана паведаміў памочнік.— Цэлую ноч не спаў.

— Што такое?.. Ад чаго?

— Ад жывата.

Тут ужо мяне ўзяла трывога. Калі гэтак, то, значыцца, учарашняя вячэра пашкодзіла яму. От табе і радасць гасцявання, от табе і шчырасць матулі і ўсёй нашай сям'і. А ўсё тое рабілася сапраўды ад чыстай душы.

Я пайшоў да Васіля Іванавіча. Ён спавольна хадзіў па пакоі, заклаўшы рукі за спіну, і павярнуўся да мяне не адразу, відаць, мяркуючы, што зайшоў нехта са сваіх: памочнік ці шафёр. Убачыўшы мяне, усміхнуўся, як заўсёды, весела і добразычліва, апярэдзіў мяне з запытаннямі і пачаў цікавіцца, як адчувае сябе мая маці, як спаў я, з якім настроем сустракаю дзень.

— А вы як? Што з вамі? — трывожна запытаўся я, углядваючыся ў яго стомлены ад бяссонніцы твар. І тут жа адчуў, што на словы памочніка спасылацца нельга, бо Казлоў не прызнае сябе хворым.

— А што можа быць са мною? — пераадрасаваў ён маё пытанне мне ж самому.— Нічога. Не пабрыўся яшчэ? — Ён правёў пальцамі па барадзе.— Дык пабрыюся дома. Рашыў ехаць зранку. А ты як?

— Паеду і я.

— Тады бяжы збірайся. Перадай мацеры прывітанне і маю шчырую падзяку. Хораша ўчора пасядзелі.

— А ці ўсё добра вам пасля ўчарашняга? Можа, што...

— Усё добра! Нават і не думай нічога іншага.

У дарозе Васіль Іванавіч часамі міжвольна пакурчваўся, мабыць, ад болю, твар яго яшчэ больш асунуўся і пазмрачнеў. Мы з памочнікам бачылі ўсё гэта, намагаліся чым-небудзь памагчы, але ён ні разу не прызнаўся, што яму кепска, і нават не даваў усчынаць гаворку пра яго адчуванне.

## VI

У маім люксе звоніць тэлефон. Я пачуў званок, яшчэ адчыняючы дзверы, паспеў схапіць трубку. Мяне шукаў мэр горада, як тут часам завуць яго, старшыня гарсавета Мікалай Іванавіч Яфімчык.

— Заўважаю, што вы ўсё ходзіце па вуліцах, пра нешта думаеце, мабыць, успамінаеце мінулае, як чалавек тутэйшы. Можа, праедзем заўтра, калі маеце час? Пакажу вам увесь горад, асабліва нашы новыя збудаванні і прадпрыемствы.

Чаму ж не праехаць? Сам я марыў пра гэта — мой зямляк нібы адчуў маё жаданне. За некалькі гадзін — увесь горад! Ды і працяглая гутарка з Яфімчыкам магла ўзбагаціць уяўленні і ўражанні. Чалавек, лічы што, і вырас тут, у Салігорску: пачынаў з камсамола, вучыўся, потым вёў аддзел прапаганды ў гаркоме партыі. А цяпер вось узначальвае ўсе жыццёвыя справы вялікага новага горада.

Займеўшы цікавую перспектыву на заўтра, я адчуў, што можна цяпер спакойна, без надрыву сумлення закончыць сённяшні працоўна-творчы дзень: нікуды больш не ісці, нікому не званіць, нават не запісваць больш нічога. Адпачынак у ціхай адзіноце заўсёды быў мне па душы, а тут, на сваёй радзіме, ды ў такім камфорце то і вельмі прыемна адчуць вячэрнюю палёгку і асалоду закончанага дня.

Мой цяперашні салігорскі ўтулак у зручным месцы: далекавата ад стала дзяжурнай, дзе часта па вечарах тырчаць калідорныя анекдотчыкі, і вокны выходзяць не на вуліцу, а ў двор нядаўна збудаванай друкарні. Ад такой непарушнай цішыні я ўжо адвык і таму ўключыў тэлевізар на тым канале, які яшчэ быў не сапсаваны. Ішоў канцэрт мастацкай самадзейнасці. Па-дамашняму ўсеўшыся на шырокай канапе, стаў слухаць гэты канцэрт, намагаўся адключыцца ад усяго, але заўтрашняя паездка па горадзе неадчэпна захліснула мае думкі. Хоць і не быў яшчэ ў многіх месцах, але ж ад ранейшых наведванняў і цяперашніх размоў з тутэйшымі людзьмі меў уяўленне, які будаўнічы размах набывае мой зямляк Салігорск, якія гіганты-збудаванні з'яўляюцца на яго ўжо амаль неабсяжнай тэрыторыі! Магутны калійны камбінат, ужо чацвёрты па ліку. Афіцыйна — завод, бо, мабыць, ёсць там істотнае адрозненне ад папярэдніх камбінатаў. Новая фабрыка трыкатажная. І не проста якая-небудзь саматужна-мястэчковая, а вялікая, па-сучаснаму абсталяваная, на тры тысячы жаночых рук. Тут ухвальная разумнасць у

тым, што салігорскія жанкі і дзяўчаты займелі цікавую работу і магчымасць набываць прывабныя спецыяльнасці. А то пад зямлю іх не пускаюць, а на паверхні ўсім работы не хапала — горад вырас, жаночая армія павялічылася.

...З майго падсапсаванага тэлевізара пачулася знаёмая і вельмі блізкая душы мелодыя:

> Ой, мароз, мароз,
> Не марозь міня-а...

Колькі песняў-надзёнак прайшло на маёй памяці. Праплылі яны, праляцелі, рэдка якая пакінула след на душы. А вось гэтая, здавалася б, зусім просценькая, кожнаму даступная мелодыя ўвесь час хвалюе мяне і ўзбуджае пяшчотна-трагічныя пачуцці.

Некалі гэтую песню спявала мая маці. Часам і не на людзях, а сама сабе, пры рабоце або ў хадзе ці яздзе. І, мабыць, перажывала за лёс чалавека-дарожніка ды яго маладой жонкі, якая пакутліва і трывожна чакала мужа. І, пэўна ж, уяўляўся матулі той вынослівы, але ўжо змораны конь, увесь пакрыты белым інеем, з тужліва апушчанымі вушамі, з марознымі сасулькамі ля ноздраў...

Мне ўспомнілася, што ад матулі я і пераняў гэтую песню, можа, таму і шаную яе ўсё жыццё. Вобраз маці зноў паўстаў перада мною: я пачаў думаць пра яе, як гэта часта бывае, калі астаюся адзін. Асабліва ў сваіх родных мясцінах.

Вось каб яна пабыла ў мяне тут у гасцях!.. Няхай бы і паехала заўтра са мною па горадзе, пабачыла, як змяніўся ён з таго часу, калі аглядалі яго з кузава майго «Масквіча».

...Ішлі гады, і маці паступова прызвычайвалася да свайго суседа-горада і да ўсяго таго, што вынікала з такога нечаканага пераўтварэння.

...Пачаў выпякаць пахучы хлеб і здобныя булкі мясцовы хлебазавод. Ён падымвае на прылессі, насупраць нашага агарода. І маці стала яшчэ часцей выходзіць на выган і ■ асалодай лавіць хлебны пах. Потым шчыра ўзрадавалася, калі хто з хатніх прыносіў баханку мясцовага хлеба дадому, параўноўвала

яе з мінскай, якую прывозіў я, і ўсцешана прызнавала, што тутэйшы хлеб не горшы ні па выгляду, ні па смаку.

— Можа, наш трохі і смачнейшы,— не надта ўпэўнена, каб як не задзець мяне, заўважала яна.

...Прынялі ў гарадскую школу ўнукаў. Старанней, як маці з бацькам, бабка збірала іх туды: памагала ўшываць, падрабляць ці падладжваць купленую дзеля гэтага адзежу, аглядвала, чысціла абутак. Пайшла і праводзіць іх, але дзе ж там спрастаеш з такімі верцялямі: як выскачылі на выган, дык і памчаліся бежкам, навыперадкі адно перад адным. І толькі ўжо здалёк памахалі бабцы рукамі.

Вярталася старая дахаты, і не крыўдна ёй было, што ўнукі паўцякалі ад яе, не захацелі ісці ў школу бабчынымі крокамі, а можа, і проста — побач з праважатай. Яна радавалася, што дзеці пабеглі ў гарадскую школу, як сапраўды гарадскія, ва ўсім новым і апратным. І, пэўна ж, успомнілася ёй, як некалі выпраўляла ў Чыжэвіцкую школу сваіх дзяцей.

Не адзін раз на досвітках чуліся тужлівыя і заклапочаныя матчыны шапаценні. Яна даводзіла бацьку нешта вельмі важнае, неадкладнае, спадзеючыся, што дзеці спяць і не чуюць. Але я часта прачынаўся ад такога шэпту, бо ўжо ведаў, што калі бацькі шэпчуцца на вачах, то ў сям'і ёсць нейкая няўладка, а можа, і здарэнне ці нават няшчасце.

У тыя досвіткі абмяркоўваліся мае патрэбы як першага чыжэвіцкага школьніка: што апрануць, што абуць, каб не мерзнуць зімою і каб не было вельмі сорамна на людзях. Лягчэй за ўсё перашыць на мой рост стары, на адных дзірках кажух, якога ўжо ніхто і не насіў дома, а толькі накрываліся ім у халадэчу ды часам клалі пад галовы. Гэта ж толькі цяпер стала модна насіць кажушкі, а ў тыя часы на адзін смех тое пайшло б і на паказ страшэннай галечы. Найзручней было мець суконную або хоць шарачковую, падбітую клоччам світку.

У хаце стаялі кросны, займаючы ледзь не ўвесь прастор ад мыцельніка да покуця. Аснова ў іх была кужэльная, а на ўток ішлі дзве ніткі пражы з авечай воўны: адна чорная, другая белая ці шэрая. Прачыналася маці рана і пры лямпе пачынала вель-

мі асцярожна, каб не разбудзіць нас, стукаць бёрдамі. Бацька сядзеў ля сукала і намотваў шпулькі. На гэтай рабоце ён сумаваў і трохі саромеўся яе, але шкадаваў будзіць каго-небудзь з нас, каб пасадзіць на сваё месца.

Весялеў бацька тады, калі навой у кроснах рабіўся тонкім, а потым і зусім агаляўся і маці пачынала змотваць і ўкладваць столкамі ў сябе на каленях шарачковую, месцамі трохі жарсткаватую ад кудзельных нітак тканіну. У печы ўжо грэлася ў чыгунах вада. Бацька выліваў яе ў балейку, клаў туды аршынаў пяць, каб хапіла на світку і штаны новай тканіны, і пачынаў мяць і паласкаць яе, даводзіць да пэўнага падабенства на куплёную: радкі на шарачку знікалі, ніткі ўшчыльняліся і нібы з'ядноўваліся адна з другою. Калі такую саматугу ды яшчэ трохі падфарбаваць альховаю карою, то можна нават і гарнітуры шыць: здалёк кожны скажа, што крамныя.

Пакуль я вучыўся па хатах, то мой абутак не вельмі турбаваў бацькоў. Маці вязала мне або шыла нешта падобнае на шкарпэткі, уцягвала туды аборкі, падшывала сукенцам, і бегай каля дома колькі хочаш. А ў чужое сяло як у гэтым пойдзеш? І бацька сядзеў пры лямпе, а часам і пры лучыне досвіткам, абшываў такія ж лапці аўчынаю, а падшываў сырамяцінай.

...Прынялі нявестку настаўніцай у гарадскую школу. Прынялі сына выкладчыкам гісторыі ў мясцовы горна-хімічны тэхнікум. Прыходзяць усе гарадскія дадому, і старая радуецца, любуецца імі. А потым нявестка хуценька скідае з сябе ўсё гарадское, надзявае хвартух і бяжыць даіць карову (у мацеры ўжо няма сілы на гэта). Здымае з сябе паліто і касцюм са стрэлкамі сын і бярэ ў рукі сякеру, каб накалоць дроў паліць у печы, або хапаецца за рыдлёўку і бяжыць на агарод. Толькі гарадскія ўнукі-школьнікі гатовы пабегаць і ў форменнай адзежы. Баба пакрыквае на іх за гэта, аднак рабіць дома нічога не загадвае, каб не заплямілася новая апратка. І ў калгас дзеці не ходзяць, каб што там памагчы: гарадскія ж ужо!

І вось штрышок.

Прыбеглі ўнукі-школьнікі дадому і прыцяглі ледзь не па бярэму кукурузных пачаткаў. Бацькоў дома яшчэ не было, сустрэла іх бабка.

— Што гэта ў вас? Какаруза?

Дзеці, чакаючы пахвалы, сталі раскладваць на сонечнай прызбе свае здабыткі.

— А вы яе сеялі, палолі?

Дзеці збянтэжана маўчалі.

— А нават каб і сеялі,— працягвала бабка,— нават каб і палолі?.. То хіба можна браць калгаснае? Хто вас навучыў, паказаў прыклад на гэта? Бацька ці маці? А можа, я што ўзяла калгаснае, калі хадзіла на работу?

І старая запатрабавала, каб бацька строга ўшчунуў дзяцей за такі ўчынак. Бегаеце праз палеткі ў горад — бегайце, а калгаснага дабра не чапайце!

І яшчэ штрышок.

Пайшла неяк маці ў царкву адным нядзельным днём. А той дзень супадаў з летнім рэлігійным святцам спасам, толькі пасля якога па нейкай даўняй традыцыі ўжо можна было есці яблыкі. Да спаса маці ні яблык, ні ігруш і ў рот не брала.

Пайшла адна, ад праважатых адмовілася, хоць ужо не надта стойкая была ў нагах. Мінуў ранішні час, сонца к поўдню стала падбірацца, а маці не вярталася. У сям'і пачалі трывожыцца. І я тады быў дома. Рашылі ісці шукаць старую: можа, знемаглася ды дзе-небудзь сядзіць, адпачывае, а можа, што і горшае здарылася.

Пабеглі ўнукі-школьнікі. Яны рушылі поплавам проста на царкву, а мяне пацягнула выйсці за агарод на выган, каб глянуць на гарадскую сцежку. Надзеі не было ніякай, але і дома сядзець і чакаць ужо не хапала цярплівасці.

Сцежка ў тым годзе ішла праз жытняе поле. Яшчэ не зжатыя, запозненыя каласы месцамі ўзвышаліся над людскімі галовамі: каго ўгледзіш здалёк на такой сцежцы? І я пайшоў ціхам у горад, не так насустрач матулі (бо яе дарога ішла поплавам), як дзеля таго каб забавіць час і адчуць раўнавагу ў шпацыры па такой чароўнай сцяжынцы.

Пераспелае і нагрэтае сонцам жыта пахла хлебам. Налітыя васковай здобнасцю каласы выгіналіся

на сцежку быццам для таго, каб засланіць мне дарогу, а можа — каб лепш паказацца ды паскардзіцца, што яны ўжо вельмі перастаяліся: у клапатлівага гаспадара дайшлі б рукі і да гэтага прыгараднага палетка.

На сцежцы было зусім ціха і да млявасці душна. Можа, у іншых месцах і павейваў вецер, можа, і разганяў жніўеньскую духату, а сюды не далятаў ці проста аберагаў гэтую набрынялую поўнымі зярнятамі плошчу. І так ужо трапляліся сіратлівыя зярняты на сцежцы, яны не ўтрымаліся ў сваіх каласах і без ветру. А наляці ветраная хваля, скалані гэты ўрадлівы пятачок, і ўся зямля стане жоўтай ад зярнят.

...Нешта нібы зашоргала па сцежцы спераду ад мяне. Далекавата. Прыпыніўся я, прыслухаўся: нічога больш не пачуў. Праз нейкую хвіліну — зноў такое ж шорганне, ужо трошкі бліжэй. Рызыкуючы тым, што абаб'ю на сцежцы схіленыя каласы, я ледзь не бежкам рушыў насустрач гэтаму пакуль што незразумеламу шорганню — чамусьці вельмі пераканаўча падалося мне, што гэта матуля крочыць жытняй сцежкаю дадому .З прыпынкамі, а можа, і з вымушанымі адпачынкамі.

Прабег нейкія гоні, расхінаючы рукамі каласы, потым зноў прыслухаўся: нідзе нічога і нікога. Пакрочыў ціхам і каласы адхіляў асцярожна. Праз якую хвіліну нечакана ўбачыў: стаіць матуля ў жыце крыху водбач ад сцежкі. Каля ног — маленькі кошык, накрыты дамотканым ручнічком: сама некалі выткала. Прыгнутая ядлоўцавая качарэжка пад пахаю, а ў руках — пераспелы жытні колас.

Я спыніўся непадалёку і стаю, гляджу: рад, што маці перада мною. І не ў бядзе яна, не ў скрусе, і на нагах стаіць роўна, толькі, мабыць, сесці баіцца, каб потым не чакаць чые дапамогі на ўставанне.

Вялікі чатырохкантовы колас, ужо нават з адсохлымі вусікамі, ляжыць на прыгнутай маршчыністай далоні, а маці глядзіць на яго, любуецца, нібы шкадуе кратаць. І мне ўявілася: вось толькі дзьмухні на яго — усе зярняты асыплюцца. А як потым збярэш іх доле?

Маці ўсё ж бярэ колас у пальцы, паціху трэ яго:

зярняты, нібы адшліфаваныя burштынінкі, сыплюцца на далонь. Старая фукае на іх. Я гляджу, як яна своеасабліва і звычна складвае трубкай вусны, быццам астуджвае гарачую страву, як паступова няспешлівым глыбокім удыхам набірае ў лёгкія паветра. Такім манерам яна не толькі студзіла ежу, а і тушыла некалі агонь у лямпе, дзьмухала на вуголле, каб распаліць сыраватыя дровы ў печы, фукала на сінячок, які з'яўляўся ў каго-небудзь з нас, малых, у час няўрымслівай бегатні па хаце і забіяцкіх гульняў. І адразу ж гаіўся гэты сінячок. У памяці асталіся матчыныя вусны трубкай яшчэ з тых часоў, калі яна астуджвала ў кубачку паранае малако і паіла мяне малога з лыжачкі, ратавала ад кашлю.

І ледзь не ўсё маё жыццё раптам прамільгнула перада мною. Уяўлялася, што ў матуліных вуснах не адбылося ніякай змены за ўсе годы, бо зусім не зважалася на маршчыны. Яе вусны ўсё такія ж, зусім нязменныя, адзіныя на ўсім свеце. І фуканне іх заўсёды патрэбнае, гаючае...

Цяпер матуля здувала з зярнят сухую мякінку. Дзьмухала паціху, а мякінка паслухмяна аддзялялася ад зярнят і злятала. Перасыпала зярняты з далоні на далоню, яшчэ трохі падыхала на іх і сыпанула ў рот.

«А зубоў няма,— падумалася мне,— толькі спераду два ці тры». Але захацелася старой пакаштаваць свежых зярнятак. А можа, проста шкада было высыпаць іх на зямлю. Хіба ж можна? Гэта ж хлеб, тыя самыя крошкі са стала, якія ў нас ніколі не высыпаліся куды-небудзь, а толькі ў рот.

Матуля спавольна нагнулася, узяла ў рукі кошык з вышываным ручніком, выйшла на сцежку і тут убачыла мяне. Здзівілася і рада, а добра ўсміхнуцца ды сказаць слова не можа — зярняты замінаюць.

— От надумалася мне разгавецца...— сяк-так вымаўляе яна.— Новым хлебцам ды яблыкамі...— Падзабала трохі зубамі і дадала, сарамліва гледзячы на мяне: — Свянцонымі. Гэтак пахне ўсё хараша, гэтак саспела...

Мы пайшлі ціхам па сцяжынцы. Я ўзяў у адну руку кошык, а другою стаў падтрымліваць старую

пад локаць. Сцежкі мала нам было па шыраце, аднак калі ісці наровячыся, то можна не патаптаць жыта. Я не спяшаўся распытваць, чаму маці спазнілася і вяртаецца дадому не той дарогаю: чакаў, пакуль яна пажуе зярняты. Сам вышмаргнуў з вісячага над сцежкаю коласа некалькі зярняцін і ўкінуў у рот. Маці заўважыла гэта і ласкава ўхмыльнулася, пачала ахвотней смакаваць сваю ежу.

— Вазьмі яблычка,— падшапельваючы, папрасіла яна.— З кошыка.

Там ляжалі радком белыя налівы. Ад іх пайшоў прыемны летні пах, калі я адхінуў ручнік.

— А дзеці пабеглі поплавам...

Мяне цягнула даведацца пра спазненне, а яе ўстрывожылі мае словы.

— Куды пабеглі? Чаго?

— Вас сустракаць. (Я ўжо не сказаў: шукаць.)

— Мяне? Чаго? Хіба ж я дзе дзенуся? Вось захацелася каля горада прайсці, глянуць зблізку... Я ж ад таго і не была, як мы з табою некалі на машыне ездзілі. А потым на пляцоўцы там...— Маці прыпынілася і паказала качарэжкай у бок горада.— Так хораша вальса зайгралі... І маладзёж парамі пайшла... Я пастаяла трошкі: паслухала, паглядзела.

— А мы дома чакалі, чакалі...

Маці прыклала да вачэй далонь, глянула на сонца:

— Та-ак... Сапраўды, ужо не рана. А мне і не сцягнулася...

«Ой, мароз, мароз, не марозь міня-а...»

Мне так хацелася, каб гэтая песня зноў загучала з тэлевізара. Яна не магла надакучыць, страціць сваю ўласцівасць хваляваць мяне, як ніколі не траціць гэтага мае ўспаміны пра матулю, маё няспыннае жаданне заўсёды адчуваць яе побач. Міжвольна ўявілася, што і заўтра яна паедзе са мною, пабачыць усе змены ў горадзе за мінулыя гады. Здзівіцца, вядома, але і недаверу свайго не прыхавае, калі што ёй пакажацца не такім, як трэба: не ўмела яна і не магла быць у чым-небудзь няшчырай і, «бронь божа», як часта гаварыла сама, пакрывіць душою.

...Няма ўжо матулі некалькі год. Да апошніх сваіх дзён захаплялася яна дзіўнымі навінамі вакол нашай вёскі, хоць часам і пабойвалася іх.

...Вялі асфальтаваную дарогу паўз самыя хаты — трывога брала старую:

«Дзіця вылезе на сухое ды гладкае, а там машыны...»

...Нагортвалі вялікі насып у канцы вуліцы, а ён перагароджваў дарогу на Забродскія, дзе жылі сваякі.

«Як жа цяпер дабярэшся туды? Як пералезеш насып?..»

Казлова таксама ўжо няма на гэтым свеце, але ён часта ажывае ў маіх успамінах побач з маці. Асабліва — калі прыязджаю дадому, калі хаджу па салігорскіх вуліцах. Ледзь не кожны крок мне нагадвае іх.

З «мэрам» горада дамовіўся ў той вечар, што заўтра раніцою падыду да Дома Саветаў і адтуль паедзем куды захочам. Падышоў. Машына стаяла ля шырокага пад'езда, але я не ведаў, чыя яна і каго чакала. Яфімчыка яшчэ не было. Шукаць яго кабінет мне не хацелася, таму рушыў паціху ўдоўж будынка па пліткавым тратуары.

Дом Саветаў! Гучыць ганарова, унушальна. У Мінску — Дом урада. Там на ўсю рэспубліку, тут — на горад і раён. А чаму ж не запазычыць большае для меншага, шырока вядомае для менш вядомага? Гэта не выклікае ўсмешкі: будынак раскошны, прыгожы, у некалькі паверхаў. Тут усяго па пары: два выканкомы Саветаў, два партыйныя камітэты, два камсамольскія, два камітэты народнага кантролю, два аддзелы народнай асветы, два — аховы здароўя. І так далей.

Яфімчык выйшаў з будынка, калі я ўжо быў у канцы плошчы, і адразу падаўся мне насустрач, відаць, пазнаў здалёк. Мы не бачыліся гады тры, але і я не заўважыў у яго амаль ніякіх знешніх змен: усё тая ж камсамольская маладжавасць у твары, жвавасць і энергічнасць у рухах. Прастата і зямляцкая таварыскасць ранейшыя. Мы павіталіся як

сябры, і гаворка адразу ўзнікла вольная, не нацягнутая.

— З чаго пачнём? — бадзёра спытаў Мікалай Іванавіч.

— Спадзяюся на ваш выбар.

— Давайце — з Шаўчыхі! Памятаеце, напэўна? Падышлі да той машыны, што стаяла ля пад'езда. Марка «Волгі» не апошняя, але добра, што і такая ёсць у старшыні нядаўняга гарсавета. Калі краннуліся з месца, я вызначыў, што машына яшчэ добрая і не кепска дагледжана.

— На Шаўчыху! — сказаў Яфімчык шаферу.

Я ўжо ведаў, што цяпер гэта толькі ўмоўная назва, што нічога там не асталося ад тых мясцін, якія памяталіся мне з маленства.

Ехалі той жа вуліцай, з якой я пачынаў сваё новае знаёмства з горадам: па вуглах кварталаў праплывалі белыя шыльдачкі — Казлова, Казлова... Напрамак — зноў мая вёска, хоць ты вазьмі ды і завярні дадому.

З левага боку па нашым шляху — шырокая плошча, уся вымашчаная белымі плітамі. Засвяціла сонца, хоць ужо і не ярка, з асенняй памяркоўнасцю, але плошча заззяла, ад яе пачало калоць у вочы.

— Вунь там будзе помнік Леніну,— паведаміў Мікалай Іванавіч. І паказаў на вялікі камень, што ўзвышаўся над плошчаю.

У першы момант у мяне мільгнула сумненне: «Помнік Леніну на вуліцы Казлова?» Але, пад'ехаўшы бліжэй, зразумеў, што планіроўка правільная, бо ў гэтым месцы і праходзіць крыжам вуліца Леніна.

— Праект конкурсны,— дадаў Яфімчык.— Адбяром, выберам!.. Каб не горш, як у людзей. Наш горад чакае такога помніка.

Ля павароту на Шаўчыху Мікалай Іванавіч папрасіў шафёра спыніцца каля вялікіх новых карпусоў, якія я раней не бачыў.

— Гэта бальнічны комплекс,— пачаў тлумачыць ён.— Хутка ўступіць у строй. Лячэбны на паўтысячы ложкаў, а клінічны амаль на паўтары тысячы прыёмаў у змену. Такога яшчэ не было ў гарадах абласнога падначалення.

— Дзяржплан згадзіўся на такія выдаткі?

— А як жа! Для нас, вядома! — Тут Яфімчык нібы зжартаваў, а потым стаў усур'ёз даводзіць, што значных асігнаванняў на бытавыя патрэбы яны дамагаюцца перш за ўсё добрай работай на прадпрыемствах і што тут існуе зусім відавочная дыялектычная і практычная сувязь.

— Янчэўскі дапамог,— раптам уставіў ён у сваю размову.

— Як гэта?

— А вось як...

Наступную выкладку Яфімчыка я пастараюся перадаць скарочана, хоць, можа, і не так кваліфікавана.

Станіслаў Міхайлавіч Янчэўскі — вельмі папулярны тут шахцёр. Ужо некалькі год ён кіруе той камбайнавай брыгадай, якая ўпершыню не толькі на нашых беларускіх шахтах, а, бадай што, і на ўсіх па Саюзу пачала ўводзіць аўтаматычнае кіраванне праходчымі камбайнамі.

Тут патрэбна столькі мужнасці і настойлівасці, што, здаецца, ніводнаму чалавеку гэта не пад сілу.

У Янчэўскага знаходзіцца такая сіла.

Тут патрэбна сталая і разумная сувязь з навукай.

У Янчэўскага хапае для гэтага і здольнасцяў і цярпення.

Поўнай аўтаматыкі яны яшчэ не дамагліся, але паўаўтаматыку прымяняюць шырока і з добрым эфектам. Часам дасягаюць такой выпрацоўкі, якой яшчэ не ведаў свет.

Падрабязней аб гэтым паспрабую расказаць пазней, а пакуль што прыгадаю — на адной сесіі Вярхоўнага Савета СССР Янчэўскі як дэпутат ад беларускіх шахцёраў пабываў у А. М. Касыгіна. У гутарцы са Старшынёй Савета Міністраў СССР ён расказаў і пра старанную працу шахцёраў і пра іх надзённыя бытавыя патрэбы. Аляксей Мікалаевіч уважліва выслухаў усё гэта, а потым папрасіў пакінуць у Саўміне тыя папярэднія запісы і эканамічныя выклады, якія шахцёрскі дэпутат меў пры сабе.

Праз некалькі дзён прыйшло Янчэўскаму паведамленне, што яго хадайніцтва разглядаецца ў адпаведных планава-фінансавых органах. А потым выйшла і тое рашэнне, якое меў на ўвазе Яфімчык,

гаворачы са мною,— выдзеліць Салігорску дадатковыя сродкі і ліміты для пабудовы новага медыцынскага комплексу і кулінарнага камбіната.

Цяпер гэтае памятнае і надзвычай гуманнае рашэнне ўжо ў мурах, ледзь не ў цэлых кварталах найлепшых збудаванняў, якія цешаць вока і душу не толькі кожнага салігорца, а і кожнага прыезджага чалавека, калі ён трапляе на Шаўчыху.

Адкуль пайшла такая назва — Шаўчыха? Нават і здагадак пра гэта не чутно.

Але ж ці адно ў нас такое загадкавае месца? Непадалёку ад Шаўчыхі — Белае балота. Багна і белая... Чаму? Цяперашні хлебазавод стаіць у былым Маневе. Звыкліся тут: Манева і Манева, а што гэта такое — ніхто не задумваецца.

Былі яшчэ: Зосін лужок, Дзедаў лес, Васілёў лужок, Кавалёва лаза. Некаторыя з іх ужо не існуюць на зямлі — то дарогі новыя па іх прайшлі, то вадасховішчы там разліліся, то гарадскія карпусы ўзніклі.

І толькі ў памяці людской яны пакуль што жывуць. Пакуль што... А зменяцца пакаленні — і ўсё гэта зусім знікне. І, можа, па той прычыне, што мы не ведаем, к прыкладу, што такое Шаўчыха. Можа, яна не проста Шаўчыха, а, скажам, Сусаніха, гераіня народная, асоба, вартая гісторыі, як тутэйшыя браты Цубы, што ў мінулую вайну паўтарылі подзвіг Сусаніна. І не паставілі ёй помніка, не запісалі ў энцыклапедыю толькі таму, што не ўведалі, хто яна такая, не даследавалі яе жыццё.

Я ўжо не раз заўважаў, што часам прырода валодае даўжэйшай памяццю, як чалавек.

— Ад самой Шаўчыхі што-небудзь асталося? — спытаў я ў Яфімчыка.

— Якой — самой? — не зусім уцямна перапытаў ён. — Вось яна тут і была. Урочышча так звалася.

— Не ўрочышча, — удакладніў я, — а проста лужок адзін. Непадалёку адсюль...

— Дык ён і цяпер blішчыць.

Мы пайшлі ўдоўж суцэльных малочна-белых карпусоў і неўзабаве ўбачылі перад сабою невялічкае, аголенае па берагах і нібы срэбнае па колеру азярцо.

— Вось яна! — узрадавана, нібы сустрэў даўнюю знаёмую, усклікнуў я.— Аер тут быў улетку?

— Быў. Хлапчукі лазілі, ірвалі.

Акругленае, па-асенняму суцішнае плёса было цяпер намнога меншае, як уяўлялася мне па памяці, і, відаць, абмялелае, аднак вада тут трымалася: мабыць, тая халодная крынічка, якую мы, канапасы, некалі намацвалі босымі нагамі, струменіла з недраў зямлі даволі ўстойліва.

Я адчуў прыемны халадок у нагах. Калючы, дрыготкі, але ўсё роўна прыемны... Часам і да сутаргі даходзіла. Гэта калі мы залазілі на самую сярэдзіну лужка, дзе аер не рос. Стаялі па шыю ў вадзе і намацвалі ступнямі дробныя каменьчыкі. Ногі мерзлі, і плечы ўздрыгвалі, хоць зверху вада была цёплая.

Сустрэць бы хоць аднаго цяперашняга хлапчука, які рваў тут аер. Сухія карэньчыкі аеру сям-там відны на прыдарожным беразе. Што адчуваў той хлапчук нагамі?

Калі б не позняя восень, калі б хапала часу, ды каб не сорам перад Яфімчыкам і шафёрам, то зняў бы я чаравікі ды ступіў крокаў некалькі ў плёса. Цягнула даведацца, вярнулася б адчуванне далёкага маленства ці не? А можа, трапіла б нага ў гразь і знікла б уся ўяўная чароўнасць.

Часам бывае так у жыцці, але мне не хацелася так думаць пра Шаўчыху. Сваім дрыготкім плёсам ды сухімі аернымі карэньчыкамі ў прыжоўклай траве яна вельмі адчувальна нагадвала мне пра мінулае.

Некалькі год таму назад такую ж радасць падало мне Белае балота. Яно непадалёку адсюль. Некалі і там мы пасвілі коней. Завітаўшы аднаго разу туды і сцішыўшыся ў адзіноце, я раптам бы пачуў незабыўнае хрумканне коней. І нават іхняе плюханне ў цёплай прыбярэжнай вадзе, густа зарослай зялёнай сакавітай плывухай.

Акінуў вокам наваколле. Нідзе той плывухі ўжо няма. Адышло ў маладых з памяці і тое, як пасвіліся коні, якую ролю яны мелі ў жыцці чалавека. А

вось прырода хоць у нейкіх дэталях, можа, часам і няўлоўных, усё ж захоўвае памяць пра тое далёкае і ўжо незваротнае, што некалі складала людскія біяграфіі, уплывала на характары і лёсы цэлых пакаленняў.

Знікае ўсё гэта бясследна, безуважна, проста-напраста замяняецца адно другім амаль механічна ці, можа, і тут існуе нейкая пераемнасць і нашчаднасць, як у грамадстве?

Задаю такое пытанне Яфімчыку. Ён няпэўна паціскае плячамі і нічога не гаворыць, пакуль мы едзем далей. Бачу, што думае над пытаннем і не намерваецца прапусціць яго міма вушэй або адбыцца агульнымі словамі. Потым з-за пясчанай горкі выблісквае перад намі велізарнае хвалістае плёса, і Яфімчык узбадзёрваецца, хапаецца за здагадку, нібы каштоўную сваю знаходку:

— А ці не тут цяпер і Шаўчыха, і Белае балота, і ўсе тыя навакольныя лужкі, што абмялелі? Іхняя вада прыйшла сюды і ўтварыла наша мора. Прыгожыя былі лужкі, нічога не скажаш! Але ж не такія, як цяперашнія.

Мора сустрэла нас дзівам сваёй неабсяжнасці, а потым чым бліжэй пад'язджалі, то ўсё больш шумнымі ўсплёскамі раскацістых хваль з вясёлымі белымі грабеньчыкамі.

Нават і грабеньчыкі ёсць, нават пена пры беразе! Коцяцца хвалі здалёку-далёку, з-пад самых Лістападавіч, калі браць у папярэчным вымярэнні. А калі ў прадоўжным, то, відаць, ад Скакалі, якая і зусім далёка адсюль.

Некалі гэтая Скакаль была таямнічым і загадкавым месцам для мяне. Чуў пра яе, а сам ні разу не быў. Ні вёска гэта, ні рака, ні якое-небудзь урочышча. Аднак жа — вядомая ўсюды.

— Мост там гэтакі,— тлумачыў тады мне бацька.— І грэбля. Як едзеш там на калёсах, дык усё скачаш і скачаш...

Марскія хвалі з пенаю набягаюць на пляжны пясок, чыста вымыты, з шурхлівымі каменьчыкамі. І гэта там, дзе некалі быў перамел і людзі пераходзілі і пераязджалі раку проста з ходу.

— Плануйце сюды свой адпачынак,— гаворыць

Яфімчык. Гляньце, які ў нас пансіянат. Пакой тут адвядзём... Сталовая побач. Паветра — не горшае, як у санаторыях.

Каля пансіяната — вялікі сад. (Раней тут кусціўся ядловец.) На беразе — спартыўныя пляцоўкі, раскошныя пляжы з тэнтамі і закрытымі раздзявалкамі. Усё зроблена добротна і сучасна, без усякіх адзнак кустарнасці або няўмельства. Я аглядваю гэты новы пейзаж і адчуваю, што сапраўды апынаюся недзе далёка, у зусім незнаёмых курортных месцах.

І не верыцца мне, што варта толькі ўзбегчы на прырэчную горку — і ўбачыш сваю вёску, нават бацькоўскую хату з белымі, трохі залішне выстаўленымі на выган вокнамі.

«Чаму б не пажыць тут з месяц ці больш, узяўшы творчы адпачынак? Будзеш і дома і на курорце. Рэдкае спалучэнне».

Гэтую думку выказваю Яфімчыку.

— Забудзецеся, што дома,— запэўняе ён.— Па сабе адчуваю. Прыязджаю на выхадны... Бывае — пяшком прыходжу... А ўяўляю: Ялта адкрылася перада мною...

Добра, што такое хараство побач. Няхай сабе і не крымскае. У мяне ж гэтае чароўнае параўнанне раптам сапсавала адна нечаканая дэталь: выйшаў у канец саду, глянуў удоўж марскога прыбярэжжа і заўважыў пахілы, ухутаны густымі прысадамі хутарок.

Ён і цяпер стаіць? Вёску Пясчанку перамясцілі, цэлыя гаі выкарчавалі, усё наваколле перайначылі, а хутарок стаіць, як і дзесяткі год назад.

Бываюць кантрасты ў жыцці, мабыць, яны непазбежныя. Успомніўся мне і гаспадар гэтага хутарка, стамагільскі Юсцік. Чуў я, што жыве ён пры вадзе і цяпер. Раней пры рацэ, а цяпер — пры моры. Гэта адзін своеасаблівы аднаасобнік на ўсю нашу акругу. Праўда, зямлі ў яго ніколі не было, акрамя агарода, але каб і была, то ён яе не абрабляў бы. У калгас некалі не ўступіў, бо яго, як гультая ды яшчэ аддаленага ад вёсак, не надта і запрашалі туды. Лавіў рыбу, пасвіў сваю карову на калгасным лузе, пазней часамі наймаўся вартаўніком бранчыцкіх стагоў се-

на, што скідваліся летам, а перавозіліся толькі зімою, калі замярзала рака.

Чалавек з прыродным дарам гумару, заўсёды вясёлы і словаахвотлівы, ён лёгка зблiжаўся з людзьмі, меў вялікі круг прыхільнікаў і спагадвальнікаў. Улетку жыў пры зарэчных касцах, хоць сам сена не касіў, а адбываўся на розных дробных паслугах: падлоўліваў рыбку для свежай юшкі, падносіў сцюдзёную калодзежную ваду ў вялікай драўлянай біклазе. Галоўнае ж, умеў з'явіцца на людзях тады, калі найбольш патрабаваліся трапнае ёмкае слова, новы або хоць і стары, але па-свойму перавернуты анекдот, свежы ці падсвежаны выпадак, здарэнне, нават плётка, абы толькі смешная ды хоць трохі пікантная. I людзі з прыязню кармілі яго і паілі, а калі часам пасылалі ў Стамагілы ці Лістападавічы па кварту самагонкі, то значную долю яму ж і выдзялялі.

Зімою Юсцік сумаваў, таму часта збягаў з дому і наведваўся да сваіх шматлікіх прыяцеляў у акаляючых вёсках: то к аднаму прыйдзе, то к другому. Калі меў, то прыносіў гаспадару як гасцінец дзве-тры рыбінкі і сам ужо сталаваўся там цэлы дзень, часам аставаўся і нанач.

Не пазбягаў ён сустрэч і са мною, хоць і ведаў, што я часам сёе-тое запісваю са слоў сваіх землякоў, намагаўся прыгадаць што-небудзь, на яго пагляд, цікавае і для мяне. Але найбольш збіваўся на такія неверагодныя прыгоды з уласным удзелам, што ў мяне прападала цікавасць і пачынаў адольваць сум. Юсцік уваходзіў у раж, натхнёна ўзвышаў голас, смяяўся, а я міжвольна пазяхаў.

— Не верыш? — без асаблівых турбот праз гэта пытаўся ён.

— А хіба праўда, што вы за адзін прысест з'елі тры курыцы і выпілі літру гарэлкі?

— Дык гэта ж не цяпер было, а ў маладосці,— спакойна апраўдваўся Юсцік.— Тады я ўсё мог.

Росказні, насмешкі і анекдоты пра яго хадзілі тады па нашых вёсках ад чалавека да чалавека, і часта можна было пачуць сярод людзей звыклы выраз: «Як той Юсцік сказаў». А то і з іншым адценнем: «Мелеш языком, як той Юсцік».

Больш стрыманыя людзі і начытаныя часам зраўнівалі Юсціка са Шчукаром і гэтым падкрэслівалі яго бясспрэчнае самародства. Не магу цяпер сцвярджаць, наколькі яны мелі рацыю, адзначу тое, што цяпер у нашай мясцовасці заціхла гаворка пра Юсціка. Відаць, былі свае пэўныя часы і для Юсціка і для Шчукара.

Пасля абеду Мікалай Іванавіч Яфімчык з'явіўся ля машыны разам з незнаёмым мне шчуплаватым хлопцам, які нават яшчэ здалёк паглядваў на мяне з прыязнай цікаўнасцю, быццам збіраўся нагадаць даўняе блізкае знаёмства ці нават сваяцтва. Я таксама ўважліва паглядзеў на хлопца: можа, бачыліся дзе, а можа — сусед з мае вёскі, ды вырас без мяне.

— Труханові Мікола,— сказаў хлопец, падаючы мне руку і ледзь стрымліваючы ўзрушанасць.— З Чыжэвіч.

Вочы ўзрадаваны, прыязнасць у іх не знікае.

— Каторы Труханові? — пытаю.— Чый сын?

— Іванаў,— ахвотна паведамляе хлопец.— Вы яго ведаеце, пісалі некалі. І я вас ведаю.

Паціскаючы хлапцу руку, падсвядома адзначаю для сябе, што далонь у яго цвёрдая, працавітая. І ва ўсёй постаці і бязвусым твары няма нічога ад беларучкі, моднага юнца-інтэлігента. Такая ж простая і звычайная яго апратка: лёгкае, бо яшчэ ж не зіма, палітцо, якое ўжо, відаць, не адзін раз пабывала пад дажджом; расклёшаныя, але ўжо не зусім трывала абрубцаваныя знізу штаны, а на чаравіках, хоць і старанна падшараваных шчоткай, прыкметны ўсёдлівыя сляды застарэлай гліны.

— Гэта наш геадэзіст,— з павагай гаворыць Яфімчык.— Начальнік вытворчай групы пры гарадскім архітэктары. Ён паедзе з вамі, бо мне трэба абавязкова быць на адной дэпутацкай камісіі. Абяцаў.

У дарозе я працягваю свае роспыткі:

— Дзе вучыўся? Што скончыў?

— Вучуся яшчэ. На чацвёртым курсе Ленінградскага горнага інстытута. І працую. Без адрыву,

як гаворыцца... А да гэтага скончыў наш тэхнікум.

— Як бацька? Здароў? Працуе дзе?

— У тым жа ўпраўленні, што і быў.

— Значыць, два геадэзісты ў адной сям'і?

Мне вельмі выразна, нібы гэта было ўчора, успомнілася мая першая сустрэча з Мікалаевым бацькам, Іванам Трухановічам. Тады хадзілі мы з ім яшчэ па чыстых чыжоўскіх палетках, і ён расказваў мне, дзе тут што павінна быць у адпаведнасці з планам будаўніцтва і грунтам. Горада тады яшчэ не было. Я ведаў, што Іван нідзе не вучыўся на геадэзіста, а толькі ў арміі нейкі час працаваў з тапографамі. Чалавек самастойна авалодаў спецыяльнасцю і добра спраўляецца са сваёй работай. Яго будаўнічыя прагнозы проста здзіўлялі мяне сваёй абгрунтаванасцю.

— Тут многа чаго бацька навымерваў, набудаваў? — спытаў я ў сына, праязджаючы па адной з першых вуліц горада.

— Амаль усё,— адказаў Мікола.— Іхняе ўпраўленне тут працавала.

— А ў цябе ўжо ёсць свае аб'екты?

Мікола сумеўся, быццам не ведаў, як лепш адказаць.

— Сваіх, можа, і няма,— не надта ўпэўнена пачаў ён,— але я маю адносіны да ўсіх праектаў, што ажыццяўляюцца ў горадзе. Шчыра кажучы, больш хілюся да прамысловага будаўніцтва, тут у мяне больш цікавасці.

І мне зноў падумалася: самай вялікай пахвалы заслугоўваюць тыя першыя ініцыятары і натхніцелі стварэння новага хімічнага цэнтра, якія з першых крокаў ратавалі за падрыхтоўку маладых здольных кадраў, за разумную пераемнасць пакаленняў. Такіх сем'яў, як мае землякі Трухановічы, цяпер у Салігорску многа: бацькі пачыналі будаўніцтва горада і нечуваных да таго часу гігантаў хіміі, а дзеці працягваюць.

— Вучыце моладзь! — намагаў некалі Васіль Іванавіч Казлоў на ўсіх тут сходах і нарадах.— Прывучайце іх да вялікай работы Калі мы, бацькі, не здолеем узняць сваіх дзяцей хаця б да свайго

уласнага ўзроўню, то можна лічыць, што мы не дасягнулі самага галоўнага ў жыцці. Але ж дзеці павінны ісці далей за нас. Намнога далей!..

Чацвёрты калійны камбінат, ці, афіцыйна,— завод, размяшчаецца ўжо не на старобінскай зямлі, а на любанскай. Акружной дарогай паўз берагі Салігорскага мора мы ехалі туды каля гадзіны.

— А як жа будаўнікі? І яны трацяць па столькі?

— Трацяць. Іншай дарогі адсюль пакуль што няма.— Мікалай углядаецца ў далечыню мора, быццам спадзяецца ўбачыць процілеглы бераг.— Падлічылі і давялі, што мэтазгодней перакінуць мост праз мора і тады да новага завода будзе рукой падаць, чым будаваць там яшчэ адзін горад ці нават пасёлак.

На тэрыторыі завода да мяне падляцеў камар. Няхай самы запознены, няхай нават прыблудны, але падляцеў. Я падумаў: колькі ж тут было камар'я і ўсякай машкары летам, калі і цяпер з'явіўся адзін нахабнік і вось кружыняецца вакол мае галавы. Нават будаўнічых газаў не збаяўся.

Тэрыторыя пад будаўніцтвам аграмадная, недзе каля паловы Любаншчыны. Добра, што не ўсюды карысная зямля займаецца, а пераважна хмызнякі, нізіны, месцамі балотцы. Таму і заедзі ўсялякай тут лагода. Выбар робіцца, вядома ж, не па знешніх выгодах, а па ўнутраных багаццях — калійныя залежы накіроўваюць і вызначаюць тут усё.

На тэрыторыі завода яшчэ многія ходзяць у гумовых ботах, бо асфальтаваны толькі пад'язная дарога ды адна-дзве сцежкі, якія вядуць да часовых будынкаў упраўленняў — шахтапраходчага і заводскага.

Мікола неяк залішне смела ступіў у гразь, як толькі выйшаў з машыны, а я пачаў наравіцца, шукаць сушэйшыя мясціны, хоць гэта было нялёгка нават і на асфальце. Дабрацца да ствалоў, вядома ж, было немагчыма ў чаравіках, хоць мне вельмі хацелася пабачыць там шахтапраходчыка Міколу Каранька, якога я ведаў яшчэ па першых ствалах. Ён таксама з маіх землякоў, мясцовы хлопец, авалодаў шахтапраходчай работай тут, на нашых аб'ек-

тах, і першага мая шасцідзесятага года разам з звяном выдаў на-гара, як любяць гаварыць шахцёры, першую баддзю калійнай руды.

Цяпер гэта ўжо, мабыць, не той вядомы мне юнак з надзвычайным камсамольскім задорам, а, пэўна ж, сталы чалавек, славуты спецыяліст, знаёмы амаль усяму шахцёрскаму свету. Ужо многа год ён лепшы шахтапраходчык, і ва ўсіх нават у звычку ўвайшло: Каранько — значыць, раўняйся па ім, бяры прыклад, вывучай яго метады і прыёмы, а то адстанеш.

Па газетах я добра ведаў яго, сачыў за поспехамі, бачыў на фотаздымках, а твар у твар не сустракаўся даўно.

— Папрасіць вам боты? — прапанаваў Мікола Труханові́ч, але ў яго голасе не было ўпэўненасці, а ў рухах — гатоўнасці бегчы шукаць нейкага там кладаўшчыка ці яшчэ якога начальніка над спецвопраткай. Да таго ж, без адпаведнай рэзалюцыі кладаўшчык і не дасць нічога.

Прычыну Міколавых ваганняў я ведаў. Яшчэ ў дарозе ён, як чалавек шчыры і не прывучаны прыхоўваць недахопы, расказаў мне, што на гэтых днях на адным са стваловў здарылася няшчасце. Цяжкі выпадак, ён траўміраваў увесь шахцёрскі калектыў. Ніхто быццам бы і не вінаваты, але ж само сабою не магло так здарыцца. Цяпер усё шахтнае кіраўніцтва ў вялікім засмучэнні, і Мікола не хацеў лезці ім у вочы з маімі патрэбамі.

«Можа, так і лепш,— падумалася мне.— Пабуду ў ствалах і другім разам».

Прыемна мне будзе сустрэцца з Каранько, як і з Трухановічам-бацькам, Булгаком, Шульгой і многімі іншымі землякамі і не землякамі, якія вось ужо амаль два дзесяткі год стаяць на перадавой вахце, і ўсе людзі з павагай вымаўляюць іх імёны.

Зразумеўшы, што з шахтапраходчыкамі сёння размова не атрымаецца, мы пераступілі на другую асфальтаваную дарожку і падаліся да будынка дырэкцыі завода. Асаблівых намераў у нас не было: Мікола меў на ўвазе ўзяць патрэбныя звесткі па нейкім будаўнічым аб'екце (тут іх некалькі), а я разлічваў толькі на першае ўражанне, на беглае

знаёмства з прадпрыемствам. Адсюль наш шлях ляжаў на фабрыку трыкатажу.

У вестыбюлі новага і, пэўна ж, яшчэ часовага будынка адчувальна папахвала ацэтонам, але гэта не выклікала непрыемнасці, а толькі яшчэ раз нагадала, што мы знаходзімся на новабудоўлі. Пакуль я разглядваў шыльды (хораша пісаць іх і зашкельваць цяпер навучыліся ўсюды), з нейкіх дзвярэй (я не заўважыў з якіх) выйшаў высокі і, як мне цяпер помніцца, сухашчавы чалавек і жвава накіраваўся да выхада.

— Леанід Васільевіч! — звярнуўся да яго Мікола Труханoвіч.— Тут вось да нас...

— А-а... Вельмі прыемна... Рад пазнаёміцца... Прашу!..

Я глянуў чалавеку ў твар, спадзеючыся ўбачыць звычайную халаднаватасць, прыкрытую інтэлігенцкай ветлівасцю, бо словы чуў пакуль што шаблонныя. І здзівіўся, адчуўшы, што гэта не так. Чалавек глядзеў на мяне зацікаўлена і шчыра, зусім не паказваў, што некуды спяшаецца, што сустрэча са мною ў яго ў гэты час не запланавана.

— Галоўны інжынер завода Козусеў,— паведаміў чалавек.— Калі што-небудзь цікавіць тут у нас, то пастараюся быць карысным.

— Дык вы ж некуды ішлі...— спагадліва заўважыў я.— Няёмка з налёту...

— Нічога. Знойдзем час. Мне было б цікава з вамі пагаварыць.

У яго голасе ніякай фальшывінкі, у скупых павольных жэстах — прастата і натуральнасць. Нібы міжвольна звярнулася ўвага і на тое, што мова ў чалавека льецца да здзіўлення вольна і нават зусім пісьменна, як у добрага лектара ці літаратара. Над словамі ён быццам бы і не задумваўся, не падбіраў іх, а яны знаходзіліся самі, і кожнае да месца. І мяне пацягнула да гэтага чалавека, ужо было б крыўдна, калі б ён не астаўся з намі хоць на некалькі хвілін. Інтуіцыя падказвала, што ад яго можна пачуць тое, чаго ад іншых не заўсёды пачуеш.

Мы зайшлі ў кабінет, не вялікі, не раскошны, як у некаторых маламаштабных кіраўнікоў, але абстаўлены з густам: было тут усё, што трэба для службы,

і нічога лішняга, не ўласцівага рабочаму месту. Козусеў запрасіў нас распрануцца, паказаў, дзе вешалка. Сам таксама зняў плашч і астаўся ў даволі новым элегантным касцюме.

— Вельмі шырока размяшчаецеся,— разлічваючы на кампетэнтнае аспрэчванне, а можа, нават і на паблажлівасць далёкаму ад вытворчасці чалавеку, заўважыў я, прысаджваючыся на крэсла ля паліраванага прыстолка.— Паўраёна занялі.

— Згодзен з вамі,— нечакана для мяне заявіў Козусеў.— Многа зямлі займаем. Але іначай нельга. Прыйдзецца яшчэ і пашыраць нашу арбіту.

— Там жа далей вёскі, калгасы...

— Перасялім...

Мне раптам уявіўся той амаль трагічны час, калі людзям прапануюць перабірацца ў нейкія неабжытыя месцы цэлымі вёскамі, пасёлкамі. Што гэта азначае ў жыцці? Тым больш што кварталы ў горадзе ім не адвядуць. А галоўны інжынер гаварыў пра гэта спакойна і быццам нават завучана.

— Для людзей усё робіцца,— працягваў ён.— Не перасялім, будуць мучыцца тут, а не жыць. Мясцовы вопыт падказвае. Пашкадавалі некалі прастору для папярэдніх камбінатаў, хоць і там плошча не малая. А цяпер — беды: як ні берагуцца нашы хімікі, а ўсё ж час ад часу паляць дрэвы, расліннасць, нават пасевы. Ведаеце Чапялёўскі сад?..

Козусеў на хвіліну задумаўся, а мне ў гэты час аж кальнула ў сэрца ад рэзкага ўспаміну: некалі я вельмі добра ведаў Чапялёўскі сад. Гэта было ў першыя гады калектывізацыі. Арганізаваўшы калгас-гігант, людзі рашылі пасадзіць і сад-гігант, каб на ўсю Случчыну ішла пра яго слава. Пасадзілі і сталі рупліва даглядаць яго. Хто ні прыязджаў у раён, то яму ў першую чаргу паказвалі гэты сад. І чалавек захапляўся, адразу бачыў і вызначаў перавагу калгаснага ладу.

Бываў у гэтым садзе і я. Гэта былі гады майго юнацтва, светлая і незабыўная пара найлепшых спадзяванняў і мар. Калі ў садзе зацвіталі маладыя яблынькі, мне ўяўлялася, што ўвесь свет цвіце і красуе, што і ўсё жыццё павінна быць вось такім квітнеючым і чароўным.

Праз некаторы час калгас-гігант раздрабнілі, а сад так і астаўся вялікім, хоць і належаў аднаму Чапялёўскаму калгасу.

— А што з гэтым садам? — запытаў я ў Козусева.

— Прыпалілі! — абурана прамовіў Леанід Васільевіч. Потым крышку перадыхнуў і паправіўся: — Не ўвесь, праўда, а добрая палавіна падсохла.

— Як жа гэта? — І я стаў разважаць услых: — Мая вёска амаль побач з горадам і толькі за якіх пару кіламетраў ад першага камбіната. А ўсе сады ў нас цвітуць і родзяць, ні адно дрэва лістка не ў пару не спусціла. Чапялі ж ад другога камбіната на большай адлегласці.

— Разумею вас,— памяркоўна азваўся Козусеў. Мяккасць і паважлівасць увесь час не знікалі ні ў яго голасе, ні ў манерах.— Першы камбінат толькі разоў два «дзьмухнуў» на свае бліжэйшыя пасёлкі. Да вашай вёскі, як мне вядома, не дадзьмухаўся ні разу. Там у іх добра пастаўлена тэхніка бяспекі. А на другім камбінаце пусцілі ў ход цэх грануляцыі. Атрутнага пылу не спынілі, і ўсё зжаўцела на вялікай зоне. Нават агародніна.

— Мы пабываем у Чапялях,— ціха сказаў я Міколе Трухановічу, але Козусеў пачуў.

— Абавязкова пабывайце,— настойліва параіў галоўны інжынер.— Тады вам ясней будзе, чаму мы імкнёмся так расшыраць зону новага завода.

— Няўжо гэтая атрутная небяспека будзе мучыць людзей і ў вас? Тут жа, я чуў, уводзіцца ўсё новае, удасканаленае?

— Правільна,— згадзіўся Козусеў.— Але ж, як кажуць мудрыя людзі, беражонага і бог беражэ. А галоўнае — не заўсёды ў нас выходзіць так, як хочацца. Калійшчыкі другога, вядома ж, не наўмысля палілі Чапялёўскі сад. Недзе нешта на спеху ўпусцілі, а нечага планавага ім не хапіла. Краіна наша аграмадная. Будаўніцтва ідзе такое, якога яшчэ свет не ведаў. І часам таго-сяго вельмі патрэбнага не хапае, або пастаўляецца яно пазнавата. Вось і мы тут, як ні б'ёмся, а да гэтага часу не ведаем, якія будуць машыны на вежавых капрах. Не цвёрда верым, што своечасова атрымаем і іншыя навінкі

абсталявання. Таму затрымліваецца праектна-сметная дакументацыя. А час ідзе! А жыццё наша вызначаецца планам. Праз якія тры-чатыры гады ў нашым аб'яднанні павінна дабавіцца да агульнага плана два мільёны тон калійных угнаенняў. Гэта ў асноўным за кошт чацвёртага завода. Першую чаргу яго трэба ўвесці хутка, а высокай тэхнікі не хапае. Вось вам і канфлікт! Не новы, але жывучы. Амаль усе кнігі на вытворчую тэму трымаюцца на гэтым канфлікце.

І ён, на жаль, не выдуманы.

«Цябе б у нашу секцыю крытыкі!» — чамусьці ўзбрыў мне на думку такі жарт.

А Козусеў тым часам вёў далей свае аргументы:

— Калі сказаць вам шчыра, то мы марым аб поўнай гарантыі аховы прыроды, бо дзе прырода, там і чалавек. Пры сучаснай тэхніцы можна дамагчыся гэтага. Але ці хопіць сродкаў? Ці хопіць часу? Два мільёны тон мы павінны даць, таму можам ахвяраваць яшчэ адным Чапялёўскім садам.

— Можа, і Жабінам,— даволі нязгодліва заўважыў Мікола Труханові.

Козусаў рыўком павярнуўся да яго, спачатку нібы сумеўся, а потым спытаў у мяне:

— Вы знаеце, пра што нагадвае гэты малады чалавек?

Не, я яшчэ не ведаў, што мелася на ўвазе.

— Я вам скажу... Коратка, вядома.

І Леанід Васільевіч стаў падаваць характарыстыку адной зусім нечаканай і не прадбачанай з'явы. Гаварыў і раз-пораз пазіраў на Міколу, ловячы ў яго вачах падтрымку ці маўклівую нязгоду. А хлопец гэты, хоць яшчэ і зусім малады, часам здзіўляе субяседнікаў сваёй разважнасцю і глыбокім разуменнем справы. Козусеў, пэўна ж, адчуваў гэта.

Сутнасць з'явы ў тым, што аднойчы, пасля вялікага дажджу, з'явілася вада на жабінскіх агародах і палетках. Нікога гэта асабліва не здзівіла, бо часам трохі залівала гэтыя мясціны і раней. Але праходзілі дні, а вада не сплывала. Тут ужо запахла трывогай: нікога не цешылі гэтыя стыхійныя азёрцы каля хат і на загуменнях, да таго ж — прападалі гародніна і пасевы. Паспрабавалі пракопваць канаў-

кі, спускаць з агародаў ваду — не памагло: ніжэйшага месца навакол не знайшлося.

Стала ўсім ясна, што зямля ў гэтых месцах апусцілася, а вось чаму — вызначаць вучоным. Не ад леднікоў, вядома, не ад землетрасенняў! У нас гэтага не бывае. Значыць — ад шахтаў. А чаму так здарылася, па якой прычыне?

Забягаючы наперад, я скажу ад сябе, што і цяпер месцамі стаіць вада на жабінскіх агародах і палетках. Людзі ўжо страцілі надзею, што яна калінебудзь высахне, выпарыцца або сплыве куды-небудзь. Нават у самую засушлівую пару яна амаль што не мяльчае. Наадварот, азёрнае плёса паступова расшыраецца і пагражае ўжо самому Жабіну, вялікай старажытнай вёсцы.

— Што тут адбылося, як я думаю,— працягваў размову Козусеў.— Дапушчаны пралікі ў выбары гарызонта здабычы сільвініту. Былі, відаць, і тэхналагічныя недакладнасці. І зноў жа: наўмысля гэта? Бясспрэчна, не! Ад тэхнічнай ці геалагічнай недасведчанасці? Таксама не скажаш. Хутчэй за ўсё — ад спешкі.

— Ну, а як жа цяпер? — памкнуўся я высветліць перспектыву, але Козусеў зразумеў мяне з паўслова.

— Жабін давядзецца перанесці,— са спакойнай рашучасцю заявіў ён.— І, напэўна, яшчэ некаторыя вёскі. Чыжоўку, напрыклад.

— Яна ж далёка. Можа, Чыжэвічы?

— Не. Чыжоўку. А Чыжэвічам няма пагрозы, як і вашым Кулакам, бо яны пры горадзе. Мяне не было тут, калі вызначаліся першыя зоны падземных работ, аднак ведаю з дакументаў, што былі прыхільнікі распрацовак і пад горадам. На большай глыбіні, вядома. Калі б гэтая тэорыя перайшла ў практыку, то не ўстаялі б вашы Кулакі. І Чыжэвічы таксама.

«Праваляцца хаты... Дальбог, праваляцца!..»

Мне зноў пачуліся гэтыя словы, ды так выразна, так яскрава, што ўявілася, быццам вось побач стаіць мая матуля і выказвае свае няўхільныя трывогі.

«І царкаў чыжоўская праваліцца, бо яна ж самая высокая і самая цяжкая».

Не адна мая маці выказвала ў свой час такую не-

бяспеку, у яе былі прыхільнікі сярод дзядоў-аднавяскоўцаў. Як цяпер прымаць іхнюю насцярогу? Не вучоныя яны былі, не геолагі, не шахцёры. А можа, і трэба было б вучоным паслухаць старых практыкаў, умудраных жыццёвым вопытам людзей, якія на сваіх паграбах, калодзежах ды па выкапнях гліны адчувалі ўласцівасць тутэйшай глебы.

— Мы ўсё гэта ўлічваем,— тым часам гаворыць далей Козусеў і неяк вельмі ж няўважна заглушае голас мае матулі.— У нас і тэхналогія здабывання будзе іншай, і штрэкі пойдуць на большай глыбіні. Мяркуем засыпаць іх пасля поўнай выемкі пластоў, тады глебавай асадкі не будзе. І атруту ў паветры не пусцім. А пакуль што, як бачыце, расшыраемся за кошт Любаншчыны: выкарчоўваем лес, перасяляем вёскі. Калі пойдзе ўсё па нашаму плану і не будзе затрымак з сучасным абсталяваннем, трывожныя з'явы першых камбінатаў у нас не паўторацца.

Мікола Труханові́ч неўпрыкметку глянуў на свой ручны гадзіннік. Я таксама адчуваў, што зацягваецца наша гаворка і, можа, залішне многа часу аддае нам чалавек, на якім ляжыць столькі клопатаў па стварэнні маштабнага і складанага па свайму профілю завода. Аднак зусім не заўважалася, каб Леанід Васільевіч спяшаўся ці пачынаў хоць трохі замаруджваць гаворку. Я ўвесь час адчуваў, што ў яго словах — яго жыццё, яго планы і імкненні, што ён нібы звярае пры нас свае задумы і меркаванні, быццам думае ўслых, разважае, усё больш і больш узбуджаючы сваё творчае гарэнне. І, вядома ж, пры такім натхненні ён не стамляецца і, можа, нават не адчувае свайго дзённага рэгламенту, забывае пра яго ці лічыць другарадным. А мне і да справы было б і да душы, каб ён як мага больш удзяліў нам і часу, і ўвагі і каб не зніжаў свае шчырасці і даверлівай непасрэднасці ў размове. Мая літаратурная струнка і радавалася і трымцела ад пераканаўчага адчування, што перада мною чалавек значнага інтэлекту і вялікіх спецыяльных ведаў і што ад выпадковай гаворкі з ім можна намнога больш даведацца і ўзяць для душы, чым ад якіх-небудзь наўмысля арганізаваных сустрэч.

— Салігорск дае цяпер амаль палавіну ўсіх ка-

лійных угнаенняў, што здабываюцца ў нашай краіне. А гэтая ж палавіна будзе няспынна расці. Што гэта азначае, калі ўдумацца, якая місія выпала на нашу долю? Колькі сілы трэба і розуму, каб справіцца з ёю? І не аднаму чалавеку, вядома ж, не двум, а велізарнаму і разнастайнаму калектыву. Таланты патрэбны ў гэтым калектыве, нястомныя энтузіясты, наватары, вучоныя. Аднымі мускуламі цяпер многа не возьмеш.

— «Свае ў шахце ёсць прафесары,— раптам працытаваў Мікола Труханові.— І аспіранты ёсць свае».

Я павярнуўся да яго ўражаны: недзе некалі чытаў ці чуў гэты верш. Успомнілася, што і тады ён зацікавіў мяне.

— З мясцовых нехта? — рызыкуючы перапыніць размову з Козусевым, спытаў я.

— Наш паэт,— з гонарам прамовіў Мікола.— Леанід Якубовіч.

Мяне абдало цяжкім сумам: нагадалася, што гэта той самы малады шахцёр і паэт, што некалькі год таму назад загінуў пры аварыі ў шахце. Пачуўшы ад Міколы гэтае прозвішча, перапыніўся ў сваіх разважаннях і Козусеў. Яму таксама быў вядомы малады паэт.

— А здорава сказана! Праўда? І некалькі год таму назад? — Ён глянуў на Міколу.

— Цэлых дзесяць,— пацвердзіў той.

— Таленавіты быў юнак,— працягваў Козусеў.— Далёка і глыбока глядзеў. На той дзень меў на ўвазе, відаць, не так вучоных, як здольных практыкаў. Але і вучоныя нам трэба, сапраўдныя прафесары, нават акадэмікі. Без вялікай навукі, звязанай з практыкай, не вырашым задач нашай будучыні.

Козусеў на хвілінку змоўк: трагічная гібель юнака-паэта, мабыць, вельмі балюча кранула яго душу.

— Мы набліжаемся цяпер,— зноў загаварыў ён упэўнена і рашуча,— да такой жыццёва неабходнай задачы, якая яшчэ не вырашана нідзе. Трэба як мага хутчэй вывесці чалавека з-пад зямлі. Мы навучыліся кіраваць з зямлі складанымі механізмамі ў космасе, на Месяцы, на іншых планетах. А пад зямлёю тым часам за штурвалам сядзіць звычайны чалавек

і ўласнаручна вядзе агромністую машыну ў цёмную нязведаную бездань. Па маркшэйдэрскіх наметках ён толькі не збіваецца з напрамку, а што яго чакае наперадзе ў гэтай неабсяжнай стыхіі падзямелля, не знае і знаць не можа. Навука яшчэ не дайшла да таго, каб на кожным кроку дакладна прадбачыць, якія «сюрпрызы» тояць у сабе векавыя падземныя пласты. Часам здараецца, што яны магутным выбухам адкідваюць ад сябе машыну на дзесяткі метраў. Ды каб толькі машыну... Вы ўжо сустракаліся з Янчэўскім?

— Не паспеў яшчэ,— ніякавата адказаў я. Мая ўнутраная вінаватасць тут вызначалася і тым, што ўжо каторы раз мне нагадваюць пра гэтага чалавека, а я не ведаю яго, ні разу не бачыў ні раней, ні цяпер.

— Радуемся мы, што ў нас з'яўляюцца такія людзі,— узнёсла прамовіў Козусеў.— І таму глыбока верым, што саўладаем з самымі складанымі задачамі.

## VII

Фабрыка трыкатажу — прадпрыемства новае і, бадай што, не зусім уласцівае для нашых месц. Амаль за два дзесяткі год звыкліся тут людзі і зжыліся з соллю, і што б ні рабілася з солі, калійнай ці спажыўнай, усё прымалася імі як звычайнае і натуральнае. А трыкатаж, ды яшчэ бялізнавы, быццам бы не пасаваў да саляных вырабаў, і карпусы фабрыкі, хоць і даволі ўнушальныя з выгляду, нібыта не ўпісваліся ў своеасаблівы буйнаіндустрыяльны пейзаж, устаўлены магутнымі капрамі і ўсыпаны высознымі тэрыконамі.

Я пад'язджаў да гэтага, як мне здавалася, лёгкага жаночага і, можа, нават прымітыўнага ў параўнанні з камбінатамі, прадпрыемства з невялікай упэўненасцю ўбачыць там нешта значнае, адчуваў толькі, што пабыць трэба, каб мець пэўнае ўражанне. Гаворка з інжынерам унікальнага завода не выходзіла з галавы, і мне здавалася, што больш важнага і значнага магчыма і не сустрэць сёння: можа, варта

пакуль абмежавацца тым, што лягло на душу, як след абдумаць усё, праверыць. Тым больш што некаторыя факты па-сапраўднаму ўсхвалявалі мяне. Я не забываў пра сваю бездапаможнасць у вялікіх справах будаўніцтва, асабліва ў розных высокіх планаваннях. Аднак тая няўвязка, якой вельмі абураўся інжынер, закранула і маю крытычную струнку, і, можа, таму не надта вабіў бялізнавы трыкатаж, а хацелася знайсці нейкі спосаб умяшання ў тутэйшыя справы і паспрабаваць штосьці перайначыць, магчыма — палепшыць.

Як не абурышся, калі табе гавораць вось пра такую з'яву. Чацвёрты калійны камбінат згодна сваёй тэхналогіі будзе здабываць не толькі калійную соль, а і спажыўную. І аддзяляцца гэтая белая спажыўка будзе амаль зусім чыстай, спатрэбіцца зусім маленькае абагачэнне, і пойдзе ў страву людзям. Прыгожая, чыстая, танная.

Гэта бачаць геолагі, спецыялісты камбіната. Пра гэта ведае адпаведнае Міністэрства.

А Міністэрства харчовай прамысловасці тут жа, амаль побач, будуе сваё прадпрыемства па здабычы спажыўнай солі.

Што ж атрымаецца, калі гэта праўда? Перш за ўсё чацвёрты калійны камбінат пачне засыпаць дзесяткі гектараў зямлі адваламі, як ужо многа год засыпаюць папярэднія камбінаты. Дык там хоць не чыстыя салявыя адходы, а тут амаль гатовая спажыўная соль. А куды ж дзяваць яе, калі побач такі канкурэнт? Усе заказы пойдуць туды.

Да чаго ж важная гэта праблема, калі ўдумацца!

Кожны салігорскі камбінат засыпае ў год дзесяткі гектараў зямлі. Добрай, пасяўной. Пройдзе яшчэ некалькі год, і амаль паў-Старобіншчыны будзе засыпана. А калі ўлічыць, што аграмадныя тэрыконы размываюцца дажджамі і раздзімаюцца вятрамі, то небяспека засалення глебы пагражае і сумежным раёнам.

Ужо многа год нашы вучоныя і практыкі думаюць над тым, як прадухіліць такі паварот спраў. Былі варыянты, былі прапановы, а самой справы не было і пакуль што няма. Упершыню людзі з чацвёртага камбіната ўзяліся практычна вырашаць гэту

задачу, і на іх шляху — неразумная перашкода. Нават і не верыцца, што так можа быць. Аднак жа вось сцвярджае інжынер. Даю сабе слова — праверыць усё, удакладніць. І рынуцца на дапамогу сваім землякам, калі гэта спатрэбіцца.

Машына спынілася. Мне здалося, што нечакана, можа, нават выпадкова.

— Усё,— сказаў Мікола Трухановіч.— Прыехалі.

Адключыўшыся ад сваіх супярэчлівых думак, я агляну ў месца нашага прыпынку. Зялёны астравок, хоць ужо і кранұты жаўцізной. Відно адразу: жаўцізна не ад хіміі, а ад восені, зусім натуральная і своечасовая. Яна не рэжа вока, не надае суму. Скрозь зеляніну прысадаў — чырвань кветак на клумбах і ўсюды мноства астраў і гваздзічак. Рознакаляровым паяском яны абвіваюць астравок. Яны яшчэ цвітуць, яшчэ трымаюцца на сцяблах, апалі толькі найбольш кволыя квяцінкі, але і тыя колеру свайго не страцілі і ўсцілаюць зямлю быццам дывановай дарожкай.

Гэта не ў двары фабрыкі. Гэта ў пад'ездзе. Ёсць тут і дыяграмы, і плакаты, і заклікі, але яны сфарміраваны так, што не вытыркаюць з жывой прыроды, а гарманіруюць і з зяленню прысадаў, і з кветкамі.

— Жаночыя рукі,— лагодна ўсміхаецца Мікола і абводзіць вачамі тэрыторыю пад'езда.— Усё ў іх вельмі хораша, акуратна. Моладзь руліцца, камсамольцы.

Я іду следам за ім. Уяўляю, што ў калідоры будынка кіраўніцтва Мікола спыніцца каля прыёмнай дырэктара або каля парткома і зробіць запрашальны жэст мне. Але ён з ходу адчыніў адны дзверы, на якіх я і не заўважыў шыльды, і зайшоў у вялікі пакой, напоўнены моладдзю. Дзяўчаты прынялі яго як самага блізкага, а на мяне паглядзелі цікаўна і крыху насцярожана. Але не ўсе. Праз нейкі момант адна з іх узнёсла і крыху здзіўлена ўсміхнулася і ледзь не падбегла да мяне:

— Добры дзень! — І назвала маё імя і па бацьк-

ку.— Я вас ведаю. Вы былі ў нашай школе. Дзевачкі, гэта...

Мне нялёгка было спыніць яе залішне шчодрыя і ўзвышаныя рэкамендацыі, тым больш што на яе заклікі збегліся дзяўчаты, якія да гэтага нешта вымалёўвалі і вычэрчвалі, тоўпячыся ля сталоў і падаконнікаў, пэўна, рыхтаваліся да чарговага мерапрыемства.

Мікола Трухановіч урачыста абвясціў, нібы сюды прыйшлі некалькі старонніх чалавек, а не адзін я:

— Гэта камітэт камсамола фабрыкі! Вялікая тут сіла! Перад вамі,— і ён абедзвюма рукамі паказаў на тую дзяўчыну, што адразу падбегла да мяне,— першы сакратар камітэта Жэня Крайнберг. А вось Марыя — другі сакратар.

Прозвішча Марыі ён не назваў, а мне няёмка было пытацца: маладзенькая, сціплая дзяўчына і так відавочна разгубілася. У камітэце былі яшчэ супрацоўнікі, проста актывісты, і я разумеў, што ўсе яны былі заняты сваімі справамі, а я адарваў іх выпадкова і без пэўнай мэты, бо сказаць ім няма чаго.

Сапраўды, у мяне чамусьці не знаходзіліся словы для гаворкі з маладымі дзяўчатамі. І неяк сумна стала ад гэтага, адчулася крыўдная бездапаможнасць і адчужанасць, магчыма, ад вялікай розніцы ўзростаў.

Жэня Крайнберг, відаць, зразумела гэта, здагадліва запытала:

— Вы, мабыць, хацелі фабрыку паглядзець?

— Так, так,— заківаў я галавой. І ў той жа момант чакаў наступнай спагады.

— Зараз мы знойдзем каго-небудзь з дырэкцыі ці з парткома... Папросім...

Аднак Жэня раптам даволі ўладарна прамовіла, павярнуўшыся да другога сакратара:

— Марыя! Аставайся тут і зрабіце разам усё, што намечана! Я пайду ў цэх.

Мне яна сказала ціха і ветліва:

— Пойдзем, калі маеце час. Я сама вам усё пакажу і раскажу. І гаварыць пачала яшчэ ў калідоры: — Наша асаблівасць у тым, што мы тут усё робім самі: снуём, тчом, фарбуем, штампуем, кроім,

шыем. Толькі не прадзём: ніткі гатовыя прысылаюць. І можам «атрыкатажыць» чалавека з галавы да ног.

— Як гэта?..

— Ну адзець ва ўсё трыкатажнае, споднае — галоўным чынам. Верхняга адзення мы не выпускаем. Гэта пінскі гонар. У нас — споднi трыкатаж, бялізнавы: кашулі, кальсоны, майкі, плаўкі, трусы, рознае дзіцячае адзенне. Адным словам, усё, што трэба чалавеку.

— А як жа той чалавек? — крыху гулліва запытаў я.— Згодзен «атрыкатажвацца» ў вас ці не вельмі?

— Згодзен! — з усмешкай, але ўпэўнена адказала Жэня.— Наша прадукцыя добра рэалізуецца, ідзе нават за мяжу. Рэкламацый мала.

Дзяўчына крочыць па доўгіх калідорах цвёрда і імкліва, з руплівым гаспадыньскім спяшком — я ледзь паспяваю за ёю. Што далей мы ідзём, то ўсё больш чуецца пах вытворчасці, але не ўдушлівы, не прыкры.

Мікола Трухановіч не пайшоў з намі, спаслаўшыся на тое, што ўжо многа разоў бываў у цэхах. Я ж улавіў яго жаданне астацца з камітэцкімі дзяўчатамі,— відаць, была там свая цікавасць.

Ужо не памятаю, у якім месцы Жэня адчыніла шырокія дзверы, і адразу пах пражы і тэхнічнага масла густой змешанай хваляй ледзь не прыпыніў мне дыханне. А цэх прасторны, светлы, з высокім блакітным дахам. І жанчын там столькі, што здавалася — больш нікога з іх не асталося ў Салігорску: мабыць, няма цяпер ні адной ні ў магазінах, ні ў сталовых, ні ў цырульнях, ні ў ашчадных касах.

— Гэта падрыхтоўчы цэх,— трохі павысіўшы голас і павярнуўшыся да мяне, сказала Жэня.

Я добра пачуў яе і разабраў кожнае слова, бо голас у яе быў звонкі, дыкцыя выразная. А майго пытання наконт характару работы ў гэтым цэху яна не пачула: хоць і невялікі тут быў шум, але ён лёгка заглушыў мой голас. Я не здзівіўся: майго голасу часам не чуюць і ў звычайным пакоі. Калі дзе ўзнікае гучная гамонка ці заўзятая спрэчка, то я ста-

раюся не ўдзельнічаць у ёй: усё роўна не пачуюць, што скажу.

Ідучы паміж станкоў і людзей, я стараўся не дакучаць Жэні распыткамі, а разабрацца ва ўсім самому. Тым больш што ад Жэні да майго слыху ўвесь час даносіліся з маленства знаёмыя мне назвы: «навой», «аснова», «уток»... Мабыць, стагоддзі прайшлі з тых часоў, калі ўжыліся між людзьмі гэтыя словы. Таго, што яны некалі азначалі, ужо даўно няма, зышло яно, знікла з жыцця. А словы жывуць. Яны сталі імёнамі такіх рэчаў, якія амаль зусім не падобны на іх даўніх продкаў. Не падобны, але нагадваюць старажытнасць, значыць, помняць гісторыю, сваю радаслоўную. І мне прыемна чуць гэтыя словы. У думках я паўтараю іх следам за Жэняю. Бачу перад сабою гмахі сучаснай тэхнікі, а ўяўляю тыя прымітыўныя матчыны кросны, якія ў далёкай даўнасці цешылі нас, малых, калі ўсяляліся ў хату, бо гэта была ўжо такі навіна. А потым да ўзрушэння радавалі тым, што выбіраліся з хаты: дол з-пад іх маці чыста падмятала, ставіла на тым месцы пры сцяне ўслончык... І нам хацелася пасядзець на гэтым услончыку, пабегаць навыперадкі ў той хатняй прасторы (пяць крокаў туды, пяць сюды), што ўтварылася пасля кроснаў.

...Жэня хутка крочыць па праходах паміж станкамі, часта выбягае наперад, каб паказаць мне дарогу. Часам і праход не надта дазваляе ісці дваім поруч. Тады дзяўчына раз-пораз азіраецца на мяне і падае кароткія тлумачэнні. Яе словы чутны не толькі мне, а і тым маладым ткачыхам, што працуюць паблізу ад праходаў. Яны вельмі занятыя сваёй справай. У некаторых такая работа, што нельга ім і вока адвесці, але то ў адной, то ў другой з іх я заўважаю ўсмешку на вуснах: мабыць, ім смешнавата з таго, што вось прыезджы гараджанін не разумее такіх простых рэчаў і ўсё яму трэба растлумачыць. А што тут тлумачыць: кожная вясковая бабка пра гэта ведае.

Я пачынаю разумець — Жэня спяшаецца не таму, што хоча скараціць час на гэтую непрадбачаную экскурсію, хоць такая патрэба ёсць, а ёй карціць паказаць мне ўсе цэхі. Калі марудзіць, то іх і за

паўднёўку не агледзіш. Адчуваю, што вопыт у дзяўчыны ёсць. І веды таксама. Напэўна, не раз вадзіла розныя дэлегацыі па гэтых цэхах.

Кожны цэх і радуе і здзіўляе. І што далей, то ўсё больш. Жэня добра ведае, што за чым трэба паказаць, і трыкатажная вытворчасць паслядоўна разгортваецца перад намі цудоўнай панарамай. У некаторых цэхах аж у вочы коле ад яркай белізны: станкі белыя, халаты на работніцах белыя. Ды не толькі белыя халаты, а яшчэ і накрухмаленыя, і гладка адпрасаваныя, нібы на выстаўку ў іх з'яўляцца. А дзяўчаты, як на падбор, адна ў адну: броўкі падчэрнены, вусны падружоўлены.

— Усе камсамолкі,— з гонарам паведамляе мне Жэня.

Час ад часу яна на хвілінку спыняецца каля каго-небудзь з дзяўчат і нешта гаворыць. Я не прыслухоўваюся да іхняй размовы: ці мала пра што могуць гаманіць між сабою маладыя дзяўчаты? Але Жэня сама потым паясняе мне:

— Гэта наш цэхавы сакратар

Або:

— Гэта наш камсорг. Пытала, як справы.

Кожны раз яна неахвотна адрывалася ад тых, ля каго прыпынялася. Калі б быў час, то, відаць, доўга вяла б гаворку пра свае камсамольскія справы. І не перашкаджала б сваёй субяседніцы, бо тут амаль усюды такая работа, што вачамі блукаць нельга, а гаманіць можна. Бачу я, што ганарыцца Жэня сваімі камсамолкамі, якія трымаюць на сваіх плячах ледзь не ўсю вытворчасць. Па добраму праву ганарыцца. Яе ўзнёсласць міжвольна перадаецца і мне: у душы пачынаю радавацца — столькі харошых зямлячак нарасло. Некаторыя, пэўна, і нарадзіліся тут, у Салігорску. А калі хто і ў акаляючых вёсках... А калі хто і прыехаў адкуль немаўлёнкам, а вырас тут... Усё роўна землячкі.

Сумнавата толькі ўяўляць, што выраслі яны быццам бы і побач, але без мяне. Не паспеў і заўважыць, як яны выраслі. Жэня сказала між іншым, што ёсць тут дзяўчаты і з мае вёскі. Напэўна ж, ёсць. Але наперад ведаю, што не пазнаюць мяне. І я іх не пазнаю, хоць, здаецца, і часта бываю дома.

Хутка растуць маладыя і робяцца непазнавальнымі. А мы вельмі хутка старэем і таксама непазнавальна перайначваемся.

У цэхах звыкліся да наведвальнікаў. Тым больш да сваіх, звычайных. Калі б, можа, касманаўта сюды прывесці ці славутага варатара, то, напэўна, некаторыя і адхіліліся б ад свайго ткацтва, кройкі ці шва, адключылі б на хвіліну машыны. На мяне ж не глянула ні адна, а ўсё роўна калі выйшаў на вуліцу, то ў галаве шумела і вобмарак ледзь не звальваў з ног, быццам усе тры тысячы жанчын перабралі мяне вачамі.

Канчаўся рабочы дзень. Па асфальце зялёнага астраўка ля фабрыкі, плаўна пагойдваючыся і паблiскваючы нікелем, каціліся сюды-туды дзіцячыя калясачкі. На іх гумавыя кольцы наклейвалася і намотвалася жоўтае апалае лісце і ціха шамацела, нібы закалыхваючы тых немаўлят, што прыехалі сустракаць сваіх мамак: «Супакойцеся, не хвалюйцеся, хутка прыйдуць вашы карміцелькі».

Але больш непакоіліся тыя, хто прывёз гэтыя калясачкі,— таты і бабулі.

Адвячоркам, шпацыруючы па салігорскіх вуліцах, яшчэ доўга ўяўляў я і абдумваў тое, што нядаўна бачыў на фабрыцы. Калі б ведалі тыя трыкатажніцы, што я столькі буду думаць пра іх і намагацца ўгадваць, як кожная з іх жыве, што мае на душы і на сэрцы, то, можа б, і не былі б такімі абыякавымі да мяне. Перад вачамі стаяў даволі ідылічны, але прыемны малюнак, як мацяркі падбягалі да сваіх калясачак. У кожнай быў свой бег, свой голас. Кожная сваім, толькі ёй уласцівым манерам сустракала мужа ці бабку, вітала і песціла сваё дзіця. Некаторыя, суцяшаючы патрабавальны плач нашчадка, спагадліва нахіляліся над каляскай, пяшчотна гаманілі з ім. Некаторыя выхоплівалі з каляскі залішне цёпла ўхутанага сасунка і прысаджваліся тут жа на лаўку.

Але многія жанчыны не спыняліся на зялёным астраўку. Яны імкліва беглі дадому, дзе іх чакалі неадкладныя клопаты па сям'і і па кватэры, або спя-

шаліся ў дзіцячыя сады, каб не спазніцца забраць адтуль сваіх дашкалят.

Колькі прыгожых, клапатлівых вачэй, колькі адухоўленых твараў! І кожны сам па сабе, кожны з адзнакай думкі, свайго адметнага жыцця. Хацелася б неяк улавіць і ўсё пакінуць у сваёй памяці. Але хіба ж гэта магчыма? Нават фатограф не здолеў бы на кожную навесці аб'ектыў.

Разышлася, раз'ехалася жаночая змена па хатах, па кватэрах. Гэта толькі з трыкатажнай фабрыкі. А колькі салігорскіх жанчын працуе на калійных абагачальных фабрыках! Ёсць яны і на рудніках: пры шахтах і нават у саміх шахтах. Я імкнуся ўявіць, што іх напаткала пасля работы дома, які адпачынак яны атрымалі, якую палёгку? Не толькі нагам ды рукам: маладыя рукі работы не баяцца. А вось душы, сэрцу! Калі ўсё дамашняе стаданне — для дзяцей, для любімага мужа, то гэта — адна толькі радасць. Але ж не заўсёды так бывае...

Я і раней цікавіўся жыццём і работай салігорскіх працаўніц. У свой час пра некаторых пісаў нарысы, асобныя з іх сталі правобразамі персанажаў у маіх апавяданнях і аповесцях. Лёгка было гаварыць з тымі салігоркамі, у якіх амаль кожны раз вочы свяціліся радасцю і ў іх адбівалася шчасце. Лёгка было пісаць пра іх. І самога радасць брала ад разумення, што перад табою чалавек са светлым, удачлівым лёсам, з дальнім і ўпэўненым паглядам на будучыню.

Разнастайнае і невымернае чалавечае шчасце. Можа, яшчэ больш яно ўзбагачана рознымі адценнямі ў жанчын. Па многіх сцяжынках яно ходзіць, крочыць, шпацыруе, а часам і блукае. І часцей за ўсё знаходзіць свой сталы прытулак у сям'і, у каханні. І тут паказвае сябе або з аднаго боку, або з другога, наварочваецца то светлым усходам, то цёмным захадам...

Бывала, вядзеш гамонку з такой, якая ўсімі рэкамендавана: найлепшая працаўніца, спецыяліст з высокай адукацыяй, знатная асоба ў калектыве. Пераконваешся, што ўсё гэта праўда, а ў вочы ёй глядзець чамусьці асцерагаешся — не свецяцца яны вясёласцю, не відно ў іх таго шчасця, якое, здавала-

ся б, павінна быць ад вытворчых дасягненняў. І ўжо адчуваеш, што нешта прыхоўваецца ў тайніку яе душы. І адразу не ўбачыш гэтага, не адкрыеш.

Каб глыбей і дасканалей дазнацца пра жыццё тутэйшых жанчын, мяне пацягнула адшукаць хоць адну з тых, пра якіх пісаў гадоў дзесяць таму назад. Як яна жыве цяпер, што змянілася ў яе лёсе, як сама змянілася? Ці ёсць наогул тут цяпер такія? Тагачасныя дзяўчаты маглі выйсці замуж і выехаць адсюль. У сямейных жанчын таксама па-рознаму мог павярнуцца лёс.

Удачлівае супадзенне інтарэсаў дапамагло маім пошукам.

## VIII

Маючы ўжо не малы вопыт, я ведаў, што хутчэй за ўсё можна падхапіць патрэбную вестку ў мясцовай газеце, таму адразу накіраваўся ў рэдакцыю. Газету бачыў да гэтага і нават чытаў. Назва яе — «Калійшчык Салігорска». А дзе знаходзіцца рэдакцыя, не знаў. Ішоў па вуліцы Казлова, больш уважліва разглядваў шыльды, разы два пытаўся ў сустрэчных. Але, як на тое, траплялiся такія людзі, што не адчувалі розніцы паміж рэдакцыяй і друкарняй: паказвалі не той будынак.

Мае пошукі зацягнуліся, але пазней я не шкадаваў патрачанага часу. Знаёмячыся з планамі рэдакцыі, натрапіў на такую тэму, што быццам бы якраз адпавядала маім намерам і нават мела даволі трапную назву «Сёстры».

— Пра каго гэта? — спытаў у рэдактара, Георгія Дубоўскага, які вельмі ахвотна і добразычліва расказваў мне пра ўсе асноўныя накірункі ў рабоце газеты.

— Няхай Валянціна,— спаслаўся ён на супрацоўніцу газеты, якая сядзела тут жа,— яе задума, яна і раскажа.

Валянціну Міклашэвіч я ведаў раней. Яна пісала вершы і ўжо некалькі год была ў мясцовым літаратурным аб'яднанні, якому я сяды-тады падаваў свае парады, кансультацыі і, наогул, калі чым мог, то памагаў.

Валянціна паведаміла, што збіраецца напісаць нарыс пра тутэйшых родных сясцёр, Галю і Машу, якія хоць і не разам працуюць, але вельмі сходны па свайму душэўнаму радзенню да справы.

— Хто ж яна? — пацікавіўся я, бо адно імя магло быць мне знаёмым: некалі сустракаў Галю, маркшэйдэра, пісаў пра яе. Але колькі можа быць у Салігорску Галяў? На адной трыкатажнай фабрыцы іх, пэўна, сотні.

Па шчасліваму выпадку аказалася, што адна з сёстраў і была тая самая Галя Селіванава, пра якую я адразу падумаў, калі браў намер знайсці каго-небудзь з энтузіястаў першых шахцёрскіх праходак. А сястры не ведаў і нават не памятаў, каб Галя ў тыя часы штосьці гаварыла пра яе.

— У вас ужо ўсё ёсць для нарыса? — спытаў я ў Валянціны.

— Некаторых дэталяў яшчэ не хапае,— прызналася жанчына і трохі ніякавата паглядзела на рэдактара.

— Нават для нашай газеты? — памяркоўна ўсміхнуўся Дубоўскі.— Не забывайцеся пра нашу плошчу.

— Ды ведаю, ведаю! — са шчырай роспаччу прамовіла Валянціна.— Амаль нічога свайго і падаць нельга, адну толькі вытворчасць.

— Што ж зробіш? — уздыхнуў рэдактар.— Шматтыражка лірыку не ўмяшчае.

— А вы пішыце пра ўсё, што ў вас будзе,— параіў я Валянціне.— Магчыма, выйдзе такая лірыка, што і шматтыражка не адмовіцца. А потым — ёсць жа газеты і з большай плошчай. Калі збіраецеся сустрэцца з сёстрамі?

— Заўтра.

— А мне можна з вамі?

Валянціна на хвіліну задумалася.

— Я рада б, але як яны... Справа ў тым, што я напрасілася да іх на кватэру. І не да Галі, а да Машы, там у гэты час будзе вальней.

— Паспрабуйце перазваніць!

Нясціпласць маіх дамаганняў была відавочнай, гэта адчувала і Валянціна, але даўняя звычка газетчыка часам ісці напралом брала ў мяне верх. Да таго ж, я разумеў, што шукаць гэтых салігорак на

рабоце ды спрабаваць там нешта выпытаць у іх,— справа не лёгкая і не хуткая. А тут на адвольнай сустрэчы за шклянкай чаю глядзі што і само з'явіцца нешта карыснае і цікавае.

Назаўтра Валянціна пазваніла і сказала, што сёстры ведаюць мяне, старэйшая нават памятае маё даўняе пісанне пра яе і абедзве яны запрашаюць прыняць удзел у агульнай размове.

Спавольна падымаючыся па прыступках, я спытаў у Валянціны:

— А вы былі тут хоць раз?

— Не, не была.

На яе знешне вясёлым твары заўважалася няўпэўненасць, і аптымізм яе, вельмі трывалы, бо ўласцівы характару, відавочна прыглушаўся. «А раптам сустрэча не атрымаецца: з чым прыйдзем, з тым і пойдзем, толькі непрыемны асадак астанецца на душы».

Яе рука падымалася да званка быццам бы нехаця і з запозненым роздумам: званіць ці не званіць. Але неўзабаве дзверы жвава і шырока адчыніліся, можа, нават і без званка, а па адчуванню, што прыйшлі людзі. На парозе стаяла і з вясёлай ветлівасцю глядзела на нас зусім маладая жанчына, а лепш было б сказаць — дзяўчына, бо па стройнасці і танклявасці ёй наўрад ці даў бы хто больш семнаццаці год. Запрашала нас зайсці, а сама трымала нешта за шчакою, таму на гаворку не адважвалася, а паказвала жэстамі тонкіх аголеных рук.

— Што ў вас у роціку? — спытаў я такім тонам, нібы мы ўвесь час былі знаёмыя.

— Цукелечка,— па-дзіцячаму шапялявячы, прыязна адказала гаспадыня і засмяялася шчырым даверлівым смехам.

Я адчуў, што размова ў нас будзе, і следам за Валянцінаю смела зайшоў у кватэру. Там нас сустрэлі Галіна Гаўрылаўна Селіванава і яе сын Саша, светлавалосы, кучаравы прыгажун. Галіна адразу пазнала мяне, ухвальна запэўніла, што не так ужо і змяніўся за гэтыя гады: яшчэ можна было б пазнаць нават і пры выпадковай сустрэчы, а на сяст-

ру сваю спаважліва і трошкі гулліва паказала абедзвюма рукамі.

— Маша,— назвалася тая, але апошні склад прагучаў як «ся», бо цукерка замінала ў роце.

Калі ўсе размясціліся вакол нізкага століка, я падазрона глянуў на Валянціну: ці не збіраецца яна вымаць з сумачкі блакнот, тады прападзе ўся наша непасрэднасць. Адчуў, што яна разумее гэта і спадзяецца, што калі будзе добрая гутарка, то не падвядзе і памяць.

А першыя дзелавыя словы між тым ніяк не знаходзіліся.

Раптам — доўгі і патрабавальны званок у дзвярах.

— Гэта Лёшка! — узнёсла прамовіла Маша і кінулася адчыняць.

У кватэру ўбег падлетак гадоў дзевяці, на хаду і не надта ахвотна паздароўкаўся з намі, а потым за шырмачкай сказаў маці:

— Дай цукелку!

— Табе нельга, зубы псуюцца.

— А ў цябе — не?

— Гэта сын Машы? — спытала Валянціна ў Галіны Гаўрылаўны.

— Так,— пацвердзіла жанчына.— Нашы хлопцы. Мой ужо закончыў дзесяць класаў, а гэтаму яшчэ...

Колькі ні было б яму да дзесяцігодкі, а ўсё роўна мне здалося, што ён залішне рослы для яго мамы, якая яшчэ сама нагадвае школьную выпускніцу: вось надзець ёй белы фартушок і бягом на экзамены... З «цукелкай» у роце...

Дзеці перад вачамі, пра іх і першая гаворка. Валянціна крышку змрачнее: чаму не адразу пра шахту, пра абагачальную фабрыку? А я даю ёй зразумець паглядам: няхай гавораць жанчыны пра што хочуць, хай выказваюць, што ў іх на душы. Важна, каб гэта было шчыра, а ўсё шчырае мае пэўную цікавасць.

Саша ледзь прыкметна засаромеўся, калі маці пачала гаварыць, як ён любіць і ведае англійскую мову, як імкнецца паступіць у інстытут замежных моў, але прабіцца не можа. Падаваў заяву, здаваў экзаме-

ны, на паўбала не дацягнуў па конкурсу, і прыслалі дакументы назад. Цяпер сядзі год.

— То я ж не сяджу,— ціха папраўляе Саша.— Працую на вытворчасці.

— А далей як?

— Далей зноў буду паступаць туды ж.

— А калі і другі раз не прымуць?

— Трэці раз буду паступаць.

Забягаючы наперад, хачу сказаць, што ў наступны год Саша і праўда паступаў у гэты ж інстытут. Не дацягнуў бала па сачыненню і зноў атрымаў канверт з дакументамі. Намерваецца трапіць на падрыхтоўчыя курсы, але ўсё роўна не адступае ад свае мэты. А тым часам працуе і ўсё больш асвойвае англійскую мову: чытае літаратуру, робіць пераклады.

Сустрэўшыся з ім ужо другім разам, я з сумам падумаў: а ці не той гэта малады чалавек, які мог бы стаць найлепшым знаўцам англійскай мовы, выкладчыкам, перакладчыкам, можа, нават дыпламатам. І вось з-за якой-небудзь коскі, няправільна пастаўленай ці не пастаўленай у сачыненні, якое правярае і ацэньвае пабочная школьная настаўніца, гэты чалавек траціць цэлыя гады для таго каб стаць студэнтам.

Нелады з вучобаю адзінага сына, вядома ж, адбіваюцца на настроі маці. Да таго ж, ёсць у сям'і і яшчэ складанасці: ужо многа год цяжка недамагае гаспадар сям'і, у мінулым знатны гарняк Сяргей Селіванаў. Якая душа можа не адчуваць гэта, у любую мінуту не ўспомніць, не сказаць слова? Аднак Галіна Гаўрылаўна неўзабаве сама без нашых запытанняў і наводак пераходзіць на вытворчую гаворку і вядзе яе з захапленнем, са шчырай адданасцю сваёй справе.

Яна і цяпер працуе маркшэйдэрам. Прыкінуў я ў памяці, колькі ж год прайшло з часу нашай першай гаворкі? Больш пятнаццаці. А да гэтага яна таксама працавала ў шахце. Каля двух дзесяткаў год пад зямлёю! І не проста візітнае наведванне. А часам і па цэлай змене даводзіцца быць у шахце. Шахцёрская справа стала ёй арганічна блізкай і бясконца дарагой. Хоць сама Галіна Гаўрылаўна і не здабы-

вае руду, не сядзіць за штурвалам камбайна, але вельмі блізка адчувае душу кожнага шахцёра, разумее яго складаную спецыфічнасць працы. Вось вядзе машыніст свой камбайн у страшэнным пыле і змроку ў нязведаную бездань. І толькі яе маркшэйдэрскія адмеціны падаюць яму напрамак. Толькі ім ён верыць, на іх спадзяецца. А калі раптам недакладна расстаўлены адметкі, калі маркшэйдэр дзесьці хоць на адну ёту памыліўся? Што ж тады? Камбайн саб'ецца са свае дарогі, возьме не тую руду або і зусім непатрэбную пароду. Ды каб жа толькі ў гэтым уся бяда! А то можа і заваліцца, бо парушыць трываласць стаяка.

Гэты клопат, а часам і трывога не пакідаюць Галіну Гаўрылаўну ніколі.

— Яна часам і ноччу прахопліваецца, спешна, як на пажар, збіраецца і бяжыць на шахту.

Гэта гаворыць пра сястру Маша.

Я гляджу на Галіну Гаўрылаўну, чакаю, што яна скажа.

— А што рабіць, калі іначай не магу,— быццам апраўдваецца яна.— Бывае, што сасніцца мне, нібыта не зусім добра разлічыла ў адным месцы і камбайн збіўся з курсу. А то раптам — вельмі ж пацягне праверыць, як там свідруюцца ў глыб нетраў нашы камбайнеры. Як яны там сябе адчуваюць, ці не чакаюць мяне з прыборамі?

— Са сваіх імянін аднаго разу збегла! — зноў дадае Маша.— Людзі сабраліся, віншуюць, а яна ў калідор ды ходу!..

— То пазванілі ж! — удакладняе Галіна Гаўрылаўна.— Тады я не магла не пабегчы. А ты хіба не бегаеш, калі трэба?

Старэйшая сястра паблажліва і крыху вінавата глядзіць на Машу, быццам вызначаючы: можна ў гэты момант гаварыць пра яе ці нельга. Ведае, што Маша не любіць расказваць што-небудзь пра сябе і не дае рабіць гэта іншым. Калі ж малодшая толькі засмяялася, а не замахала рукамі, Галіна Гаўрылаўна падала штрышок:

— Яна аддзяжурыць начную змену, а потым удзень зноў бяжыць, каб паглядзець, як там ідуць яе эксперыменты. Бывае, што і недаспаўшы. А ноч-

чу як дзяжурыць? Інжынер жа, начальнік змены. Ёй можна і ўздрамнуць хвілінку ў кабінеце. А яна на поўнай роўні са сваімі апаратчыцамі сочыць за іхнімі працэсамі, і калі здараецца часам, што якая апаратчыца выпадкова засне над столікам, то Маша прымае вахту на сябе.

— Гэта ў нас рэдка бывае,— удакладняе Маша.

«Так, рэдка! — хочацца мне пацвердзіць яе словы.— Можа, які раз у месяц або і менш». Але малюначак гэты вельмі рэльефна ўявіўся мне. Чамусьці адразу паверылася, што Маша зробіць іменна так, а не інакш. Сапраўды пабудзе колькі трэба каля соннай апаратчыцы, падзяжурыць за яе. Калі перад ёй дзяўчына, то трэба ж уважыць, зразумець, што, можа, збегала на спатканне да каханага.

Калі ж гэта жанчына, гаспадыня сям'і, то яшчэ больш да яе спагады: дзеці дома, розныя хатнія клопаты — дзе ж там паспіш удзень!

І вось прахопліваецца тая ці другая, спалохана расплюшчвае вочы і пачынае прасіць прабачэння, убачыўшы побач начальніка змены. А гэты начальнік для іх — проста Маша, а для некаторых старэйшых дык нават і Машанька. Яна не робіць за гэта заўвагі, яна ласкава ўсміхаецца і адыходзіць да наступнага апарата. А тая, што дапусціла такую бяду — заснула на рабоце,— век не забудзе пра Машыну дабрату і за змену сваю зробіць больш і лепш, чым намервалася.

— Уся сям'я наша такая,— з таварыскай даверлівасцю гаворыць далей Галіна Гаўрылаўна.— Бацька мо таму і памёр рана, што дзённа і ночна сядзеў у гэтым сваім лесе — ён у леспрамгасе працаваў. На снягах ды на марозах саракаградусных — мы тады на Поўначы жылі, Маша амаль што і не памятае бацькі: ёй толькі тры гады было, як мы асталіся сіротамі.

— Памятаю, як гузікі лічыла,— раптам прыняўшы сумны выгляд, прамовіла Маша.

Я з чаканнем успамінаў павярнуўся ў яе бок, але жанчына маўчала, і па выразу яе твару можна было меркаваць, што быццам бы раскайвалася ў тым, што нагадала пра гэтую з'яву. Галіна Гаўрылаўна таксама не дадала нічога, відаць, заўважыла, што Маша

пазбягала такой гаворкі. А пазней я ўсё ж улавіў ад яе яшчэ штрышкі...

...Бацька памёр ад прастуды. Паклалі яго абмытага і прычасанага на лаўцы ля покуця. Надзелі святочную сацінавую кашулю з маціцовымі гузікамі. І вось падышла дзяўчынка да бацькі, пачала перабіраць пальцамі і гладзіць бліпчастыя гузікі:

— Спіць татка... Спіць?..

І доўгі час аставалася ў памяці малой, што бацька моцна заснуў на лаўцы, а потым некуды знік зусім.

— Маці падгадавала нас адна,— працягвае сваю размову Галіна.— Потым усе мы вось сюды пераехалі. Маці і цяпер з намі, унукаў гадуе. І мы з Машаю, не ведаю, як маглі б жыць без яе штодзённых клопатаў і старанняў ва ўсім памагаць нам. Маша пасля дзесяцігодкі пайшла на фабрыку...

— Ай, не трэба пра мяне! — з патрабавальным смяшком запратэставала жанчына.

— А што ж мне пра адну сябе расказваць? Дык у мяне быццам бы ўсё проста: працую, дый толькі. Кім была амаль дваццаць год таму назад, тым і асталася. Можа, вопыту трохі прыбавілася ды звычкі сядзець пад зямлёй. Здаецца, што і дышацца там лягчэй і ўсё відно пад лямпачку, як і на сонцы. Хораша мне там.

— Будзем чай піць! — прапанавала Маша і выбегла на кухню.

Пакуль яна там аставалася, Галіна Гаўрылаўна ўсё ж падала нам некалькі вестак пра яе. Некаторыя дэталі то адсюль, то адтуль я сабраў пазней, і паступова ў маім уяўленні склаўся вельмі своеасаблівы характар сучаснай жанчыны-працаўніцы, я нават сказаў бы — творцы.

...З абагачальнай фабрыкі Маша паступіла ў Ленінградскі горны інстытут. На першых канікулах гэтага ж года выйшла замуж, так што вучыцца далей ужо давялося сямейным чалавекам.

У Ленінградзе інстытут, па душы вучоба, а ў Салігорску — сям'я і маленькі Алёшка, які патрабавальна і няўмольна цягне да сябе. І вельмі цяжка стрымаць і адагнаць няспынныя думкі аб тым, што, можа, лепш было б аддаць усю сваю ўвагу і ласку

сыну, хоць падгадаваць яго, а тады ўжо вярнуцца ў інстытут.

На добрую падтрымку пайшлі маці і старэйшая сястра: будзем глядзець малога, гадаваць, ні ў чым адказу ён не мацьме, а ты не зрывайся з вучобы, станавіся інжынерам.

...Дыпломную работу Маша ўзяла па сваёй абагачальнай фабрыцы. Рэцэнзент з аспірантуры нарабіў ёй заўваг. Рэцэнзент ніколі не працаваў на фабрыцы, а Маша працавала. Згадзіцца з заўвагамі рэцэнзента — значыць паграшыць той праўдай, у якую Маша верыла. А калі не згадзіцца, то трэба даказваць сваю правату і тэарэтычнымі выкладкамі і чарцяжамі. А ці захоча слухаць гэтыя доказы прыёмная камісія? Каму яна лягчэй паверыць: вядомаму тут аспіранту ці звычайнай выпускніцы?

І вось калі Маша развесіла перад камісіяй свае чарцяжы, калі ўвайшла ў імпэт, ціха прыадчыніліліся дзверы аўдыторыі і адтуль пачулася:

— Мама!

— Гэта вас, Маша,— сказаў рэктар інстытута, які ведаў, што да гэтай студэнткі прыехаў муж з сынам.

Добра, што прыехаў, маці вельмі рада была пабачыцца з сынам. Але ж як быць з абаронай дыплома? Чаму гэтага не ўлічылі дарагія госці?

— Працягвайце, Маша,— ласкава сказаў дэкан інстытута.— А ты — гэта да Алёшкі — сядзі спакойна і не перашкаджай маме абараняць дыплом.

І вось гадай цяпер, што дапамагло тады Машы абараніцца на «выдатна»? Можа, і Алёшка. Наступіў такі момант, калі рашучасць, блізкая да адчаю, узяла верх над усім. Марыя ўшчэнт разбіла ўсе довады рэцэнзента, пераканаўча абгрунтавала свае аргументы і выкладкі. Ніхто з камісіі не выступіў у падтрымку рэцэнзента, усе адчулі, што перад імі такая выпускніца, якая добра ведае не толькі тэорыю, а і практыку вытворчасці і ў сваіх доказах апіраецца на ўласны вопыт.

У інстытуце ўсе ведалі, што малады інжынер вернецца ў свой Салігорск, на сваю любімую фабрыку, якую трымала ў памяці і ў душы ўсе гады вучобы. Але калі б не такія абставіны, то маглі б пакінуць

яе і пры аспірантуры або накіраваць на якую хочаш інжынерскую работу ў Ленінградзе.

К таму часу, калі Марыя з дыпломам выдатніка вярнулася дадому, у Салігорску была пушчана ў ход вопытная абагачальная фабрыка. Там усё павінна рабіцца па такому ж прынцыпу, як і на вялікай прамысловай фабрыцы, толькі з большымі пошукамі і эксперыментамі.

На гэтую фабрыку і прызначылі Марыю Фралову начальнікам змены. Чым цяпер стала для яе гэтая змена, гэты невялікі, але ж надзвычай дружны і адданы сваёй справе калектыў, трошкі сказала тут пры нашай размове Галіна Гаўрылаўна, а я пастараюся сёе-тое дадаць.

Калектыў. Усякую супольнасць мы так называем, дакладней — усякую арганізацыю. Але чаму так бывае, што ў адзін калектыў чалавек ідзе на работу подбегам, а ў другі — ледзь перастаўляючы ногі? Чаму, выбіраючыся ў першы калектыў, чалавеку хочацца лепш і прыгажэй адзецца, прычоску адладзіць, а пры думках аб другім узнікае поўная абыякавасць у гэтых адносінах? І ў выніку — ад першага калектыву чалавек адарвацца не можа, а другі пакідае без жалю.

Іншы раз чуеш звычайнае: людзі падабраліся харошыя, таму і калектыў такі. Наўрад ці часта так будзе ў жыцці. Людзі стыхійна не падбіраюцца толькі харошыя ці толькі кепскія. І на падбор ёсць пэўны ўплыў, а галоўнае — людзі выхоўваюцца ў калектыве. А вось якія фактары дзейнічаюць на добрае ці нядобрае выхаванне — двума словамі не скажаш. Да той гаворкі, што падаецца вышэй, найбольш стасуе, як мне здаецца, адзін фактар, і аб ім хацелася б сказаць некалькі слоў.

Вызначаю перш за ўсё ролю кіраўніка калектыву — адміністрацыйнага, партыйнага, прафсаюзнага. Лепш, калі ўсіх разам, як гармонію і дапаўненне адзін аднаму.

Харошыя людзі не цягнуцца да каго папала і любоў сваю і адданасць не ахвяруюць так сабе, без ніякай узаемнасці. Інжынера Машу, зноў скажу, любяць у калектыве перш за ўсё таму, што яна любіць свой калектыў.

Ужо не раз было, што гэтай змене даручаліся найбольш складаныя навукова-вытворчыя эксперыменты. З аднаго боку — гэта давер і гонар, а з другога — пэўная рызыка, бо можаш месяц ці больш праэксперыменціраваць, а плана не даць і таму зарабіць толькі нешта сярэдняе, а то і мінімальнае. Можа павярнуцца справа так, што ў рабочых страціцца цікавасць да эксперымента і яны не будуць шчыра аддавацца пошукам, а толькі сяк-так выконваць свае абавязкі.

Маша запрашае сваіх паплечніц на «лятучку» амаль кожны дзень. Пасля работы. Дадаткова распытвае, высвятляе, што ў каго атрымоўваецца, а што марудзіцца, а то і паварочваецца не ў той бок. Тут жа разам абмяркоўваюць, што трэба зрабіць, каму памагчы, дзе больш прыкласці намаганняў. І заўсёды начальнік змены падкрэслівае і даводзіць выключную важнасць іхніх вынікаў работы для ўсёй калійнай вытворчасці, для краіны. Вельмі важна, каб кожная сяброўка па змене адчула сябе не толькі кваліфікаванай апаратчыцай, а і сапраўдным творцам. Тады яна знойдзе, што трэба для справы, найлепш вырашыць сваю задачу.

Нагадваецца такі прыклад. Зайшоў я неяк зноў у рэдакцыю «Калійшчыка» — гэта было ўжо нядаўна. Разгаварыліся з Дубоўскім пра ўсялякія вытворчыя навіны, а ён і кажа:

— Цікава, як вы, пісьменнікі і журналісты, цяпер будзеце называць нашу калійную соль? Якія эпітэты падбіраць? Было ж раней — аранжавая, сонечная, праменная... А цяпер яна — вось якая!

І ён выняў з газетнай шафы звычайную шкляную сальнічку, паставіў перада мною.

— Калійная? — здзівіўся я.

— Так, гэта не натрый.

— А пастаў у рэстаране, дык ніхто не адрозніць: белая, чыстая, хоць у страву сып.

— Нават і салёная, як тая,— дадаў рэдактар.— Паспрабуйце на язык.

Я паспрабаваў.

— А саліць ніяк нельга, бо тут ёсць хлорысты калій.

— Гэта, відаць, на чацвёртым камбінаце? — за-

пытаўся я, успомніўшы, што некалі мне гаварылі там пра новы метад абагачэння.

— На чацвёртым яшчэ пойдзе такая тэхналогія,— пацвердзіў Дубоўскі.— А пакуль што яе прымяняюць на вопытнай абагачальнай фабрыцы, каб даць першыя ўзоры.

Хто ж там пракладвае такі след?

У рэдактара яшчэ не было такіх вестак, і я паспрабаваў займецца іх сам. Нават неспецыялісту было вядома: новы, тэхнічна кажучы, галургічны метад абагачэння сільвініту мае надзвычай вялікую перспектыву. Тое, што калійныя ўгнаенні зменяць свой ранейшы колер, можа, і не так істотна, а вось што якасць іх намнога палепшыцца,— гэта сапраўды знамянальна. Цяперашні метад абагачэння, флатацыйны, не дае чыстага калію: там яшчэ астаюцца розныя сумесі, ды і не мала. Таму разам з каменем пладародздзя, як любяць цяпер гаварыць газетныя лірыкі, мы ўносім у глебу і ўсялякія непатрэбныя пароды. Да таго ж наш цяперашні хларысты калій па сваёй чыстаце адстае ад сусветных стандартаў, таму мала ідзе на міжнародны рынак.

І вось перад вачамі — белая сальнічка. Яна амаль зусім чыстая, у ёй толькі якіх 2—3 працэнты прымесяў. А праз некаторы час, можа, ніякіх не будзе. Тады мая Старобіншчына дасць такія ўгнаенні, якіх яшчэ свет не бачыў.

Распыткі мае і разведкі наконт гэтых навукова-практычных эксперыментаў зноў прывялі мяне да Машынай змены. Канечне, многія людзі на даследчай фабрыцы, у тым ліку і вучоныя, займаліся новай схемай абагачэння. Гэта пачалося тут падаўна. Але вытворча-практычнае ажыццяўленне эксперымента ўсё ж было даручана калектыву, якому найбольш верылі і спадзяваліся на яго.

Спачатку тут вяліся вопыты на калійнай рудзе першага рудніка. Цяжка і марудна ішла справа, хоць упэўненасць не змяншалася: Маша верыла сама і пераконвала сваіх напарніц у тым, што напрамак іх правільны, задачы рэальныя, толькі вось яшчэ неабходна нешта знайсці, нешта ўдакладніць, і мэта будзе дасягнута. І вось дайшлі весткі, што шахтапраходчыкі чацвёртага калійнага завода да-

сягнулі свае руды. Геолагі сцвярджалі, што яна павінна мець больш спрыяльныя якасці для новага абагачэння. Паспрабавалі на фабрыцы, узялася за новую сыравіну змена Машы. І адразу справа пайшла лепш.

...Прабіркі з новай каштоўнай прадукцыяй узялі сабе на памяць усе апаратчыцы змены. Напэўна ж, ёсць такі сувенірчык і ў Машы. Пройдзе нядоўгі час, і тое, што цяпер з'яўляецца толькі першым здабыткам самаадданай працы калектыву і можа лічыцца сувенірам, стане вялікім багаццем усяго нашага народа.

## IX

Сакратар парткома аб'яднання Леанід Васільевіч Бруй пазваніў адвячоркам з майго гасцінічнага пакоя брыгадзіру камбайнавай брыгады Станіславу Янчэўскаму:

— Вы толькі са змены?

— Так, хвіліна, як прыйшоў.

— Ці ёсць «фортка» заўтра?

— Няма. Але калі трэба...

Ён прыйшоў да мяне раніцай, у дакладна вызначаны час. На парозе ўсміхнуўся так мякка і дружалюбна, што мне здалося, быццам мы ўжо даўно знаёмыя і сустракаліся не адзін раз. З першых слоў адчулася, што размова ў нас атрымаецца і яна можа быць цікавай і карыснай для мяне. Вось толькі — як з часам?

— Калі заступаеце?

— Праз гадзіну. Але вы не зважайце — я ўспею.

Падыходзячы да пісьмовага стала, ён незнарок дакрануўся галавою да верхняга плафона. Крыху сумеўся ад гэтага, а потым зноў весела засмяяўся:

— Не на мой рост разлічана. Што рабіць? Мне і ў шахце больш як каму трэба нагінацца.

Росту яму не пазычаць,— падумалася мне.— Прыгажосці мужчынскай — таксама. І абаяльнасці. Вось калі і ў рабоце ён такі ж удачлівы, дык гэта сапраўды незвычайны чалавек: нездарма аб ім так многа і хораша гавораць у Салігорску.

Як толькі ўсчалася размова пра новыя гарняцкія пошукі, Станіслаў Міхайлавіч выняў з кішэні аўтаручку, запытальна глянуў на стосік чыстай паперы ў мяне на стале.

— Калі ласка,— прапанаваў я.

Ён пачаў хутка і, як мне здалося, даволі кваліфікавана чарціць, кожную сваю думку падмацоўваць схемамі.

— Каб вы лепш зразумелі.

Адчуўшы наш духоўны кантакт, я паказаў Станіславу Міхайлавічу ўжо счэрчаны і ўсыпаны лічбамі лісток.

— Гэта Леанід Васільевіч,— весела сказаў Янчэўскі.— Пазнаю руку: мы з ім кнігу пішам пра нашу аўтаматыку. Але тут у яго не тое.— Станіслаў Міхайлавіч пачаў углядацца ў чарцяжы.— Тут аб селектыўнай выемцы. Гэта таксама прагрэсіўны метад: невялікі вугальны камбайн ідзе толькі па сільвінітным пласту, не кранаючы іншыя. Падаецца значна большы працэнт каштоўнай пароды. Але я хацеў пра іншае вам расказаць, вось пра тую ж аўтаматыку, над якой мы працуем ужо другі год. Коратка, канечне, і прыблізна. Каб лепш і паўней усё зразумець, то трэба ўбачыць. Я думаю — мы яшчэ сустрэнемся ў забоі.

Сутнасць справы, як я ўлаўліваў са слоў брыгадзіра, была ў тым, каб прымусіць магутны камбайн рухацца ў забоі самому, без машыніста. І разгружацца самому.

— Што для гэтага нам трэба? Усяго тут не пералічыш, але ў аснове — невялікая лазерная ўстаноўка. На пэўнай адлегласці яна падае разумныя сігналы аўтаматычным прыстасаванням на камбайне. А тыя адпаведна рэагуюць і накіроўваюць машыну куды трэба, трымаюць рэжым. У мінулым годзе ў жніўні,— працягвае Янчэўскі,— мы прайшлі такім метадам звыш пяці кіламетраў за адзін месяц. У гэтым годзе, у красавіку,— шэсць кіламетраў. І гэта двума камбайнамі, якія абслугоўвала адна брыгада. Такога яшчэ не было ў свеце.

Мяне гэта вельмі ўразіла і захапіла: такія крокі, такая падача! Але Станіслаў Міхайлавіч не падтрымаў маёй узнёсласці.

— Калі б толькі аб рудзе думаць,— прамовіў ён крыху прыціхлым голасам.— Тады б прасцей... Тады і іншыя метады можна б прымяняць, менш складаныя. А то ж перш за ўсё аб чалавеку думаем. Пакуль ішлі на верхніх гарызонтах, небяспекі было менш, а на ніжніх хоць і нячаста, але ўсё ж сустракаюцца газавыя ямы. Іх ніхто не можа наперад ні ўбачыць, ні вызначыць дакладна. Падыходзіць камбайн, і раптам — магутны выбух. Агромністая машына адкідваецца, як трэска. І самаходны вагон таксама, калі ён у гэты час на пагрузцы.

«А людзі?» — ледзь не вырвалася ў мяне. Ды ў час спахапіўся, прамаўчаў. Нічога не сказаў пра гэта і Станіслаў Міхайлавіч, аднак па выразу яго твару можна было здагадвацца, што цяжкія выпадкі тут здараліся.

Значыць, асноўная бліжэйшая мэта — засцерагчы ад небяспекі людзей у забоі. А ў недалёкім будучым — наогул вывесці людзей з-пад зямлі і кіраваць падземнымі механізмамі з пульта, устаноўленага над шахтай. Тут мне ўспомнілася нядаўняя гаворка пра гэта на чацвёртым камбінаце яшчэ да сустрэчы з Янчэўскім.

Станіслаў Міхайлавіч стараўся малюнкамі і чарцяжамі растлумачыць мне, што ўжо для гэтага зроблена і што яшчэ трэба зрабіць, якія цяжкасці і складанасці неабходна будзе пераадольваць у гэтых вельмі важных пошуках.

— Прыязджайце да мяне ў забой,— настойліва запрасіў Янчэўскі.— Там самі ўбачыце. А калі не зможам паказаць адразу ўсю практыку, дык хоць тэорыю ў натуры размалюем.

Назаўтра мой даўні знаёмы і зямляк Сяргей Пятровіч Гецьман, сакратар парткома другога рудаўпраўлення, прыслаў мне машыну, і я ўзяў кірунак на руднік. Еду на «газіку» паўз сваю родную вёску аж пад Чапялі, да тых месц, дзе ў часы майго юнацтва пачыналася суцэльная калектывізацыя і садзіўся гігант-сад, які і цяпер вядомы на ўсю Случчыну. На рудніку мяне хутка ператварылі ў шахцёра па знешнасці, далі свяцільнік, неабходныя прылады асабістай бяспекі і спусцілі пад зямлю. Тут, ля

самага пад'ёмніка, сустрэў мяне пажылы чалавек, ветліва, з усмешкай павітаўся (крышку пазней даведваюся, што таксама мой зямляк, Наумовіч) і запрасіў зноў у машыну, у такі ж «газік», якім ехаў сюды.

— На машыне па штрэках?

— А як жа. Пешшу і за гадзіну не дойдзеце.

— Хадзіў жа нядаўна.

— Тады забоі блізка былі. А цяпер...

— Куды едзем цяпер?

— Кіламетраў за шэсць, амаль што да вашай вёскі.

Зноў дадому, толькі падземнай дарогаю.

Грукоча, імчыцца машына, мільгаюць рознакаляровыя, зіхотныя ад святла пласты пароды. Побач плыве насустрач канвеер з сільвінітам. Хуткасць падземнага «газіка» невялікая, але здаецца, што едзем шпарка, бо штрэк вузкі. Матор гудзе быццам бы залішне моцна — салёныя сцены рэзаніруюць.

У дарозе маўчым. Наумовіч не задае мне пытанняў, відаць, заўважае, што я задумліва ўглядаюся ў асветленыя сцены штрэкаў, любуюся дзівоснымі радовішчамі, быццам нечуванымі твараннямі мастацтва. А можа, ён здагадваецца і аб тым, што я пачынаю хвалявацца, набліжаючыся падземнымі шляхамі да сваёй роднай вёскі, што мне зноў і зноў прыходзяць на памяць здзіўленні і захапленні маёй нябожчыцы маці.

Па даручэнню Гецьмана са мною спусціліся ў шахту сакратар партбюро рудніка Леанід Аляксандравіч Пузакоў, начальнік участка Мікалай Мікалаевіч Карбаінаў і намеснік галоўнага энергетыка рудніка Іван Мікалаевіч Стромавус. З першых слоў нашай размовы высветлілася, што яны таксама заўзятыя «аўтаматчыкі». У шчырых танах яны расказвалі пра Янчэўскага, захапляліся яго непахіснай адданасцю новай ідэі, вялікай энергіяй і любоўю да шахцёрскай працы.

Я даведаўся ад іх (пра сябе Станіслаў Міхайлавіч яшчэ нічога не сказаў), што ён будаўнік па спецыяльнасці, закончыў Магілёўскі будаўнічы тэхнікум і некалькі год працаваў будаўніком. Але як толькі ўведаў пра шахты ў Салігорску, пацягнула

туды. Прапанавалі пасаду майстра на заводзе жалезабетонных вырабаў. Аклад — сто рублёў. Згадзіўся. Прапанавалі куток у інтэрнаце, а ў яго жонка і маленькі сынок. Згадзіўся жыць там.

— І як жыў тады з сям'ёй на сотню ў месяц? — дзівіцца адзін з маіх субяседнікаў.— Ды яшчэ ў інтэрнаце? А ў яго ж у прыгарадзе Магілёва бацькоўскі домік, агародзік, нават карову і іншую жыўнасць бацька трымаў.

«Характар,— падумалася мне.— Настойлівасць, мэтанакіраванасць».

На заводзе ён прабыў цэлых два гады. Потым перавялі на другое рудаўпраўленне інжынерам тэхаддзела. Тут ужо і зарплата павысілася, і кватэрныя ўмовы палепшыліся, а ўсё роўна цягнула на шахту. Без адрыву ад службы Янчэўскі паступіў на курсы камбайнераў, добра закончыў іх і, як толькі выпала магчымасць, стаў працаваць памочнікам машыніста праходчага камбайна.

І вось ужо дзесятак год на шахце. Быў машыністам камбайна, брыгадзірам камбайнавай брыгады. На гэтай рабоце ўступіў у рады КПСС, потым яго выбралі дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР. За выдатную работу ўзнагароджаны ордэнамі Леніна і Працоўнага Чырвонага Сцяга.

— Два гады на эксперыментах,— заўважае сакратар партбюро Пузакоў.— А што гэта значыць? Сёння ўсё добра ідзе, а заўтра раптам і не пойдзе...

— А план даваць трэба, план мы яму не зніжаем,— дабаўляе начальнік участка.

— І як усё ж такі з планам?

— Выконвае,— упэўнена паведамляе Мікалай Мікалаевіч.— А ўжо як гэта яму ўдаецца, хай сам раскажа. Нам больш вядома тое, што іншы раз ледзь не сілком даводзіцца выцягваць яго з забою.

...Станіслаў Міхайлавіч вынырнуў з салянога пылу, нібы казачны асілак, паправіў электраліхтар на касцы, дружалюбна павітаўся і сказаў, быццам далажыў:

— Там замінка адна была. Давялося пакорпацца самому.

— Як з другім камбайнам? — упаўголасу спытаў начальнік участка, крыху адступіўшы ад мяне.

— Нічога, выцягнулі. Там вось што здарылася...
Брыгадзір скіраваў святло свайго ліхтара на сценку штрэка і пачаў чарціць на ёй крышталікам сільвініту, не тоячыся ад мяне.

— Не зусім дакладна разлічылі рух камбайна па новым гарызонце, зменшыўся стаячок, ён не вытрымаў, і машыну прысыпала. Не ўсю, праўда, але прыйшлося падавацца назад. Яшчэ часта нашай аўтаматыцы трэба памагаць рукамі.

— Таму пакуль і называем паўаўтаматыкай,— удакладніў Іван Мікалаевіч Стромавус.— Што ў нас выходзіць? Лазернымі ўстаноўкамі, якія па нашаму заказу робяць нам у Беларускай акадэміі навук, можам накіраваць камбайн толькі па прамой лініі.— Ён таксама падышоў да сценкі штрэка і пачаў паказваць гэта наглядна.— А пласт сільвініту... Глядзіце сюды... Ён мае звіліны па вертыкалі: дзе вышэй, дзе ніжэй. Вось і даводзіцца пакуль што рэгуляваць машыну рукамі.

— Ёсць і на гэта праекты,— удакладніў Янчэўскі.— Толькі там яшчэ не ўсё дадумана. Раю вам пагаварыць з нашым інжынерам Шчарбінай, ён абараніў кандыдацкую дысертацыю прыкладна на такую ж тэму. А цяпер — пойдзем у забой, паспрабую паказаць вам тое, што ўжо ёсць.

Нам адразу прыйшлося ўступіць дарогу самаходнаму вагону, які ішоў да камбайна, каб разгрузіць бункер з пародаю. Як толькі падышоў, крануў трос, што звісаў з бункера, адразу ж аўтаматычна ўключыўся канвеер бункера і падаў усё, што было ў ім, у вагон. На той момант механізмы камбайна адключыліся — гэта для бяспекі вадзіцеля вагона. Адышоў вагон — і камбайн самастойна зноў прыняўся за работу.

Янчэўскі пазнаёміў мяне са сваімі паплечнікамі, якія працавалі на змене: Вячаслаў Жораў — машыніст камбайна і камсорг брыгады, машыністы Аляксандр Ненадовіч, Васіль Агіевіч. Яны знаходзіліся не ля самых камбайнаў, а непадалёку ад іх: відаць, яшчэ не рашаліся трымацца большай адлегласці — разладзіцца што, дык каб у тую ж хвіліну прыняць захады. Усе яны былі ў спецыяльных ахоўных масках, якія тут называюць «пялёсткамі». Таму я не

змог разгледзець іх твары, але па іхняй сабранасці і ўважлівасці адчуў, што Станіслаў Міхайлавіч падабраў сабе надзейных памочнікаў.

Так адбылося маё першае знаёмства з Янчэўскім. Мабыць, кожным зведана такое пачуццё: новы чалавек пачынае нечым цябе вабіць, прыцягваць, і яшчэ добра не ведаеш — чым. Не ведаеш, але і не задумваешся над гэтым, не раскладваеш па палачках яго лепшыя і горшыя рысы. У душы прыемнасць, што напаткаўся такі чалавек, і ўзнікае жаданне сустрэцца з ім яшчэ. А лепш бы і часта бачыцца, нават падружыцца.

У рэдакцыі «Калійшчыка» я дамовіўся, каб высылалі мне газету дадому. Канверцік з Салігорска ўскрываю, як жаданае асабістае пісьмо, вымаю двухпаласку і чытаю амаль усё, што там змешчана. І міжвольна лаўлю сябе на тым, што шукаю прозвішча Станіслава Міхайлавіча. Адчуваю радасць, калі знаходжу. А трывогі ніякай, бо ў душы ўпэўненасць, што за яго прозвішчам заўсёды нешта добрае, значнае, узнёслае.

Сабралася Мінская абласная канферэнцыя. У прэзідыуме выпала сесці побач з Пятром Міхайлавічам Судзілоўскім, дырэктарам аб'яднання «Беларуськалій». Я ведаў яго яшчэ маркшэйдэрам, потым сакратаром парткома першага рудніка. А цяпер ён — маштабны кіраўнік, Герой Працы.

— Янчэўскі тут,— паведаміў Пётр Міхайлавіч, нахіліўшыся да мяне.— Яго ў нас выбралі дэлегатам.

Я адчуў ужо знаёмую прыемнасць і ў той жа час падумаў: адкуль дырэктар ведае, што мяне цікавіць гэты чалавек. Я ж яму пра гэта не гаварыў.

І пачаў уважліва аглядваць залу, шукаць Янчэўскага. Натрапіў вачамі на Леаніда Бруя, сакратара парткома, бо гэты сустрэчна лавіў мой пагляд. Заківаўшы мне галавою, ён спачатку паказаў на Янчэўскага, а потым добрай усмешкай і ледзь прыкметным жэстам рукі даў зразумець, што сустрэнемся на перапынку.

У зале яны сядзелі побач. Я і раней заўважаў, што яны часта былі разам, што Леанід Васільевіч

хіліцца душою да гэтага шахцёрскага брыгадзіра. І тут не толькі сумесная работа ў парткоме (Янчэўскі — член парткома), не толькі інтарэсы сумеснай працы над кнігай, а нешта значна большае. Мне было па душы гэтае супадзенне нашых пачуццяў.

На перапынку мы толькі павіталіся, пагаманілі колькі маглі, стоячы каля кніжнага стала. А пасля пленума ўжо добрым адвячоркам пайшлі разам вячэраць. Утрох занялі столік, вельмі ўтульна размясціліся: можна спакойна і павячэраць і пагаварыць. Але раптам падышоў яшчэ адзін чалавек з ордэнам «Знак Пашаны» на новым ды чамусьці памятым пінжаку, паказаў вачамі на чацвёртае месца. Я памкнуўся папрасіць яго ўладзіцца за суседнім столікам (месцы там былі), але Янчэўскі ахвотна адсунуўся і прапанаваў чалавеку сесці.

Стала зразумела, што тую размову, якая мне вельмі патрэбна была, цяпер ужо не павядзеш, і я вырашыў не навязвацца, не «задаваць тону», а паспадзявацца на поўны самацёк у гэтых адносінах, зважаючы на тое, што з разумнымі людзьмі і памаўчаць прыемна.

Незнаёмы чалавек праз якую хвіліну, відаць, адчуў, што мы сабраліся сваім кругам і са сваімі інтарэсамі, пачаў азірацца на заднія столікі, выглядваючы месца.

— Сядзіце, сядзіце! — настойліва сказаў Станіслаў Міхайлавіч.— Усе тут свае.

— Дык закажыце, калі ласка, і на мяне,— звярнуўся да нас сусед.— Бо я не вельмі што ведаю ў гэтых меню.

Неўзабаве ўсім нам адчулася, што за сталом у нас зусім свойскі і харошы чалавек, таксама дэлегат канферэнцыі, камбайнер аднаго саўгаса. Паколькі па ўзросту ён быў не менш як роўняй Янчэўскаму, а можа, і малодшы, ды і па рабоце выявілася пэўная блізкасць, то яны, як часам сустрэчныя шафёры ў дарозе, адразу перайшлі на «ты», зусім не падкрэсліваючы гэтым нейкую праставатасць, а толькі павагу і давер адзін да аднаго.

— І многа выдаў на-гара? — з цікавасцю распытваў Янчэўскі, відаць, наўмысля ўжываючы сваю тэрміналогію.— Тэхніка не падводзіла?

Ды дзе ж яна падвядзе, калі чалавек ужо дваццаць тры гады на гэтай тэхніцы, калі, я заўважыў, нават лыжку, відэлец і нож, прынесеныя афіцыянткай, ён спачатку з цікаўнасцю агледзеў, абмацаў дужымі і агрубелымі пальцамі, а тады ўжо стаў імі есці. І нажынаў ён многа, і намалочваў не менш. І зарабляў, вядома ж, не мала, а прызнаўся да слова, што ў рэстаране калі і быў выпадкам, дык толькі два-тры разы за ўсе гады. Потым і яшчэ выплыла ў яго прызнанне, што за ўсе дваццаць тры гады работы ні разу не браў афіцыйнага адпачынку і не ездзіў на «юга».

— Чаму ж так? — здзівіўся Янчэўскі.

Гэта ўсіх нас здзівіла.

А наш субяседнік тлумачыў проста:

— Летам робіш на сонцы, то і не ў галаве гэтыя «югі». А зімою таксама работы хапае. Да таго ж і свае клопаты. Спачатку сям'ёй абзаводзіўся, то не думалася пра якія адпускі. Потым стаў будавацца, то яшчэ і цяпер дабудоўваюся. Паставіў дамок па свайму нораву і густу... З цяплом, святлом і газам. Прыбудоўваю хлевушок для сяго-таго з дамашняй жыўнасці.

— А здароўе ў цябе як? — спагадліва запытаўся Янчэўскі.— Не скардзішся? Кампрэсы, масажы не патрэбны?

— Ды хто іх!..— рэзка, выразна махнуў рукою субяседнік.

Янчэўскі, вядома ж, не мог не прызнацца, што ён таксама камбайнер, толькі падземны. І пачаліся ў іх супастаўленні і параўнанні камбайнерскай работы ў розных умовах. І адчулі мы з Леанідам Бруём, што гэтыя выпадкова стрэчныя механізатары могуць гаварыць пра свае інтарэсы хоць да поўначы, толькі не перабівай іх, не прымешвай у іхнюю гаворку чаго-небудзь пабочнага, непатрэбнага.

І мы не замінялі, нам самім цікава было паслухаць іхнюю размову і паназіраць, як у гэтых, раней зусім не знаёмых людзей хутка і лёгка ўсталёўваюцца духоўныя кантакты.

Прыйшоў да Янчэўскага настрой трохі паўспамінаць пра сваё жыццё толькі ўжо на праспекце, калі яны абодва падахвоціліся праводзіць мяне дадому.

— Не блізкі ж свет адсюль мая Пуліхаўка,— папярэдзіў я.— Можа, скарыстаем транспарт?

— Не, толькі пехатою,— намагаў Янчэўскі.

— Будзеце ісці назад позна, цёмнымі завулкамі. Яшчэ хто пакрыўдзіць.

У Янчэўскага гэта выклікала вясёлую ўсмешку, а Леанід Бруй іранічна заўважыў:

— Яго пакрыўдзіць? Самы адчайны хуліган не адважыцца крануць яго. Я адчуваю сябе з ім як у бога за плячамі.

Станіслаў Міхайлавіч між іншым расказаў і аб тым, як яго прымалі ў Савеце Міністраў СССР.

Заявіў ён у час сесіі, што хацеў бы звярнуцца да таварыша Касыгіна, а як яно можа выйсці, гадаў надвая: будзе мець час Аляксей Мікалаевіч, то прыме, а не будзе, дык, можа, пісьмовую заяву возьмуць.

І раптам назаўтра прыходзіць супрацоўнік Саўміна і запрошвае зайсці ў прыёмную. Там устае насупраць другі супрацоўнік і паведамляе, што старшыня Савета Міністраў прыме Янчэўскага праз дзве-тры хвіліны.

— Паджылкі ў цябе задрыжалі,— паджартоўвае Леанід Бруй.

— А чаго,— не згаджаецца Янчэўскі.— Не па ўласных справах напрошваўся. Выбаршчыкі даручылі мне перадаць старшыні Саўміна іхнюю просьбу, дык я і стараўся.

Далей, калі спасылацца на словы Янчэўскага, то ўсё ішло так: старшыня Саўміна выйшаў насустрач з-за свайго рабочага стала і дружалюбна павітаўся. Запрасіў Янчэўскага сесці ля стала прыёмаў і сам сеў побач. Гаворку пачаў з распытак наконт работы і розных дэпутацкіх інтарэсаў. Нічым не падаваў выгляду, што вельмі заняты (а гэта ж сапраўды так), спакойна і ўважліва выслухоўваў кожнае слова. Але Янчэўскі сам ведаў, што не на доўгі час прыйшоў, таму пра сябе сказаў толькі самае неабходнае, як для знаёмства, а ўсю ўвагу аддаваў патрэбам і просьбам салігорцаў.

Старшыня Саўміна з вялікай цікавасцю ўспрымаў кожнае слова пра новы горад, пра вялікія хімічныя гіганты ў такім глухім месцы, дзе яшчэ ня-

даўна не было ніякай прамысловасці. І людскія просьбы наконт бальнічнага комплексу і іншых бытавых збудаванняў у Салігорску выслухаў уважліва. На нейкі момант задумаўся, а потым спытаў, ці ёсць у Янчэўскага што-небудзь пісьмовае наконт гэтых спраў, каб можна было даць ім ход у афіцыйным парадку.

— Вядома ж, ёсць,— з удзячнасцю адказаў Станіслаў Міхайлавіч.— Нават пэўныя разлікі і выкладкі.

І паклаў усё на стол.

Паперак сабралася не мала, а вынятыя з папкі яны неяк растапырыліся, быццам набухлі на паліраваным стале. Янчэўскі крыху збянтэжыўся: тут на цэлую гадзіну чытаць. Аднак старшыня Саўміна нічога не сказаў наконт гэтага, а ўзяў дакументы ў рукі і цярпліва, без спеху стаў іх праглядваць. Тыя хвіліны былі маўклівыя, у цішыні кабінета чуліся дыханні двух чалавек, быццам зусім суладныя і аднолькавыя.

Потым старшыня Саўміна сказаў, што ён перадасць гэтыя дакументы ў Дзяржплан і папросіць, каб там усё ўлічылі, узважылі і знайшлі магчымасць памагчы салігорцам. Адказ будзе прысланы пісьмова.

— Ну і доўга чакаў,— спытаў Леанід Бруй, быццам сам не ведаў пра гэта.

А я разумеў, што ён таму і запытаў, каб падкрэсліць незвычайную аператыўнасць у вырашэнні такой важнай справы. Адказ Янчэўскі атрымаў праз некалькі дзён і быў вельмі ўзрадаваны, што яго хадайніцтва займела поспех: дадатковыя сродкі на клінічны і бытавы комплексы былі выдзелены.

— Я і цяпер часта ўспамінаю гэты крамлёўскі прыём,— з цеплынёй у голасе гаварыў Янчэўскі.— Мне здаецца, што гэта было самае значнае ў маёй дэпутацкай рабоце.

На Круглай плошчы я спыніўся, каб развітацца са сваімі добрымі сябрамі, стаў паказваць ім, як зручней даехаць да гасцініцы. Але Янчэўскі спытаў:

— А вам як адсюль дадому?

— Ды вось па Захарава ўгору.

— Дык і мы пойдзем.

Мае ўгаворы вяртацца ў гасцініцу не займелі поспеху: хлопцы рушылі са мною. Пакуль дайшлі да майго дома, ліфт ужо не працаваў.

— Высока жывяце? — пацікавіўся Янчэўскі.

— На дзевятым паверсе.

— Ды гэта што! — Ён засмяяўся гучна і задорна.— Давайце падкіну!

Леаніда Бруя гэта зусім развесяліла.

— А ён мог бы! Думаеце, не? Відаць, без перадышкі дамчаў бы.

З таго часу мы даўгавата не бачыліся. З прыемным чаканнем зноў я разгортваў нумары салігорскай шматтыражкі, шукаў прозвішча Янчэўскага. З цікавасцю і прагай да знаходак чытаў выступленні Леаніда Бруя на розных сходах, нарадах, канферэнцыях. І з дня на дзень збіраўся паехаць у Салігорск, вырвацца туды хоць на пару дзён.

На шчасце — званок на кватэру. Чую бадзёры голас Леаніда Васільевіча:

— Едзем у Мінск, запрашаюць на тэлебачанне.

— Удвух?

— А як жа!

— Давайце адразу да мяне.

Назаўтра ў вызначаны час я выйшаў на пляцоўку свайго дзевятага паверха. Звычна, з кароткімі перапынкамі гудзе ліфт, адкрываецца то ніжэй, то вышэй мяне. Гасцей усё няма. Выбраў момант, калі кнопка ліфта патухла, націснуў на яе, каб спусціцца ўніз самому ды паглядзець, ці пад'ехала машына. І ў гэты час з недалёкіх прыступкаў даносіцца да мяне знаёмы голас Янчэўскага:

— Нічога страшнага!.. Я магу і яшчэ столькі ўзяць.

Кідаюся на лесвіцу і са здзіўленнем дазнаюся, што крочаць мае сябры з самага нізу, мераюць прыступкі і забаўна пасміхваюцца.

— Ліфт у нас спраўны,— заўважаю я пасля вітанняў і таксама не магу ўтрымацца ад смеху.

— А ён не захацеў чакаць,— спасылаецца Леанід Васільевіч на Янчэўскага.— Што яму гэтыя прыступкі! Быў выпадак, што сапсаваўся пад'ёмнік у ствале шахты, дык ён на сто дваццаць метраў даў крос па вертыкалі. І выйшаў пераможцам.

— Ну, не зусім,— з лёгкім гумаркам запярэчыў Янчэўскі.— Каленкі патрымцелі з гадзіну. А ліфтоў я і праўда не люблю. Абрыдлі яны ў шахце.

Іх выступленне планавалася на гадзіну дня.

— Як жа вы паспееце? — здзівіўся я.— Трэба ж паказаць тэксты, запісацца.

— Няма на гэта часу,— заўважыў Станіслаў Міхайлавіч.— Нам паабяцалі прамы выхад у эфір.

Гаварыў пра гэта спакойна і ўпэўнена, быццам ні на адзін момант не сумняваўся, што ўсё атрымаецца добра. Бруй таксама не выказваў сумненняў, але ўсё ж відно было, што хваляваўся: добра выступіць і ў звычайных абставінах не так проста, а па тэлебачанні...

Тут я схіляўся да Бруя, бо ні разу не быў задаволены сваімі выступленнямі. Як толькі садзіўся пад пражэктары, чамусьці адразу знікаў мой спакой, і трэба было вельмі намагацца, каб вярнуць яго, прымусіць сябе гаварыць па памяці тое, што было вызначана праграмай. Удавалася з першай пробы, дык яшчэ трымалася цярпенне. Калі ж пачыналі перапыняць, патрабаваць паўтарэнняў, я безнадзейна траціў вытрымку і гаварыў усё горш і горш.

Надышоў час салігорскай праграмы. Уключыў я тэлевізар і чакаю, хвалююся за сваіх сяброў. Адольвае такое адчуванне, быццам вось-вось самому давядзецца выступаць і пакутаваць усе гэтыя хвіліны пад «юпітэрамі».

Потым — абодва на экране: прыгожыя, інтэлігентныя і бадзёрыя. Леанід Бруй трошкі залішне сабраны, рукі трымае туга сашчэпленымі. А Станіслаў сядзіць за сталом з такім жа непасрэдным дабрадушшам і прастатой, як і сядзеў у мяне ў кватэры. Прыязная ўсмешка ледзь кранае твар. А я насцярожваюся: хаця б зусім не рассмяяўся, не сказаўшы нічога. І тут жа добрая надзея: засмяецца, дык і гэта ў яго будзе да ладу, бо ўся яго істота быццам бы з нейкай суцэльнай натуральнасці — усё сваё, усё шчырае, нічога чужога, узятага напракат.

— Дзень добры вам! — звяртаецца Леанід Бруй да тэлегледачоў. А Станіслаў ветліва ківае галавой,

нібы ўся аграмадная аўдыторыя вось тут перад ім: працягні руку, і можна паздароўкацца.

— Поспеху вам,— хочацца мне сказаць.— Самага лепшага, заслужанага!

Пачаліся выступленні. Вялікая аратарская практыка Леаніда Бруя надзейна выручала яго. Хоць хваляванне і адчувалася, але гаворка ішла роўна, зладжана, з лагічнай паслядоўнасцю, і сказы нідзе не пераціналіся пошукамі патрэбнага слова. Гаварылася ўсё з простым зваротам да людзей, вочы ні разу не апускаліся на столік, дзе, магчыма, ляжаў канспект. І ўсё ж узнікала ўяўленне, што канспект гэты мільгае ў яго перад вачамі і падае то адзін тэзіс, то другі. Інакш, можа, і нельга: за тэлестудыяй мільёны слухачоў, поўнае адчуванне і разуменне гэтага ўзнімае патрабавальнасць і адказнасць за кожнае слова. І цяжка захаваць спакой, калі бесперапынна думаць пра гэта. Часам можна пахіснуцца і страціць упэўненасць, цвёрдую веру ў тое, пра што гаворыш.

Аднак жа гэта — як у каго. Пачаў гаварыць Янчэўскі — і чамусьці адразу знікла ў мяне думка аб тым, што ён скажа нешта не так, як трэба. І нават не верылася, што чуцён яго голас і відно яго аблічча з экрана: быццам вось тут ён, побач, глядзіць мне ў вочы з добрай таварыскай усмешкай і расказвае пра сваю работу ды пра сваіх паплечнікаў. І найбольш пра іх. А яшчэ пра тыя камбайнавыя брыгады, з якімі ідзе спаборніцтва.

З павагай і цеплынёй гаворыць Янчэўскі пра сваіх сабратаў па спаборніцтву, быццам усе заслугі і поспехі толькі ў іх, а сам ён рад душою адтаго, што крочыць следам. Толькі між іншым высвятляецца, што большая выпрацоўка ўсё ж такі ў яго, што пра аўтаматыку пад зямлёю клапоціцца найбольш ён.

Усё выступленне Станіслава Міхайлавіча ішло роўна і адухоўлена, яго цікава было слухаць, а скончылася нечакана, быццам абарвалася. Калі мае сябры вярнуліся з тэлестудыі, я спытаў у Янчэўскага пра гэта.

— Таму, што яна пачала маляваць кругі перад вачамі,— растлумачыў, нібы паскардзіўся, Станіслаў Міхайлавіч.

— Хто гэта яна?

— Жанчына ў чорным халаце. Кружыняе рукамі, абручы паказвае.

— Гэта каб закругляўся,— удакладніў Леанід Бруй.— А ты ўзяў ды адразу скончыў. Яшчэ амаль хвіліна была ў цябе.

— Ды што ўжо скажаш за хвіліну! — Янчэўскі нібы з абурэннем махнуў рукою, але і ў гэты момант засмяяўся: вочы весела бліснулі і з твару знік цень незадаволенасці.

— А калі б далі яшчэ гадзіну? — жартам спытаў я.— Выцягнулі б?

— На цэлую гадзіну, то, можа, і не хапіла б духу,— усур'ёз адказаў Станіслаў Міхайлавіч.— А паўгадзінкі пагаманіў бы. Пра тое, што на душы, заўсёды можна сказаць.

У Салігорск мы паехалі разам. Па чулым старанні Леаніда Бруя мне зноў адвялі той самы нумар у гасцініцы. Глянуў на свой стол, на тэлефон. Вельмі ўражальна паўстала ў памяці ўсё тое, што бачылася, чулася і ўбіралася душою амаль год таму назад. Узяў у рукі тэлефонную кніжку, і чамусьці яна сама адгарнулася недзе каля апошніх старонак. Глянуў — ажно ж тут тэлефон Янчэўскага з маёй, вядома ж, не дазволенай у такіх месцах, паметкай.

Для поўнай пераемнасці падзей і ўражанняў выняў з партфеля лісткі, некалі счэрчаныя Янчэўскім і Бруем, а таксама свае запісы таго часу і паклаў на стол. Адчулася, што быў тут зусім нядаўна і, можа, нават нішто не змянілася за гэты час ні тут, у пакоях, ні там, у горадзе.

Назаўтра раніцою нехта асцярожна пастукаў у дзверы. Ранавата яшчэ было для наведванняў. Адчыніў дзверы і радасна здзівіўся: ля парога стаяў Янчэўскі і з дружалюбнай узнёсласцю ўсміхаўся.

— Я не разбудзіў вас? — І сам адказаў: — Бачу, што не.

— Заходзьце, калі ласка,— запрасіў я.— Рад, што вы наведаліся.

— Скажу вам, што і не адзін, а з сынам. Ён там, ля машыны. Мы ўжо на моры пабывалі, маторку

сваю ажывілі. Сёння мне павязло: Дзень шахцёра і я выхадны. Вы ўжо снедалі?

— Не яшчэ. Вось толькі збіраўся ісці.

— Паснедаем у мяне! — рашуча і шчыра сказаў мой госць.— Дзеля гэтага і завіталі. Знаеце? Сказаў я ўчора сваім, што прыехаў з вамі, дык усе да мяне: запрасі дадому, паснедаем разам. А потым на лодку, калі ў вас будзе час. Дзень які харошы!

Ідучы да машыны, Станіслаў Міхайлавіч з захапленнем удакладняў свае матывы сустрэчы ў яго дома:

— Тут асабліва дачка мая... Наташа!.. Паспрабуй не паслухай яе! Яшчэ ўчора завяла: «Хачу пабачыць, і ўсё!» А сёння як толькі ўстала: «Не прыходзь адзін, не пушчу ў кватэру». І сядзіць дома, чакае.

Сын, рослы, плячысты, ледзь не з бацьку, хоць яшчэ ў восьмым класе, сустрэў нас ля «Жыгулёў», крышку разгублена, аднак не адчужана павітаўся са мною. Хацеў сесці за руль, але бацька сказаў, што хоць тут і недалёка ехаць, ды паваротаў многа і аўтаінспектары могуць сустрэцца.

Машына чыстая, выпешчаная, кожная дэталь блішчыць і пераліваецца ў сонечных праменнях. Бацька з першага павароту ключыка заводзіць матор, і ён пачынае пашумліваць ціха і роўна, нібы музычны інструмент. Потым машына кратаецца, быццам сама, па свайму ўласнаму жаданню, і ціха плыве па асфальце, як лодка па вадзе.

— У мяне яна ўжо некалькі год,— падае свае тлумачэнні Янчэўскі.— Берагу, сачу: тэхніка любіць уход. Зімою амаль не езджу: тут у нас хоць і так дарогі засоленыя, дык яшчэ і наўмысля пасыпаюць асфальт соллю, каб снег раставаў. А для машыны гэта бяда.

Дома ў Янчэўскага ўжо, мабыць, і зачакаліся таго нашага прыезду.

— Вунь яна, вунь! — весела прамовіў Станіслаў Міхайлавіч, выйшаўшы з машыны з тылавога боку дома. Ён паказаў мне на свой балкон, і я разумеў, што там, мабыць, дачка, але ўбачыць не паспеў: хутка шмыганула адтуль, відаць, памчалася да дзвярэй.

Сапраўды, яна першая сустрэла нас яшчэ на

прыступках і, нічога не сказаўшы, кінулася бацьку на шыю.

— Эх ты, непаседуха,— ласкава прамовіў бацька.— Трэба ж з госцем павітацца.

— Добрай раніцы! — раптам зусім цвёрдым голасам прамовіла дзяўчынка, а сама, басаногая, пад хлопчыка пастрыжаная, гладзіла шчокі бацькі.

«Дык вось яна, Наташа! — падумалася мне.— Мабыць, у першым ці другім класе. І ласуня ж, відно. Такая на што хочаш угаворыць».

— Дашкольніца яшчэ,— нібы ўлавіўшы маю думку, сказаў бацька.

— Ужо хутка пайду,— дадала дзяўчынка.

Следам за Наташай выйшла на парог гаспадыня, Надзежда Аляксандраўна, нейкімі рысамі падобная на дачку і, відаць, такая ж ласкавая, абыходлівая. Да гэтага часу я не бачыў яе, толькі ўяўляў знешне па скупаватых расказах мужа. Цяпер лавіў сябе на тым, што ўяўленні мае амаль што апраўдаліся: нас запрашала ў кватэру жанчына па росту і статнасці зусім да пары Станіславу Міхайлавічу, такая ж і маладая, як ён, свежатварая, з ветлівымі і добразычлівымі вачамі.

Яшчэ не зайшоўшы ў кватэру і не ўступіўшы ў поўныя кантакты з сям'ёю, я адчуў, што тут пануе шчырая дружба і ўзаемаразуменне ва ўсім.

Вось тая самая Надзя, якая сяды-тады ўспаміналася Янчэўскім пры нашай гаворцы. Вось той самы першынец у сям'і, Саша. Гэта яны некалі, пакінуўшы цёплую, з водарам парнага малака хату пад Магілёвам, паехалі з гаспадаром у Салігорск, на шахты.

Хтосьці мог падумаць, што чалавек шукаў лепшай справы, большай прыдатнасці для сваіх дужых рук. Дык у яго ж была справа, і даволі важная.

Хтосьці мог падумаць, што ён пацягнуўся за доўгім рублём, які можна выгнаць пад зямлёю. Дык рублі ж у яго таксама былі. Да таго ж і сваё жыллё ў прыгарадзе.

Не карыслівыя мэты былі ў аснове, а моцная цяга да таго новага і яшчэ нязведанага, што пачыналася тут пад зямлёю. Калі першы раз сеў за штурвал падземнага камбайна ды ўключыў фары, адчуў, што ўсе глыбокія нетры адкрыюцца перад ім і без-

дакорна падначаляцца, стануць паслухмянымі і падатлівымі. Але пры самым вялікім напружанні фары амаль нічога не прасвечвалі і не паказвалі камбайну дарогі. Трэба было ісці наперад, не так, як на зямлі, і нават не так, як у паветры...

Знаёмячы мяне са сваёй кватэрай, не надта раскошнай, але не малой (тры харошыя пакоі), гаспадар расказваў, як аднойчы гасцявалі ў яго французскія шахцёры, прадстаўнікі тамашніх прафсаюзаў.

Наташка подскакам прамервала плошчу, трымала бацьку за руку. Потым яна паказала мне сваю выключную дзіўнасць — двух хамячкоў у шкляным слоіку. Шчыльна прытуліўшыся адзін да аднаго, яны там спалі.

— І доўга яны могуць спаць? — пацікавіўся я.

— Увесь дзень, калі не галодныя.

— А чаму ты іх трымаеш у слоіку?

— Бо прагрызаюць усё і ўцякаюць. Слоіка не грызуць.

— А чым ты іх корміш?

— Усё ядзяць: хлеб, пячэнне, кілбасу. Яшчэ на двор іх выношу і выпускаю на траву.

— Яе найпершая забава,— ухвальна тлумачыць бацька.— Калі паглядзець, то амаль тыя ж мышы, а ёй падабаюцца.

— А я іх французам паказвала! — з крыўдлівай ухмылкай паведамляе дзяўчынка.— Ім таксама спадабаліся.

— Так, так,— пацвярджае бацька.— Хамячкі французам спадабаліся адразу. А на ўсё астатняе яны спачатку паглядвалі крыху падазрона: ці не пазычыў у каго тэлевізар, ці не прыцяг ад суседа дыван на падлогу... А потым як выпілі добра ды закусілі, то сталі больш даверлівымі і вясёлымі: пачалі песні спяваць, анекдоты расказваць. І расталіся мы сябрамі.

— Паедзем сёння на мора? — запытала Наташа і гулліва глянула спачатку на бацьку, а потым і на мяне.

— Канечне, паедзем,— пацвердзіў бацька.— Сёння ж наша свята.

— А вы паедзеце?

Яна не апускала светлых цікаўных вачэй, пакуль я не адказаў:

— Возьмеш, то паеду.

— Вазьму, вазьму! — зарадавалася дзяўчынка.

І мне прыемна стала і нават замілавана, што радасць гэтая была зусім шчырая і чыстая.

На сваёй маторцы Станіслаў Міхайлавіч быў рулявым. У светлай майцы, з моцнымі загарэлымі рукамі, без шапкі, ён выглядаў надзейным спартсменам: кожнага саперніка мог бы абагнаць, усякі прыз выйграць. Але наўрад ці гэтыя думкі даймалі яго, калі лодка наддавала хуткасць і вочы рулявога імкліва глядзелі ў марскую далячынь. Плёса вялікае, канца яму не відаць, але рулявы ведае, што на добрай хуткасці і на паўгадзіны ходу не хопіць, давядзецца вырульваць назад. І, мабыць, хацелася б яму, падземнаму рулявому, разагнацца, як на сапраўдным марскім кацеры, і не бачыць канца марской прасторы. І каб усё гэта было той яго новай радзімай, дзе ён грунтоўна і трывала ажыўся, стаў патрэбным чалавекам, і з гонарам радуецца, што тут сапраўдная радзіма і для яго дзяцей.

Імчыцца лодка сярэдзінай мора, гул матора нарастае, нос лодкі ўсё больш падымаецца.

— Цішэй, Стась! — просіць Надзежда Аляксандраўна.

— Мацней, яшчэ мацней! — камандуе Наташа.

І бацька слухае Наташу. А тая з нейкай незгаданай дзіцячай пяшчотнасцю звяртаецца да маці:

— Ну, не сунімай ты папкі!.. Не сунімай!

І мокрымі рукамі гладзіць матулю па шчаках, па валасах, на якіх ужо бліпчаць пырскі. Маці змаўкае, пакорліва прыжмурвае вочы, каб не заліло вадою. А ў Наташы мокрыя рукі адтаго, што яна ўвесь час трымае іх за бортам, ловіць стрэчныя хвалі. І нахіляецца на борт, часам перахіляецца. Маці хапае малую за плечы, а бацька нічога не гаворыць, калі заўважае даччыну няўрымслівасць: нырне, то выплыве, бо плаваць ужо навучылася. Ды не глыбока тут, нават і рэчка не была глыбокай, толькі ў асобных мясцінах мела ямы.

Наташа ў захапленні размахвае мокрымі рукамі, часам пырскае цёплай вадою на Сашу. І я лаўлю сябе на тым, што хацеў бы, каб яна і на мяне пырснула. Хоць і ў самы твар, хоць і на штаны са складкамі. Сонца стаіць над самымі галовамі, хораша свеціць і грэе. Хоць ужо не пячэ, але сушыць добра.

Пырскай, Наташка, смялей! Пырскай і на мяне!..

Калі мы былі яшчэ на беразе і Саша з бацькам сцягвалі на ваду лодку ды нешта там наладжвалі ў маторы, дзяўчынка, як на крыльцах, падляцела да мяне, схапіла за руку:

— Давайце пабяжым!

— Куды ж мы, Наташанька?

— Вунь туды, на прычал.

І я пабег з ёю. Прычал вузкі, дашчаны, хістаецца пад нагамі, а мы бяжым. Стрэчныя людзі расступаюцца перад намі.

— Мне з вамі вельмі весела! — на бягу заяўляе дзяўчынка.

А далей я чакаў, што яна скажа:

— Давайце нырнём!

І я, напэўна, нырнуў бы...

Наташка захапляе мяне, адводзіць вочы ад таго, што я хацеў убачыць у час гэтага марскога падарожжа. Яно тут першае ў маім жыцці. Некалі плаваў на чоўне, калі цякла тут і палііскваліа ў траве і лазняку наша старажытная рэчка Случ. Удоўж рэдка, а часцей упоперак, калі трэба было перабірацца на процілеглы бок.

...Вось наш мясцовы лес, дзе прайшло маё грыбное, ягаднае ды верасовае маленства. Ён спускаўся некалі да самай ракі, супыняўся месцамі на жоўтым абрыве, месцамі на шырокай і да зазімкаў зялёнай рачной пойме. Жоўтыя пясчаныя абрывы асталіся і цяпер, мора іх не заліло. Я гляджу на лес з лодкі, праз Наташыны пырскі, і мне ён уяўляецца надзвычай свежым і маладым. І дарогі ідуць па ім, здалёк роўныя і белыя, напэўна, тыя самыя, па якіх некалі хадзіў і ездзіў.

...Хутарок стамагільскага Юсціка праплыў подаleку ад нас. У двары стаяць легкавыя машыны. Пытаю пра яго ў Янчэўскага, не спадзеючыся што-

небудзь уведаць ад прыезджага чалавека. Ажно ж, знаёмыя з Юсцікам усе: і Станіслаў Міхайлавіч, і Надзежда Аляксандраўна, нават Саша і Наташа. Сказалі мне, што дзеду ўжо дзевяноста год, а ён яшчэ ловіць рыбу і добра п'е гарэлку. А ў двары яго аўтамашыны, дык гэта таму, што, прыязджаючы на мора, некаторыя знаёмыя людзі заязджаюць да яго на пастой.

...Рулявы прыпыніў ход, і я глянуў наперад. Перад намі тырчала з мора нешта пагражальна магутнае, шэрае і нерухомае, нібы застылая хрыбціна кіта. Рулявы ўзяў убок, каб аб'ехаць гэта. Мяркуючы па месцы, я здагадваўся, што тут магло быць, але чакаў тлумачэння рулявога.

— Вышка стаяла некалі,— сказаў Янчэўскі.

Я памятаю гэтую вышку, яна дзейнічала яшчэ далёка да з'яўлення Салігорска. Геолагі кватаравалі ў нашай вёсцы, і тут іх празвалі «вышкаўцамі». На іхнюю работу не надта звярталася ў нас увага, бо яны ўжо некалькі год то там, то сям запускалі свае буры, ды нічога не знаходзілі. А мясцовыя выпівакі часам і недалюблівалі «вышкаўцаў» за тое, што яны апустошвалі ўсю сціплую бакалею суседняга эмтээсаўскага ларка.

Вышка ля дарогі на раку стаяла ў тыя часы, можа, гадоў два. Была яна самай вялікай сярод іншых і, мабыць, найбольш глыбіннай. Буравала з перабоямі, але доўга. Не скажу пэўна, якую карысць дала, аднак мяркую, што нейкія прыкметы цяперашніх калійных радовішчаў яна паказала. Магчыма, што адсюль і пачыналася тутэйшая магутная хімія.

Працягвалася шахцёрскае свята на сядзібе маёй нябожчыцы матулі ў густым высокім малінніку. Па запрашэнню майго брата сабраліся тут усе, хто да гэтага быў у яго хаце: сям'я Янчэўскіх, Леанід Бруй, сёй-той з родзічаў і суседзяў. Быццам бы і не планавы быў гэты збор, не прадбачаны і не прысвечаны Дню шахцёра, аднак такі ўжо тут уклад жыцця, што ўсё сюды стасуецца да шахтаў. Родзіч Шура Дзічкоўскі — шахцёр, сусед і таксама сваяк Андруша Корбут не менш дзесятка год працаваў у

шахце, мой брат — выкладчык горнага тэхнікума, яго сын — тэхнолаг тутэйшага рэмзавода.

Прайшла каля плота адна з суседак, глянула на вясёлую кампанію ў малінніку, і па яе вачах я пазнаў яе думку:

«Колькі маліны абяруць, з'ядзяць... Гэта ж каб на базар...»

Але госці амаль што і не рвалі ягад, а стаялі сярод зелені кругам і вялі заўзятую размову, а часам нават і спрэчку наконт розных праблем на рудніках. Новая пяцігодка многа новага павінна прынесці, перайначыць увесь лад шахцёрскага жыцця.

— Каб на той камбайн папасці, паспрабаваць яго,— марыць услых Шура Дзічкоўскі.

— На які гэта? — пытае Станіслаў Міхайлавіч.

— Што з ФРГ прывязуць. Захватка ў яго мо ўдвая большая. І выпрацоўка, пэўна ж...

— А гэтыя куды?

— Гэтыя?.. — Шура запінаецца, мабыць, не ведае, што адказаць.

— А я табе скажу,— запэўняе Янчэўскі,— што і на гэтых можна даць вялікія тоны... Некалькі планаў. Але як ты іх вывезеш, падасі на-гара? Цяпер, мне здаецца, у гэтым задача.

— Пад'ёмнікі не спраўляюцца, праўда,— пацвярджае Леанід Бруй.— Патрэбны дадатковыя.

— Дык яны ж і лётаюць цяпер — аж у пуп коле,— устаўляе сваё Андруша Корбут. Без якой-небудзь знаходкі ў яго і сказ — не сказ.— Я ж на шахтах з першага дня, то памятаю: некалі, пакуль спусцішся на начную змену, дык і выспішся заадно. А цяпер — анекдота не паспееш расказаць — і ўжо там.

— Хуткасць даведзена да краю,— заўважае Леанід Бруй.— Дабаўляць яе — гэта ўжо небяспека для людзей. Выхад адзін: трэба прабіваць новыя ствалы. На першым рудніку гэта ўжо робіцца.

Я з павагай слухаю Леаніда Васільевіча. Ён горны інжынер, некалькі год выкладаў горную справу ў Салігорскім тэхнікуме, а цяпер працуе над кандыдацкай дысертацыяй. Вялікая грамадская работа стрымлівае яго ў гэтым, але ўжо зроблена не мала. Я чытаў раздзелы з яго новай работы. Частка ма-

тэрыялу ўвайшла ў кніжку, якую ён напісаў разам з Янчэўскім. Гэтая кніжка ўжо выйшла ў прафсаюзным выдавецтве больш чым паўмільённым тыражом. Чалавек ён адукаваны і ўдумлівы. Нават і ў звычайнай гаворцы яго цікава паслухаць — што б ні ўзяў: грамадскія ўзаемаадносіны людзей ці эканамічныя, вытворчыя праблемы. Асновы ж яго дысертацыі ўяўляюцца мне надзвычай значнымі для вырашэння многіх задач навукова-тэхнічнага прагрэсу на хімкамбінатах.

— От я ў вас запытаю! — звяртаецца Янчэўскі да Корбута і Дзічкоўскага, як людзей новых для яго. Бруя ён не закранае, бо ведае, што для таго гэта не навіна.— Я са сваімі хлопцамі, а брыгада ў мяне во!.. У нас не бывае таго, пра што вось ты гаварыў (ён паказвае на Дзічкоўскага): прэміроўку ўчастковую не таму далі, дысцыпліну парушылі, прастаялі... Мы ў ладзе і дружбе жывём: адзін за ўсіх і ўсе за аднаго. Як запусцім сваю аўтамашыну!.. Няхай нават паўаўтаматыку!.. А цяпер у нас прафесары ў забоі, новую машыну распрацоўваем, электронную. Яна пераважае лазерную тым, што можа сама змяняць курс камбайна як па гарызанталі, так і па вертыкалі. Калі прыладзім усё — шэсць-сем нормаў за дзень дадзім. Гэта сваім метадам, з некаторым захватам і пабочнай пароды. А ў другім забоі працуюць нашы селектыўшчыкі. Хоць яшчэ і на коленцах паўзуць, без ніякай аўтаматыкі, але яны ідуць за чыстым пластом і выбіраюць амаль адзін сільвініт. Каго вы ў першую чаргу пападдзіце на-гара? Іх ці нас? Канечне, іх, бо там хвастоў менш. А мы будзем чакаць свае чаргі. І чакаем часам, таму і працэнт наш зніжаецца.

— Сам жа і вінаваты,— падае рэпліку Леанід Бруй і задаволена ўсміхаецца.— Навучыў людзей аўтаматыкай карыстацца, дык цяпер васемнаццаць агрэгатаў працуе па твайму метаду. А што будзе далей? Ніякія канвееры не вытрымаюць.

— Значыцца, што важней для нас? Канвееры ці прадукцыя?

Пытанне не патрабуе тлумачэнняў, таму ўсе згодліва пасміхаюцца і прыгінаюць да сябе раскошныя, вышэй росту нават Янчэўскага, калівы малінніку,

выбіраюць там спелыя ягады. Мой брат запрашае гасцей паспрабаваць яшчэ і сліў, якія чорнымі спелымі гронкамі, як паўднёвы гатунковы вінаград, звісаюць над плотам. Можна таксама сарваць або падняць пад дрэвам спелыя малінаўкі. Некалькі крокаў адступіцца — і смачныя жоўтыя ігрушы ляжаць на траве.

Станіслаў Міхайлавіч азіраецца, заўважае, што Наташкі ўжо няма ў маліннiку, але відно, што не турбуецца: не прападзе малая ў садзе. Па вачах і па выразу яго твару можна меркаваць, што ён хоча яшчэ нешта сказаць, бо думку сваю, мабыць, не давёў да канца, не закругліў. Усе яго развагі зводзіліся, відаць, да таго, што з'яўляецца сутнасцю яго цяперашняга жыцця. Аб гэтым ён увесь час не толькі марыць, а ўжо і бачыць тое ў рэальным увасабленні. Часы тут недалёкія, толькі гэтай пяцігодкі. Хутка і настойліва набліжаецца той узровень прагрэсу, калі прынцыпы падземнай аўтаматыкі, над якой ён праліў столькі поту, стануць асновай тэхнікі ўсіх калійных руднікоў. Тады магутныя пад'ёмнікі ў падвоеных ствалах з нечуванай хуткасцю будуць вазіць наверх толькі руду, а шахцёраў не будзе ў забоях. Яны стануць кіраваць сваімі камбайнамі з наземных пультаў.

— Дзе Наташка? — раптам запытаўся Станіслаў Міхайлавіч, павярнуўшыся да сваёй жонкі. Спытаў гучна, патрабавальна, гэта, відаць, замест таго каб яшчэ раз запытацца ва ўсіх тут пра сваё надзённае ды яшчэ раз узняць размову пра самую светлую і запаветную мэту.

Надзежда Аляксандраўна пашарыла вачамі па густым маліннiку, глянула ў зарослую нізіну ля плота, дзе некалі была сажалка, выкапаная яшчэ маім бацькам. Гэтае месца, што цяпер пад маліннiкам, у тыя далёкія часы затаплялася не толькі вясновымі паводкамі, а і ўвосень і нават летнімі дажджамі. Бацька капаў сажалку і кашамі насіў чарназём і глей на агарод, падымаў тут плошчу.

— Дзе ты, Наташа? — не надта гучна, аднак даволі моцна для блізкіх клікнула Надзежда Аляксандраўна. Ніякага адказу не пачулася, а праз якую хвіліну Саша паведаміў:

— Вунь яна, на яблыні сядзіць!

Мы ўсе павярнуліся ў той бок, ды не адразу ўбачылі Наташу: яна выбрала на дрэве такое густое месца, што амаль не відна была сярод лісця. Мабыць, таму і не абзывалася, каб яе не ўбачылі. Сама ж бачыла адтуль усіх, напэўна, і размову чула.

— Наташа! — зноў пазвала маці. А мне чамусьці пачулася іншае імя...

Некалі ў маленстве і я любіў залазіць на гэтую малінаўку. Не для эфекту гавару: сапраўды дрэва было рослым і даволі тоўстым у ствале і ў мае дзіцячыя гады. І лазіць на яго было зручна: пры ствале яно лаўкай прыгіналася да зямлі, а далей ужо ўгору высокімі і пладавітымі ралінамі. Маці і мяне некалі звала адтуль...

Цяпер яблыня мае тую ж седлавіну, толькі асяродак у яе крыху прыбуцеў. Але жыве яшчэ дрэва, зелянее і родзіць. Седлавіна гэтая, пэўна ж, і Наташы спадабалася. На яе можна з ходу ўскочыць, а потым пацягне і далей, і вышай па розных ралінах і галінах.

— Сарві мне там яблычка! — прашу я дзяўчынку, падышоўшы да дрэва-лавачкі. На гэтай лавачцы нават газета ляжыць: нехта нядаўна сядзеў.

Мне і не трэба Наташыны яблыкі, яны вісяць і на ніжніх голлях, але мяне вабіць і хвалюе пераклічка з мінулым: часам і маці прасіла мяне падаць ёй зверху спелыя яблыкі. А яны былі ў яе пад рукамі, урадлівае голле ледзь не слалася па зямлі. І не было тады ні вусені і ніякіх іншых пладажорак: яблыкі раслі, як качаны, ігрушы, як збаны.

Часам завітваў сюды, ідучы з поля ці эмтээсаўскай канторы, Васіль Іванавіч Казлоў. Садзіўся на дрэва-лавачку, адпачываў. Маці частавала яго тым, што ўжо было па сезону: спелымі парэчкамі, раннімі жытнікамі, першымі малінамі або і тымі ж малінаўкамі, якія раслі над іхнімі галовамі, калі абое адпачывалі на седлавіне і вялі сваю клапатлівую гаспадарскую гаворку.

— Бачу адсюль горад! — падае са сваёй вышыні радасны голас Наташа. — Вунь і наш дом на вуліцы Казлова! Зусім блізка...

## ДЗЕ КАМУ ЖЫЦЬ...

Цяпер ён жыве ў Хабараўску. Цяпер і завуць яго амаль заўсёды Уладзімір Іванавіч, і толькі зрэдку — палкоўнік Чарапанаў. Прывыклася ўжо да ўсяго цывільнага, бо пайшоў у запас некалькі год таму назад, і формы палкоўніцкія, як палявая, так і парадная, вісяць цяпер у шафе ды ўжо даволі густа папахваюць нафталінам.

Ходзіць Уладзімір Іванавіч па горадзе ў доўгім паліто ці ў такім жа доўгім і роўным плашчы, шапку надзяе звычайную, цывільную; у адказ на ўсе прывітанні знаёмых толькі лагодна і ціха ківае галавою. Шпацыруе ён многа, яшчэ можа хоць і паўдня быць на нагах, а сядні страшэнна не любіць і ўсімі сіламі намагаецца не прывыкаць да гэтага. У бадзёрым руху яму лепш дыхаецца, лепш думаецца і не так сцягваецца час, якога ўсё ж мнагавата, як ні старайся заняць сябе ўсялякімі грамадскімі абавязкамі.

Думаць ёсць аб чым, хоць і цэлымі гадзінамі думай; і ўспомніць ёсць пра што, хоць і цэлымі днямі ўспамінай...

Але ж каб толькі днямі! А то часта бываюць і такія ночы, што сну таго хаця б адна хвіліна выдалася добрая. Калі нарэшце і прыйдзе пад самы дзень нібы дрымота, нібы кволае забыццё ад зморанасці, то ўсё роўна ў галаве бунтуюцца думкі, і перад вачамі паўстаюць даўно знаёмыя людзі, таварышы, сябры, паплечнікі па колішняй барацьбе, па колішняй службе. Колькі іх было? Колькі ёсць цяпер? Больш за чвэрць веку прайшло пасля вайны. За гэты час мала хто сустракаўся з былых франтавікоў. А яны — гэта перш за ўсё сведкі незваротнага і незабыўнага юнацтва, хоць часамі і занадта цяжкага, бязлітаснага, трагічнага.

...Атрымаўшы годнасць малодшага лейтэнанта, Чарапанаў прыбыў на самую заходнюю ў нашай краіне граніцу. Прыбыў і з ходу, у тую ж хвіліну, далажыўся начальніку атрада. Быў у нас тады да-

волі мірны і надзейны час, вольныя ад дзяжурства пагранічнікі часам падоўгу бавіліся з вясковымі дзяўчатамі, а Уладзіміру, пасля вайсковага вучылішча, уяўлялася, што ворагі лезуць на граніцу кожную цёмную хвіліну, што застава амаль увесь час павінна быць у стане баявой трывогі.

Яго прызначылі палітруком пагранічнай заставы.

На першым начным дзяжурстве ледзь не над самай галавою раптам заспяваў салавей. Жудасным марозам абдало ўсё цела, вырвалася імкненне спужнуць салаўя, папусціць чым-небудзь у тое месца, дзе ён спявае. А можа, гэта і не ён — божая птушка, можа, гэта вораг падае такі сігнал?

Нячутна наблізіўся пагранічнік трэцяга года службы, асцярожна прытуліўся каля роснага альховага куста. У пагранічніка маскхалат такога ж колеру, як і гэты куст, нават зблізку нельга адрозніць.

— Вунь ён! — ціха прашаптаў пагранічнік і паказаў захалачанай рукою на такі ж альховы куст, толькі больш высокі і густы.— Тут яго гняздо,— удакладніў пагранічнік.— Аднаго разу ўдзень я заўважыў. Яго самка цяпер у гняздзе сядзіць, яйкі выседжвае, а ён побач выспеўвае ўвесь час, каб ёй сумна не было. Так яны ўдваіх дзетак сваіх чакаюць.

— Тут мы нічога іншага і не пачуем,— не ўхаваў свае нездаволенасці Чарапанаў.— Таго, што трэба.

— Пачуем! — упэўнена сказаў пагранічнік.— Усё тое, што тут не наша, не ад самой прыроды: не ад дрэў, не ад ракі — я адразу пачую і адрозню. Я тут усё жывое і нежывое ведаю.

Калі салавей на момант прыціх, у недалёкай рэчцы пачуўся моцны ўсплёск, потым следам другі, трэці. Чарапанаў зноў скалануўся, павярнуў тулава ў той бок.

— Гэта шчупак,— спакойна заўважыў пагранічнік.— Развялося іх тут, шастаюць па начах, як звяры, нявінных рыб глытаюць. Адлавіць бы гэтых жадзюг, дык нельга — пагранічная рака.

— А калі хто будзе плысці па гэтай рацэ або ісці па перамеле? — ужо стаў нібыта выведваць Чарапанаў, адчуўшы вопытнасць пагранічніка.— Як тады?.. Адрозніш чалавека ад шчупака?

— А як жа?! — пацвердзіў пагранічнік.— Калі хто лезе ў ваду або плыве, то тады зусім інакшы плёскат. Ды і перамелу тут няма, каб пераходзіць. Перамел насупраць дуба.

— Якога? Тут жа многа дубоў.

— Ёсць адзін дубок,— сказаў пагранічнік.— Гадоў мо трыста яму, у тры абхваты не абдымеш. Дупло ў ім — чалавеку можна схавацца. Аднаго разу бусел ноччу з яго ўзляцеў, над буслянкай пачаў кружыцца. Вялікая трывога тады ў нас была, але ўсё дарэмна: бацян, відаць, з бацянкай сваёй нешта не паладзіў.

Сапраўдная трывога насцігла Чарапанава ў той момант, калі ён яе зусім і не чакаў. На заставу прыйшлі шэфы з суседняга калгаса, і палітрук чытаў ім лекцыю пра непрыступнасць нашых граніц. Парушальнік з'явіўся не з варожага боку, а з нашага, і след яго абнюхалі не пагранічныя сабакі, а вясковыя, падвучаныя актывістамі па ахове граніц.

Палітруком давялося пабыць толькі адзін год, а потым начальніка заставы перавялі ў пагранатрад, а Чарапанаву дабавілі яшчэ адзін кубічак у пятліцу і загадалі прыняць заставу. К гэтаму часу ён ужо ведаў усе куткі і сцяжынкі не толькі на тэрыторыі свае заставы. Па службе і без службы часта даводзілася бываць на суседніх заставах, дык яшчэ і там амаль усё было сходжана і зведана. Уведаў юнаклейтэнант і адну чароўную сцяжынку да недалёкай вёскі, дзе жыла тады маладая ды вельмі ж сінявокая настаўніца пачатковай школы. Не часта выпадала трапляць на гэтую сцяжынку, але калі выбачвалася такая хвіліна, то яна была самай светлай хоць і ў самую цёмную ноч.

Што далей, то ўсё больш і больш раднілася з душою невялічкая тэрыторыя прыгранічнай зоны, і часам пачынала ўяўляцца, што ва ўсёй краіне няма такога прыгожага і блізкага сэрцу кутка з раскошным зялёным разналессем, з пахучым чабарком і палявой мятай, з векавым дубам, які ўжо і не ўяўляецца без сталай, штогод падноўленай, як у добрага гаспадара хата, буслянкі. Наўрад ці ёсць дзе такая рэчка, заўсёды лагодна шапатлівая, бясконца шчодрая сваёй вадою і берагамі для рознага плывучага

і лятучага птаства. І, напэўна, ва ўсім свеце няма такой пачатковай школы, дзе б працавала гэтакая чароўная і ласкавая настаўніца з незабыўным імем — Каця. Любімая прыгранічная паласа, але яна ў нечым страціла б, калі б не было тут яе, гэтай дзяўчыны.

...Іх кароткае нешматлюднае вяселле было прызначана на самы вялікі дзень у годзе. Але перад світаннем таго дня зноў узняўся над дупластым дубам бусел. Узняўся, трывожна заклекатаў. У такую пару сутак яму нязвычна ўзнімацца.

З вартавой вышкі, якая была непадалёку ад дуба і ноччу нагадвала буслянку, таксама прыляцела данясенне. Вартавы дакладваў, што па той бок граніцы, каля польскага манастыра, заўважаецца незвычайны людскі рух. Па той бок граніцы, як і тут, узляцелі са сваіх гнёздаў буслы і пачалі быццам перагаворвацца з нашым буслам.

Следам за данясеннем з вышкі прыйшло паведамленне ад сержанта Новікава, які ў гэтую ноч нёс службу каля дуба. Гэта той самы пагранічнік, з якім Чарапанаву давялося быць у сваім першым нарадзе. Новікаў дакладваў, што нябачанае раней і невядомае скопішча людзей падышло да ракі ў тым месцы, дзе быў брод.

На заставе была абвешчана баявая трывога. Чарапанаў аддаў загад нараду Новікава адкрыць агонь, як толькі будзе заўважана спроба пераходзіць раку. Сам з групай байцоў заняў абарону ў найбольш небяспечных месцах. Гэта быў правы фланг тэрыторыі заставы, а на левы пайшоў малодшы лейтэнант Храмцоў. Пайшоў, а яго жонка з малым дзіцем асталася ў маленькім доміку камсаставу.

Жанчына не ўставала, пакуль не пачуліся стрэлы: амаль кожны тыдзень на заставе былі такія трывогі, а пасля гэтага муж прыходзіў дадому, усміхаўся і пытаў, ці ёсць што на снеданне. Цяпер Храмцоў прыбег усхваляваны, вельмі бледны і безнадзейна разгублены.

— Хутчэй збірайся! — ледзь не закрычаў ён на жонку, убачыўшы, што тая яшчэ спрасоння не ведае, за што хапіцца.— І малое збірай!

...Чарапанаў ляжаў у абароне і з моманту на мо-

мант чакаў падзей, пра якія яшчэ нічога дакладна не ведаў. Пасля трывожных данясенняў з пастоў званіў у пагранатрад, але там сказалі, што трэба быць напагатове.

Ляжаў Чарапанаў, і з-пад яго локцяў духмяна пахла расціснутая палявая мята. Было яшчэ прыцемна. Перад сабою нічога падазронага яшчэ нельга было ўбачыць, хоць нават і праз бінокль. Толькі па памяці ведалася, што непадалёку ціхая, спакойная рака, што там на нашым беразе месцамі расце плакучы вербнік, а ў нізінах і затоках — аер.

Ведалася Чарапанаву і тое, што непадалёку адсюль, з правага боку заставы, ёсць на граніцы вельмі дасканалыя новыя ўмацаванні. Там пакуль што няма нашых войск, але ж, калі ўзнікне патрэба, то яны будуць. І не варта лішне трывожыцца: калі туды не прыйшлі падмацаванні, то ніякай небяспекі тут пакуль што няма.

У хвіліны такіх разваг цягнула хоць на момант павярнуцца ў процілеглы бок, глянуць у ціхі, яшчэ сонны тыл. Спінаю, цемем адчувалася, што недзе вось тут, побач, пачыналася тая запаветная сцяжынка, якая вяла да яшчэ больш запаветнай пачатковай школы. Халадзела ў душы, калі раптам узнікала думка, што, магчыма, ужо больш ніколі і не давядзецца ісці, бегчы або імчацца на сваім пагранічным скакуне па гэтай сцежцы.

Да чаго могуць давесці такія думкі! Адганяць іх, адганяць! Асабліва цяпер, у цяжкія, няпэўныя хвіліны! На гэтым участку граніцы, мабыць, рыхтуюцца правакацыі... Мы гатовы да ўсяго... Але граніца астанецца граніцай...

...Каця, напэўна, яшчэ спіць... Доўгія, расплеценыя на ноч валасы няўтрымным шоўкам рассыпаліся па падушцы. Можа, толькі нядаўна і заснула, чакала, хвалявалася, трывожылася перад вяселлем... А рвануцца туды яму, начальніку заставы, не хапала сілы і рашучасці, бо ўвесь час адчувалася непазбежнае набліжэнне нечага, вельмі цяжкага і змрочнага. І яно прыгнятала і прыглушала самае радаснае і шчаслівае...

...Каця, мабыць, ужо намерылася адкласці вяселле на наступны выхадны дзень. Гэта яшчэ нічога, ка-

лі на наступны. А можа, і зусім пакрыўдзілася і страціла давер?.. Як бы ёй паведаміць, як перадаць, што цяпер робіцца на граніцы, што цяпер робіцца на душы...

Да слыху даляцела клекатанне бусла, адчайна-трывожнае, нібы сігнальнае, спачатку рэзка-гучнае, а потым прыглушанае, аддаленае. Відаць, гаспадар дуба-волата ўсё яшчэ лётаў над сваім гняздом і рабіў вялікія кругі, падлятаючы блізка да месц абароны, а потым адлятаючы далёка, можа, нават і на той бок граніцы. Напэўна, малыя бусляняты, яшчэ бяскрылыя, бездапаможныя, аставаліся ў гняздзе.

Чаго бусел устрывожыўся ноччу, што перапыніла яго спакойны сямейны сон, што прымусіла ўзняцца з буслянкі? Гэтага Чарапанаў не мог разгадаць, хоць ужо лічыў сябе спрактыкаваным пагранічнікам. Калі яшчэ раз наблізілася буслінае клекатанне, начальнік заставы ўзняўся са свайго месца, стоячы на коленцах, стаў наводзіць бінокль на бусла, і ў гэты момант гучнае клекатанне заглушыла кулямётная чарга, па лесе і па зарасніках шуганула вострае рэха. Здавалася, што яно зрывала з травы расу і распырсквала яе па ўсім наваколлі, з дрэў — лісце і разносіла іх, рассыпала па зямлі. Чарапанаў зразумеў, што адкрыў агонь нарад Новікава, які дзяжурыў каля дуба. Значыць, ёсць нешта небяспечнае, памыліцца гэты чалавек не можа.

З таго боку ракі пакуль што не чутно было нічога, але Чарапанаў падаў каманду свайму атраду падысці бліжэй да берага і, калі рушыў сам ледзь не пярэднім, то ў гэты час сустрэў Храмцова, які бег насустрач, да заставы.

Чарапанаў спытаў:

— Што там у цябе?

— Па-мойму, гэта вайна! — амаль не спыніўшыся, адказаў Храмцоў і памчаў далей.

У гэты момант непадалёку так грымнула, што скаланулася зямля, некалькі дрэў і кустоў узляцелі карэннямі ўгору, а потым, падаючы, сталі ламаць, крышыць голле, сваё і чужое, падмінаць маладняк. Здавалася, што ўся пагранічная паласа раптам затрымцела, захадзіла ходырам, прыўзнялася і пачала рушыцца, завальваючы дрэвамі ўсе праходы і сцеж-

кі, нават раку на тэрыторыі заставы. Аглушальны гул не толькі не сціпаўся, а, здавалася, усё больш нарастаў і ахопліваў наваколле. Ужо не чутно было нічога іншага, нават самай гучнай каманды; ад нязвычнасці да такога ліхоцця, ад раптоўнасці яго ледзянела ўнутры, у вушах звінела, ногі дранцвелі, рукі інстынктыўна шукалі глыбейшую выемку ў зямлі і прыкрывалі галаву і твар. Перш за ўсё — галаву і твар.

Прайшлі нейкія моманты, пакуль Чарапанаў зразумеў, што рушыла на нас варожая авіяцыя, што з-за ракі пачалі абстрэльваць пагранічную зону з гармат і мінамётаў. Зразумеў і тое, у што яшчэ хвіліну таму назад не мог паверыць,— пачалася вайна. Каля яго рваліся міны і снарады, пад ім дрыжала і стагнала зямля, але найгорш схаладзела ў сэрцы тады, калі выбухі пачуліся ў тыле заставы, там, дзе была падшэфная прыгранічная вёска, там, дзе стаяла такая блізкая душы пачатковая школа.

У кароткім прамежку паміж выбухамі Чарапанаў пачуў, як стракатаў доўгай чаргою кулямёт Новікава, і закрычаў на ўсю сілу, падаючы баявую каманду. Самалёты — гэта яшчэ не ўсё, гэта яшчэ не зямля, а паветра. Хутка рынуцца наперарэз нашы самалёты... А вось — зямля!.. Ніводнай пядзі сваёй зямлі!..

І ён моцна і рашуча адштурхнуўся ад таго, можа, самага шчаслівага месца на граніцы, над якім прасвісталі асколкі, прасыпалася сырая, гарачая ад агню зямля, прашумелі аскабалкі і цэлыя верхавіны дрэў, напоўненыя летняй расою. Ускочыў і амаль ва ўвесь рост падаўся наперад, яшчэ бліжэй да ракі. Уяўленне і перакананне былі адзінымі: вораг і на гэтым участку паспрабуе пераправіцца цераз раку, як і там, дзе стаіць нарад Новікава. Але там перамел, можна ісці ўброд. А тут ўброд не пройдзеш, трэба пераплываць, на чым-небудзь пераpraўляцца.

Ціхая рэчка плыла, як і раней, спакойна, шапатліва, на ёй ужо добра прыкметны летні золак. Ні на чыстым, пацягнутым світальным серабром плёсе, ні на берагах з густым аерам і чаротам нічога і нікога не заўважалася. Кулямёт Новікава таксама заціх:

часова ці, можа, таму, што адбіў ворага. Гул самалётаў аддаліўся, і зноў стаў чуцён бусліны клёкат, яшчэ больш моцны, дружны, трагічна ўсхваляваны. Чарапанаў адвёў вочы ад ракі, глянуў на падсіненае блізкім світаннем неба і ўбачыў там цэлую чародку буслоў. Яны зляцеліся адусюль, напэўна, і з-за мяжы, усюды ў трывозе пакінулі свае гнёзды, сваіх буслянят. Збянтэжаныя птахі кружыліся над пагранічным лесам, над ракою, над белым манастыром, што віднеўся з таго боку ракі. Некаторыя з іх даляталі аж да таго месца, дзе затоена ў напружаным чаканні ляжалі Чарапанаў і яго байцы. На вялікай адлегласці ад сваіх гнёздаў буслы раптам змаўкалі, нават не варушылі крыламі і плылі над прыгранiччам ціха і асцярожна, нібы высочваючы, выглядваючы, што робіцца на зямлі.

Чарапанаву пачынала ўяўляцца, што вось пройдзе яшчэ які момант — і буслы зусім сцішаць сваю трывогу, вернуцца ў гнёзды. У свае гнёзды! Можа, усё гэта, што цяпер здарылася, нешта часовае, выпадковае... Новікаў адбіў нейкіх правакатараў на перамеле... Новікаў пастаяў за ўсю пагранічную заставу... Прыйдзе світанне, і ўсё ўляжацца, сцішыцца, высветліцца. Такога ўсё ж не можа быць, каб раптам вайна... Учора прывезлі на заставу яшчэ «цёплы» нумар пагранічнай газеты, там пісалася пра летнюю спартакіяду ў войсках, што яна павінна прайсці на высокім узроўні. Сэрца моцна білася, часам нястрымна трапяталася, рэзка і востра стукала ў скроні. Не, не, гэта не вайна! Не можа быць, каб гэта была вайна...

У тую ж хвіліну прыбег Храмцоў і далажыў, што немцы ўжо ў вёсцы, у тыле заставы.

* * *

Тое, што адбылося потым, мільгае ў памяці Чарапанава ўсё жыццё, але толькі асобнымі балючымі штрышкамі, асобнымі з'явамі нечуванай трагедыі. Здараецца, што некаторыя незабыўныя эпізоды з'яўляюцца ў сне, і тады настае трывожная, пакутлівая ноч. Нямала часу пройдзе, пакуль супакоіцца дрыготка ў целе, трывожны і зацяжны звон у вушах.

Але сну ўжо не бывае, цяжкія, пакутлівыя, але недаступныя ўспаміны пачынаюць нарастаць; усплывае часам і тое, аб чым і не памяталася раней. Тады іншы раз уяўляецца, што гэта і не сам там быў, а нехта іншы, можа, больш смелы, больш рашучы і адчайны.

Хіба гэта ён, сам Чарапанаў, падняў і павярнуў назад усю сваю баявую групу і з рашучымі воклічамі пабег наперадзе?.. Хіба гэта яму ўпаў пад ногі падстрэлены бусел?..

За ім беглі пагранічнікі... У іх карабіны і ў некаторых ручныя кулямёты. У яго самога — толькі наган... Якая зброя ў немцаў? Ці думалася тады пра гэта?..

...Вось каля невялікага прыдарожнага ўзгорка ляжыць волат-пагранічнік... Новыя пятліцы на расшпіленым каўняры зеленеюць, руля кулямёта тырчыць мушкай угору. Пагранічнік сваімі плячамі займае ледзь не ўвесь узгорак, жылістыя акрываўленыя рукі раскінуты, як у моцным непрабудным сне.

Каля пагранічніка ледзь не перасечаны папалам немец. І тут Чарапанаў заўважыў, што ў правай руцэ волата-пагранічніка аголеная шашка... Значыць, ён пайшоў урукапашную, калі яго кулямёт заглох...

У яго, у начальніка заставы, таксама ёсць шашка... Гэта акрамя нагана, акрамя дзвюх гранат, падвешаных на поясе. Можна ісці і ўрукапашную!..

...На бягу яшчэ трапляліся забітыя немцы, гэта, мабыць, ад куль таго пагранічніка-волата. Як яны тут прайшлі?.. Там жа Новікаў каля дуба... З такім жа ручным кулямётам, з такой шашкай і сам не менш магутны, як гэты, што загінуў першым, але пакуль што невядомым героем.

...У цяперашнім тыле групы пачуўся стукат кулямёта, а потым адзіночныя вінтовачныя стрэлы. Дыскі, відаць, скончыліся. А можа, падаць іх няма каму? Там пры Новікаве быў другі нумар. Быў, але ж — ці ёсць цяпер?..

...Між апошніх зараснікаў заставы мільганула жонка палітрука з дзіцем на руках. Потым і сам палітрук: значыць, і яго група паблізу.

...Апошнія кусты, апошнія дрэвы запаветнай тэрыторыі... Далей — калгасныя палеткі, потым вяско-

выя агароды. Адкрытае месца, але ж гэта свае палеткі, свае агароды!

Апошні рубеж для атакі, маленькая перадышка ў зелені,— Чарапанаў дазваляе яе знакам рукі. Пагранічнікі залеглі нібы нават і без каманды.

...Перад вачамі — даўно падворанае рознакаляровае ад кветак і раслін поле, зацягнутае дымам ад пажару ў вёсцы, на полі немцаў не відно. Значыць, іх трэба наганяць у ваколіцах вёскі, а можа, і дзе далей. Наганяць і знішчаць: можа, толькі недзе тут яны і прарваліся. Новікаў трымае тых, а тут насцігнем гэтых...

Дым сцелецца па зямлі, даходзіць да кустоў. З ім прыплывае пах, не такі горкі, як там, у лесе, ад выбухаў. Плыве дым ад пажару, ад вялікай бяды людской. І ўсё больш гусцее, усё больш шырыцца па палетку.

Дымная заслона можа памагчы пераскочыць вельмі адкрытае месца, а потым і перасцігнуць немцаў. Каб толькі нагнаць іх!

...Храмцоў падбег чамусьці без шапкі. Рыжаватыя валасы вожыкам, нос кірпаты ўгору.

— Дзе шапка? — не здолеў змаўчаць Чарапанаў.

Храмцоў левай далонёю ляпнуў па вожыку, мабыць, і сам да гэтага не адчуваў, што няма шапкі. Потым гэтай жа рукой няўпэўнена махнуў у той бок, адкуль прыбег: правую руку трымаў напагатове, у правай руцэ быў наган.

— Вядзі левы фланг! — загадаў яму Чарапанаў.

— Куды весці? — перапытаў Храмцоў.

— Як куды? — начальнік заставы толькі цяпер заўважыў у бязбровых вачах свайго паплечніка небяспечную безнадзейнасць і крыкнуў так, што пачулі нават і тыя пагранічнікі, што ляжалі далей: — На парушальнікаў граніцы! Хіба не ясна?

— Гэта не тое, пра што ты думаеш,— углядаючыся ў задымленае поле, сказаў Храмцоў.— Гэта — вайна, і мы ўжо ў тыле ворага.

— Выконвай загад! — рашуча паўтарыў Чарапанаў і падаў знак усім рушыць наперад. Сам узняўся першы.

...Немцаў насцiглі каля вёскі... Насцігл і адкрылі агонь з усяго агнястрэльнага, што ў іх было. Чара-

панаў быў блізкі да таго, каб падаць каманду і на рукапашную, з шашкамі і штыкамі, але зусім нечакана і неспадзявана для сябе ўбачыў каля вясковых плятнёў два нямецкія танкі. «Як яны апынуліся тут, калі і дзе перайшлі граніцу?»

Танкі павярнуліся на раптоўныя стрэлы і адкрылі агонь з буйнакаліберных кулямётаў. Разрыўныя кулі касілі, выпальвалі траву, палявыя парослі, аглушалі ляскатам і стваралі ўражанне, быццам стральба ідзе з усіх бакоў. У тую ж хвіліну злавесна і жудасна зашуршэлі міны і пачалі рвацца адна пры адной.

...Нават у гэтым няспынным гуле раптам пачуўся пранізлівы і адчайны крык жанчыны. Спачатку крык, нібы балючы, здзіўлены воклiч, а потым плач, цяжкае, надрыўнае галашэнне. Чарапанаў пазнаў голас жонкі Храмцова: сваю адзіную жанчыну на заставе ўсюды і адразу пазнавалі ўсе — па гаворцы, па паходцы, па вопратцы і па многіх іншых нават няўлоўных прыкметах.

Калі прыціхла, быццам захлябнулася слязамі жанчына, заплакала дзіця. Гэты плач, рэзкі, моцны, патрабавальны, прабіўся скрозь усе громы і шумы, пранізаў наваколле, біўся кожнаму ў вушы і ў сэрцы, хваляваў, палохаў, нібы разрываў сэрцы і заклікаў да літасці, да ўвагі і помачы. Выпаў такі момант, калі нічога іншага і не чутно было, акрамя гэтага дзіцячага плачу: нават нямецкія кулямёты і мінамёты замоўклі, і па ўсім задымленым наваколлі разносіўся толькі дзіцячы голас. Гэты крык раптам на нейкі момант зліўся з блізкім пагрозлівым віскатам міны і потым пачаў звінець, свідраваць нутро, зацямняючы вочы, зацягваючы ў неспакойнае, замарочана-вірлівае бяздонне.

...Прытомнасць вярнулася да яго не скора. Ды наўрад ці можна было і лічыць гэта поўнай свядомасцю. У вушах усё яшчэ звінела і шумела, і быццам бы чуўся недзе безнадзейны дзіцячы плач. У першыя моманты Чарапанаў не мог зразумець, дзе ён і што з ім здарылася. Адчуў толькі, што ў яго правай руцэ няма нагана. Працягнуў левую руку да ножнаў шашкі і намацаў, што ножны ёсць, аста-

ліся пры рамнях, а самой шашкі няма. Успомнілася пра гранаты. Былі яны пры поясе, а цяпер не адчуваюцца. І далей памяць не ішла: шпурнуў ён іх у свой час на немцаў ці не зрабіў гэтага, не здолеў, не паспеў? А куды дзеліся наган і шашка?..

У вачах змрок... А можа, сцямнела ўжо і прыціхла ўсё навакол, таму што настала ноч? Пашарыў рукамі, абмацаў зямлю каля сябе: нешта ўсё нясвежае, сырое. Адчуў па вільготным паху, які ўсё больш пачынаў удыхацца, што ляжыць у нейкай нізіне, магчыма, нават у яме. Як гэта магло здарыцца? Да слыху зноў данёсся пранізлівы дзіцячы крык... І адкуль жа? Нібы зверху, з далёкай вышыні, нібы знізу, з глыбокага падзямелля. Гэты крык нешта нагадвае: быццам нядаўняе, яно вось толькі што здарылася; быццам далёкае, недасяжнае... З усяго туманнага, неакрэсленага няпэўна ўсплыло толькі тое, што ў апошнюю хвіліну ляжаў не ў яме, а на роўным месцы. Кругом была росная густая зелень: можа, ярына, запозненая, адсеяная, а можа, проста трава для выпасаў — не асталася ў памяці такая дакладнасць.

...Яшчэ нічога не бачачы, вобмацкам паспрабаваў рушыць наперад. Крануўся з месца і быццам міжвольна адчуў радасць ад таго, што здолеў скрануцца, што хоць і цяжка, натужна, але паслухаліся і рукі і ногі. Рэзкай болі не адчувалася нідзе, толькі млявасць і здранцвенне ў целе ды густая цемра насцярожвалі і палохалі, не давалі магчымасці ўзняцца, стаць на ногі ці хоць на каленцы.

Прапоўзшы крокаў пяць, адчуў, што рукі шкрабанулі зямлю аднекуль зверху, і зямля гэтая, сырая і халодная, пасыпалася на галаву, на патыліцу. Не многа зямлі, не столькі, каб засыпаць усяго. А такое адчуванне, што быццам бы засыпаны і завалены навечна, ужо было. Яно паступова развеялася, адышло, і цяперашнія грудкі зямлі ўжо не палохалі. У такім стане хацелася паляжаць, разабрацца, адумацца. Можа, і цемра зменшыцца, хоць парадзее, дасць нейкія прасветы. Не бывае такой летняй ночы, каб нават на крок нічога не бачыць. Напэўна, гэта з вачамі нешта... Слепата?.. Значыць — раненне цяжкае, галаўное, або кантузія...

Ляжаць і не варушыцца — такое жаданне пераважвала, але пачынала ўжо мучыць і тое, што гэтак ні да чаго добрага не даляжышся, што трэба нешта вырашаць, дзейнічаць, змагацца, калі жывы, калі валодаюць рукі і ногі. Па ўсім заўважалася, што перад ім нейкі земляны насып ці круты бераг ямы. Якім чынам выбрацца адсюль?

На шчасце, праз нейкі час пачало крыху праясняцца ў вачах. А яшчэ праз нейкі час Чарапанаў убачыў, што ляжыць у леташняй, закінутай сіласнай яме. Стаў пакрысе аглядацца. З ямы нічога не вызначыш, а над ямай — нібы дым, нібы туман: сонца не відно, можа, яно ўжо зайшло ці заходзіць. Неба цьмянае, быццам вячэрняе. А можа, так яно здаецца?

Напружыўшы апошнія сілы, устаў на ногі і высунуў галаву з ямы. Тое, што ўбачыў перад сабою і навокал, нагадвала нейкі жудасны застарэлы сон: уся зямля была нібы перавернута ніжнімі пластамі ўверх; дзе больш, дзе менш, дзе мяльчэй, дзе глыбей, аж да жоўтага пяску. У вёсцы бушаваў пажар. Дым валіў ужо не з аднаго месца, як раней, а з многіх. Велізарныя клубкі, бесперапынна ўзнікаючы ўнізе, падымаючыся, зліваліся ў адзіную магутную, што засланяла ўвесь свет, лавіну. І гэтая лавіна плыла над зямлёю, падавалася на тое месца, дзе нядаўна адбылася страшэнная, нечаканая, няроўная бітва.

Дым лез у вочы, сціскаў дыханне, перашкаджаў разгледзець, што цяпер рабілася каля вёскі, у тых месцах, адкуль нядаўна білі разрыўнымі кулямі буйнакаліберныя кулямёты, адна пры адной клалі свае смертаносныя міны варожыя мінамёты. Білі, напэўна, і гарматы, таму што на полі відны варонкі вялікія і глыбокія.

Цяжка было адарваць зрок ад вёскі. Можа, там і людзі гінуць у бязлітасным агні? А можа, і да гэтага нікога жывога не аставалася: ворагі закатавалі, знішчылі ўсіх?

А што ж асталося ад пагранічнай заставы? Уперад, мабыць, няма чаго глядзець, каб вызначыць гэта. Трэба набрацца адчаю і глянуць назад ды навакол сябе. Няўжо толькі адзін ён, начальнік заста-

вы, і астаўся жывы? Няўжо гэта не сон, самы змрочны і трагічны?..

Не, гэта не сон! Вунь ляжаць хлопцы-пагранічнікі: адзін, другі, трэці... У розных мясцінах, у розных позах... Твараў іх не пазнаць, твары іх, а некаторых і галовы, засыпаны зямлёю. Далей і постаці ледзь толькі заўважаюцца. Ляжыць застава, лягла навекі, выканаўшы свой святы абавязак.

...Непадалёку ад сіласнай ямы ляжала камандзірская шапка. Як на нейкае дзіва, яе зямлёю не прысыпала. Чырвоная зорка ззяла на ёй і нейкім цудам лавіла быццам бы толькі ўяўныя сонечныя прамені. Чыя ж гэта шапка? Хіба Храмцова? Успомнілася, што той прыбягаў у апошні раз без шапкі...

...Толькі цяпер Чарапанаў дакрануўся рукамі да свае галавы і памацаў злямчаныя вільготныя валасы. Не, гэта не сон! Гэта яго шапка ляжыць тут, а не Храмцова.

...Начальнік заставы ўратаваўся ў яме. Камандзір астаўся без войска, без зброі і нават без шапкі! Ці быў сэнс так аставацца?.. Ці не лепш было патраціць на сябе апошнюю кулю або апошнюю гранату?

...У думках пачалі мільгаць здагадкі, як гэта магло здарыцца. Напэўна, свае, хто ляжаў блізка, палічылі, што яго забіла асколкамі міны, якая разарвалася, мабыць, зусім побач? З павагі да камандзіра сцягнулі яго ў яму, каб не ляжаў на відавоку. Магчыма, нехта з пагранічнікаў яшчэ меў надзею на выратаванне камандзіра і хацеў у яме аказаць яму дапамогу, ды загінуў сам. Немцы, калі яны былі тут, таксама палічылі яго мёртвым, а можа, у спешцы і не заглянулі ў смуродную сіласную яму.

Чарапанаў вылез з ямы, стаў на ўвесь рост. Вецярок ад вёскі абдаў яго дымам, павольна, нібы з асцярогай, паварушыў валасы. Быў намер гэтак жа, ва ўвесь рост, пайсці, узяць сваю шапку і потым прайсціся па полі, пашукаць зброі ды паглядзець, хто з пагранічнікаў астаўся тут навекі, арганізаваць пахаванне іх, а не — дык хоць запомніць імёны...

Апошняя думка раптоўна абарвалася... Калі ж яна, нібы вельмі даўняя, пачала квола і няпэўна ўзнаўляцца, Чарапанаў зразумеў, што зноў ляжыць, толькі, на шчасце, не ў яме, а на самым краі ямы.

У галаве шумела і звінела, і зноў чуўся далёкі дзіцячы плач.

...Насцярожыўся слых — правае вуха прытулена да зямлі... Непадалёку ўзнялася страляніна... Падалося гэта яму, кантужанаму, ці так яно і ёсць? Калі верыць сабе, як і раней, то выбухі даносіліся з раёна недалёкай цытадэлі: там, напэўна, ідуць баі. Чарапанаў ведаў, што там наш вялікі, добра ўзброены гарнізон. Там не пройдзе вораг!.. Можа, і на тутэйшай ґраніцы не прайшоў, а толькі вось на ўчастку яго заставы. Балючая гэта думка, бо вінаваты перш за ўсё начальнік заставы, калі так выйшла, але яна і паднадзейная: можа, яшчэ ўдасца затрымаць ворага, адагнаць, не пусціць на нашу зямлю, а калі ўжо і давядзецца ваяваць, то на чужой зямлі... Толькі на чужой!

Баі могуць узнавіцца і тут. Магчыма, што народ Новікава і цяпер нясе службу каля дуба, але, напэўна, ён там адзін. Рынуцца на перамел новыя варожыя часці, і ён не здолее іх стрымаць... Як жа быць самому без зброі, без сілы? Спусціцца зноў у яму і чакаць змяркання?.. Пра гэта прыкра было і падумаць.

Адчуваючы, што ўстаць не хопіць сілы, ён папоўз у той бок, дзе ляжала шапка. Поўз старанна, намагаючы ўсе свае сілы, а шапка амаль што не наблізалася. Наадварот, часта здавалася, што яна нібы адплывае ўсё далей і далей. Параўняўшыся з бліжэйшым ад ямы пагранічнікам, прыпыніўся каля яго, лёг побач. Сцерушыў з яго твару ўжо крыху прысохлую зямлю, змешаную з крывёю, і адразу пазнаў старшыну заставы Цімошчыка. Напэўна, гэта ён і ратаваў свайго камандзіра. Выратаваў, а сам загінуў. У правай руцэ старшыны быў наган, але ў барабане — толькі стрэляныя гільзы. Гранат не было ніводнай. Воддаль, адкінуўшыся канцом убок, ляжала шашка, не вынутая з ножнаў, пэўна ж, не выкарыстаная ў баі. Мабыць, не паспеў Цімошчык кінуцца на немцаў з востраю шашкаю ў руках...

Наган Чарапанаў забраў у надзеі на тое, што патроны ўдасца знайсці ў другіх забітых пагранічнікаў. Усё з большай цвёрдасцю выспяваў намер прабірацца ў раён цытадэлі, далучыцца да свайго гар-

нізона. Вёска будзе па дарозе. Немцаў там быццам бы няма: ці іх выбілі адтуль, ці яны пайшлі далей. Магчыма, там знойдзецца хто-небудзь са сваіх: ураваўся ці людзі выратавалі. Здольныя насіць зброю таксама пойдуць у раён цытадэлі, калі не ўзнікне неабходнасць уступіць у бой тут, каля вёскі, ці ў самой вёсцы.

Вось, нарэшце, і шапка... Так, гэта яго шапка, пашытая не так даўно па заказу. Надзеў яе на галаву, і стала да болю цяжка ў грудзях. Ён паўзе цяпер не наперад, а назад, нібы ў спалоху, нібы ў маладушнасці.

Перапыніла злёгку пратаптаная і не ўсюды знявечаная выбухамі сцяжынка, яна вяла на заставу. Чарапанаў пазнаў яе. Колькі разоў ён імчаўся па гэтай сцяжынцы на кані!

Зашчымела, затрапяталася сэрца ад цяжкіх, балючых успамінаў пра тыя шчаслівыя часы. Цяпер — нікуды ад гэтай сцяжынкі: толькі па ёй і толькі наперад!.. Устаць бы ды пайсці, ды пабегчы, як раней... Але нават на коленцы ўзняцца нельга, змрок валіць на зямлю, і вочы запłываюць жудаснай цемраю.

Па гэтай, некалі светлай і шчаслівай, а цяпер пакутніцкай дарозе яшчэ сустракаліся забітыя пагранічнікі. «Абавязкова пахаваць іх. Абавязкова! У вёсцы павінны быць людзі... Хоць некалькі чалавек... Сказаць ім, паказаць, папрасіць!.. І самі яны пойдуць, калі даведаюцца...»

Сустрэўся свежы насып, а на ім два бярозавыя колікі, збітыя накрыж. Гадаць няма чаго, гэта нямецкая магіла. Бач, д'яблы, яны сваіх дык пахавалі!.. На нашай зямлі крыжы ставяць, як на сваёй!

Чарапанаў уткнуўся галавою ў насып, лёг на свежы пясок грудзямі, каб крыху адпачыць, даць адамлець рукам і нагам. Потым рашуча ўзняўся і, пакуль шуганула ў вочы цемра, зваліў крыж і адкінуў яго за насып. «Калы тут будуць стаяць, а не крыжы!.. Асінавыя калы!..»

...Пад вечар пажар у вёсцы ўціх. Можа, усё згарэла і больш няма дзе агню разгуляцца?.. Колькі ж гэта часу прайшло на той сцяжынцы, якую раней прабягаў за некалькі хвілін? Што далей, то ўсё цяжэй паўзці, сіла не прыбаўляецца, а якая і была,

то пачынае меншаць. Мучыць смага, і быццам бы голад ці проста адчуванне нуднай пустаты ва ўсім целе. Ці ёсць хто ў вёсцы?.. Дзе цяпер Каця? Ці асталася яна жывая?.. Ці сустрэне, як раней?..

Мільганула і апаліла нутро ўяўленне блізкай сустрэчы... Якая ні будзе гэтая сустрэча, каб толькі яна была... Каб толькі знайсці тую, што ўвесь час у думках, у сэрцы, у душы, што на хвіліну не пераставала хваляваць, трывожыць нават вось у гэтыя, самыя цяжкія ў жыцці часы. Не выпадковы гэты чалавек, не часовы; гэта — самае светлае, што калі-небудзь было і што ёсць у жыцці, гэта чыстае сумленне, адданасць, сапраўдная надзейная дружба, каханне. Гэта — жонка!

...У вёсцы зусім сцямнела, і зусім аслабелі сілы. Дапаўзці б да школы! Марачэнне ў галаве становілася пагражальным, небяспечным. Зямля пачала круціцца і варочацца пад грудзьмі, ужо цяжка было не толькі сабраць сілы хоць для самага маруднага руху, а нават і для таго, каб выбіраць напрамак: можна і не заўважыць, як падасіся назад, а не наперад, або куды-небудзь убок.

...Знайшліся, на шчасце, добрыя людзі — тут амаль усе ведалі начальніка суседняй заставы. Добрыя людзі памаглі, далі ўтулак у пограбе, спатолілі смагу. Добрыя людзі, а можа, і не вельмі добрыя, сказалі, што адна з першых варожых бомбаў упала на школу. Вялікая была бомба... Ад малой пачатковай школы нічога не асталося: што драўлянае ўцалела, то згарэла.

...Ведаў Чарапанаў, што Кацін пакойчык з маленькім калідорчыкам быў пры школе... Можа, у гэтую ноч дзяўчына не начавала дома?.. Гэта была перадвясельная ноч.

Каб жа гэта было так ды на тое шчасце!.. А то ж памоўчвалі добрыя людзі пра Кацю, ведаючы, кім яна была для маладога лейтэнанта, начальніка пагранічнай заставы. Толькі дзеці... Яны таксама добрыя, як і іх бацькі, але ж гэта дзеці. Яны сказалі назаўтра, калі Чарапанаў крыху апрытомнеў ад першай весткі, што ўчыцельку разнясло бомбаю і што толькі адну яе руку і знайшлі на агародзе... А на руцэ — бліскучы пярсцёнак...

* * *

Так пачалася вайна на адной пагранічнай заставе. Так скончылася шчасце начальніка заставы. Акрыяўшы ў вёсцы, ён узяў з сабою жменьку застылага попелу з таго месца, дзе некалі быў Кацін пакойчык, і, пераапрануўшыся ў цывільнае, рушыў у дарогу. Спачатку быў у яго цвёрды намер дабрацца да цытадэлі і далучыцца да тых герояў, але перад ноччу, калі ён выйшаў з вёскі, ужо не чутно было грымотаў у тым раёне. Гэта насцярожвала і азадачвала. Падышоўшы бліжэй, даведаўся ад людзей, што цытадэль ужо занята ворагам.

Павярнуў на ўсход з надзеяй выбрацца з тылу ворага, перабрацца цераз фронт да сваіх. Не выбраўся. Паступова ўсталявалася перакананне, што не толькі ў гэтым яго воінскі абавязак: можна змагацца з ворагам і тут, у тыле ворага. У вандроўках зблізіўся з некаторымі, такімі ж, як сам, акружэнцамі, з мясцовымі падпольшчыкамі і астаўся ў партызанах. Праваяваў у тыле ворага ўсю вайну, дайшоў да камандзіра партызанскай брыгады, а пасля вызвалення Беларусі, ужо з кадравымі войскамі, дайшоў да Берліна. Потым зноў граніца, ужо не заходняя, а самая ўсходняя. Потым — яшчэ граніца, самая паўднёвая. Потым — запас.

І вось палкоўніцкія формы, палявая і парадная, вісяць у шафе. І вось думы-ўспаміны аб мінулым займаюць іншы раз большую частку сутак. Нарэшце палкоўнік Чарапанаў надзеў сваю палявую форму і падаўся ў доўгую вандроўку па месцах мінулай службы, мінулых баёў. Паехаў, вядома, спачатку на заходнюю граніцу, на былую сваю заставу.

* * *

Застава перамясцілася трохі ў левы бок ад таго месца, дзе яна некалі была. Вёска асталася на тым жа месцы. На тым самым месцы была і школа, толькі не пачатковая...

У двары гэтай школы, пад засенню густых ліп, стаяў сціплы мармуровы помнік: тут магіла Каці. Нічога асаблівага не было напісана на гэтым пом-

ніку: толькі прозвішча і імя ды яшчэ тое, што загінула дзяўчына ў першыя дні вайны. Але помнік гэты быў увесь абкладзены прынесенымі кветкамі і вянкамі. Раслі тут і пасаджаныя кветкі, хораша дагледжаныя: у школе быў адзін піянерскі атрад, які насіў імя настаўніцы.

Колькі быў у тых месцах Уладзімір Іванавіч, то кожны дзень зранку ці пад вечар наведваў гэты помнік. Стаяў доўга, трымаючы фуражку ў руках. А іншы раз сядзеў, задумліва, панурыўшы галаву. Пасядзець тут таксама было на чым: школьнікі нарабілі, нафарбавалі лавачак ды паставілі іх вакол помніка.

У гэты час, калі палкоўнік Чарапанаў стаяў ці сядзеў каля помніка, ніхто не падыходзіў да магілы, каб не перашкаджаць яму. Нават самыя непаседлівыя і шумлівыя на перамене вучні (у школе яшчэ ішлі заняткі) раптам прыціхалі, убачыўшы на запаветным месцы знаёмую постаць з палкоўніцкімі пагонамі. Усе тут ведалі, кім была нябожчыца для гэтага пажылога вайскоўца, усе ведалі, кім тут быў некалі лейтэнант Чарапанаў і як змагаўся супраць акупантаў у першыя гадзіны варожага нападу. Нехта выведаў нават і тое, што Уладзімір Іванавіч з таго трагічнага часу так і астаўся адзінокім.

Многа перажыта за ўсе мінулыя гады, ваенныя і пасляваенныя. Колькі шляхоў, колькі дарог сходжана і пераходжана, колькі ўсялякіх людзей сустракалася на гэтых шляхах-дарогах! Сярод добрых людзей былі шчырыя таварышы, адданыя сябры, душэўныя і сардэчныя. Былі сярод іх і жанчыны. Але ніхто ні разу не займаў у душы і ў сэрцы нязменнага месца Каці.

...Ішоў на захад фронт... Цэлыя дні і ночы без сну і адпачынку даводзілася ісці, паўзці, бегчы, ехаць, стаяць, ляжаць са зброяй напагатове. Здавалася, што за адну хвіліну спакою жыццё аддаў бы, што яшчэ крыху такога накалу, такога бязлітаснага напружання — і не вытрымаеш, зваліўся, сэрца спыніцца.

На тэрыторыі заставы стаяў вялікі белы абеліск. На ім залатымі літарамі было напісана, што тут загінулі старшына Цімошчык і трыццаць невядомых

пагранічнікаў. Як гэта невядомых? Ад такога надпісу аж у вачах пацямнела ў Чарапанава, калі ён першы раз падышоў да абеліска. Тут ніводнага не было невядомага, тут кожнага ведалі і па прозвішчу і ў твар. І не толькі на самой заставе. Тут не полк стаяў, не дывізія, а ўсяго адна застава. Калі не захаваліся паслужныя спіскі, то яшчэ жывуць у вёсках тыя людзі, якія ведалі амаль усіх пагранічнікаў.

Няўжо і Новікава няма, ніхто і пра яго не ведае? А пра Храмцова? Хіба ім удалося ўратавацца і пакінуць гэтыя месцы? Уладзімір Іванавіч успомніў, што некалькі разоў пасылаў запросы наконт іх ва ўсе магчымыя інстанцыі. І кожны раз атрымоўваў паведамленні, што гэтыя воіны загінулі ў баях у самыя першыя гадзіны вайны. Чаму ж гэта і іх прозвішчаў няма на абеліску? Няўжо і яны лічацца невядомымі?

...Праляцеў бусел над самым абеліскам... Праляцеў ціха, без клёкату, без свісту крыламі, але Чарапанаў заўважыў яго. Заўважыў і адчуў двайную ўдзячнасць шчасліваму выпадку: па-першае, за тое, што за многія гады ўпершыню ўбачыў бусла; па-другое, напэўна ж недзе тут паблізу яго буслянка, калі ляцеў так нізка і павольна. Можа, нават на тым самым дубе з вялікім дуплом?..

Яскрава і свежа, нібы ўсё гэта было зусім нядаўна, зноў успомніліся першыя эпізоды вайны, нават стукат Новікавага кулямёта выразна даляцеў аднекуль, і рэха ад яго пайшло па лесе, як у тыя трагічныя, ніколі не забыўныя гадзіны.

Уладзімір Іванавіч адышоў ад абеліска, каб зручней было сачыць, куды паляцеў бусел, але хутка высокі сасновы лес закрыў гэты добразычлівы палёт. Хто ведае, куды можа заляцець вольны, натурысты птах? Магчыма, што і за граніцу, забароны яму няма.

Расчараванне яшчэ не паспела ўвайсці ў сілу, як пачулася недалёкае клекатанне: не трывожнае, не сігнальнае, як многа год таму назад, а спакойна-ласкавае, сямейнае, быццам бы нават інтымнае. Уладзімір Іванавіч шпаркім крокам рушыў туды.

Шматвекавы дуб велічна і самавіта ўзвышаўся над усім тутэйшым лесам, як і некалі перад вайною.

Уладзімір Іванавіч яшчэ здалёк заўважыў, што прыгранічны волат пагусцеў за мінулыя гады, буслянка ледзь толькі чарнела сярод раскошнай лістоты. А калі пагусцеў, то і раздаўся ўшыркі, прыбавіў росту ўгору. А як у камлі? Тут дык наўрад ці заўважыш змены. Тут паглядзець бы, як залячыліся раны, бо разам з сержантам Новікавым гэты дуб-волат першы прыняў на сябе варожыя кулі і асколкі ад мін.

Падышоўшы бліжэй, Чарапанаў убачыў, што побач з дубам стаіць прыгожы каменны помнік, абгароджаны ажурнай, чыста і старанна пафарбаванай у блакітны колер рашоткай. «Тут пахаваны,— было напісана на помніку,— старшы сержант, пагранічнік Аляксей Новікаў, які гераічна загінуў, стрымліваючы фашысцкіх захопнікаў, у першы дзень вайны».

«Тут пахаваны...» — міжвольна адзначыў сам сабе Чарапанаў. Значыць, знайшлі, даведаліся, высветлілі ўсё, што трэба. Пэўна ж, і іншых можна было знайсці!.. Іх неабходна знайсці!

Як жа ўсё-такі дасведчылі, што тут змагаўся і загінуў менавіта Аляксей Новікаў, а не хто-небудзь іншы? Гэта зацікавіла Чарапанава аж да ўзрушанасці, да хвалявання, і ён вырашыў неадкладна распытаць аб усім. Пайшоў зноў у вёску, спадзеючыся пачуць змрочную праўду ад старажылаў. Але пра гісторыю Новікава ўжо ведалі і на заставе, і, напэўна, усюды ў гэтых месцах. Ды не толькі ў гэтых! Пра яго гаварылі, як пра жывога, быццам ён увесь час стаяў і цяпер стаіць са сваім ручным кулямётам каля дуба-волата. І дуб гэты ўсе цяпер завуць дубам-крэпасцю, а часцей за ўсё — дубам Новікава.

Што ж гэта за гісторыя?

...Аляксей Новікаў вельмі хутка страціў свайго памагатага — другі нумар быў забіты ў часе самай першай схваткі. На працягу шасці гадзін трымаў абарону ў поўнай адзіноце, без нічыёй дапамогі. Калі стала відаць, што з-за дуба ўжо немагчыма весці агонь, немцы пачыналі акружаць, ён залез са сваім кулямётам і запасам дыскаў у дупло дуба і раз-пораз даваў меткія чэргі адтуль. Немцы доўга не маглі падступіцца да гэтай незвычайнай цытадэлі, і іхняя

самая зручная пераправа для пяхоты і тылавых часцей станавілася ўсё больш небяспечнай.

Новікаў быў выдатным стралком. Гэта потым вызначылі людзі па колькасці забітых фашыстаў на перамеле і па ўсім узлеску каля дуба-волата.

Захапілі Новікава пасля другога цяжкага ранення, амаль у непрытомным стане. У кулямётных дысках ужо не было ніводнага патрона. З нямецкага штаба, які размяшчаўся ў манастыры, што стаяў за ракою, паступіла распараджэнне даставіць палоннага туды. Даставілі, там дапытвалі, але нічога не дамагліся: нават прозвішча свайго кулямётчык не назваў. Дакументаў у яго таксама ніякіх не знайшлі, відаць, Новікаў знішчыў іх ці закапаў пад дубам. Зняможанага, ледзь жывога, немцы кінулі савецкага воіна ў сутарэнне манастыра і там закрылі на замок. Звычайны пагранічнік, хоць і савецкі, хоць і вельмі мужны, не надта цікавіў іх нават і жывы, а ў непрытомным, перадсмяротным стане і зусім не цікавіў. Ведалі фашысцкія злыдні, што жыць яму асталося нядоўга.

Тут, можа, быў бы і канец усяму, і не было б ніякай легенды пра Новікава. Даведаліся б нашы людзі пра подзвіг сержанта ці не даведаліся б — цяжка сказаць. Магчыма, што нехта палічыў бы яго палонным. Можа, трапіў бы ён у спісы загінуўшых без вестак, і тады на абеліску, што стаіць на тэрыторыі заставы, прыбавілася б яшчэ адна ўмоўная адзінка.

Лёс Новікава павярнуўся інача, і памог гэтаму даволі незвычайны ў тых умовах, а калі глядзець па-чалавечы, то зусім звычайны выпадак. Што фашысты зрабілі з Новікавым і куды яго дзелі, падгледзеў адзін стары служка манастыра. Падабраўшы ключы ад таго склепа, дзе ляжаў савецкі воін, стары непрыкметна спусціўся туды, каб хоць чым-небудзь памагчы чалавеку: падаць вады, перавязаць раны, падкласці, што знойдзецца, пад бок.

Так некаторы час гэты дзядок і ратаваў савецкага пагранічніка: як мог падлечваў яго, падтрымліваў студзёнай вадою, прыносіў сёе-тое з харчоў. Але раны ў Новікава былі такія, што іх нельга было вылечыць саматужным чынам, ды яго яшчэ і фашысцкія катаванні знясілілі. Аляксей рэдка калі прыхо-

дзіў у прытомнасць, а калі прыходзіў, то адчуваў, што гэты стары чалавек пры ім не ад немцаў тут, а па сваёй душы. Такому чалавеку можна верыць, можна было б і даручыць што-небудзь важнае, неабходнае, паспадзявацца на яго дапамогу. Але што даручыш, калі апошнія сілы пакідаюць, калі агонь прысмяротнай гарачкі туманіць, зацямняе свядомасць.

І ўсё ж Аляксей даў даручэнне незнаёмаму чалавеку: ён назваў яму свае прозвішча і імя, сказаў, адкуль родам і дзе жывуць яго бацькі. На наступныя словы ў яго ўжо не хапіла сілы, але стары зразумеў, для чаго савецкі салдат перадаў яму тое, чаго не сказаў немцам пры самых жорсткіх катаваннях...

Калі Новікаў памёр, стары ноччу, асцерагаючыся немцаў і некаторых іншых нядобрых вачэй, пахаваў яго ў малапрыкметным кутку манастырскага двара. Пахаваў, а сам некалькі год насіў у памяці воблік гэтага юнака, яго імя і ўсё чакаў, шукаў зручнага выпадку, каб перадаць гэта каму-небудзь надзейнаму па той бок граніцы.

Годы ішлі, служка манастыра яшчэ больш старэў, часта стаў занемагаць, і неадчэпная думка аб тым, што ён памрэ і не выканае перадсмяротнага запавету савецкага воіна, страшэнна мучыла яго, не давала спакою. Па старасці сваёй, ды, можа, і па недастатковай вопытнасці, чалавек не мог знайсці пэўнага і надзейнага спосабу перадаць вельмі важную і патрэбную вестку. Так яна і жыла пры ім аж да таго часу, пакуль не наведаліся ў тыя месцы першыя савецкія людзі. Стары паляк паведаміў ім усё, што ведаў пра Новікава, і паказаў, дзе ён пахаваны.

Так ажыў, асвятліўся і ўзнёсся лёс героя. Яго астанкі былі перазахаваны на тым месцы, дзе пагранічнік праявіў надзвычайную стойкасць, гераізм, бязмежную адданасць сваёй Радзіме.

Бацькі героя не дачакаліся весткі пра сына, памерлі да таго, як імя Новікава стала легендарным. А браты прыязджалі ў час перазахавання. І цяпер прыязджаюць на заставу кожны год.

...Палкоўнік Чарапанаў ледзь не са слязамі на вачах слухаў пра ўсе падрабязнасці гэтай слаўнай,

цяпер усім тут вядомай гісторыі. Незвычайная трагічнасць усяго пачутага балюча хвалявала яго, але побач з успамінамі пра былую сумесную службу ўзнікала і адчуванне гонару за свайго прыяцеля-саслужыўца. У тыя даваенныя часы начальнік заставы ўвесь час неяк быццам міжвольна цягнуўся да пагранічніка Новікава, часта лавіў сябе на тым, што пераймае некаторыя яго звычкі, манеры, што калі стаіць перад строем, то больш, чым на ўсіх, паглядвае на яго, калі гаворыць або дае настаўленні ці заданні, то часам звяртаецца да Новікава і заўсёды прымае на веру тое, што скажа ці параіць гэты вопытны і разважлівы пагранічнік.

Імпанавала Чарапанаву і тое, што Новікаў у мінулым — звычайны вясковы хлопец. Да службы ён скончыў настаўніцкі інстытут, нейкі час выкладаў у школе гісторыю і геаграфію. У гэтых навуках ён быў намнога мацнейшы за начальніка заставы і за Храмцова. Са шчымлівай усмешкай цяпер успаміналася Уладзіміру Іванавічу, што калі ён сам адносіўся да гэтага з павагай і стрыманым прызнаннем пераваг Новікава, то Храмцоў заўсёды насцярожваўся.

Гэта ўспаміны, гэта мінулае... Цяпер няма ні Новікава, ні Храмцова. Пра малодшага лейтэнанта нават і не чутно нічога: ні ў вёсцы, ні на заставе ніхто нічога не гаворыць пра яго. А сержант Новікаў — у легендах людскіх. Да дуба-крэпасці цяпер ходзяць экскурсанты, нават замежныя турысты, як і да суседняй слаўнай цытадэлі.

...Пайшоў яшчэ раз да Новікавага дуба і Уладзімір Іванавіч. Наслухаўшыся пра многія дэталі гэтага надзвычайнага, слаўнага подзвігу, яму хацелася сваімі вачамі больш уважліва агледзець і сам дуб і ўсё каля дуба, каб па пэўных прыкметах дакладней уявіць, як усё гэта ў той час адбывалася.

Дуб, сапраўды, нібы самой прыродай быў створаны так, каб па праву называцца цытадэллю. У яго дупле можна даволі вольна размясціцца чалавеку. Так, нялёгка было пражыць гэтаму дубу свае стагоддзі... Магчыма, што сотні буслянак віліся на падатлівых і вельмі зручных разгалінах гэтага дуба. Сотні пакаленняў буслоў выveліся тут. Але ў памя-

ці людской астанецца тая буслянка, якая была пранізана варожымі кулямі ў першы досвітак вайны, і той бусел, які сваім трывожным клекатаннем абвясціў аб варожым нашэсці на нашу зямлю. Астанецца і імя Аляксея Новікава, якое прысвоена лясному волату нашымі, савецкімі людзьмі.

* * *

У суседнім горадзе, у пагранатрадзе, Чарапанава пазнаёмілі з маладым, але ўжо трохі лысаватым лейтэнантам, назваўшы яго галоўным і нястомным шукальнікам. Што ён шукае — нават не палічылі патрэбным растлумачыць, бо ўсе тут былі заклапочаны адным шуканнем — імёнаў тых, што загінулі ў першых схватках з гітлераўцамі, іх асабістых рэчаў, зброі і ўсялякіх іншых адзнак, якія маглі б памагаць, садзейнічаць гэтым пошукам. Сам жа лейтэнант успрыняў дадзеную яму характарыстыку даволі халаднавата і, казырнуўшы палкоўніку, выразна падкрэсліў, што ён — памочнік начальніка палітаддзела атрада па камсамольскай рабоце. Прозвішча сваё назваў няпоўна і глуха, нібы праглынуўшы яго ў вялікім і раптоўным хваляванні.

— Прабачце, таварыш лейтэнант,— загаварыў палкоўнік, адчуваючы няёмкасць ад свае, можа, на гэты раз і паспешлівай цікаўнасці.— Вы амаль што не назвалі свайго прозвішча, а мне хацелася б...

— Завіце мяне проста — Мікалай,— ледзь не перабіўшы Чарапанава, сказаў лейтэнант.— Можна нават — Коля. Вы ж бачыце, я вашым сынам мог бы быць, а то нават і ўнукам.

— Наконт унука — трохі залішне,— добразычліва заўважыў Уладзімір Іванавіч.— А сынам — канечне... Сынам...— Чарапанаў раптам перапыніўся, нібы абдумваючы, гаварыць далей тое, што набягае на душу, ці не гаварыць.

— Я ведаю ўсю вашу гісторыю,— нечакана для яго заявіў лейтэнант.

— Ад каго вы чулі пра мяне? — спытаў Чарапанаў і не здолеў прыхаваць хваляванне і цікаўнасць. Ад гэтага пачырванеў.

— Ад каго? — перапытаў лейтэнант.— Ад усіх!

Цяпер ужо не магу сказаць канкрэтна. Я ведаю вас з таго часу, калі пачаў нешта разумець, сваімі вачамі глядзець на свет. Я рос тут, гадаваўся... Чуў пра вас многа, а бачу ўпершыню. Пойдзем адсюль, а то тэлефонныя званкі...

Яны выйшлі са штаба. Непадалёку быў даволі цяністы гарадскі скверык з натуральнымі, нацвёрда вытаптанымі дарожкамі; тут можна было спакойна пахадзіць, пагаманіць — людзей ужо не было, гараджане разышліся па сваіх службах і работах.

— Тая сям'я, што я вырас,— лейтэнант стаў расказваць далей,— жыве і цяпер... Яна ў той вёсцы, якую вы добра ведаеце: некалі там стаяла драўляная пачатковая школа. Але гэта не родная мая сям'я... Роднай сям'і ў мяне няма, бацькі мае загінулі...— Лейтэнант прыпыніўся, уважліва і нібы з нейкім патрабаваннем паглядзеў на Чарапанава.— Тут загінулі! Бацька ў першы дзень вайны... Больш таго — у першыя гадзіны вайны... І прозвішча маё Храмцоў! Далей, я спадзяюся, не трэба вам расказваць?

Чарапанаў аж прыўзняўся, з парывам ухапіў лейтэнанта за руку і ў першыя моманты толькі паціскаў яе, трос, гладзіў, а вымавіць нічога не мог.

— Ко-о-ля?! Няўжо гэта ты?.. Няўжо сын Храмцова?

— Кажуць людзі, што так яно і ёсць,— адказаў лейтэнант.— А сам я свайго бацькі не памятаю. Доўгі час я лічыў сваімі бацькамі тых добрых людзей, якія мяне выгадавалі. Яны і цяпер лічаць мяне сваім сынам: вось калі заўтра, у выхадны, не пакажуся дома, то нехта з іх прыедзе на адведкі.

Яны селі на ўтульную лавачку паміж двума кустамі жоўтай, крышку прыпыленай акацыі. Гэтыя кусты ўжо зацвіталі і пахлі хоць і не надта духмяна і прыемна, але ўсё ж нагадвалі пэўную пару лета. Мікалай пакратаў жоўтыя гронкі і задумліва сказаў:

— Гэта заўтра і будзе той дзень, калі фашысты напалі на нас.

— Так,— ціха пацвердзіў Уладзімір Іванавіч.— Больш як чвэрць веку таму назад. Табе колькі было? Эх, ды што гэта я... Мабыць, і года яшчэ не было... На руках маці няслі...

Мікалай невыразна кіўнуў галавой, але не зага-

варыў, на яго чыстым падзагарэлым твары мільгнула рыска нездаволенасці: відаць, ён не хацеў, каб гаворка заводзілася наконт яго самога. Заўважыўшы, што Чарапанаў не збіраецца закідваць яго рознымі пытаннямі, ён пачаў выказваць тое, што яго асабліва цікавіла, хвалявала, а часамі, напэўна, і мучыла:

— Яшчэ з сувораўскага вучылішча я хацеў ехаць да вас...— Голас яго трошкі перацінаўся ад узрушанасці і цяжкасці ўспамінаў.— Дазнаўся, што вы сярод нямногіх... вельмі нямногіх пагранічнікаў тае заставы асталіся жывым, што служыце на ўсходняй граніцы... І цягнула мяне пабачыцца з вамі... Вы служылі разам з маім бацькам... У тыя цяжкія гадзіны таксама былі разам... Можа, вы што новае і важнае знаеце пра яго? Тое, пра што ніхто не знае, чаго і я не знаю... Асабліва пра яго гібель... Ён загінуў у тым самым баі, у якім былі і вы. Як ён загінуў?.. Пры якіх абставінах? Як гэта здарылася?..

Гаварыў Мікалай, нібы распытваў, нібы паведамляў, і перапыняўся ледзь не на кожным слове, напэўна, спадзеючыся, што Чарапанаў не дачакае канца гэтага маналога і сам уступіць у размову, скажа нешта значнае, вельмі чаканае, неабходнае. Але палкоўнік задумліва і панікла маўчаў. Ён, відаць, намагаўся ўспомніць што-небудзь патрэбнае і суцяшальнае для гэтага растрывожанага пакутлівай нявпэўнасцю хлапца, і нічога не прыходзіла на памяць, акрамя трывожнага і адчайнага жаночага крыку, які раптам узнік тады на левым фланзе і разнёсся па ўсім наваколлі, нават заглушаючы страляніну.

Гэта яго маці крычала, мабыць, трымаючы яго на руках...

Успомніўся таксама рэзкі і пранізлівы крык дзіцяці... З гэтым крыкам у вушах ён, Чарапанаў, упаў у цяжкую непрытомнасць ад кантузіі. Гэты крык доўга чуўся ў вушах і потым, калі пачынала вяртацца прытомнасць.

Напэўна, гэта малы Міколка крычаў.

— Мне, у той час падлетку,— пачаў лейтэнант гаварыць далей,— вы маглі і не сказаць усёй праўды. Магчыма, яна была горкая, гэтая праўда, суровая і бязлітасная для дзіцячага сэрца. Цяпер вы мо-

жаце сказаць мне ўсё, што ведаеце... Нават тое, што адчуваеце, мяркуеце... Нават і тое, у чым вельмі сумняваецеся, але дапускаеце, што так магло быць.

— Я нічога не магу сказаць!..— раптам прамовіў Чарапанаў і дружалюбна павярнуўся да лейтэнанта.— Акрамя таго, што малодшы лейтэнант Храмцоў загінуў у баях, як загінулі тады, на жаль, вельмі многія з нашых. Ён з групай пагранічнікаў быў тады на левым фланзе... Маці твая таксама была з ім... З табою таксама... Потым мяне цяжка кантузіла... Як цяпер мяркую, дык гэта быў зусім блізкі выбух міны, а можа, і снарада: супроць нас немцы павярнулі танкі. Аднаго не магу даравацъ сабе, як цяпер ацэньваю: трэба было пашукаць Храмцова сярод забітых ці параненых. Але абставіны былі такія... Ды і сам нібы з таго свету ўстаў... І раней, і цяпер, як ні намагаюся дакладна ўявіць, што было навакол пасля таго, як вярнулася мая нейкая прытомнасць, многа чаго не магу ўспомніць: правалы ў памяці, туман засцілае падзеі. Толькі адно заўсёды ў галаве: загінула амаль уся застава! Загінула ў такіх цяжкіх баях, што нават цяпер жудасць бярэ, калі пачынаеш успамінаць. І ні адзін пагранічнік не збаяўся глядзець смерці ў вочы: ішоў на танкі, на мінамёты. Помняцца мне, уяўляюцца гэтыя людзі ўвесь час. Жыць спакойна не магу, сумленне мучыць, што да гэтага часу амаль нічога не ведаю пра іх. У тым ліку і пра твайго бацьку.

— Так, так...— зноў няпэўна азваўся лейтэнант.

— Я прыехаў сюды,— працягваў палкоўнік, усё больш хвалюючыся,— каб памагчы вам чым можна... І Храмцова і іншых сваіх саслужыўцаў я знайду!.. Тут яшчэ павінны жыць людзі, якія яго ведалі. Нашых пагранічнікаў жывых знайду... Ды і маці твая... Яе таксама тут амаль кожны ведаў.

— Гэта праўда,— пацвердзіў Мікола і панікла задумаўся.— Тое, што людзі ведаюць, і нам вядома.

— Дык чаму ж?..— Уладзімір Іванавіч не здолеў стрымаць абурэнне.— Чаму да гэтага часу нідзе нічога, ну хоць аб Храмцове? Што, і ён загінуў без вестак? Дык я яго сам тут бачыў, на полі бою!

— Весткі ёсць,— сумна ўздыхнуўшы, прамовіў лейтэнант.— Але вельмі невясёлыя. Весткі ёсць і аб

тым, што мой бацька... Мой бацька рашыўся на самагубства. Цяжка ўявіць, як гэта здарылася, пры якіх абставінах, у якім псіхалагічным стане. Але гэта было. Ёсць людзі, якія гэта бачылі. Ёсць людзі, якія гэта чулі ад мае мацеры.

Чарапанаў глядзеў на Міколу з такім здзіўленнем і нібы спалохам, быццам не верыў не толькі сваім вушам, а і вачам: не, гэта не сын Храмцова, гэта не Мікола, не той самы Коля, якога Чарапанаў ведаў яшчэ зусім маленькім! Гэта не ён гаворыць, гэта чужы і злосны чалавек!.. І гаворыць ён ад злосці.

...Раптам у вушах зноў той жудасны крык жанчыны... З усёй сваёй бязмежнай трывогай. Сказаць пра гэта Мікалаю ці не сказаць?.. Магчыма, што гэта яшчэ адзін нейкі доказ? Патрэбен ён сыну ці не патрэбен? Можа, у яго ўжо многа доказаў, а можа, і ніводнага зусім пэўнага... Тады няхай не ведае і пра той нечаканы, незразумелы крык і плач мацеры. Няхай лепш сумняваецца, калі не можа цвёрда верыць у тое, у што ўсёй душой хацеў бы верыць. Хто ведае, ад якой кулі загінуў чалавек: напэўна ж, ад варожай. Хто мог заўважыць у такім цяжкім баі, ад чаго ўпаў воін, хто мог падумаць, што не ад ворага?

Уладзімір Іванавіч наважыўся памагчы Міколу развеяць цяжкую падазронасць, якая, мабыць, ужо даўно мучыць яго і што далей, то ўсё больш развярэджвае душэўную траўму. Ці хопіць для гэтага пераканаўчых доказаў, патрэбных слоў? Сам жа не быў у той час каля Храмцова жывога. Пазней не здолеў знайсці яго сярод нежывых!..

Але ж і процілеглыя меркаванні, напэўна, не маюць вагавітых падстаў.

— Ты не павінен так думаць! — сказаў Чарапанаў цвёрда і ўнушальна.

Мікола адразу ж падаў стрэчнае пытанне:

— А вы можаце думаць інакш? Вы ж яго зналі, вы былі разам!

Чарапанаў на момант замяўся, мільгнулі ў памяці рыжаваты вожык з дробнымі шыпулькамі наверсе, разгубленыя, страчаныя вочы... У той жа час прыгадалася і тое, што Храмцоў з першай хвіліны суровай небяспекі быў на баявым пасту, што яго становішча, як сямейнага чалавека, было самае склада-

нае на ўсёй заставе, але ён не вымагаў палёгкі з-за гэтага, ні на адну хвіліну не пакідаў баявых пазіцый.

— Так, я думаю іначай! — пацвердзіў палкоўнік.— І хачу, каб ты згадзіўся са мною. Храмцоў не мог пайсці на гэта хаця б з-за таго, што побач былі жонка і сын. Уяві сабе — хіба гэта магчыма?

— Уявіць сапраўды не магу,— згадзіўся Мікола.— Праз гэта нямала пакутую. А фактам веру. Нікуды не дзенешся ад праўды, хоць яна і вельмі балючая.

— І пра маці я пакуль што нічога не ведаю,— апалым голасам прамовіў Чарапанаў.— Раскажы хоць трохі, калі можаш.

— Маці я не віню,— чамусьці замест расказу нечакана заявіў Мікола.— Тым больш што, як потым паказала жыццё, мая маці была даволі смелая і адважная жанчына. Амаль з першых дзён вайны яна пайшла ў партызаны... Са мной разам, так што і мяне лічыце партызанам. Хадзіла на заданні нават сюды, у горад. Нарваўшыся аднаго разу на засаду, адбівалася да апошняга патрона, да апошняй гранаты... Сама была паранена, але ўсё ж уратавалася, дапаўзла да сваіх. Лячылася потым у лясным шпітальчыку. У час блакады немцы падпалілі гэты шпітальчык, бо пабаяліся туды падходзіць. Маці абгарэла, але зноў выратавалася ў балотным калодзежы. Жыла потым з гарэлінамі на руках і нагах, але зноў хадзіла на заданні. Яна ведала амаль усё падполле горада, а калі здарылася так, што яе ўсё ж схапілі, не выдала нікога. Ніякая сіла не зламала яе, нават страх смерці. Яе расстрэльвалі два разы: адзін раз нібыта ўмоўна, для страху... Другі раз...— Ён прымоўк на хвіліну і, ужо ідучы ў напрамку штаба, дадаў: — Потым мы з вамі паедзем на вашу заставу, калі вы не вельмі абмежаваны часам.

— Я магу прабыць тут, колькі спатрэбіцца.

— От гэта добра!

Мікола паступова пачынаў ажыўляцца, вочы павесялелі, з твару знікла змрочнасць, відаць, новая думка, новы намер вельмі захапілі яго. Дакрануўшыся да рукава старанна адпрасаванай палкоўніцкай рубашкі, ён памяркоўна загаварыў:

— Вы не памаглі мне хоць трохі прыўзняць,

апраўдаць майго бацьку. Не здолелі памагчы, гэта не ваша віна. Але я адчуваю, што вы паможаце нам расшукаць, выявіць, а можа, па якіх прыкметах і апазнаць тых герояў-пагранічнікаў, якія да гэтага часу астаюцца невядомымі. Не павінна быць такіх невядомых! Гэта першыя воіны, якія грудзьмі сваімі засланілі ад ворага родную зямлю. Я за тое, каб у нас наогул не было невядомых людзей: ні сярод жывых, ні сярод мёртвых!

— Буду памагаць, як толькі змагу і чым змагу! — запэўніў Чарапанаў.— Я даўно марыў пра гэта, і думкі пра паплечнікаў, равеснікаў маіх, якія тут аддалі сваё жыццё, яшчэ толькі пачаўшы жыць, усе апошнія гады не давалі мне спакою. Я рад, што знайшоў цябе, сустрэўся з табою.

— Калі гаварыць шчыра, то я таксама,— напаўголасу прамовіў Мікола.— Росшукамі герояў першых баёў мы займаемся тут усе: не толькі нашы вайскавікі, камсамольцы, а і ўвесь раённы, абласны камсамол, піянеры, школьнікі. Вы будзеце вялікай падмогай для нас. На суседніх заставах вы таксама ж ведалі некаторых?

— Многіх ведаў,— удакладніў Уладзімір Іванавіч.— І цяпер помню.

— Паедзем і на тыя заставы. Потым я вам пакажу яшчэ адно месца непадалёку ад вашай заставы. Нам адна бабулька падказала. Па ўсіх прыкметах можна меркаваць, што там пахаваны тыя тры безыменныя волаты-пагранічнікі, пра якіх даўно ходзіць слава ў народзе, але да гэтага часу невядома, хто яны, адкуль і дзе пахаваны. Гэта кулямётчыкі. Яны ўтрох некалькі гадзін стрымлівалі цэлае падраздзяленне акупантаў. Утрох! І амаль што на адкрытым месцы. Уявіце сабе! Новікавы, ды яшчэ, можа, больш! Вы знаді Аляксея Новікава?

— Найлепш! — пацвердзіў Уладзімір Іванавіч.— Ён быў маім добрым прыяцелем, нават другам.

— Былі каля дуба-крэпасці?

— Быў. Усе сцежкі цяпер вядуць туды, як і да тутэйшай цытадэлі.

— А ў гэтых хлопцаў не было ні дуба і ніякіх іншых укрыццяў, акрамя часовых акопчыкаў. Яны перакрылі акупантам асноўную дарогу і, пакуль

былі боепрыпасы, трымалі варожае падраздзяленне на грэблі паміж балотамі. Потым падпусцілі гітлераўцаў зусім блізка — тыя лічылі іх ужо мёртвымі — і кінуліся на ворагаў з аголенымі шашкамі ўрукапашную...

— Чуў я пра гэтых хлопцаў,— заўважыў палкоўнік.— Магчыма, што яны і сапраўды з нашай заставы, з групы Храмцова, якая была тады на левым флангзе.

— Гэта вельмі трэба ведаць! — з настойлівасцю гаварыў далей Мікола.— Не толькі нам, а ўсяму свету! Ходзіць і такая пагудка, праўда, не асталіся ў жывых людзі, якія маглі б яе пацвердзіць, што той фашысцкі камандзір, які вёў наступленне, загадаў потым выстраіць усе рэшткі свайго падраздзялення і падвесці да трупаў гэтых трох пагранічнікаў. Не з пашаны, вядома, не з павагі, а каб паказаць сваім, як умеюць змагацца, стаяць да апошняга і аддаваць сваё жыццё за Радзіму савецкія воіны.

...Палкоўнік Чарапанаў прабыў на сваёй заставе яшчэ некалькі дзён. І калі ішоў на станцыю, яму вельмі яскрава ўяўляўся велічны абеліск на тэрыторыі заставы і на ім золатам выпісаныя ўсе прозвішчы герояў-пагранічнікаў. Толькі Храмцова там не было. І нават месца для яго не асталося: ні ўверсе, ні ўнізе пад усімі, ні дзе-небудзь пасярэдзіне.

Уяўляўся таксама вечны помнік тром бессмяротным волатам. Гэта былі таксама яго пагранічнікі: сапраўды з левага фланга, сапраўды з групы Храмцова. Да гэтага помніка ішлі сцежкі: з поўдня, з поўначы, з усходу, з захаду, проста з акаляючых вёсак, проста ад усіх вялікіх дарог...

...Выязджаў Уладзімір Іванавіч не дадому. На яго вялікім маршруце ляжалі тыя памятныя франтавыя мясціны, дзе загінулі яго баявыя паплечнікі, сябры, тыя вёскі, пасёлкі і гарады, дзе жывуць былыя франтавікі, саратнікі і пабрацімы. У яго палявой сумцы была сціплая фатаграфія таго помніка, што стаяў у кутку двара вясковай школы. Гэта — адзіная жывая памяць аб яго даўнім шчасці, аб яго каханні...

# ШАСЦІТКА

Людзі прачыналіся ад яго голасу. Некаторыя з маркотнасцю і крыўдай, што перапыніў хоць і кволы бальнічны сон, некаторыя з адчуваннем прыязні да чалавека, з якім заўсёды можна адвесці душу ў жарце, у смяшлівай, хоць часам і не надта мілагучнай размове.

Праз адчыненыя дзверы свае палаты я іншы раз бачыў, як ён ішоў па калідоры і частаківаў галавою. Здаралася, што і вітанне яго даносілася ў палату. Голас моцны, барытоністы, як у спевака, а вымаўленне нібы дзіцячае: «Здльястуйце!»

— Мабыць, вельмі кампанейскі, ветлівы,— неяк заўважыў я, павярнуўшыся да аднаго са сваіх суседзяў, які ўжо займеў права выходзіць з палаты і шпацыраваць па калідоры.

— Наўрад,— усумніўся сусед.

— Чаму ж? Чуеце, як вітаецца з усімі, нікога не прапускае: з хворымі, з сёстрамі, нянькамі, афіцыянткамі.

— І ўсім ківае галавою?

— Ну, хаця б...

— Дык яна ў яго сама ківаецца.

Я змоўк. Хоць і ведаў ужо, што мой сусед вастраваты на язык і часам можа спаклёпнічаць, аднак спрачацца з ім не адважыўся, бо яшчэ не быў знаёмы з Шасціткам. Успомнілася тым часам, што барытон гэтага чалавека чуўся не толькі тады, калі ён вітаўся з сустрэчнымі, а пры ўсіх магчымых тут самадзейнасцях: падлічванні кілаграмаў і грамаў, калі хто станавіўся на медыцынскія вагі, пры каментарыях і дыскусіях па футболу, хакею і фігурным катанні, пры падрабязных разборах і ацэнках розных дыягназаў, кардыяграм і аналізаў, бо па медыцыне і літаратуры цяпер у нас амаль усе прафесары. Гаварыў ён больш і гучней, чым іншыя, але не абражаў слых глупствам ці недаравальнай вульгарнасцю.

І ўсё ж мой сусед часта кідаў:

— Чуеце? Шасцітка! — і паблажліва ўсміхаўся.

— За мною ў вайну чатыры ардынарцы хадзілі,— заявіў аднаго разу наш агульны кумір. Сказаў пра гэта моцна, на ўвесь калідор і з такой упэўненасцю, што наўрад ці асмеліўся хто сумнявацца. А мой сусед усё ж зазначыў:

— Хлусіць стары. Можа, і зусім на фронце не быў.

«А што, калі не хлусіць? — чамусьці падумалася мне.— Нясціплы падаў голас, залішне гучна, але ж, магчыма, гэта той самы крык душы, які пры пэўных умовах можа вырвацца ў кожнага чалавека».

Як толькі стаў на ногі, пацягнула мяне перш-наперш сустрэцца з Шасціткам, пагаварыць з ім і па магчымасці дазнацца, што гэта за чалавек: сапраўды трохі «мехам сцёбнуты», як сцвярджае мой сусед па палаце, ці выбраў сабе такую зручную ў гэтых умовах развязна-блазненскую ролю. Сустракаў жа я некалі такіх курортнікаў, якія ўвесь свой сезон не вылазілі са скуры цыркавых клоунаў, а на самай справе былі даволі сур'ёзныя і дзелавыя людзі.

Але мне не пашанцавала: выйшаў першы раз у калідор, а насустрач — Шасцітка, толькі злёгку прыкрыты мокрым ручніком.

— Васільеўна! — крычыць на ўвесь калідор.— Дзе ты дзелася, Васільеўна!

Я здагадаўся, што чалавек быў у ванне і там нечага не хапіла, дык ён шукае няньку, каб памагла.

«Няўжо ўсё ж такі сцёбнуты?» — мільгнула ў мяне думка, і нейк прыкра стала на душы ад гэтага меркавання: чаму такія людзі могуць мець вялікую папулярнасць сярод бліжніх, а ўдумлівыя і стрыманыя даволі часта астаюцца ў цяні?

Шасціткі я не закранаў некалькі дзён: сустракаліся на калідоры і моўчкі разміноўваліся — ён мне ні слова, а я — яму. Не ляжала ў мяне душа знаёміцца з дзівакаватым чалавекам, і зусім не было настрою падладжвацца пад тую хвалю ўзнёслай балбатні, якая амаль заўсёды ўзнімалася, калі ён з'яўляўся на калідоры. У той жа час заўважыў я, што Шасцітка крышку бянтэжыўся пры сустрэчы са мною і ў яго вачах мільгалі іскрынкі не то цікаўнасці, не то жадання прыыпніцца і загаварыць.

Нарэшце ён сапраўды спыніўся каля мае пала-

ты, сказаў мне «здльястуйце» і папрасіў дазволу спытацца пра адну абставіну.

— Калі ласка,— ахвотна згадзіўся я.

— Ці праўда, што вы, я чуў, родам са Старобіншчыны?

— Праўда,— адказаў я.

— А з якой вёскі?

Я адказаў.

— Дык я радзіўся і жыў у маленстве зусім побач з вамі. Значыць, мы не толькі землякі, а і суседзі. Вось якое супадзенне! Я рад з вамі пазнаёміцца.

І тут, на маё здзіўленне, чалавек пачаў гаварыць зусім нягучна і спаважна, не дапускаў ніякай вixраватасці ў выразах і нават стаў ужываць чыста беларускія, вясковыя словы. Мне здалося, што і шапялявіць ён перастаў. І голас яго гучаў роўна, спаважна і добразычліва.

Быў пасляабедзенны час, нашы супалатнікі і іншыя прыхільнікі калідорных размоў разышліся па сваіх месцах, і мы знайшлі ўтульны куток у адзіным тут холіку. Без маіх распытак, без залішняй цікаўнасці Шасцітка пачаў расказваць пра сябе. Сапраўды, ён наш старобінец, добра памятае маю вёску і нават некаторых маіх аднавяскоўцаў. Пад канец грамадзянскай вайны, прыбавіўшы сабе крыху гадоў, як пайшоў на фронт добраахвотнікам, дык з таго часу амаль што і не вылазіў з вайсковага шыняля. У Айчынную вайну камандаваў палком і ў адзін крытычны час — дывізіяй. Пасля вызвалення Варшавы быў камендантам польскай Прагі. Дык, вядома ж, ардынарцы ў яго былі, і тут ён не хлусіў, калі абвяшчаў пра гэта на калідоры. Толькі, можа, трохі ўбольшваў колькасць.

Праз некалькі год пасля перамогі нечакана-нягадана падпаў пад дачасную дэмабілізацыю і з цяжкім сумам на душы адчуў, што калі не камандаваць, то бог ведае, як можна абыходзіцца з людзьмі. Дадому на Старобіншчыну не паехаў, бо не ўяўляў, да якой пасады там можна будзе прыткнуцца. Папрасіўся часова ў Мінск і тут пэўны час прыглядаўся, прымерваўся, куды б падацца, каб знайсці што-небудзь адпаведнае і ўсталяваным звычкам, і ўменню.

Далей я ўжо буду гаварыць і са слоў самога Шасціткі, і паводле расказаў тых людзей, якія ведалі яго раней: чалавек не першы раз лечыцца ў гэтай бальніцы.

Выпраўляючыся на пошукі пасады, Шасцітка надзяваў адстаўную парадную форму з залатымі палкоўніцкімі пагонамі, з зіхатлівым поясам. У прыёмнай выбранай для візіту ўстановы нават самая ганарлівая і звыклая да ўсякіх людзей сакратарка звяртала на яго ўвагу, старалася прапусціць без чаргі да кіраўніка. Пераступіўшы парог кабінета, Шасцітка жвава прыстаўляў абцасы бліскучых ботаў, франтавата і пачціва казыраў. Кіраўнік уставаў насустрач, запрашаў сесці к доўгаму сталу, сам садзіўся побач.

— Вы з ваеннай акругі?

Шасцітка ніякавата маўчаў і ледзь прыкметна круціў ужо лысаватай галавою. Без форменнай вайсковай фуражкі ён выглядаў быццам бы несамавіта, неяк адразу заўважалася, што на твары, і асабліва ў вачах, не свяцілася тая, што была, упэўненасць і нават вера ў самога сябе.

— З гарнізона? — пытаў кіраўнік.

Шасцітка зноў круціў галавою, і на яго твары яшчэ больш выступала ніякаватасць.

— Дык што вас прывяло да мяне?

Даведаўшыся, што палкоўнік ужо запасны і прыйшоў наймацца на работу, кіраўнік таксама крыху бянтэжыўся, уставаў з месца і ішоў да свайго службовага стала. Там нейкі час перабіраў усе паперы, відаць, чакаючы, пакуль уляжацца адчуванне няёмкасці, тады набіраў у сябе паветра і замест уздыху пытаў:

— Дык што б вы хацелі рабіць у нас?

— Сам не ведаю,— прызнаваўся Шасцітка.— Можа б, што-небудзь з людзьмі?.. Кадры, ці што?.. Усё ж такі як-ніяк... Полк быў у мяне.

— А так што-небудзь цывільнае ёсць у вас? Спецыяльнасць, кваліфікацыя?

Шасцітка сумна круціў галавой.

У кіраўніка на прыстолку зазвоньваў тэлефон. Кіраўнік на гэты раз з вялікай жвавасцю хапаў трубку і не імкнуўся, як часам раней, скарачаць,

прыспешваць размову, а цадзіў па слову і ў гэты час, напэўна, прыкідваў, што ж адказаць гэтаму чалавеку, бясспрэчна, паважанаму, але зусім непатрэбнаму іхняму ведамству. І, стукнуўшы нарэшце па рычагу, утаропіўшыся вачамі ў паперы, каб не бачыць бездапаможнай разгубленасці наведніка, гаварыў:

— Знаеце, я рад бы памагчы вам, але на кадрах у нас ужо сядзяць людзі, а так — дык што ж?.. Не ведаю, што і прыдумаць. Пакіньце на ўсякі выпадак свой адрас у сакратаркі.

Выходзячы з кабінета, Шасцітка ўжо не прыстаўляў абцас да абцаса, не казыраў начальніку, а спавольна крышачку, набок надзяваў сваю какардзістую фуражку і, ледзь схіліўшыся ў знак развітання, падаваўся за дзверы. У прыёмнай сакратарка прыўставала, спадзеючыся, што ён звернецца да яе, але палкоўнік толькі ледзь узнімаў недзе трохі да вуха руку і моўчкі крочыў да выхада. Ні заявы, ні свайго адраса ў прыёмнай не пакідаў.

Ішоў дадому квола, зусім не вайсковым поступам. Сустрэчныя афіцэры пачціва аддавалі яму чэсць, салдаты і малодшыя камандзіры праходзілі паўз яго страявым крокам. Ён механічна адказваў на вітанні, а сам міжвольна паглядваў на свае палкоўніцкія пагоны. Надакучвала і цяжка мучыла адчуванне, што цяпер яны быццам бы і не належаць яму, што ўсе вайскоўцы памыляюцца, калі аказваюць яму ранейшыя знакі павагі.

Нейкі час ён не хадзіў на пошукі цывільнай пасады. Сядзеў дома, спрабаваў чытаць ваенныя мемуары, імкнуўся нават нешта запісваць, але балюча здзіўляўся ад адчування, што нават да гэтага няма ніякага прыцягу: раней, калі што трэба было самому, то запісваў ад'ютант, а ўсё астатняе пісалі штабныя пісары.

Амаль нічога не даводзілася рабіць: повары гатавалі ежу, ардынарцы падавалі. Браў цыгарку, каб закурыць, дык і то ўжо нехта стаяў побач з запаленай сярнічкай, нехта падстаўляў попельніцу.

— Падай мне боты! — неяк сказаў Шасцітка свайму сыну студэнту.

Той паслухаў, боты прынёс, але не чышчаныя.

«Чаму гэта так? — хацелася крыкнуць бацьку.— Што гэта за парадак у мяне ў доме!»

Але сына ўжо не было: ён хуценька склаў у партфель свае падручнікі і пайшоў у інстытут замежных моў.

У кухні жвавенька і мітуслівa бегала сюды-туды жонка. Яна таксама спяшалася, бо займела некалькі гадзін у школе.

— Паснедаеш тут сам,— кінула яна ўжо каля дзвярэй.

— Як гэта сам! — не стрымаўся Шасцітка.— Ты ўжо і накарміць мяне не можаш?!

— Не магу,— спакойна адказала жонка.— Урокі ў мяне. Бульба зварана, сёе-тое падагрэеш на скавaрадзе. Толькі вось хлеба няма, не паспела збегаць.

Снедаў гаспадар без хлеба. Потым пачало вельмі ж балюча ўяўляцца, што вось прыйдзе з вучобы сын, вернецца стомленая жонка-настаўніца, а ўзяць у рот не будзе чаго. Жонка змаўчыць, яна памяркоўная, а сын, глядзі што, і разане: «Ад'ютанцікаў чакаеш? Узяў бы авоську ды схадзіў у магазін!»

«З авоськай у магазін... Пры палкоўніцкіх пагонах...»

І пачаў чалавек прымяркоўваць, што б гэта надзець, каб пайсці ў магазін звычайным штацкім чалавекам, ды нават непрыкметным, каб і знаёмыя пры сустрэчы не пазнавалі. Аднак спадручнай адзежы на скорую руку і не знаходзілася, бо да гэтага часу не надта і наўме была гэтая штодзённая штацкая апратка.

Надзеў шаравары складскія, паліто і кепку — з запаснога гардэробу сына: хлопец ужо добра вымахаў, плечы мо шырэй, як у бацькі. Выйшаў з пад'езда з авоськай, і ледзь на бег яго не кінула, так хацелася хутчэй адарвацца ад суседскіх акон. Пустую авоську трымаў пад пахаю, нібы партфель. Яна, цёмная, паношаная, амаль злівалася з крысом паліто, аднак Шасцітку здавалася, што яе заўважаюць усе: хто ідзе насустрач, дык толькі і глядзіць на гэтую авоську, і на яго з чужога пляча паліто, і на стракатую кепку, якая сядзіць на макушцы і ледзь толькі прыкрывае лысіну. І, пэўна ж, кожны пазнае яго і, мабыць, дзівіцца, што чалавек дайшоў да жыц-

ця такога, і калі не вітаецца, дык толькі з павагі да яго мінулага, проста каб лішні раз не бянтэжыць, не прыніжаць адстаўніка.

Па той, здавалася, зусім невялікай дарозе ў хлебны магазін Шасцітку сустракалася на дзіва многа людзей. Ён усіх іх заўважаў, здалёк на кожнага кідаў пагляд, а калі сустрэчны набліжаўся, то абыякава апускаў вочы.

Сустракаліся таксама ваенныя. Яны не казыралі, як раней, але Шасцітку здавалася, што таксама пазнавалі яго і праводзілі сумнымі, спагадлівымі паглядамі.

Хлеба Шасцітка набраў поўную авоську, чорнага і белага. Прыйшла жонка — усміхнулася ласкава, але і папракнула:

— Навошта нам столькі хлеба? Ён жа счарсцвее.

— Няхай сабе счарсцвее!

— А ты будзеш есці чэрствы?

— Буду.

Назаўтра Шасцітка зноў надзеў парадную форму, зноў некуды пайшоў зранку. Вярнуўшыся, не размаўляў ні з жонкаю, ні з сынам, часам нават лавіў сябе на тым, што наогул страціў былую камандзірскую мову. Ноччу амаль не спаў. Пачаўся новы рабочы дзень, і гаспадар моўчкі рушыў з дому, толькі ўжо ў звычайнай вайсковай адзежы і нават без пагонаў.

Так ён пачаў хадзіць уранні кожны дзень, вяртаўся к вечару, а часам і з вялікай затрымкай. На здзіўленні і распыткі жонкі і сына нейкі час быццам зусім не зважаў, а потым прызнаўся, што нарэшце прыняў адну пасаду.

— Якую? — з цікаўнасцю запытаўся сын.

— Такую, што далі.

Прайшло тыдні два, і сын зноў да бацькі з роспытам. Шасцітка спачатку маўчаў, а потым паказаў нешта даволі жвавым пакручваннем далоні.

— Што, што? — перапытаў сын.

Бацька не сказаў нічога.

Так і хадзіў ён штодзень на работу невядома куды і прыходзіў дадому зmораны і маўклівы, усё часцей адказваў на пытанні і выяўляў свае жаданні маўклівымі і нязвычнымі для сям'і жэстамі. Толькі

недзе праз месяц ці больш у сям'і дазналіся, што бацька ездзіць у палац глуханямых і што там ён атрымаў пасаду выхавацеля. Якраз па зарплаце яна падышла, ды і ўсё ж такі работа з людзьмі — сфера хоць трохі набліжаная да былых схільнасцей.

Жонка і сын усё больш звыкаліся з тым, што гаспадар рэдка калі падаваў дома голас, нават самыя звычайныя хатнія просьбы і жаданні выказваў жэстамі. І пры гэтым амаль заўсёды хмурыўся, змрачнеў.

— Што з табою? — трывожна пыталася жонка.

— Нічога,— адказваў гаспадар, але ж не голасам, а жэстам.

Аднойчы яму прысніўся яго колішні стралковы батальён. Часы гэта далёкія, даваенныя. А ён, тады яшчэ капітан,— камандзір батальёна... Маладыя, нежанаты, поўны жыццёвай радасці. Як выйдзе, бывала, на марш, а яшчэ лепш — на парад, дык усе дзяўчаты і маладыя жанчыны гарадка павыбегуць на вуліцу. І вясёлыя, ласкавыя ўсмешкі ўслед, а часам і лятучыя пацалункі, прыкметныя толькі яму аднаму... І кветкі, кветкі... Некаторыя букецікі ўдавалася схапіць на хаду і не парушыць страявога кроку. Хацелася б усе злавіць, але ж помнілася, што следам ішлі камандзіры рот і ўзводаў, таксама ў большасці маладыя і прыгожыя хлопцы.

Шкада было тых букецікаў і каліўцаў, якія траплялі не ў рукі, а пад ногі батальёна. Байцы ішлі строем, яны не мелі права збівацца з нагі. І хоць з болем у сэрцы, але наступалі на кветкі...

Пасля гэтага сну яшчэ раз з жалем адчулася (колькі разоў думалася пра гэта і раней!) — як намнога прыемней быць маладым капітанам, чым старым палкоўнікам. Аж прачынацца той раз не хацелася: няхай бы працягнуўся такі сон. Не бываць ужо гэтаму ў жыцці, дык няхай хоць сніцца светлая пара маладосці!

Але не прыснілася яна больш: ні ў тую ноч, ні ў наступныя. Праз некаторы час нібы мільгнуў іншы сон, ды вельмі хутка абарваўся і быццам зляцеў у нейкае змрочнае бяздонне. Уявіўся яго полк, выстраены на плошчы перад парадам. Прыйшла пара рушыць паротна страявым, камандзір падае гучную

каманду, а ніхто не кратаецца з месца. У здзіўленні і адчаі ён паўтарае каманду яшчэ мацней, але ўсё роўна ніхто не чуе...

Прачнуўся Шасцітка ўвесь у дрыжыках і ў халодным поце. Больш у тую ноч не заснуў.

Сын прыйшоў з заняткаў і застаў бацьку дома. Гэта было тыдні праз два пасля незвычайнага сну.

— Чаму ты не на рабоце?

У хлапечым голасе чулася нотка трывогі, але вельмі малапрыкметная.

Бацька не падаў ні голасу, ні жэста. Ён ляжаў на канапцы і спавольна перагортваў нейкую кніжку.

Сын зірнуў на вокладку, заўважыў, што кніга незнаёмая, і здзівіўся: да гэтага часу бацька чытаў больш тое, што мела дачыненне да глуханямых.

Пад вечар узбуджанасць трохі ўляглася, і гаспадар нават усміхнуўся жонцы, калі адчыніў ёй дзверы, падхапіў з яе рук дзве авоські: адну з бульбай, другую з качаном капусты і іншымі прадуктамі. Амаль кожны дзень яна, вяртаючыся з работы, заходзіла ў магазіны.

— Ты дома,— нібы спытала, нібы проста адзначыла жонка. І не здзівілася, не стала даймаць чалавека рознымі дадатковымі распыткамі. Тады гаспадар сам сказаў, што мінулай ноччу зноў прысніўся яму былы полк... Ды тут яшчэ не ўсё. Сёння зранку два яго выхаванцы напіліся і счапіліся біцца. Ён спачатку знакамі, а потым крыху сілаю спрабаваў развесці іх. Тады яны кінуліся на яго...

Больш Шасцітка не пайшоў на работу. Каб не зрываць жонку са школы, вырашыў пачакаць, пакуль скончыцца навучальны год, а тады падацца куды-небудзь на раён. Удасца знайсці што-небудзь па нораву і па сіле, то паспрабаваць яшчэ раз узяцца за службу. Калі ж нічога не высвеціцца, дык за апошнія ашчадкі, што яшчэ трохі вяліся, купіць там недзе на ўскраіне хату з садком і градкамі ды ўспомніць вясковае маленства: некалі пры бацьках ішла навука і абрабляць, і шанаваць зямлю.

Пачаліся пошукі. Праз некаторы час удалося даведацца, што ў адным недалёкім ад горада раённым

мястэчку жыве і працуе на даволі адказнай пасадзе блізкі аднапалчанін, былы зампаліт падначаленага ў тыя часы Шасцітку батальёна. Чаму ж не паехаць да свайго, калі запрашае.

Вайсковаму чалавеку не прывыкаць да пераборaў і пераездаў. Жонка таксама звыклася з гэтым за многія гады, а сыну тут не было ніякага пройгрышу: ён усё роўна заставаўся на вучобе.

Аднапалчанін параіў Шасцітку неадкладна ўзяцца на новым месцы на партыйны ўлік і вырашаць справы сваёй службы не саматужна, а праз мясцовы райком партыі. Неўзабаве Шасцітка быў прызначаны загадчыкам аддзела райвыканкома.

Нялёгкі быў той аддзел, бо трэба было займацца кватэрнымі і рознымі іншымі камунальнымі справамі, але чалавек аддаваў на гэта ўсё, што меў: увесь час сутак, акрамя некалькіх гадзін сну, і то часта трывожнага, амаль усе выхадныя дні, увесь свой жыццёвы і вайсковы вопыт.

Выседжваць, выбегваць, вызвоньваць, выслухоўваць яму даводзілася намнога больш, чым астажаванаму ў гэтых справах чалавеку. Але пачалі адзначацца і некаторыя вынікі ў рабоце, і нават задаволенасць местачкоўцаў камунальнымі паслугамі, хоць усім вядома, колькі тут бывае ўсялякіх цяжкасцей і складанасцей.

Прайшло гады два, і Шасцітку вылучылі кандыдатам у дэпутаты раённага Савета.

Цяпер у бальнічным калідоры мы сустракаліся з ім кожны дзень. І даволі часта адасобліваліся, каб пагаварыць. Ён з ахвотай і зямляцкім даверам расказваў мне пра сваё жыццё, пераважна мінулых часоў, і ўсё нараві ўспомніць што-небудзь светлае, вызначальнае, хоць часам і крыўднае для яго прабівалася ў размове. На калідоры ж ужо амаль не чуліся яго свавольныя выклікі і гучныя тырады ў дробязных дыскусіях.

Ён расказваў, як паступова, праз гады і леты, дарос у раёне да намесніка старшыні райвыканкома, як аддаваў потым свае ўжо крыху надарваныя сілы будаўніцтву школ, бальніц, клубаў і лазняў, як клапаціўся пра жыллёвыя ўмовы людзей.

Старшыня райвыканкома быў усяго на чатыры гады маладзейшы за Шасцітку, аднак пры ўсякім зручным і нязручным выпадку, часам да месца, а больш — не да месца, імкнуўся падкрэсліць гэтую розніцу ва ўзросце. Калі ў Шасціткі што па-сапраўднаму вызначалася ў рабоце, старшыня гаварыў у вышэйшых інстанцыях:

— Давялося трохі паганяць свайго старога, націснуць, падказаць.

Калі ж недзе нешта недацягвалася, старшыня паблажліва заўважаў:

— Дык што ж вы хочаце?.. Узрост ужо ў чалавека... Узрост...

Часам Шасцітка выбіраў хвіліну, калі ў прыёмнай старшыні не было наведвальнікаў, калі ў яго кабінеце не сядзела занадта гаманлівая жанчына, з якою старшыня мог размаўляць хоць і дзве гадзіны ўзапар, калі не званілі з вобласці і іншых вышэйшых устаноў, тады па-свойску адчыняў дзверы і заходзіў у даволі раскошны для раённага маштабу і найлепш абстаўлены старшынскі кабінет. Па вачах шэфа бачыў, што той нездаволены наведваннем без выкліку, відаць, хацеў сам выкарыстаць кароткую перадышку: некуды пазваніць, каб ніхто не чуў, некаму сказаць асабістае слова. Шасцітка рабіў выгляд, што не разумеў гэтага, і з ходу, каб хто не перабіў званком ці нечаканым з'яўленнем, пачынаў узнімаць праблемы, звяртаць увагу старшыні на тое, што да гэтага часу ўпускалася або нават завальвалася, часам гаварыў у вочы даволі суровыя і непрыемныя для старшыні рэчы. Той сядзеў, маўчаў, ухмыляўся, але не перабіваў свайго намесніка ні словам, ні жэстам. Потым, калі наступаў кароткі перапынак і Шасцітка, седзячы ў мяккім крэсле насупраць, нахіляўся над сталом, каб паслухаць парады, прапановы, а то і рашэнні свайго кіраўніка, дык старшыня ў гэты час адхіляўся ад стала і адкідваў вастраватую ад густога вожыка галаву на падушкаватую спінку крэсла. Нейкі час ляжаў так, быццам хацеў задрамаць, нават вочы заплюшчваў. Затым нібыта падхопліваўся, прымаў роўную дзелавую паставу і пераканаўчым тонам заяўляў:

— Знаеш што, Шасцітка! Па-мойму, у цябе ўсё

гэта ўжо ад старасці. Чалавек у тваім узросце набывае схільнасць пабурчаць. Ён рэдка чым давольны.

— Хіба я не праўду кажу?

— Як табе ўдакладніць? Можа, тут і ёсць доля праўды, а ў аснове — бурчанне, дарагі ты мой. Старэчае бурчанне. Дарэмна ты аб гэтым не думаеш.

На першых часах былі выпадкі, што Шасцітка абураўся ад такіх слоў і заўзята спрачаўся, у гарачай палеміцы часам нагадваў і аб тым, што ён некалі аж цэлай дывізіяй камандаваў. Але гэта зусім не пераконвала старшыню. Падставіўшы свой вожык ледзь не пад самую бараду Шасцітке, ён сцішаў голас, але непрыязным тонам гаварыў:

— Ну дык што, калі ты камандаваў дывізіяй! Ты дывізіяй, а я брыгадай, партызанскай. Усе мы некалі былі рысакамі. Але гады ідуць, і ўсё мяняецца. Я, напрыклад, як толькі дажыву да твайго ўзросту, адразу падамся на пенсію.

— Не падасіся ты па сваёй ахвоце,— з глыбокім перакананнем сказаў аднаго разу Шасцітка.

Сам жа неўзабаве звольніўся.

Другі перыяд пенсійнасці ўжо непрадухільны, беспаваротны, канчатковы. Цяпер Шасцітка не імкнуўся куды-небудзь уладкоўвацца на службу, стараўся нават не думаць пра гэта, каб не развярэджваць сабе душу. Паступова прызвычайваўся спакойна корпаць чарназем'е ў сваім маленькім агародчыку і лічыць, што робіць вельмі карысную справу. Авоську ўжо не трымаў пад пахаю, калі ішоў у магазін, а браў яе за почапку і нібы дэманстрацыйна размахваў ёю ў паветры, аж шоргаў краем аб паліто ці аб штаны, калі былі цёпла: няхай глядзіць, хто хоча, як ён ідзе ў магазін; няхай пацікуе, хто мае ахвоту, і што ён будзе несці з магазіна.

А нёс, што даводзілася, што патрэбна было ў хаце, але часам утыкаў паміж пакункамі і кулькамі пляшачку з бліскучым рыльцам: як звычайна, маленькую, але іншы раз і большую. Выпіваў амаль заўсёды ў адзіноце, бо жонка, ужо добра пастарэлая і ненадзейная па здароўі, не брала спіртнога нават і напарсткам, а сын, цяпер ужо дыпламат, жыў у Мінску самастойна, меў сваю кватэру і сям'ю.

Была светлай тая гадзіна, калі жонка хоць і не

раздзяляла прыемны момант прыгублення да кілішка, але падавала самой прыгатаваны цёплы абед. А то ўжо часта бывала і так, што жанчына кволілася ў пасцелі, сама добра не ведала, што ў яе баліць, а ўстаць не магла. Тады Шасцітка пыніўся каля кухоннай пліты, лячыў і карміў жонку, закасваў потым рукавы і мыў дзве-тры талеркі, дзве лыжкі, два відэльцы, два сталовыя нажы. Давольны быў, што пасуды нямнога і не трэба доўга боўтацца. Гэтую работу ён не любіў, можа, таму, што некалі ў батальёне пасылаў байцоў на кухню адбываць нарады нечаргова.

Усё больш і больш рабілася вялікай лагодай сесці ўвечары да тэлевізара. І так хацелася, каб у гэты час ніхто не перашкаджаў глядзець тое, што захочаш, і не зрываў з месца. Яно і ведалася, што не будзе перашкод, але часам быццам не верылася. Да розных кампанейскіх сустрэч дома Шасцітка не быў ахвотнікам — не гуляў ні ў карты, ні ў шахматы, не схіляўся да зацяжных выпівак. З сынам і ўнукамі заўсёды рады быў пабачыцца, пабыць з імі суткі-двое. Аднак, калі хлапчукі аставаліся надоўга і пераварочвалі дагары нагамі ўсё не толькі ў кватэры, а нават і ў агародчыку, калі не давалі дзеду паглядзець дома фільм, паслухаць канцэрт, а ўвесь час трымалі тэлевізар на хакеі, футболе і фугурным катанні, стары пачынаў моршчыцца і пaціху бурчаць — больш перад бабай, якая гатова была ісці на ўсякія ахвяры дзеля сваіх унукаў. Ён разумеў жонку, паважаў і высока цаніў яе бабульчыны пачуцці, сам ведаў, што трохі адстае ў гэтым, але не мог пераадолець у сабе педантычную цягу да строгага парадку ў сваім пакоі, у кватэры, у агародчыку. Хто парушаў гэты парадак, той быццам бы наўмысля крыўдзіў гаспадара.

Так магло б і ладзіцца жыццё: пенсія не малая, тэлевізар ёсць, завялася за апошнія гады свая нятэпская бібліятэка, нават пісьмовы столік прытуліўся ў кутку асобнага пакоя. Іншы раз Шасцітка садзіўся за гэты столік, браў у рукі аўтаручку і вымаў з шуфляды адзін з тых вялікіх адрыўных блакнотаў, якія некалі штомесячна мяняліся на яго стале.

За пенсійны перыяд Шасцітку трапляліся мемуарныя кніжкі некаторых падпольшчыкаў і партызан. Ён купляў іх, чытаў, думаў, параўноўваў. Часам на дзесятках старонкаў апісвалася тое, як чалавек атрымаў антыфашысцкую лістоўку, як схаваў яе ў запазусе, як потым хадзіў па вуліцах горада і шукаў зручнага месца, выбачваў зручны выпадак, каб вывесіць гэтую лістоўку. Вывешваў, а следам ішоў паліцэйскі і зрываў яе.

Вядома ж, што добра і гэта, але ж каб хто апісаў, як Шасцітка прыняў першы бой на граніцы, як потым затрымаў ворага на Бярэзіне, як з баямі адступаў ледзь не да самай Масквы, але ні разу не даў сябе ні акружыць, ні адрэзаць. Як з-пад Масквы пайшоў у рашучае наступленне...

«Параіцца б з якім пісьменнікам, з чаго лепш пачынаць, як падаваць факты. Але ж можа трапіцца такі пісака, што ўсё выведае, усё збярэ, а потым уставіць у сваю кніжку».

Паступова з уласнай практыкі вывеў перш-наперш тое, што пісаць нешта вялікае ў службовым блакноце нязручна, а галоўнае — небяспечна: унукі могуць вырваць хоць адзін ліст, тады паспрабуй успомні, што пісаў. Купіў два тоўстыя сшыткі з дэрмацінавымі вокладкамі...

Так магло б ісці пакрысе і нейкае пісанне, але... Годы ёсць годы... Пенсія ёсць пенсія. Праз некаторы час Шасцітка з сумам пачаў лавіць сябе на тым, што калі дзень-два не заглядваў у свой сшытак, то дашчэнту забываў, што там да гэтага запісваў. Ратаваўся тым, што перачытваў напісанае.

Потым урачы параілі адключыцца ад пісання і нават чытання. Спачатку толькі адключыцца, а потым і паляжаць у мясцовай бальніцы...

Ляжанне зацягнулася амаль на два месяцы. Вярнуўшыся, зноў спрабаваў пісаць, але заўважаў ужо тое, ад чаго ў жах кідала: пісаў адзін радок — усё памятаў, пераходзіў на другі — і зусім выпадала з памяці напісанае ў першым радку.

Ляжанне ў мясцовай бальніцы час ад часу паўтаралася. Звычайна яно пачыналася з калідора і канчалася агульнай палатай на шаснаццаць чалавек. Часам моцна паскрыпвала ад гэтага на сэрцы, часам

успаміналася, што калі выпадкам прыхворваў, будучы намстаршынёй, то адразу знаходзілася асобная палата. Тады іншы раз падумвалася, што сам жа ён пабудаваў не адну такую палату, што набудаваў і наадкрываў у раёне нямала бальніц, медпунктаў, што медыцыне ўсе гады аддаваў вялікую ўвагу. Цяпер жа цяжка было аб гэтым прыгадваць, пераконвала і мучыла толькі адна ісціна: мала будаваў і мала аддаваў увагі медыцыне!

Пасля аднаго вельмі зацяжнога ляжання ў бальнічным калідоры, ды яшчэ побач з цяжкахворым суседам, пачалося адвольнае пакіўванне галавою. Гэта прыбянтэжыла мясцовыя медыцынскія ўлады, і яны пачалі ўспамінаць, што Шасцітка некалі быў намеснікам старшыні райвыканкома, што яго наменклатура можа быць прымацавана да адной бальніцы ў Мінску. І накіравалі туды лячыцца.

Тут палата на чатыры чалавекі. У калідоры ніхто не ляжыць. Урачы добрыя, сёстры ветлівыя, у сталовай кормяць смачна, у холе ёсць тэлевізар. Спачатку трохі прысмучала такая раскоша, потым Шасцітка звыкся з ёю і паступова пачаў нібыта і міжвольна падхопліваць тую гарэзнасць і паказную, часцей за ўсё танную дасціпнасць, якія бывалі сярод часткі хадзячых хворых. Падхопліваў, падладжваўся, а потым адчуў, што і сам можа задаваць пэўны тон, што тутэйшая рэпутацыя гаваруна і анекдотчыка зусім не шкодзіць ні лячэнню, ні апетыту, ні сну. Наадварот, такога вельмі хутка ўсе заўважаюць, сёстры і нянькі абыходзяцца з ім па-свойску, навічкі, асабліва ж паўторнікі ў большасці выпадкаў прагнуць такой кампаніі.

Пераставала ківацца галава, і Шасцітка ехаў дадому. Здаралася, што і не вельмі ахвотна пакідаў бальніцу. Да ўсяго можа прывыкнуць чалавек. А тут і ўрачы, і сёстры, і афіцыянткі, і іншая бальнічная абслуга — усе пачыналі ўяўляцца вельмі блізкімі і зусім сваімі. Асабліва тая сястра — маладайка ў спартыўным касцюмчыку, якая займалася з Шасціткам лячэбнай гімнастыкай. Заўсёды з ветлівай усмешкай, заўсёды яго — па імю і па бацьку. І ўжо сам яе голас пры пявучотнай камандзе «вдох, выдах» так жыватворна дзейнічаў на Шасцітку, што

толькі б слухаў яго і слухаў. І, мабыць, за ўсю сваю вайсковую службу ён не выконваў з такой ахвотай ні адной каманды.

Праз год ці паўтара Шасцітка вяртаўся ў гэтую ж бальніцу. Часам сустракаў тут знаёмых старажылаў і адразу ўзнаўляў свой апрабаваны стыль паводзін. Часам даведваўся, што некаторых з іх ужо няма на гэтым свеце, і ўпадаў у цяжкі сум, дні два не выходзіў з палаты.

Цяперашняе яго знаходжанне, калі мы вось сустрэліся, было, можа, дзесятым. Медыкі з вялікім тутэйшым стажам сказалі мне неяк да слова, што Шасцітка мала змяніўся за ўсе гэтыя гады, толькі пакіўванне галавы стала больш прыкметнае. Аднак жа калі мы сядзелі ўдвух у якім-небудзь калідорным кутку ці ў пакоі адпачынку ды размаўлялі на спакойныя тэмы, то я не заўважаў гэтага ківання.

Горш было Шасцітку, калі ён пачынаў успамінаць сваё мінулае і расказваць пра ўнукаў-студэнтаў, якіх душою вельмі любіў, толькі не згаджаўся ні са стылем іхняга жыцця, ні з ладам думак.

— Так ён ужо і паедзе, пакіўваючыся,— гаварыў мой сусед па палаце.

«Ціпун табе на язык»,— хацелася мне адказаць суседу. Я вельмі жадаў, каб Шасцітка вылечыўся, хоць і ведаў з нашых размоў, што зямляк мой вельмі хворы, што ўжо некалькі год таму назад да ўсялякіх склератычных і нервовых захворванняў далучыўся яшчэ і дыябет, які вельмі мучыць яго і не падае надзеі на трывалае паляпшэнне.

Аднак пра гэта было сказана толькі мне аднаму, а на калідоры ўсе верылі, што Шасцітка ўвачавідкі папраўляецца. Зусім асвойтаўшыся са мною, ён ужо не саромеўся ўваходзіць у сваю традыцыйна завучаную ролю і, выйшаўшы на калідор, пачынаў жартаваць, смяяцца, часам нават напяваць розныя маршавыя мелодыі.

— За цэлы вечар ніхто не наведаўся да чалавека,— нібы абураўся, нібы злараднічаў мой сусед.

Тут, пэўна, рацыя ў яго была, але для спачування, а не для кпінаў. Зноў жа, аднаму мне было вядома, што Шасцітка вельмі перажываў праз гэта і заўсёды пакутаваў, што жонка асталася дома не-

здараўчаная і калі ёй пагоршае, то і памагчы не будзе каму. Сын часта за мяжою і толькі адзін раз быў тут. А ўнукі?.. Што з іх возьмеш? Абодва непаседы-студэнты. Адзін геолаг, другі географ. Заўсёды то на экзаменах, то на заліках, то на практыцы. Ды і звыкліся ўжо з тым, што дзед хворы.

Мне прыносілі ў бальніцу ўсяго ўдосталь, і я дзяліўся са сваім земляком чым мог. Асабліва апельсінамі і лімонамі. І вось аднойчы аж умільна мне стала, калі выпадкова заўважыў, як Шасцітка частаваў апельсінавымі долькамі сваіх калідорных субяседнікаў і даволі пераканаўча гаварыў ім:

— Унукі прыслалі... кілаграмаў мо тры... І лімонаў к чаю... І ўсяго іншага...

Прайшлі яшчэ тыдні два, і аднойчы не зусім спадзявана я пачуў са свае палаты быццам бы залішне гучны і ўпэўнены голас Шасціткі:

— За мною некалі пяць ардынарцаў хадзілі!..

— Чуеце? Пяць! — заўважаў мой сусед.— Хутка будзе цэлы ўзвод.

Я выйшаў на калідор і ўбачыў, што зямляк мой стаіць ужо ў касцюме, а каля яго два рослыя прыгожыя хлопцы, з бадзёрымі ўсмешкамі на тварах. Згледзеўшы мяне, Шасцітка ўзяў хлопцаў пад рукі і павёў насустрач.

— Мае ўнукі! — амаль не зніжаючы тону, відаць, каб чулі ўсе, сказаў ён.— Прыехалі па мяне. Адзін Іван, другі Сцяпан; у аднаго маё імя, а ў другога — майго бацькі.

Хлопцы задаволена ўсміхаліся і ні ў чым не стрымлівалі дзеда: пэўна ж, ім не ў навінку былі і некаторыя яго гіпербалы, і некаторая цяга пахваліцца.

Так, трымаючы хлопцаў пад рукі, стары і пайшоў уніз. Ад ліфта адмовіўся, пакрочыў пехатою.

Амаль усе супалатнікі, амаль увесь бальнічны персанал выйшлі праводзіць Шасцітку.

Не паказваўся з палаты толькі мой сусед.

# ЛІКБЕЗ

— Знайдзі спачатку хату,— сказаў мне Васіль Марыніч.

Гэта сакратар нашага сельсавета, былы мой сусед па школьнай парце, але гады на два старэйшы за мяне. У яго ўжо быў пэўны вопыт па арганізацыі лікбезаў, таму ён ведаў, з чаго трэба пачынаць і што гэта такое — знайсці адпаведнае месца для заняткаў.

Хацелася мець хату і прасторную, і светлую і недзе пасярэдзіне таго пасёлка, дзе мне, пасля двухтыднёвых раённых курсаў, надаралася быць ліквідатарам непісьменнасці. Але галоўнае было не ў гэтым: цяжэй за ўсё — знайсці такіх гаспадароў, якія не баяліся б лішняй замятні ў хаце, лішняй гразі ўвосень ды лішняга выстуджвання зімою. Плата за ўсё была малая, можа, толькі на газу.

Кавалёва лаза — так зваўся пасёлак. Адзіная ў сельсавеце пачатковая школа была ад яго далекавата, і гэта падвышвала працэнт непісьменнасці. Тут былі малапісьменныя і сярод маладых: хто падленьваўся хадзіць за чатыры кіламетры, хто не меў магчымасці, а хто прапусціў тыя школьніцкія гады і цяпер саромеўся лічыцца першакласнікам.

Калі знайшлася хата, Марыніч сказаў:

— Цяпер знайдзі або выраж кавалак фанерыны з засланку велічынёю, пафарбуй яе ў чырвоны колер, а белым напішы: «Лікбез». Шыльду павесіць ад вуліцы, вышэй вокнаў. Потым шукай яшчэ фанеры, пагавары з нашым кааператыўшчыкам... Трэба цэлы ліст. Пафарбуеш у чорнае, і будзе табе класная дошка літары пісаць і лічбы.

— Гэта зробім,— згадзіўся я.— Але вось задача...

— Якая? — здзівіўся Марыніч, пэўна ж, мяркуючы, што ўсё асноўнае ён вырашыў.

— У хаце поўна ікон: на покуці і на сценах.

— Зняць! — рашуча загадаў Марыніч.

Я сумеўся:

— Як гэта зняць? А калі не дазволяць і не пусцяць у хату?



6 Зак, 837

— Пусцяць! Хто там?.. Чыя хата?

Я назваў прозвішча гаспадара.

— Не ведаю яго, не помню,— пакруціў галавою Марыніч.— Сельсавет вялікі.

Праз некалькі дзён я павесіў на хаце шыльду, а гаспадар зняў яе.

— Вы ж згадзіліся, каб тут быў лікбез,— з асцярогай папракнуў я.

— Згадзіўся. Супраць людзей нічога не маю, а пад вывескай жыць не хачу.

Дзе ж там будзеш гаварыць пра іконы!

Васіль Марыніч нібыта на адлегласці адчуў мае перажыванні і ўвечары таго ж дня прыйшоў да мяне.

— Рушым да твайго багамольнага,— ледзь пераступіўшы парог, прапанаваў ён.

З прадстаўніком мясцовай улады гаспадар размаўляў з большай лагоднасцю, чым са мной: наконт вулічнай шыльды нават і не спрачаўся, а патрабаванне зняць іконы сустрэла пярэчанні толькі ад гаспадыні.

— То ў вас жа не малельня,— сказаў Марыніч.— Пакіньце сабе адну, калі іначай не можаце.

Адну ікону пакінулі, але прыкрылі яе саматканым ручніком.

— Сцены цяпер голыя,— неяк паскардзілася мне гаспадыня.

Ад гэтага ў хаце нібы пасвятлела, як на мае вочы. А на іхнія?..

І з'явілася ў мяне думка — выпрасіць у сельсавеце якіх плакатаў ці нават заклікаў, каб развесіць іх на сценах.

— Плакаты плакатамі,— сказаў Марыніч, калі я зноў прыйшоў да яго.— Іх многа не навешаеш у хаце. А вось партрэты трэба. Асабліва...

Ён паглядзеў на партрэт Леніна, які вісеў над сталом старшыні сельсавета.

— А дзе ўзяць?

Я запытаўся пра гэта з радасцю, бо адчуў, што Марыніч вельмі правільна гаворыць. У той жа час узяла мяне і трывога: не здолее дапамагчы, а што рабіць аднаму?

Сакратар сельсавета глядзеў на партрэт і маўчаў,

пра нешта думаў. Я таксама маўчаў, а думаў цяпер ужо толькі пра адно: які ж гэта будзе лікбез, калі не знойдзеш партрэта Леніна?

Марыніч раптам сказаў:

— Бяры пакуль што гэты, а сюды я дастану — паеду заўтра ў раён.

— З рамкаю? — ледзь не крыкнуў я ад захаплення.

— Без рамкі. Бягун і так накінецца на мяне, як заўважыць.

Бягун — гэта старшыня сельсавета.

Я стаў вымаць партрэт з рамкі, а Марыніч падышоў да запацелага і ўжо трохі прымерклага акна, незадаволена паківаў галавой.

— Нешта імгліцца там...— сказаў прыглушана.— Баюся — замочыш партрэт.

— Не замачу!

Бег я ў Кавалёву лазу ног пад сабою не чуючы. Партрэт трымаў пад світкаю. Хоць і трывалая была на дождж мая світка, даматканая, але партрэт крыху падвільготнеў — спорны быў дождж усю дарогу.

У лікбезе распластаў партрэт на стале, стаў асцярожна разгладжваць яго рукою.

Падышоў гаспадар, моўчкі паглядзеў на партрэт, потым — на сцяну пры покуці.

— Трэба яго высушыць хараша,— сказаў нібы мне, нібы сам сабе. І адышоў ад стала.

Назаўтра партрэт вісеў на самым відным і зручным месцы ў хаце. Гэта я заўважыў, як толькі пераступіў парог. Здзівіла тое, што партрэт быў у рамцы. Не новая рамка, але вымытая і начышчаная да свежага бляску. Мільгнула думка, што, можа, яна ад іконы. Сустрэліся вачамі з гаспадаром, лагодна ўсміхнуліся адзін аднаму.

— Гэта яна ўсё,— нібы ў нечым апраўдваючыся, сказаў гаспадар і перавёў вочы на апырсканы малаком і вадою перадвячэрні мыцельнік, дзе пынілася гаспадыня.

Першы дзень заняткаў вельмі засмуціў мяне: з моладзі не прыйшоў ніхто. Адна бабулька прынесла і паказала мне зжаўцелы, з чорным крыжам на вокладцы псалтыр.

— Якая ж я непісьменная? — дзівілася яна.—

Чаму мяне гэтак запісалі? Я ж усе літары тут ведаю і чытаць умею.

Гаспадар сядзеў ля запечка і ціха пасміхваўся. Аднак і спачуваў мне. Калі бабулька пайшла, ён сказаў:

— Гэта яе нехта наўмысля падаслаў, каб паглуміцца над табою і асмяяць. Але ты не паддавайся. Прыйдуць людзі, я ведаю. І маладыя прыйдуць. Толькі як на першыя разы, то, можа б, якую прыманку ім?.. Чуў я, што ў цябе там нейкая скрыпка ёсць. Праўда?

Я панурліва кіўнуў галавою.

— Прынясі ў наступны раз. А я тут скажу сямутаму.

Не меў я пэўнай надзеі на скрыпку і на сваю ігру, але адчуваў, што трэба і гэта выкарыстаць, абы толькі пачалася справа.

Вокны лікбеза весела і адметна ад усіх свяціліся, калі я ў наступны раз ішоў па вуліцы Кавалёвай лазы. У двары, кінуўшы трывожны позірк на акно, заўважыў, што ў хаце многа людзей. Гаспадар мільгнуў у акне з доўгім заслонам у руках. Следам за ім нехта ледзь не крануўся шыбы зэдлікам.

Я спыніўся на парозе і не ведаў, куды дзець свой самаробны хутарал са скрыпкаю: удоўж хаты, як на вяселлі, стаялі ўпрытык тры сталы, а за імі, хто на чым, сядзелі хлопцы, дзяўчаты і некалькі ўжо немаладых жанчын. Гэтыя цёткі здаліся мне такімі сталымі і сур'ёзнымі, што аж трывога ўзяла: як з імі размаўляць, як вучыць? Пэўна ж, яны больш ведаюць, чым я сам, ліквідатар непісьменнасці.

Малодшыя з цікавасцю паглядвалі на скрыпічны хутарал, які ляжаў на шырокай лаве ля покуці, і, відаць, больш цікавіліся маімі скрыпацкімі здольнасцямі, чым ліквідатарскімі. Аднак першыя заняткі прайшлі някепска, а па ацэнцы гаспадара лікбеза, дык нават і зусім добра. Мне ўдалося збольшага вызначыць, хто што ведае і як каго вучыць, якія кніжкі для каго шукаць.

Наконт скрыпкі хацелася прамаўчаць: мала што магло ляжаць у хутарале. Гаспадар з вясёлай хітрынкай у вачах узяўся аберуч за крайні ад парога стол, відаць, з намерам адсунуць яго ў куток. Але

не паспеў ён і крануцца з месца, як мае вучні падскочылі да яго:

— Куды нясці, дзе паставіць?

Са здзіўленнем я заўважыў, што і тая жанчына, што разгубілася на пераклічцы, ледзь не з-пад сябе выхапіла заслон і падубіла яго ў запечак.

— Гэта туды, гэта сюды! — камандаваў гаспадар, і яго прыпушчаныя ўніз светла-рыжыя вусікі весела паварушваліся.

На «мастацкай» частцы нашых заняткаў асталіся ўсе. І скакалі амаль усе: цёткі з такой жа ахвотай, як і дзяўчаты. Напэўна, прыйшлі б і яшчэ людзі, пачуўшы іграннe, але гаспадар узяў на засаўку сенечныя дзверы. Задумка яго была, відаць, такая: хочаце паскакаць, дык прыходзьце ліквідоўваць сваю непісьменнасць.

Праз некаторы час наведаўся ў лікбез Васіль Марыніч. Сядзеў на занятках, маўчаў. Потым мы разам ішлі дадому. Ён пстрыкнуў пальцам па маім хутарале, улавіў звон скрыпкі і сказаў:

— У нас там пайшлі чуткі, што ты вечарынкі іграеш замест заняткаў. Але бачу — не. Усё правільна! Могуць людзі і павесяліцца, калі добра пазаймаліся. Вось толькі адно тут... Некаторыя трохі хадзілі ў школу... Пад канец зімы яны могуць пасадзіць цябе ў галошу.

— Не пасадзяць. Сам я таксама вучуся.

— Ну, глядзі!

Дзесяткі год прайшлі з таго часу, а здараецца, што я і цяпер сустракаю сваіх вучняў. У рангах палкоўнікаў і генералаў, інжынераў і канструктараў яны не саромеюцца прызнацца, што некалі хадзілі ў лікбез. І завуць мяне «ліквідатарам».

Побач з Кавалёвай лазою ўзняўся малады вялікі горад. Яго вуліцы дайшлі і да пасёлка, перайначылі яго, выбелілі, узнялі на высокія паверхі. А мне часта ўяўляецца, што бачу перад сабою вясковую хату з рукапіснай шыльдачкай «Лікбез», з фанернай дошкай для пісання, з партрэтам Леніна на сцяне ля покуці.

## КУБАЧАК МАЛІН

Ціха адчыняюцца дзверы на маю верандачку...

Некалі надумаў я прыбудаваць яе да бацькоўскай хаты: невялічкую, з дашчанай падлогаю. І з таго часу звычайную вясковую хату людзі пачалі зваць дамком.

...Мне чуецца кволае шорганне па падлозе. Але нядоўга. За невысокім парожкам — сенцы і там гліняны дол. Шорганне нібы патанае ў гліне.

Я ведаю, што гэта ідзе да мяне маці.

— Прынясла табе малінак,— быццам апраўдваючыся, гаворыць яна.— Мытыя.

У адной яе руцэ — блакітны кубачак, да самых краёў напоўнены свежымі малінамі; здалёк можна было б прыняць яго за букет. У другой — ядлоўцавая качарэжка, крывая і сукаватая, але, мабыць, вельмі спадручная матулі, бо ніякай іншай яна не бярэ.

Рука з кубачкам дрыжыць. Я ўстаю насустрач, каб узяць гэты духмяны падарунак і паставіць на мой пісьмовы стол, але маці папярэджвае:

— Ты пішы, пішы... Я сама пастаўлю.

Потым яна садзіцца непадалёку ад стала, качарэжку чапляе за падаконнік.

— Ты пішы, пішы,— паўтарае спагадліва і шчыра.— Я не буду замінаць. Пасяджу трошкі каля цябе і пайду ў тую хату.

«Тая хата» — братава. Яна з вялікай печчу ў першай палавіне. Там маці начуе, але часам любіць паляжаць і ўдзень, нават і летам. А ў мяне печы цяпер няма, толькі грубка, заўсёды халодная і сыраватая. Сяджу тут, бо ўтульна, адзінока, і вокны выходзяць на выган, за якім бялеюць свежыя паверхі новага горада.

— Еш малінку,— запрашае маці.— Еш і пішы. Можа, табе ясік прынясці?

Я гляджу на матулю крыху разгублена: прызабыў за многія леты гарадскога жыцця, што такое «ясік», не магу ўцяміць, навошта ён мне.

— Падкладзеш пад спіну,— тлумачыць матуля.— Мякчэй табе будзе пісаць...

Успомніў: гэта маленькая падушачка. Не, яна не трэба мне. І без яе зручна і мякка: крэсла абабіне штапелем. Дзякую матулі за кубачак малін. Спачатку гляджу на яго, любуюся, а потым бяру адну ягадку, аж цемнаватую ад спеласці, каштую.

— Гэта над сажалкаю ў нас,— удакладняе маці.— Самыя вялікія і сочныя.

Сапраўды сочныя, растаюць у роце.

— Ты пішы,— зноў паўтарае маці.— Нават і не зважай, што я тут пры табе.

А не ведае матуля: таму і пішу, што яна заўсёды пры мне.

# САРАЧЫНЫ

Старыя забродскія могілкі... Капыткі вясковых парасят на пяску... Іх мы заўважылі сёння, прыйшоўшы памянуць матулю на саракавы дзень.

Агароджы тут няма даўно — гэта бачыў кожны з тутэйшых і нетутэйшых. Бачыў і кіпеў душою, але агароджа не з'яўлялася.

Над помнікам — плакучая бяроза, голле звісае да самых калкоў аградкі. Нехта з забродцаў падсек клінам тоўстую каструбаватую кару, зрабіў латок і падставіў пад яго гліняны слоік. Капае сок у гэты слоік...

Мы бяром па чарцы па старым звычаі. Па гэтым жа звычаі ставім налітую чарку на магілу. Стаім, абапершыся на поручні аградкі... Успамінаем, як сорак дзён таму назад матуля сядзела разам з намі за сямейным сталом. Прыгубілася да кілішка, не зважаючы на свае восемдзесят сем год, і потым пачала спяваць нам песні. Ведала, што мы любім слухаць яе песні, нават запісваем. Ведала, што і прымаўкі яе любім і розныя ўспаміны пра часы яе маладосці...

Ціхенька спявала маці, слабенькім, але прывабным голасам. І ўсё пра вяселлі, усё пра вясну... Вельмі хацела дажыць яшчэ да адной вясны, вось да гэтай. І паспытаць свежага бярозавага соку. Любіла нябожчыца бярозавы сок...

Мы ўсе маўчалі. Мы ўсе чулі, як капае ў гліняны слоік гэтая радасць вясны.

Узняўся жаўранак над бярозай. Затрапятаў крыльцамі, заспяваў. Для нас ён быў першы ў гэтую вясну.

Мы глядзелі на жаўранка, і вочы нашы прасыхалі.

## БАБКА КАЦЯРЫНА

Спачатку перанеслі падушачку з чорнымі крыжыкамі на навалачцы. А іконка аставалася ў галавах нябожчыцы.

Драўляная, ужо трошкі прыбуцелая іконка... Ужо цяжка і разабраць, што намалявана на маленькай, нібы падстаўка пад скавараду, дошчачцы.

Іконку нябожчыца хавала ў нейкім там куточку на печы: не хацела, каб вучаныя дзеці, ды ўнукі-студэнты, ды нявестка-настаўніца, ды тыя, што прыходзяць на тэлевізар, падсмейваліся з таго, што яна яшчэ часам моліцца.

...Іконку дастала з печы бабка Кацярына. Паставіла каля свечкі. Свечка мігала, і адно вока на іконе нібы падміргвала. Невядома каму, невядома чаму...

Акрамя хатніх, толькі бабка Кацярына і ведала пра тое месца, дзе прыхоўвалася іконка. Несла яе да нябожчыцы са шчырай жалобаю. Потым доўга стаяла насупраць свечкі, нешта шаптала, часта хрысцілася.

...Маўклівым гуртам, адны жанчыны, перанеслі на яе вечнае месца нябожчыцу, асцярожна паклалі на чорныя крыжыкі. Потым чакалі, пакуль дамігае агарачак свечкі ды прыйдуць яшчэ людзі, каб выправіць нябожчыцу ў апошні шлях.

— Можа, іконку ёй пакладзем? — прапанаваў нехта з блізкіх.

— Не трэба,— сказала бабка Кацярына.— Лішні гной.

## З БАЦЬКАВАЙ КІШЭНІ

Спачатку ў руках матулі каліўца мяты або яе лісткі... Потым — акрайчык хлеба, які падаваўся на дарогу... Бацька клаў акрайчык у запазуху, калі гэта было ўвосень ці зімою; браў з сабою торбачку, калі ехаў куды ўлетку. А мяту заўсёды клаў у кішэню: завялую, прысушаную або зусім сухую з назапашаных пучкоў. А лепш — свежую, з градкі.

З цяжкім возам дроў або сена ішоў здалёку пехатою, часам прытрымліваў на калдобінах воз, часам браўся за гуж і памагаў цяглавай сіле.

Стомленасць меншала, калі нюхаў мятку.

Бацькі ўжо не было на свеце, а мята расла пад вокнамі яго хаты. Мятку берагла маці.

У вясенняе разводдзе пад самыя падрубы даплывала вада. Мятка пачынала зелянець і пад вадою.

Потым хату пераняслі вышэй. Перасадзілі туды і мяту. Калі я часамі сядзеў там і пісаў, то каліва мяты заўсёды ляжала ў мяне на стале.

Па бацькавым звычаі стаў браць мяту і з сабою. Ехаў у горад, дадому, таксама вёз свежыя каліўцы. За дарогу яны трацілі сваю чароўную свежасць, апускалі вушкі-лісцікі, але ў вадзе хутка ажывалі. І стаялі доўга, нават пускалі карэньчыкі. Нават расцвіталі. Але пахлі менш, як на сваёй радзіме, ля прызбы пад акном.

Ведаючы маю завядзёнку, брат мой Міхась прывёз мне каліва з карэннем. Пасадзіў у карыце на балконе. І сам паліў вадою. Аж да макраты.

Назаўтра мятка ўпэўнена падняла вушкі-лісцікі. Я стаў паліваць яе па братняму наказу.

Праз некаторы час яна прынялася і пачала расці. Пахла, як і дома, каля бацькавай хаты.

Я стаў браць яе ў кішэню, ідучы на работу. Першае лета — па лісціку, другое — па лісціку, трэцяе — па каліўцу, а потым — хоць і букецік можна было нарваць.

Усюды я адчуваў пах мяты, жыватворны водар маёй радзімы.

# СЛУЦКАЯ БЭРА

Вялікая, як гладыш, ігруша ўпала на сцежку, што вяла ў прыдачны гараж. Калі б хоць на момант яна сарвалася з дрэва раней, то якраз пацэліла б гаспадару па лысіне — ён ішоў заводзіць машыну.

Рыгор Шалудзенка лёгка, па-спартсменску нагнуўся, падняў ігрушу і стаў уважліва разглядваць яе з усіх бакоў.

— Зялёная яшчэ, а ўпала,— прамовіў няўпэўнена і з чаканнем пярэчання агледзеўся на жонку, якая ішла следам.

— Чаму ж зялёная,— памяркоўна заўважыла тая.— Прыспела ўжо, таму і ўпала.

— Зусім не таму. Ветрам сарвала.

— А ветру такога і няма сёння. У яе ўвесь бок жоўты.

— Якая ж гэта жоўтасць? Вунь прожылкі зялёныя. І каля хваста адна цвердзь.

— То паспрабуй на смак. Гэта ж сорт такі!

Наконт сорту Шалудзенка не спрачаўся, бо ведаў, што тут за каштоўнасць у яго на дачы: некалі — паў-Случчыны аб'ездзіў, пакуль знайшоў саджанец. Аднак каштаваць бэру не захацеў.

— Як тут укусіш? У мяне і зубоў такіх няма. Ды вунь жа чарвяк у ёй.— І прыкра скрывіўся, уявіўшы, якая нясмачная гэтая падалка.

Жанчына ўзняла вочы на высокае і ўжо разгалістае дрэва, сумнавата паківала галавою:

— Тут, мабыць, усе ігрушы асыплюцца зеленаватымі. Сорт такі.

— Як гэта сорт? — запярэчыў Шалудзенка.— Пры чым тут сорт?

— Прытым, што ўсе чэрві на ёй. Ігрушы падаюць, а ўкусіць нельга.

— Чаму гэта нельга? — ужо ледзь не крыкнуў Шалудзенка і на поўны рот укусіў бэру. Сок пырснуў з яе і празрыста-белымі кроплямі пацёк па барадзе.— Яна ўжо і смачная, калі хочаш ведаць. І мяккая. А прожылкі, дык гэта ад вялікага росту.

Яны не зусім і зялёныя, калі добра прыглядзецца. А чарвячок?.. Дык што такое адзін чарвячок на такую вялікую ігрушу? Фруктовы ён, таму не шкодны, а толькі паказвае, што фрукта чыстая, нічым не атручаная: калі ён яе грызе, то і нам можна.

Так і ў сваёй нарыхтоўчай канторы Шалудзенка часам даводзіць, што спелае выглядае зялёным. І наадварот.

# НАВІЧОК

У сталовай санаторыя мне падсадзілі новага суседа. Прыгожы малады чалавек, у акуратным касцюмчыку, пры чырвоным вузкім гальштучку. Жанчыны-«саабедніцы» адразу знізілі ўвагу да мяне: спачатку прымоўклі ў намаганні выглядаць вельмі прывабнымі над сваімі талеркамі, а потым наперабой пачалі перахопліваць намеры і жаданні навічка.

— Можа, у вас хлеба чорнага мала? Вазьміце ў мяне.

— Салацік вы любіце?

— А вось і цыбулька ў нас... І часнычок... Не бойцеся іхняга паху.

— Дайце, я вам крушончыку, крушончыку...

Навічок крыху бянтэжыўся ад гэтай жаночай ветлівасці, але еў многа і ўсмак.

Пазней я даведаўся, што ён мой зямляк, працуе прарабам на адной новабудоўлі. Гэта пасадзейнічала нашаму збліжэнню. Кожны дзень мы сустракаліся ў сталовай і, калі яго не залыгвалі жанчыны, то шпацыравалі па парку разам. Чалавек ён быў кампанейскі, словаахвотлівы і не надта сумны. Любіў расказваць пра сябе, таму праз нейкі час я ўжо ведаў, пэўна ж, усю яго нескладаную біяграфію. Адчувалася, што ён нічога не прыхлушваў, не стараўся паказваць сябе ў лепшым святле.

— Скончыў політэхнічны інстытут...— Падумаў, усміхнуўся і дадаў: — На адны тройкі, праўда, але ж іх у дыпломе не паказваюць...

— Прарабамі ў нас і без дыпломаў працуюць... Я з дыпломам. Мне цяжка, а ім не.

— Не жалюся, бо не веру цяперашнім жанчынам. Напарнік мой з адной дружыў, ужо і начаваў у яе, а як пайшоў на год у армію, яна выскачыла за другога.

Нехта падказаў навічку, што я літаратар. Пасля гэтага ён нібыта асцерагаўся гаварыць са мною, а калі ўступаў у размову, то намагаўся падчапіць штонебудзь блізкае да літаратуры. І кожны раз няўдала.

Блытаў Якуба Коласа з Янкам Купалам, Броўку з Глебкам.

— А Вшыўцава ведаеце? — неяк спытаў я, не надта прыхоўваючы іранічнае адценне ў гэтых словах.

Навічок адразу ажывіўся, весела бліснуў вачамі і пачаў падрабязна расказваць біяграфію гэтага чалавека: дзе радзіўся, дзе вучыўся, у якіх матчах удзельнічаў, у якіх яшчэ будзе ўдзельнічаць.

— Гэта аўтар даволі цікавых голаў,— падкрэсліў нарэшце мой зямляк і раптам пранікліва паглядзеў на мяне. Паглядзеў і сумеўся.

Некалькі хвілін мы блукалі па парку моўчкі, потым ён загаварыў з хваляваннем і прыязнасцю:

— Я зразумеў ваша запытанне... Уцяміў. Сапраўды, чытаю мала... Няма калі чытаць. А тэлевізар?.. Гаспадыня мая па кватэры трымае яго толькі на футболах і хакеях. Яна вядзе малодшыя класы ў школе і ўпэўнена, што цішыню на ўроках можна навесці толькі расказамі пра футбалістаў і хакеістаў.

Назаўтра мой сусед прыйшоў на снеданне з кніжкаю ў руках.

# САЛАМЯНЫ КАПЯЛЮШЫК

Быў я ў адзін верасень у мясцовым санаторыі. Па пуцёўцы. Халодны выдаўся той верасень, з паўночнымі вятрамі, з імжэннем, зацяглым і калючым. Утулку нельга было знайсці нідзе: ні ў палаце на дваіх, ні ў бібліятэцы (ні там, ні тут яшчэ не ацяплялі), ні тым больш — у парку, дзе хвойнік стаяў мокры і насуплены, а беразак сумотна апускаў на сцежкі жоўтыя падкурчаныя лісты.

Ратуючыся ад суму, спрабаваў ездзіць да сябра на дачу, якая была непадалёку. Там гнуліся ад ураджаю венгеркі, цёмна-ліловыя, сакавітыя і такія вялікія, што ў цёплыя часы дзвюх хапала для ўталення смагі. Але і слівы не радавалі, бо ў тыя дні былі халодныя, нібы з маразільніка, іх не хацелася браць у рот. І сум не праходзіў. Да яго далучалася яшчэ і крыўда на такую недарэчнасць у прыродзе, ды на Літфонд, што ў такую пару даў пуцёўку.

Наступаў новы ранак, і зноў у акне палаты было мутна, даносіўся надакучлівы і вялы голас фізкультурнай каманды:

— Рукі ніжа, ніжа, ніжа!

— Ногі выша, выша, выша!

Пад такую каманду нават і ўставаць не хацелася, а не тое што бегчы на зарадку. Потым уяўлялася, як пойдзеш у працэдурную і там медсястра скажа:

— Вазьміце салфетачку, ляжце на кушэтачку, павярніцеся да сценачкі...

І ўсе дні на адзін лад: як учора, так і сёння. Пачалі з'яўляцца думкі аб тым, каб пакінуць санаторый ды рушыць дадому — там і весялей і цікавей.

Санаторны культурнік, хоць ужо і добра ў гадах, але яшчэ поўны энергіі і, відаць, не гультай, адпачыў дзён два-тры пры такім надвор'і, а потым усё ж стаў выконваць свой план культработы — запрашаць людзей на танцпляцоўку, хоць яна была і пад адкрытым небам, толькі аркестранты сядзелі ў «ракавіне».

Пайшоў аднаго разу туды і я. Заўзяты культурнік выкладваўся там, як кажуць, усімі сваімі жыламі, нібы на апошнім дыханні: ледзь не кожнага цягнуў за руку на круг, ледзь не кожнаму ўшалопваў загадку ці адгадку, фокуснічаў, выклікаў прысутных паказаць хоць якія-небудзь свае здольнасці. А эфекту належнага не было: людзі курчыліся ад холаду, паблажліва ўсміхаліся, а ў гульні не ўступалі. Тады культурнік пайшоў, відаць, на апошні свой козыр — абвясціў конкурс на лепшага танцора.

«На большага дурня,— падумалася мне.— Хто гэта ў сваім розуме выйдзе сябе паказваць на мокрай пляцоўцы».

У душы мне ўжо было і шкада стараннага культурніка — няхай бы сабе ўдаўся хоць гэты конкурс. Аднак нежаданыя меркаванні апраўдваліся: спачатку выйшаў на круг адзін энтузіяст, памахаў рукамі, павітляў каленямі і выклікаў смех толькі тым, што паслізнуўся і траха не бразнуўся на цэмент: ногі слаба трымалі ад залішняй дозы недыетычнага піва.

Следам выплыў на пляцоўку яшчэ адзін прэтэндэнт на прыз, але гэты, акрамя вясковай чачоткі, пэўна ж, нічога не ўмеў, ды і тую адшлёпваў вяла і аднастайна: брудныя пырскі ляцелі ва ўсе бакі і аблеплі яму калашыны штаноў.

Апошняя надзея культурніка правальвалася, людзі, кісла пасміхваючыся, пачыналі расходзіцца. Тады, зусім нечакана для ўсіх і для самога культурніка, устаў з лаўкі і падняў руку пажылы чалавек у саламяным, абвіслым ад дажджу капялюшыку. Ён папрасіў сыграць для яго гапачка, але культурнік раптам сумеўся і ў першы момант не даваў такой каманды аркестру.

— Іграйце! — запатрабаваў нехта з прысутных.

— Дык ён жа сляпы,— пачуўся здзіўлены шэпт зусім блізка ад мяне.

— Зусім сляпы?

— Зусім. Нічога не бачыць. Жонка на пляцоўку прывяла.

Аркестр зайграў. Чалавек жвавым рухам зняў свой макентош, трохі макраваты і яшчэ не ўкарочаны па модзе, аддаў яго жанчыне, якая сядзела по-

бач. Адышоўся ад лаўкі і на дзіва лёгкім подскакам узяў першы такт.

Людзі паўставалі са сваіх месц, падаліся бліжэй да незвычайнага танцора. Мне быў відзён толькі саламяны капялюшык, але і па ім можна было вызначаць, што танец ідзе рытмічна і зладжана ды з вясёлым настроем, з сапраўдным натхненнем.

Я не мог сачыць за тварам танцора, тым больш што да гэтага часу не бачыў яго (відаць, чалавек нядаўна прыбыў), аднак уяўляў, што ён весела паўсміхаецца, адчувае асалоду ад танца і зусім не заўважае, што над пляцоўкай вісіць імжлівы туман і што яго абвіслы і нібы на вяршок кругом абрэзаны капялюшык зусім мокры.

Потым я ўбачыў, што чалавек зняў капялюшык, задорныя рытмы гапачка пачала вынатоўваць круглая і пры святле запацелых ліхтароў жаўтаватая лысіна, але і капялюш сяды-тады паказваўся над галавою: значыць, ён быў патрэбны ў руках, значыць, і ён прымаў удзел у танцы.

Раптам усе востра насцярожыліся: куцабрылы капялюшык высока ўзвіўся над людзьмі, а затым, спускаючыся ўніз, ледзь не павіс на бакавым ліхтары. І ўслед задаволеныя воклічы, нават апладысменты. У той жа момант убачыў я капялюшык зноў на галаве ў танцора, і цяпер ён толькі нахіліўся разоў два і знік — значыць, танцор, зладзіўшы капялюш, сеў на сваё месца.

Калі змоўкла музыка і культурнік узахлёб пачаў ушаноўваць прызёра, я праціснуўся скрозь натоўп бліжэй да той лаўкі, дзе сядзеў сляпы танцор са сваёй жонкай. Яна крыху сарамліва, але і з адчуваннем гонару ўсміхалася і памагала мужу надзяваць макентош. Танцор прымаў гэта са звыклай зладжанасцю і сапраўды, як мне і ўяўлялася да гэтага, задаволена і нават радасна ўсміхаўся. Здавалася, што вось няхай зноў зайграе музыка і ён яшчэ з большым імпэтам пусціцца ў скокі...

Я адчуў няёмкасць за сваю нудоту.

## НАЗАЎСЁДЫ

*Сяргею Адамавічу Гусаку,*
*светлай памяці аб ім*

Мы не бачыліся, можа, з месяц, так скlаліся абставіны. Потым прыехаў я з камандзіроўкі і даведаўся, што ён у бальніцы...

З палаты выйшла жонка, паніклая ад гора, заплаканая.

— Ён замгнуў на хвілінку... Усю ноч не спаў...

Я стаў чакаць, пакуль ён прачнецца. Хадзіў сюды-туды па мяккім калідоры, думаў, успамінаў.

Яму мала больш за трыццаць. Не так даўно быў студэнтам... Некалькі год працаваў у раёне. У Мінск прыехаў, паступіўшы ў аспірантуру. Узяўся пісаць дысертацыю па творах пісьменніка, які ў той час быў раздзяўбаны ў газеце за адну аповесць.

Уплывовы чалавек з міністэрства сказаў яму:

— Ты што? Сваю будучыню не шануеш?

Я тады згаджаўся з тым чалавекам і таксама не раіў рызыкаваць:

— І напісаць не напішаш...

— Напішу!

— І абараніць не абароніш...

— Абараню!

Праз некалькі год ён запрасіў мяне на абарону...

І цяпер перада мною свяціўся той радасны бляск яго вачэй, калі дысертацыя была высока ацэнена і ўхвалена. Вочы блішчалі, а на твары не маглі хоць трохі прыгладзіцца тыя заўчасныя маршчыны, якія з'явіліся ад штодзённых і, бадай, штоночных намаганняў выканаць сваю надзвычайную місію.

...Жонка зноў выйшла з палаты.

— Прачнуўся. Боль у жываце не дае суцішэння, каб паспаць.

...Ён прыветна заківаў галавою, калі я зайшоў у палату, хацеў, відаць, і ўсміхнуцца, але не выйшла ў яго ўсмешка: твар пакутліва скрывіўся і потым нібы сцяўся, анямеў.

— Вось так...— ледзь прыкметным рухам вуснаў прашаптаў ён.— Здаецца, усё... Назаўсёды...

«Як гэта — назаўсёды? — мучыла мяне пытанне,

калі ішоў дадому.— Хіба так можа быць?.. Раптоўна, зусім нечакана?.. Ён толькі распрастаў крылы: стаў кандыдатам навук, літаратуразнаўцам, рэктарам інстытута. Як гэта — назаўсёды?..»

Прайшло ўжо нямала год з таго трагічнага і незабыўнага для мяне дня.

Я і цяпер не веру, што ён пакінуў свет назаўсёды. І дома і на службе перад маімі вачамі ляжаць яго кнігі. Ён жыве ў маім сэрцы.

## ГРУДНІКІ

Краснадар. Гэта ўсім мілы горад. А для мяне дык яшчэ і незабыўны, буду помніць яго ўсё жыццё.

...Цяперашні галоўурач шпіталя пазнаёміў мяне з самай старэнькай санітаркай, а сам моўчкі ступіў пару крокаў убок.

— Дзе тут палата груднікоў? — спытаў я ў гэтай бабулі, прыморшчанай тварам, але яшчэ роўнай постаццю і ўдала падмаложанай белым халатам.

— А вось тут, на другім паверсе,— ахвотна адказала яна.

Галоўурач рыпнуў глянцавітымі ботамі, ціха дадаў:

— Таварыша цікавіць не гэтая палата, а франтавая, афіцэрская. Вы павінны помніць.

Замест наступнага адказу санітарка сумна прыжмурыла вочы, пачала ўважліва прыглядацца да мяне, потым спытала сама:

— І вы былі там?

— Быў,— даверліва адказаў я.

— Не абслугоўвала я вас тады, у другой палаце была, але, здэцца, нешта знаёмае прыкмячаю ў твары. Медсястра ў вас была, чорненькая такая, Маша.

— Была, была,— узрадавана, нібы вось-вось убачу яе, пацвердзіў я.— А дзе яна цяпер? Можа, ведаеце?

— Нічога не ведаю. Пайшла ў медсанбат у сорак чацвёртым і не вярнулася.

Франтавая палата груднікоў была нанава выбелена і пераабсталявана, як і ўвесь шпіталь, але я адразу пазнаў яе. Яна вялікая, з трыма шырокімі вокнамі, і ляжала тады нас чалавек дваццаць, ложкі стаялі амаль што ўпрытык адзін да аднаго.

Мне выпала туліцца ў кутку за санітарнай шафаю. Самае нясветлае месца — чытаць было кепска, і самае няўтульнае, хоць і асобнае, бо толькі тут адводзілася сталае месца для зэдліка, на якім прысаджваліся ўсе, хто заходзіў: урачы, медсёстры, прадстаўнікі шэфскіх арганізацый і ўстаноў.

Нялёгка мне было там ляжаць, але цяпер я гля-дзеў на гэтае месца і быццам шкадаваў, што там не было койкі: прылёг бы хоць на хвілінку для паўна-ты адчуванняў, для яскравасці ўспамінаў. Нават і ў ране маёй пад правай ключыцаю, ужо даўно зацягну-тай рубцамі і амаль забытай, нешта раптам варухну-лася, зашчымела і нагадала мне той бой, які часам засланяў для мяне ўсе палатныя вокны і надзею на жыццё.

...У хвіліны прасвятлення, а потым, як стаў ужо ачуняць, я часта назіраў за сваімі калегамі па ня-шчасцю. Калі іх перавязвалі, то часам цяжка было не адвесці вочы: раны былі страшныя, бадай, безна-дзейныя, а гэтыя параненыя жартавалі з медсёстра-мі ды пасмейваліся.

І блазенства праяўлялася ад доўгага ляжання на адным месцы і звычкі да клопатаў медперсаналу. Калі з'яўлялася ў палаце раздатчыца з падносам на-рэзанага хлеба, некаторыя пачыналі крычаць:

— Гарбушку мне! Гарбушку!

Асабліва настырным у гэтым быў адзін малодшы лейтэнант, зусім яшчэ маладзенькі, відаць, толькі што з сельскай школы. Яму заўсёды давалі гарбуш-ку, як самаму малодшаму, нібы маленькаму, але ра-ненаму найбольш цяжка.

...Праз некаторы час ён перастаў прасіць гарбуш-ку. Афіцыянтка сама падавала яму, а ён маўчаў. По-тым я неяк прачнуўся на світанні і ўбачыў санітараў ля яго ложка... З насілкамі...

...Не аднаго яго вынеслі ў тыя часы з нашай па-латы нагамі ўперад. А гэта былі тыя, што ішлі на-перадзе ў баях і грудзямі сваімі засланялі сяброў.

Пазней сустракаў я сваіх аднапалатнікаў зноў на баявых пазіцыях. Яны зноў ішлі на ворага грудзя-мі, хоць ужо і параненымі...

У тым шпіталі краснадарскім і каля яго хаце-лася б мне прабыць і ўвесь дзень: крануў душу скверык, у які мы некалі выпаўзалі, як толькі па-чыналі кратацца з месца,— ён захаваўся амаль та-кім жа, як і быў у тыя даўнія часы: прырода больш захоўвае сляды мінулага, як сам чалавек. Не зарас-ла, не знікла і тая сцяжынка, па якой мы спускаліся да ракі Кубань,— вада ў ёй была нібыта каламутная

на выгляд, жаўтаватая, але калі возьмеш на далоні, то зусім чыстая, празрыстая і такая цёплая, што можна было апалосквацца ёю нават яшчэ і ў цяжкім стане. І мы апалоскваліся, а потым і купаліся: раны хутчэй зарубцоўваліся ад гэтага, кубанская вада — жыватворная, гаючая.

...Справы камандзіровачнага не дазволілі мне да паўнаты душы налюбавацца тымі мясцінамі, нацешыцца і насумавацца ўспамінамі — трэба было ехаць на жніўныя прасторы Кубаншчыны: ішла ўборка ўраджаю. На другі ці на трэці дзень маіх паездак, я раптам зусім нечакана для сябе заўважыў у аднаго камбайнера невялічкую круглую выемку на агаленых, засмуглаваных сонцам грудзях. Яна была з левага боку, пад ключыцай, як і ў мяне, уся потная і запыленая.

Дачакаўшыся перапынку ў рабоце, я падышоў да гэтага камбайнера, стаў пранікнёна і, пэўна ж, нясціпла глядзець на яго. А ён гэтак жа стаў глядзець на мяне. Твар яго быў нібыта ўхутаны ў густую, сіваватую ад пылу бараду, мабыць, не наўмысна адпушчаную, як па цяперашняй модзе, а ад некальства пагаліцца.

Пераадольваючы няёмкасць, я расшпіліў верхні гузік свае безрукаўкі і паказаў выемачку ў сябе на грудзях, вельмі падобную на тую, што ў яго, толькі менш акругленую.

— Стой, стой! — здзіўлена і ў той жа час в узрывам радасці ўсклікнуў камбайнер і, трошкі падумаўшы, назваў маё прозвішча. Я з жалем адзначыў, што ў яго памяць намнога лепшая, чым у мяне: я яго прозвішча ўспомніць не мог, хоць адчуваў, што лячыліся разам. Падавалася, як у тумане, што ляжаў ён на самай крайняй койцы ля процілеглай ад мяне сцяны, доўгі час быў безнадзейным, але ніколі ні на што не скардзіўся, не стагнаў, не выпрошваў і не патрабаваў для сябе якой-небудзь перавагі ці палёгкі. Ён заставаўся яшчэ «цяжкім», калі я ўжо хадзіў у халаце на рэчку, ён толькі пачынаў ступаць на ногі, а я ўжо быў выпісаны і накіраваны ў часць.

Мы шчыра абняліся, як родныя браты.

— Ты, бачу, праездам,— са шкадаваннем прамовіў камбайнер і нездаволена глянуў на «газік», які

стаяў воддаль.— Прашу цябе, спыніся тут, у нашым калгасе, хоць на пару гадзін. Я хутка змянюся. Зробіш вялікую радасць для мяне.

Пад вечар ён пагаліўся, стаў значна больш падобны на таго маўкліўца, якога я некалі ведаў. І мы аддаліся нашым, здавалася, зусім бясконцым успамінам.

Калі пахаладала, ён накінуў на плечы пінжак. На лацкане гэтага пінжака заблішчала Залатая Зорка Героя Сацыялістычнай Працы. І прыйшлася яна якраз на тое месца, дзе некалі была ў яго цяжкая грудная рана.

# АДВЕДЗІНЫ

Дырэктар мясцовага кансервавага завода ішоў па свежым местачковым асфальце, парыпваў новымі чаравікамі, пашоргваў шарсцянымі калашынамі і рукавамі нядаўна купленага касцюма.

У канцы мястэчка выскачыла з двара жанчына з пустым вядром, у кароткай, перацятай хвартухом сукенцы. Хацела перабегчы вуліцу, ды ўбачыла знаёмага чалавека, спынілася.

— Ты куды жаніхом такім выстраіўся?

— На аўтобус іду, у горад ехаць...

— То выхадны ж сёння... Што там у горадзе рабіць?

— Жонка двайню нарадзіла, дык трэба ж сёе-тое харошае... Сама ведаеш.

— Нюрка, двайню?! — жанчына ўзмахнула рукамі, драцяная почапка ў пустым вядры завішчала.— Калі ж гэта?.. У цябе ж нядаўна была двайня!

— Час ідзе-е...— спакойна заўважыў дырэктар.— Час ідзе... Вось і яшчэ адна двайня. А ты Нюрку проста даўно не бачыла.

Назад ад калодзежа жанчына так імчала, што аж вада з вядра разлівалася, аж сукенка падцягнулася яшчэ вышэй. Голыя ногі толькі мільгалі густым загарам. Прыбегшы ў хату, падкінула ў печ сухіх дроў, на скорую руку замясіла цеста з цукрам і яйкамі. Бабку спякла вялікую, пахучую, і як толькі яна крыху астыла, прыадзелася чысцей і пайшла да сваёй даўняй сяброўкі на адведзіны.

Гаспадыня нешта паласкала ў сенцах, калі адведніца, урачыста трымаючы тую бабку перад сабою, узыходзіла па прыступках на высокі ганак. Пераступіла парог і закрычала на яе так, што жанчына спалохана выпрасталася, апусціла мокрыя рукі:

— Губіш сябе, Нюрка, губіш! Як гэта можна, каб адразу за такую работу! Ушчуваць цябе няма каму!..

Нюра лыпала вачамі разгублена і недаўменна. Нешта загорнутае ў ручнік на руках у сяброўкі яшчэ больш здзіўляла і бянтэжыла яе.

— Куды гэта пакласці? — між тым папыталася адведніца.— Спецыяльна дзеля гэтага спякла, як даведалася... А ты не губі сябе, ідзе лажыся! Дай памагу, калі самой цяжка!..

— Мне нічога не цяжка...— сарамліва і азадачана памахваючы мокрымі рукамі, пачала апраўдвацца жанчына.— Я заўсёды дома сама ўсё...

— Заўсёды, ды не цяпер! — перапыніла яе адведніца.— Хадзем, хадзем у хату!

Пераклаўшы бабку на далонь правай рукі, левай жанчына падхапіла сяброўку пад паху, пацягнула да хатніх дзвярэй.

— А дзе ж твае двайняткі-птушаняткі?

— Ды там, спяць на ложку.

— Адны, без нікога?

— А хто ім трэба?

У хаце адведніца асцярожна, нібы гэта была рэч з тонкага шкла, паклала бабку на стол, з замілаваным і цікаўным выразам на твары падышла да ложка, павольна адшмаргнула квятастую шырму.

— Дык гэта ж! — ледзь не ўсклікнула яна. Потым, каб не разбудзіць дзяцей, перайшла на здзіўлены, скрыпучы шэпт: — Дык гэта ж ужо вялікія!

— А пра якіх ты думала? — Нюра весела засмяялася, ужо крыху здагадваючыся, у чым тут справа.

— Я сёння раніцаю...— пачала ўжо ўсміхацца і адведніца, паглядаючы на пахучую бабку на стале,— раніцаю ішла па ваду, дык твайго сустрэла... Сказаў мне, што...

— Слу-ухай ты-ы яго-о! — залілася вясёлым смехам Нюра.— Можа, клюнуў зранку, дык захацелася пачасаць язык!

Гаспадар вярнуўся позна, у неважнецкім настроі, відаць, трохі падтомлены дарогай, чаравікі ўжо не скрыпелі па падлозе, калашыны і рукавы касцюма былі добра памятыя.

— Павячэраць дасі? — звярнуўся ён да жонкі,

якая ў гэты час ляжала на раскладзенай канапе, накрытая байкавай коўдрай.

— Сам бяры! — непрыязна азвалася кабета.

— А ты што, устаць не можаш, калі муж прыехаў галодны?

— Не магу.

— Чаму гэта?

— Таму, што ў мяне новая двайня пад бокам!

Гаспадар успомніў ранішнюю сустрэчу, зарагатаў так, што аж дзеці за шырмаю прачнуліся, настрой у яго адразу палепшаў.

— Ну, ла-адна, ладна-а! — гучна і раскацісто загаварыў ён, не спыняючы смеху.— Ляжы ўжо. Скажы, дзе што ўзяць з'есці,— сам вазьму!

Жонка таксама пачала сцішана давіцца смехам пад коўдрай, але хутка пераадолела гэты парыў і сурова сказала:

— Вунь там на стале рэшта той бабкі, што прынеслі на адведзіны. Даядай!

## АБЕД КААПЕРАТЫЎШЧЫКА

Прыехала Аксіння з горада. Вылезла з аўтобуса ў канцы вёскі і па вуліцы ішла павольна, аддыхвалася ад аўтобуснай духаты, гулліва памахвала крыху растапыранай ад тавараў, аднак, напэўна, лёгкай кашолкай.

Насустрач трапілася Ганна Матыка, недалёкая суседка, яна ў гэты час ішла з фермы на абед.

— Ты адкуль? — спытала тая ў Аксінні, цікаўна паглядаючы на кашолку.— З горада? Што купіла, пакажы!

Аксіння не любіла хваліцца сваімі набыткамі, аднак махаць кашолкай перастала і растапырыла яе яшчэ больш.

— Глядзі! — быццам з нейкім выклікам сказала яна і чамусьці ўставілася на суседку, можа, нават для таго, каб лепш убачыць, як змяніцца ў той твар ад захаплення, а можа, і ад зайздрасці.

— Бо-о-цікі-і! — ледзь не захліпнулася ад здзіўлення Ганна.— Сапраўдныя, скураныя? І з замочкамі?! Дзе іх там давалі? Дзе?

— Не там, а тут,— спакойна прамовіла Аксіння, відаць, хочучы крыху паджартаваць над суседкай, якая часам занадта ўжо ўзрушваецца, калі ўбачыць у каго нешта лепшае ці навейшае, чым у яе.

— Тут, у нашым кааператыве?

— Тут, у нашым.

— Не можа быць! Я ж заходзіла зранку, толькі гумавыя боцікі стаялі.

— Ну, гэтыя на полцы, вядома, не стаяць.

— Ага-а!..

Жанчына крыва ўсміхнулася і жвава рушыла да свайго двара.

Аксіння пайшла да свайго, аднак, неўзабаве аглянуўшыся, заўважыла, што Ганна нават і не прыпынілася каля сваіх варот, а пашыбавала далей, напэўна, адразу ў кааператыў. І тут Аксіння адчула, што, мабыць, дарэмна нарабіла людзям бяды, і не так

Ганне ці яшчэ каму, хто дачуецца пра боцікі, як самому Гаўрылу Пеўніку, кааператураўшчыку. Гэтая Матыка можа так пераматыкаваць яго на людзях, што чалавек за суткі не ачомаецца. А калі шапне яшчэ некаторым маладухам, то са свету звядуць кааператыўшчыка, лічы, што прапаў Гаўрыла.

«Пайсці самой следам за Ганнай,— перш было падумалася Аксінні,— сказаць там перад усімі, што пажартавала: боцікі не тут куплены». А потым як успомнілася, што на тым тыдні Гаўрыла і сапраўды прадаў аграномшы басаножкі з-пад прылаўка, то перастала яго шкадаваць: няхай трохі пакруціцца, напацее, бабыль нястрыжаны.

Ганна ж у гэты самы час думала пра кааператыўшчыка зусім іначай. Хоць ён і сапраўды нейкі не зусім людзімы і гаваркі. Але, калі яна, Ганна Матыка, лепшая ў калгасе цялятніца, вясёлая і прыгожая, калі яна пагаворыць з Гаўрылам, гляне яму ў вочы сваім зыркім паглядам, то не ўстаіць чалавек, аддасць, хоць і апошнія, боцікі.

Быў жа не адзін такі выпадак. Прыходзіць Ганна на аўтобусную станцыю: білетаў няма, шафёр закончыў пасадку, збіраецца ад'язджаць. Тады Ганна падбягае да кабіны, кідае позірк на шафёра, знаёмага ці незнаёмага, потым усміхнецца яму хораша — і месца ў аўтобусе адразу знаходзіцца, часцей за ўсё тут жа, у кабіне, побач з шафёрам.

На жаль, кааператыў быў у гэты час закрыты: яшчэ здалёк Ганна ўбачыла на вушаку вялікі замок. Каля дзвярэй стаялі некалькі жанчын.

«Значыць, ужо і яны ведаюць,— падумала Ганна.— Пры такім павароце, то, можа, яно і лепш, што Гаўрыла цяпер не тут, а, пэўна, дома, абедае ці адпачывае ў паложаную гадзіну. Пайду проста да яго ў хату».

І, нават не спыняючыся каля крамы, каб не ўступаць у гаворку з жанчынамі, яна ледзь не подбегам накіравалася да Гаўрылавага двара.

Кааператыўшчык сапраўды быў дома, сядзеў за сталом з апушчанымі на лоб чорнымі валасамі і нешта размешваў лыжкай у глыбокай талерцы, напэўна, смятану ў капусце, бо ў хаце і пахла варанай капустай. Тут жа была яшчэ яго сястра, пажылая

ўжо кабета, але таксама адзінокая. Яна нарэзвала лустамі хлеб.

— Прыемнага апетыту вам! — з парога сказала Ганна і шырока, весела ўсміхнулася, белыя, як часнок, зубы так і заблішчалі, ледзь не засвяціліся ў хаце.— Прабачце, што я проста ў абед: ішла паўз краму, а там — замок. Гэта ж кажуць, Гаўрылко, што там у цябе боцікі прывезлі... А мне так трэба боцікі... За якую хочаш цану, але каб...

— Боцікі толькі гумавыя,— нездаволена сказаў Гаўрыла і аблізаў лыжку.

— Дык гумавыя ў мяне ёсць,— не зводзячы вачэй з шырокага Гаўрылавага твару, даводзіла Ганна.— Аж дзве пары. Мне трэба гэтакія, што са скуры ды каб з замочкам блішчастым... Ты ж ведаеш якія!

— З замочкам табе? — не адрываючы вачэй ад талеркі, буркліва перапытаў Гаўрыла і зноў аблізаў лыжку.

— Ага, ага,— узрадавана пацвердзіла Ганна.— Ну, ты ж усё сам ведаеш, Гаўрылко... Ты ўсё разумееш!

— Няма ў мяне ніякіх замочкаў,— раптам зусім цвёрда заявіў кааператыўшчык.— Адкуль ты гэта ўзяла?

— Як гэта адкуль? — ужо крыху збавіўшы сваю ігрывасць, спытала Ганна.— А каму ты прадаў вось толькі што, перад абедам?

— Нікому не прадаваў,— ужо ледзь стрымліваючы сваё жаданне ўкусіць хлеба і пачаць чэрпаць забеленую капусту, пакуль яна не астыла, нахмурана сказаў Гаўрыла.— Бо не было чаго прадаваць.

— Як гэта не было! — не адступала Ганна і нават падышла крыху бліжэй да стала.— А гэтай самай Аксінні ты што сёння прадаў?

— Нічога,— крыху сумеўшыся, адказаў Гаўрыла.— Яна сёння і не была ў кааператыве.

— Як жа не была?! — пачынала абурацца жанчына, і з яе твару ўсё больш і больш сплывала прывабнасць, а яе месца заступалі злосць і абурэнне.— Я ж толькі што сама бачыла!.. Аксіння ішла дадому з кашолкаю... А ў кашолцы — боцікі... Паказвала мне, хвалілася, замочкі адшморгвала і зашморгвала.

— То, можа, не тут купіла, а ў горадзе.

— Сказала, што тут!

— Схлусіла яна табе, а можа, наўмысля пажартавала.

— Гэта ты хлусіш, а не яна! — ужо амаль закрычала Ганна.— Як табе не брыдка абманваць, брахаць чалавеку ў вочы, хоць ты і не падымаеш тут сваіх бельмаў. Да яго прыйшлі з чэснай просьбай, а ён...

Гаўрыла моцна бразнуў лыжкаю, памкнуўся ўстаць і вылезці з-за стала, але яго сястра перагарадзіла яму дарогу, лагодна ўзяла за плечы і пасадзіла на месца.

— Еш, а то зусім астыне! — сказала ўладарна, але ласкава.— Не бяры ўсё на сэрца! Потым яна павярнулася да няпрошанай госці.— Ты б сама пасаромелася, Ганна,— загаварыла спакойна і з павагаю,— так вінаваціць чалавека, калі ён не вінаваты. Прыйшла ў чужую хату і крыкам сваім разрываешся, рукамі махаеш!.. А ён праўду табе кажа: няма ў кааператыве гэтакіх, як ты хочаш, боцікаў. Няма! Я ж таксама ведаю, што там ёсць!

— Для мяне-то няма, канечне! — крыху збавіўшы тон, не адступалася ад свайго Ганна.— Я ж бычка ці якую цёлку не прывалаку з фермы... А хто мока ці якую цёлку не прывалаку з фермы... А хто можа і курачку, і яечак, то таму ўсё ёсць!.. Усё таму ёсць! Пеўнікі любяць курачак! Аксіння і ў боціках, Аксіння і ў кофтачках нейлонавых, Аксіння...

І раптам Ганна рэзка азірнулася на дзверы, бо там нешта моцна бразнула, потым зазвінела па падлозе. Пачуўшы за сабою здаўлены ад абурэння голас Гаўрылы, здагадалася, што гэта ён папусціў у яе лыжкаю, ды не пацэліў.

Вось гэтак у той дзень прайшоў у кааператыўшчыка вызначаны законным часам абед.

## ЧЫЖЫК

Гэта не птушка-спявушка, не лялька для маленькіх дзетак, не курортны сувенір. Гэта — проста кацяня, чорнае па масці, худое і нязграбнае, таму што вельмі пераборлівае ў харчах. Як яно прыблудзілася сюды, у дом адпачынку, ніхто не ведае. Гэтак жа ніхто не ведае, якім чынам прыжылася да яго назва такой прыгожай і зусім іншага колеру птушкі. Нехта назваў, мабыць, у жарт, а курортныя каталюбы падхапілі.

Усякаму чалавеку з густам было прыкра нават падысці да такога неэстэтычнага кацяняці, хоць у яго і паэтычнае імя. Аднак некаторыя пуцёвачныя жанчыны навыперадкі адна перад адной лавілі Чыжыка, песцілі яго і частавалі, чым толькі маглі. Гэтым яны нібыта паказвалі ўсім астатнім, што іхнія сэрцы зусім не такія, як у іншых грэшных, што яны могуць пашкадаваць, а то і прытуліць да шчакі нават і такое ледзь непрыдохлае кацяня.

Натхняла іх, відаць, і тое, што хоць не скора, хоць са скрыпам, а ўсё ж вырасце і з гэтага кацяняці сапраўдны чорны кот.

Асабліва самааддана «ахвяравала» дзеля Чыжыка адна занадта маладжавая, хоць ужо трохі і сухаватая жанчына. Звалі яе Сіма, а наконт свайго прозвішча яна заўсёды памоўчвала, бо меркавала, што яно і так усім вядомае. Чыжыка яна песціла больш і лепш за ўсіх, ледзь не па цэлых днях насіла яго на руках, туліла да грудзей, лашчыла, а з харчоў выбірала на курортнай кухні толькі тое, ад чаго ён не адварочваў сваёй вусатай пыскі.

Начаваў Чыжык таксама ў яе.

І вось зусім неспадзявана выдалася такая ноч, што амаль усе пуцёвачнікі з першага паверха не маглі спакойна спаць. Чаму, з якой прычыны? Ды ўсё праз гэтага Чыжыка. Доўгі час ён сядзеў пад дзвярамі ў Сімы і моцна, жаласліва яўкаў. Потым стаў хадзіць па калідоры і скрэбціся ледзь не ў кожныя дзверы. Скрэбціся і яўкаць.

Мала хто і здагадваўся, што здарылася з кацянём. Ніколі раней яно не падавала голасу нават і тады, калі яго звалі на самы адмысловы пачастунак.

Раніцай, перад снеданнем, некаторыя пачулі адвольны дыялог дзвюх жанчын, суседак Сімы па курортным пакоі.

— Чаго гэта Чыжык сёння цэлую ноч яўкаў?

— А хіба не ведаеце?

— Не, не ведаю.

— На яго месцы спаў другі кот. З трэцяга паверха.

# САРОКА-КРЫВАБОКА

Прыляцела яна з недалёкага ляска, села на трухлявы плот каля трухлявай хаты; адно крыло падабрала зусім, а другое толькі склала, а падцiснуць да сябе не магла.

Прыляцеў сюды ж дзяцел і сеў на ніжнюю раліну таполі, якая амаль поўнасцю накрывала сваёй кронаю гэтую, нейкім цудам уцалелую ў вайну хатку.

— Спускайся на плот,— сказала яму сарока.— Тут ёсць усё тое, што табе трэба.

— Я па платах не лажу,— пакрыўджана адказаў дзяцел.— А чаго сама не ўспырхнула на таполю? Адсюль лепш відно тое, што трэба табе.

— Я не ўзлячу туды,— з сумам адказала сарока.

— Чаму? Тут жа — рукой падаць.

— Бо я параненая. Хіба не бачыш?

— Як гэта? Хто цябе параніў?

— У вайну паранілі... Я разведчыцай была, партызанам сцежкі паказвала, паведамляла, дзе вораг і якая ў яго зброя.

Дзяцел саскочыў з раліны на тоўсты, каструбаваты камель таполі, наблізіўся да сарокі і паглядзеў ёй у вочы:

— Ты была партызанскай разведчыцай?

— А што? Не верыш? Я Сарока-крывабока! Хіба не чуў? Пра мяне ў газетах пісалі.

— Не, не чуў.

— І па радыё перадавалі.

— Не чуў.

— І ў кнізе ёсць мая біяграфія.

— Не чытаў.

— І ў тэатры пастаноўка.

— Не глядзеў.

— І ў оперы пра мяне пяюць.

— Не слухаў.

— І скачуць там, як я некалі скакала.

— Не бачыў.

— І пантаміма ёсць.

— Не ведаю, што гэта такое.

— Дык што ты наогул ведаеш? Праз сваіх чарвякоў свету белага не бачыш: нічога не слухаеш, нічога не глядзіш.

— Цябе ж вось бачу.

— Мяне? А можа, і не мяне. Тут сарок многа.

— Якраз цябе. І бачу, і пазнаю. Ты некалі Сарокай-белабокай была. А цяпер ужо — крывабока! Бо адно крыло не падымаецца. А чаму яно не падымаецца?

— Ад раны. Усе пра гэта ведаюць.

— А я ведаю, што ад мешалкі.

— Ты што — паклёпнічаць?! Я цябе знаць не знаю і ведаць не ведаю!

— А нашу леснічыху ведаеш? Непадалёку жыве. Усю вайну ты ля яе карыта праскакала, партызан у вочы не бачыла. І так абрыдзела гаспадыні, што яна ў цябе мешалкай папусціла. На маіх вачах было: думаў — канец табе, не ўстанеш. А вось жа выскраблася, толькі крывабокай стала. Лётаць вышэй платоў не можаш, а языком стракочаш.

Сарока спалохана глянула на дзятла зблізку, успомніла, што бачыла яго не раз, і раптам адчула, што і другое крыло пачало ў яе апускацца.

## ПЕРАПЁЛАЧКА

У акне шэра... Так было і ноччу, калі я, кладучыся спаць, выключыў у сваім нумары святло. З боку ад мяне ледзь прыкметна бялее тэлефонны апарат. Ён стаіць на паліраванай дошцы, што ідзе паўз сцяну на даўжыню ўсяго ложка. Нашто тут гэтая дошка? Няўжо толькі для таго, каб ставіць на яе тэлефонны апарат? То ноччу ж ніхто не звоніць, а ўдзень цераз ложак не дастанеш рукою тэлефонную трубку. Аб гэтую дошку я некалькі разоў выцяўся ноччу лбом.

А столік каля акна зусім пусты. На самым ражку яго стаіць толькі вентылятар — маленькі, ружова-белы. Спрабаваў учора ўключыць яго — не ўключаецца. Цяпер ён таксама крышку прыкметны на фоне цьмянай у змроку сцяны.

Колькі ж цяпер часу? Можа, яшчэ і рана, але сон ужо не бярэ. І ўставаць не хочацца, уключаць святло. Ведаю, што калі палянў ў вочы зыркай лямпачкай, то ўжо не хутка засну, хоць цяпер, можа, яшчэ і далёка да дня.

Ляжу, думаю... Чамусьці ўспомнілася тая манашка, што ўчора каля самай гасцініцы перайшла мне дарогу. Маладая, чырванашчокая. Зграбная постаць так і пераліваецца пры хадзе. Колькі пражыў на свеце, а маладую манашку ўбачыў упершыню, толькі ўяўляў яе па вядомым вершы Максіма Танка.

Потым успомніўся яшчэ конь на пероне.

...Пераехалі граніцу, і я амаль да самага змяркання глядзеў у акно. Такія ж самыя, як і ў нас, заснежаныя пералескі праплывалі непадалёк, такія ж палеткі... Можа, дзе і былі там межы, але снег іх згладзіў. У прыдарожных будынках таксама не заўважалася асаблівай розніцы, і людзі сяды-тады праходзілі ў такой жа, як і ў нас, вопратцы, толькі канфедэраткі былі ў некаторых мужчын на галаве. А вось конь на пероне з доўгімі санямі трохі здзівіў мяне. Чалавек у канфедэратцы зграбаў з перона снег і павольнымі ўзмахамі ўскідваў яго на сані... Коль-

кі ж разоў яму трэба будзе вяртацца, каб вывезці з перона ўвесь снег? Колькі ж ён заробіць за дзень, калі працуе здзельна?

...У нумары нязвычная для мяне цішыня, бо ў маёй кватэры дома нават і самай глыбокай ноччу не бывае так ціха: машыны ходзяць усю ноч. Тут ціха, мабыць, ад таго, што акно нумара выходзіць у нейкі двор і на калідоры не стаіць ля дзвярэй столік дзяжурнай. Чую, як старанна цікае маятнік майго ручнога гадзінніка. Чую, а стрэлак усё яшчэ не бачу... Крыху самотна робіцца, хоць і намагаюся не паддавацца такому адчуванню. Не надта часта так бывае, каб прачынацца ў нумары гасцініцы і не пачуць адразу сапенне, а часцей — храпенне суседа па ложку. І зусім яшчэ не бывалы для мяне выпадак — начаваць у замежнай гасцініцы.

І раптам загаварыла радыё. Рупарчык, уманціраваны ў сцяну, быў, відаць, не выключаны, я нават і не заўважыў яго, калі ўладжваўся ў нумары. Дыктар на польскай мове павітаўся са слухачамі, і мне здалося, што ў першую чаргу — са мною. Потым ён сказаў, што цяпер гадзіна «шуста» па варшаўскаму часу. Гэта значыць, падумаў я, што па-нашаму, památ маскоўскаму, ужо восем гадзін раніцы. Пара ўставаць, а ў целе ўсё яшчэ нейкая вялаватасць і быццам бы нерашучасць. Давай яшчэ крыху паляжу, паслухаю радыё, лежачы. Добра, што так выразна і павольна гаворыць дыктар, нібы спецыяльна для мяне: я разумею кожнае яго слова.

І вось ён абвяшчае, што зараз будзе перадавацца беларуская музыка. «Ну, сапраўды ж нібы наўмысля»,— мільгнула ў мяне думка, і на душы пацяплела. У выкананні добра зладжанага народнага аркестра загучала наша «Перапёлачка».

Я ўстаў і жвава, нібы пасля самага лепшага адпачынку, стаў збірацца на снеданне.

# ВОЛАТЫ ВАРШАВЫ

Адну з галоўных плошчаў польскай сталіцы ўпрыгожвае велічны пасляваенны манумент. Не толькі ўпрыгожвае, а і ўзвялічвае гэтую плошчу, быццам узнімае яе над усімі іншымі плошчамі, над усімі будынкамі горада, нават высотнымі. Гэта — мужнасць, самабытнасць і надзвычайны геразім, увасобленыя ў мастацкім вобразе жанчыны з пераможным мечам у правай руцэ. Гэта сімвал Варшавы. На манументе надпіс: «Волатам Варшавы».

Потым хадзіў я і ездзіў па вуліцах сталіцы.

— Што гэта? — здзіўлена спытаў у праважатага, першы раз убачыўшы свежыя кветкі і вянкі проста на тратуары. Людзі беражна, з ціхай павагай абыходзілі гэтыя кветкі, прытуленыя да сцяны. Абыходзілі, каб выпадкам не наступіць на іх.

— Тут фашысцкія акупанты расстрэльвалі польскіх герояў Супраціўлення,— адказаў праважаты.

На сумежным квартале зноў кінуліся ў вочы букеты кветак ля сцяны аднаго з будынкаў. Далей — зноў і зноў. Усюды над кветкамі — мармуровыя памятныя дошкі, на якіх указваецца, колькі польскіх патрыётаў загінула на гэтым месцы. Такая дошка ёсць і на будынку Варшаўскага опернага тэатра. Тут цэлая горка кветак: людзі ідуць слухаць оперу і спыняюцца каля памятнага, святога месца, кладуць свежыя кветкі.

...Старадаўні і прыгожы будынак міністэрства асветы. У ліку зусім нямногіх ён астаўся цэлы, бо яго ў вайну захавалі немцы. На гэтым будынку таксама ёсць мемарыяльная дошка, але іншага характару. На дошцы ўказваецца, што тут размяшчалася нямецкае гестапа.

Клапатлівыя і ўважлівыя да ўсяго гістарычнага, палякі захавалі ў такім стане, якім ён быў, гестапаўскі засценак і арганізавалі тут своеасаблівы музей. Наведаў я гэты музей і потым ноч не спаў ад цяжкіх уражанняў і роздуму. Уваход туды зусім звычайны, чысты, добра асветлены, нібыта нават па-

радны. Людзей прыводзілі сюды, і яны, ступаючы ўніз па першых мармуровых прыступках, можа, яшчэ і трымалі ў душы надзею на нейкую літасць, на выратаванне. Але амаль ніхто адсюль ужо не выйшаў жывым, кожнага выносілі праз чорныя дзверы.

— Вось іхнія «трамваі»,— сказаў мне праважаты, пасля таго як мы прайшлі доўгі, халодны і жудасны сваімі напамінкамі аб мінулым калідор. Я ўбачыў, асветленыя цяпер для агляду, вузкія пакоі, устаўленыя прымацаванымі да падлогі дашчанымі лаўкамі. Паміж гэтымі лаўкамі быў цесны праход, як толькі праціснуцца наглядчыку. Усё гэта сапраўды нагадвала трамвай, але не для язды. Сюды заганялі людзей, і тут яны павінны былі сядзець суткамі і чакаць допыту. Ніхто не меў права ні варухнуцца, ні вымавіць слова. За парушэнне — смяротэльныя пабоі.

За «трамваямі» — пакой допытаў. Каля яго доўга не пастаіш: захлынецца душа, здранцвеюць ногі. Тут розныя фашысцкія прылады катаванняў, тут уся падлога прапітана людской крывёю. Далей — адзіночныя камеры з цьмянымі закратаванымі акенцамі. Але гэта толькі назва — адзіночныя, а на самай справе тут сядзелі, дакладней сказаць, стаялі адзін пры адным па некалькі вязняў, чакаючы свайго канчатковага прысуду.

Па ўсёй Польшчы ходзяць цяпер легенды пра тых варшаўскіх герояў, якія загінулі і тут, у фашысцкім засценку, і ў іншых месцах, але не здаліся на літасць ворагу, не здрадзілі сваёй Радзіме. Не згасае памяць і аб тым, што побач з польскімі патрыётамі вялі нястомную барацьбу з фашызмам лепшыя прадстаўнікі іншых народаў і ў першую чаргу— народаў Савецкага Саюза. У варшаўскіх засценках гестапа загінула нямала рускіх, украінцаў, беларусаў, нямала людзей розных нацыянальнасцей нашай краіны.

На тэрыторыі Польшчы было больш двухсот фашысцкіх лагераў смерці. Колькі тут загінула людзей, вядома ж, і польскіх змагароў, волатаў Варшавы! Яны ахвяравалі сваім жыццём дзеля шчаслівага жыцця пакаленняў.

...Хадзіў я і ездзіў па Варшаве некалькі дзён запар. Аглядваў непаўторныя ў сваёй прыгажосці гістарычныя будынкі, старажытныя помнікі культуры, якія былі зусім знішчаны фашыстамі. Аглядваў новыя кварталы, мікрараёны...

З асобных кадраў акупанцкіх стужак польскім і савецкім аператарам удалося склеіць фільм аб тым, як фашысты разбуралі Варшаву і што асталося ад яе пасля вызвалення. Я глядзеў гэты фільм. Рушыліся друзам на зямлю векавой даўнасці кварталы, помнікі культуры і архітэктуры сусветнай вядомасці і славы. Усё гэта руйнавалася ўшчэнт, выпальвалася агнём. Узнавіць гэта нават у думках здавалася немагчымым: яно ж стваралася стагоддзямі, многімі пакаленнямі людзей. Іменна ўзнавіць, а не пабудаваць на руінах новае, зусім іншае. І ўзнавіць хутка, а не на працягу дзесяцігоддзяў.

Такая задача магла б уявіцца зусім не па сіле. І ўсё ж такі людзі Польскай Народнай Рэспублікі ўзялі на сябе такую задачу. Узялі рашуча, без ваганняў, адразу пасля вызвалення сталіцы. Самі варшавяне жылі ў часовых зямлянках, а ўзнаўлялі оперны тэатр, гістарычныя помнікі і збудаванні. Недзе ў некага былі знойдзены праекты ці асобныя дэталі праектаў. Ледзь не па ўсёй Еўропе збіраліся музейныя і іншыя нацыянальныя каштоўнасці. Мне расказвалі польскія сябры, што ў краіне ёсць дзесяткі тысяч людзей, якія на працягу дваццаці пасляваенных год выкарыстоўвалі свой адпускны час для работы па ўзнаўленню Варшавы.

І вось яна ўзноўлена, старая Варшава. Ва ўсёй сваёй былой велічы, ва ўсіх рысах і дэталях, ва ўсіх гістарычных ансамблях. Створана таксама і новая Варшава, тая, якой раней не было, і на тым месцы, дзе раней нічога не было.

...Уяўляю ўсё гэта, мінулае і цяперашняе суседняга і блізкага нам народа, і перад вачамі зноў паўстае велічна-ўзнёслы манумент Варшавянкі на адной з плошчаў узноўленай сталіцы.

Жанчына з мечам у правай руцэ звяртаецца да ўсіх волатаў свету з магутным, палымяным заклікам не дапусціць больш таго, што перажыла Варшава і многія іншыя гарады і сёлы нашай планеты.

## МАЛГОСЯ

Катавіцэ — Кракаў... Адлегласць невялікая, але цягнік прыгарадны, ідзе павольна. Па вузкім калідорчыку вагона час ад часу прагульваецца дзяўчынка; чырвоныя банцікі ў яе кароткіх косках сюд-туд ды і мільгнуць паўз наша купэ. Польскія вагоны вузейшыя за нашы і хістаюцца на хаду больш, але пры няхуткай яздзе прагульвацца можна.

Дзяўчынка адзін раз спынілася каля нашага купэ, матнула коскамі, ды мы не вельмі звярнулі на яе ўвагу, бо наш украінскі дэлегат расказваў у гэты час чарговую незвычайную гісторыю: усе слухалі яго. Праз некаторы час дзяўчынка зноў спынілася каля нас — купэ адкрытае, па чатыры мяккія крэслы прымацавана з абодвух бакоў. Нас сямёра, адно месца вольнае. Дзяўчынка паглядвала на гэтае месца і быццам бы ўслухоўвалася ў нашу гаворку.

— Ідзі да нас! — запрасіў яе ўзбекскі дэлегат, які сядзеў з краю.— Сядай вось тут, побач са мною!

Наш перакладчык пачаў паўтарaць гэтае запрашэнне па-польску, але дзяўчынка не даслухала яго, хуценька падышла да вольнага крэсла і стала побач з тым дзядзькам, што запрасіў яе.

— Як жа цябе завуць? — спытаў узбек на рускай мове.

— Малгося,— адказала дзяўчынка, зноў жа не чакаючы перакладу.

— А колькі табе год?

— Шэсць.

— А мяне завуць Рахмат,— назваўся ўзбекскі прадстаўнік.— Дзядзька Рахмат. Панімаеш? Па-рускаму гэта значыць — добры дзядзька, не злосны.

Малгося згодліва паківала галавой.

— А з кім ты тут едзеш? — пытаўся далей Рахмат.— Можа, адна?

Дзяўчынка адмоўна варухнула коскамі, а потым, крыху рускімі, крыху польскімі словамі, растлумачыла, што з ёй едзе тата і што ён сядзіць у суседнім купэ.

— Куды ж вы едзеце?

— Дадому.

— А дзе ваш дом?

— У Кракаве.

Так адбылося гэтае знаёмства, так былі высветлены амаль усе патрэбныя на гэты час пытанні. Больш, можа, і не было пра што пытацца, і дзядзька Рахмат палез у кішэню свайго паліто, якое вісела збоку крэсла на кручку. Але Малгося раптам спыталася:

— А дзе ваш дом?

Гаворка ўзнавілася. Рахмат сказаў, што ён жыве ў Ташкенце, гэта ў тым самым горадзе, у якім было вялікае землетрасенне, якраз тады, калі Малгося нарадзілася. Горад быў разбураны, а Малгося ў той час нарадзілася і пачала расці. Потым і горад зноў нарадзіўся і пачаў расці. Рос ён хутка і цяпер ужо вырас зусім вялікі і прыгожы.

— Ты таксама вырасцеш прыгожая і пекная,— заключыў сваё тлумачэнне Рахмат.

Малгося задаволена ўсміхнулася і нават падалася крыху бліжэй да такога добрага і гаваркога дзядзькі. Потым нечакана і крышку сароменочыся спытала:

— А дзе ён вырас? А?

— Далёка адсюль,— адказаў Рахмат,— у Савецкім Саюзе. Тата, мабыць, расказваў табе пра Ташкент?

— Так, так! — заківала галавой Малгося.— І Чэсік расказваў.

— А хто гэта — Чэсік?

— Брацік мой, ён у школу ходзіць.

Дзядзька Рахмат зноў палез у кішэню свайго паліто і выняў адтуль шакаладку, каб пачаставаць Малгосю. Мы таксама пачаставалі яе: хто цукеркай, хто яблыкам. Неўзабаве яна пайшла ў сваё купэ, але хутка вярнулася. У яе руках была раскрыта пачка пячэння, і з гэтаю пачкаю дзяўчынка падышла перш за ўсё да Рахмата:

— Проша! Тата просіць!

Потым яна падышла да кожнага з нас з такім жа словам:

— Проша!

На століку ў нас было некалькі пляшачак польскага піва. Мы пачалі есці пячэнне і запіваць півам проста з пляшачак. Потым Рахмат сказаў Малгосі:

— Ідзі пакліч сюды свайго тату, скажы, што запрашаем яго на піва.

Мы трошкі здзіўлена глянулі на Рахмата: ці не залішне прамалінейна гэта, ці правільна зразумее нас незнаёмы спадарожнік?

Малгося пайшла і праз якую хвіліну вярнулася ў наша купэ з бацькам. Гэта быў яшчэ малады і даволі абаяльны з выгляду чалавек, у лёгкім, відаць, дарожным гарнітуры. Ён вельмі проста і натуральна пазнаёміўся з усімі намі, заняў вольнае месца і гэтак жа па-свойску прыняў ад Рахмата адкрытую пляшачку піва. Малгося яшчэ раз абнесла нас пячэннем, мы частаваліся, пасмоктвалі піва і вялі агульную гаворку з Малгосіным татам. Ён таксама еў пячэнне і запіваў півам проста з пляшкі. У гаворцы прымаў удзел з ахвотай, з сяброўскай гатоўнасцю сказаць усё, што ведае, што мае на гэты выпадак за душою.

Мы ўсе неяк адразу адчулі, што прывабнасць у гэтага чалавека не толькі знешняя, што, акрамя ўсяго іншага, ён валодае каштоўнымі якасцямі хутка зближацца з людзьмі, хутка знаходзіць агульныя інтарэсы і духоўную блізкасць.

Пачуўшы ад Рахмата пра Ташкент, ён даволі зразумела, хоць не зусім па-руску, расказаў, што ў той год, калі Малгося нарадзілася, ён быў з польскай дэлегацыяй у Звёнзку Радзецкім і бачыў там у піянерскіх лагерах многа ўзбекскіх дзяцей. Людзі расказвалі пра ташкенцкае землетрасенне, пра надзвычайны гераізм і мужнасць ташкентцаў. Потым ён многа чуў і чытаў пра ўзнаўленне горада.

— Як ён усё рос і рос...— удакладніла Малгося.

— Правільна! — першы ўхваліў дзядзька Рахмат.— Рос, рос і вырас! А ты, красуня, хацела б паглядзець, які ён цяпер?

Малгося на нейкі час задумалася, пацёрла далонькай нос, а потым запытала:

— У ксёнжцы ці так?

— Ну, вядома, так,— паясніў Рахмат.— Прыязджай да нас у госці і паглядзіш. Да мяне прыяз-

джай! У мяне ёсць унучкі, такія, як ты, яны ўсё пакажуць.

Малгося яшчэ больш задумалася, яшчэ старанней пачала церці далонькай пераноссе і вочы.

— Ну, чаго ты маўчыш? — папракнуў бацька і адняў яе руку ад пераносся.

— Я не маўчу, а думаю,— удакладніла Малгося.

— А пра што ты думаеш? — спытаў Рахмат.— Скажы нам!

— Я думаю...— мігаючы нацёртымі павекамі, ціха загаварыла дзяўчынка,— думаю, каб вы папрасілі майго тату ўзяць мяне з сабою... І Чэсіка ўзяць, бо ён многа рускіх слоў ведае, а я яшчэ мала ведаю.

— Дык я і прашу тату,— дадаў Рахмат.— А як жа! І тату і Чэсіка! Вядома! Прыязджайце разам!

— От жа хітрая! — задаволена смеючыся, прамовіў Малгосін бацька.— Які ход прыдумала! Я сапраўды збіраюся летам у Савецкі Саюз, пуцёўку ў нашым Орбісе заказаў. Мабыць, прыйдзецца паабяцаць дачцэ... Вось тут перад вамі!

## ЦЮЛЬПАНЫ

Некалі мы разам прагульваліся па вуліцах старога Ташкента. У руках у нас былі вясеннія цюльпаны. Іх сарвалі на страсе аднаго нізкага доміка, і такі ўчынак не лічыўся свавольствам, бо цюльпаны раслі на многіх стрэхах старога горада. Іх ніхто тут не сеяў, не вырошчваў: самі сяяліся, самі раслі.

Потым мы з ім паехалі ў стэпавыя вобласці Узбекістана, і па дарозе нам сустракаліся цэлыя плантацыі цюльпанаў-самасеек...

Ён — гэта Рахмат Файзі, узбекскі пісьменнік. Я зваў яго Рахмат-ака, ён дабаўляў «ака» да майго імя. Па-ўзбекску гэта азначае — паважаны, шаноўны.

...Цэлыя плантацыі цюльпанаў!.. Палымяныя вясеннія кветкі мы ўскладалі на помнікі герояў мінулай вайны. Вялікія букеты прывезлі ў Ташкент і паставілі іх у фарфоравыя вазы ў маім нумары ў гасцініцы.

...Потым мы разам з ім перажылі вялікую бяду народную — першае ташкенцкае землетрасенне. Тых домікаў, на стрэхах якіх раслі цюльпаны, не засталося ні аднаго. Мой нумар у гасцініцы ўцалеў, але вазы з цюльпанамі разбіліся ад магутных штуршкоў, вясеннія кветкі засыпала друзам са столі і заваліла аскабалкамі ад карнізаў. Рахмат астаўся без жылля.

Калі б ён мог паехаць са мною ў наш Мінск, я не хацеў бы нічога лепшага. Але ж хіба мог ён пакінуць свой горад? Ні адзін ташкенец, як вядома, нікуды не паехаў, толькі дзеці выязджалі ў піянерскія лагеры.

У наступную вясну я сустракаў Рахмата ў Маскве. Ён прыехаў у складзе ўзбекскай дэлегацыі на з'езд пісьменнікаў. Беларуская дэлегацыя прыехала раней. Ташкенцкія пісьменнікі яшчэ не мелі дома кватэр, не мелі сталых сядзіб, іх сем'і туліліся ў палатках, але на тварах дэлегатаў былі вясёлыя ўсмешкі, а ў руках цюльпаны. Рахмат падараваў свой бу-

кет мне. Кветкі былі яшчэ свежыя, я здзівіўся, як гэта яны не павялі ў дарозе, як Рахмат здолеў захаваць іхнюю свежасць.

— Ці сніцца табе землетрасенне? — спытаў Рахмат-ака пасля нашага дружалюбнага абмену прывітаннямі.

— Сніцца,— адказаў я.— Часта сніцца. А табе?

— Я не паспяваю яго сасніць,— сказаў ён і засмяяўся сваім задорным раскацістым смехам.

— Чаму гэта? — не адразу здагадаўся я.

— Таму, што, як толькі засну, яно паўтараецца. Амаль кожную ноч паўтараецца. Разбураны ўжо ўсе старыя будынкі.

— А новыя? Гасцініца «Ташкент» стаіць?

— Стаіць! — з гонарам адказаў Рахмат.— Цяпер увесь горад такім будуем: моцным, трывалым!

— А як жа цюльпаны? — не мог не пацікавіцца я, любуючыся свежым букетам.

— Цюльпаны растуць! — ледзь не выгукнуў у радасці мой друг.— Растуць усюды: на старых дворышчах, на руінах, нават каля нашых палатак, хоць ніхто гэтых кветак і не сеяў. Растуць і цвітуць!

Нядаўна мы зноў сустрэліся з Рахматам, ужо ў Варшаве. Неўзабаве падышоў Дзень вызвалення польскай сталіцы. З самага ранку пайшлі людзі да магілы Невядомага салдата, пайшлі да помніка воінам-вызваліцелям.

— Давай пашукаем тут цюльпанаў! — прапанаваў мне Рахмат-ака.

— Давай!

Мы пайшлі шукаць цюльпаны. Нашы польскія сябры падказалі нам, што бліжэй, як дзе, іх можна купіць у адной ■ гасцініц старой Варшавы. Мы хутка знайшлі тую гасцініцу. На наша шчасце, там яшчэ заставалася некалькі каліў прыгожых цюльпанаў. Нам іх раздзялілі на два букеты, хораша аздобілі цэлафанам, перавязалі чырвонымі стужкамі.

З букетамі ў руках мы накіраваліся да помніка. Перад намі і за намі ішлі людзі. Ішлі калонамі, арганізавана, сярэдзінаю вуліцы. Ішлі асобнымі групамі па тратуары. Мы адчувалі, што гэта ў большасці тыя варшавяне, якія вынеслі на сваіх плячах усе нечуваныя пакуты і беды фашысцкай акупацыі і вайны.

Гэта тыя падпольшчыкі, удзельнікі гераічнага Супраціўлення, якія не шкадавалі свайго жыцця ў барацьбе за свабоду айчыны. Гэта тыя нястомныя будаўнікі і творцы, якія, з дапамогай братніх народаў, узнавілі сваю Варшаву, як і беларусы ўзнавілі свой Мінск, як украінцы свой Кіеў і, вядома ж, як узбекі свой Ташкент, хоць там і стыхійная была бяда.

...Ля помніка мы далучылі свае цюльпанавыя букеты да шырокай суцэльнай чырвані іншых кветак. Потым доўга стаялі, трымаючы шапкі ў руках. З высокага п'едэстала на нас глядзелі два надзвычай мужныя чалавекі — савецкі салдат і польскі жолнеж. Першы з іх нагадваў нам пра тых узбекаў, беларусаў, рускіх, украінцаў і іншых савецкіх воінаў, якія ахвяравалі сваім жыццём за вызваленне сталіцы Польскай сацыялістычнай дзяржавы. Другі ўзнаўляў памяць аб такіх жа героях-паляках.

Нашы цюльпанавыя букеты ляжалі поруч...

# ДЖЫМАЛА

Апошні дзень камандзіроўкі... Развітанні... Абмен адрасамі... Мне дае свой адрас наш перакладчык і гід Эдмунд Дульскі. Мой ён запісаў раней.

«Прушкаў, вуліца Джымалы»,— прачытаў я выразны польскі радок.

— Гэта ў памяць нейкага героя? — пацікавіўся я.

— Так,— згадзіўся Эдмунд.— Толькі ён не воін — не партызан, не падпольшчык. Героі розныя бываюць. Слухайце, што гэта быў за герой!

І Дульскі расказаў мне гісторыю той вуліцы, дзе ён цяпер жыве.

Пасля чарговага раздзелу Польшчы, калі і Варшава трапіла пад уладу Прусіі, пасяліўся непадалёку адзін польскі чалавек па прозвішчу Джымала. Пабудаваў хату, хлеў, стаў пакрысе заводзіцца гаспадаркаю. Але неўзабаве прыйшла паперка ад нямецкіх улад, у якой была суровая забарона будавацца паляку на гэтым месцы. Джымала звярцеў з гэтай паперкі вялікую цыгарыну і скурыў. Прыйшла яшчэ адна паперка, яшчэ больш суровая. Джымала скурыў і тую і нямецкага загаду не выканаў.

Тады прыйшлі немцы, аблілі яго будынкі газаю і падпалілі. Стрэхі і кроквы згарэлі адразу, а бярвенне ў зрубах яшчэ не паспела добра высахнуць, таму ўсё цалкам не згарэла, некаторыя абвугленыя стрыжні засталіся.

З гэтых рэштак сваіх будынкаў Джымала зноў зляпіў сабе хату, усё на тым жа месцы. Хата была ўся чорная знадворку, і за новую яе ўжо нельга было лічыць. Нямецкая ж забарона мела на ўвазе толькі новыя будынкі.

Не стрымалі чужынскія ўлады свайго закону: прыйшлі і разбурылі Джымалаву вугальную хатку, сказалі яму, што ўсякі будынак паляка тут будзе спалены ці разбураны. Усякі!

«А калі будан? — падумаў Джымала.— Гэта ж ужо не хата, не будынак, ён не падпадае пад нямец-

кі ўказ». І купіў Джымала ў цыганоў будан, паставіў яго на пажарышчы і зноў стаў жыць на сваім аблюбаваным месцы. Немцы яго зганялі — ён на нейкі час перакачоўваў куды-небудзь, а потым вяртаўся і вяртаўся зноў. Не маглі нямецкія ўлады зусім забараніць яму жыць у будане: чалавек жа не асядае на ўвесь час. Чалавек качуе, хоць і не цыган.

Але Джымала, па-сутнасці, не качаваў, ён трымаўся аднаго месца, свайго, пэўнага, выбранага на сваёй зямлі. Выбранага назаўсёды. І ўтрымаўся, не схіліў галавы перад чужынцамі! А потым і пражыў там увесь свой век, нашчадкаў пакінуў.

Адсюль і пайшла вуліца Джымалы.

Эдмунд на хвіліну змоўк, нібы прыхоўваючы сваё хваляванне, а потым спытаў у мяне ўпэўнена і патрабавальна:

— Ну, хіба гэта не герой свайго часу? Хіба гэта не сапраўдны продак нашых цяперашніх герояў?

Хто ж гэтаму будзе пярэчыць? Я толькі пашкадаваў, што не здолеў пабываць у Прушкове і паглядзець на тое месца, дзе некалі жыў Джымала.

## КАНЦЭРТ

Гэта не той, што ў клубах і палацах... Не той, што па запрашальных білетах. Ён пачаўся сам сабою на вуліцы нямецкага гарадка Кетцэн.

Мы ішлі да сваіх аўтобусаў, каб ужо ехаць у Патсдам, дзе была наша сталая дамоўка, і раптам з акна аднаго зялёнага доміка пачулася прывабная мелодыя «Кацюшы». Нашы музыканты спыніліся: у расчыненым на вуліцу акне блішчала срэбная труба, на ёй мігліва адбіваліся апошнія праменні вясенняга сонца. На гэтай трубе іграў даволі шчодры на прычоску чалавек, знешне падобны на маладога Карла Маркса, але як доўгія валасы на галаве, так і барада, і вусы былі так ладна і з густам змайстраваны, што не выклікалі раздражнення, а набаўлялі цікавасці і павагі да яго.

— А ну, хлопцы! — сказаў кіраўнік нашага ансамбля і стаў паспешліва адшчэпваць зашчапкі на футаральчыку свае трубы. Ён адчуў, што «барадацік» з акна не дылетант у музыцы і выводзіць «Кацюшу» не для блазненскай пацехі, а па-свойму, прафесійна вітае прадстаўнікоў савецкай мастацкай самадзейнасці і нібыта выклікае іх на творчае спаборніцтва, запрашае далучыцца да сябе.

Віталій, так звалі нашага кіраўніка ансамбля, узмахнуў сваім заўсёды паслухмяным яму інструментам, астатнія трубачы хутка падрыхтаваліся і падхапілі «Кацюшу». Гучная і зладжаная мелодыя запоўніла вуліцу, усе куткі навакол, завітвала ў людскія двары і кватэры. Паблізу з нячутным ляскам адчыняліся вокны і адразу ж набіваліся цікаўнымі слухачамі і гледачамі. Выскачыў са свайго акна і барадаты трубач. Выскачыў, не адрываючы трубы ад вуснаў. Здавалася, што ён трымаў муштук чорнымі пышнымі вусамі. З натапыранымі ад натугі бакенбардамі падышоў да нас, і тады я ўбачыў, што пад гэтымі бакенбардамі натхнёна свецяцца яшчэ зусім юнацкія шчокі. І вусны маладыя, са свежай

ружовінкай, яны ўсміхаюцца, іграючы, яны выяўляюць радасць і ўрачыстасць.

Нашы музыканты зайгралі «Разамунду», чароўную і ўзнёслую нямецкую мелодыю. Узялі яе высока і мілагучна. Кетцэнскі трубач вясёлым подскакам падбег да іх, нібы к даўно знаёмым і самым блізкім сябрам, удзячна заківаў галавою і ўскінуў над барадою сваю трубу. Ён падхапіў родную мелодыю з такой урачыстасцю і так высока трымаў інструмент, што здавалася, жадаў напоўніць срэбнымі гукамі не толькі сваю вуліцу, а нават і неба над ім, увесь прастор над горадам.

«Слухайце ўсе! — гаварылі яго вусны, яго гарачыя вочы.— Глядзіце ўсе! Ці было калі штосьці падобнае на нашай вуліцы?»

Горад бачыў жудасці фашызму да вайны, горад пакутаваў ад фашызму ў часе вайны. Цяпер ён святкуе трыццацігоддзе Вялікай Перамогі...

Людзі з усіх канцоў беглі на гэты незвычайны імправізаваны, сапраўды інтэрнацыянальны канцэрт. Людзі слухалі зладжаныя мелодыі, з захапленнем углядаліся ў музыкантаў, у іхнія інструменты. І як не адрознівалі па голасу нямецкую трубу ад нашых, так, можа, і не вызначылі, каторы наш музыкант, каторы іхні. Яны захапляліся канцэртам. Такога яшчэ ніколі не чулі.

## АЛМА-АТА

Гэта раён у Патсдамскай акрузе. Не па карце, не па даведніку, а па людскому ахрышчэнню. Людзі так празвалі гэты раён.

Яблыневае месца... Перш за ўсё, мабыць, па гэтаму падабенству. Але ж не мала такіх месц на свеце. Пэўна ж, дадаецца і тое, што тут і сонца грэе заўсёды роўна і ласкава, як у нашай Алма-Аце, і кветкі цвітуць яркімі, чароўнымі колерамі, і зелень-зелень усюды, свежая і трывалая. І азёры. Лебедзі на азёрах...

На фоне неабсяжнай зяляніны — амаль суцэльныя гірлянды з рознакаляровых сцяжкоў. Яны на фасадах дамоў, на дрэвах садоў і прысад, на агароджах і нават проста на палетках. А вялікія сцягі — букетамі. Гнёзды для дрэўкаў такіх букетаў — не ўразбіўку: адно там, другое там, а кружочкамі і на самых відных месцах. Пастаў сцягі адзін пры адным — вось ужо і букет на ўсю вуліцу, або ваколіцу, або і на ўвесь палетак. Такія гнёзды-трубы сустракаюцца па ўсёй дарозе. Сцягі не аднаго колеру, а трох: нацыянальны Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі — палавіна чырвоная, палавіна чорная; партыйны сцяг — увесь чырвоны. І ўсюды яны побач, усюды разам...

Нямецкія алмаацінцы хадзілі ў тыя дні з чырвонымі банцікамі на грудзях, як і нашы алмаацінцы, як і ўвесь савецкі народ. Яны адзначалі трыццацігоддзе перамогі над фашызмам. Ад тых банцікаў яшчэ больш квітнела патсдамская зямля і яшчэ больш нагадвала алмаацінскую.

У тыя дні я ўпершыню даведаўся, што на свеце дзве Алма-Аты.

## ГОНГ

Яна разгублена спынілася на парозе... Ружовая і крыху ўспацелая ад бегу: ёй перадалі, што дома чакаюць госці з Мінска. Хто гэта? Вядома ж, сяброўка, з якою вось ужо каторы год вядзецца самая шчырая перапіска. А сустрэчы не было.

— Наташа?! — усклікнула дзяўчына яшчэ перад уваходам у тую залку, дзе яе чакалі. Па ўзбуджаных вуснах і вачах можна было заўважыць, што яна зноў хацела пазваць Наташу, але ў пакоі сядзелі два незнаёмыя мужчыны.

— Гэта Наташын бацька,— сказала гаспадыня, якая таксама толькі што прыбегла са свае змены і была яшчэ ў рабочым адзенні: блакітная куртачка, рабенькая касынка на падабраных валасах. Перад гэтым быў дома толькі гаспадар, Герхард Пільц. Ён і сустрэў нас.

Узрадаванымі вачамі і ўрачыстым жэстам рукі гаспадыня паказала на Язэпа Семяжона. Дзяўчына кінулася да яго, са шчырасцю абхапіла за шыю. Потым глянула на мяне і сумелася.

— Яны сябры, пісьменнікі,— удакладніла гаспадыня.— Прыехалі да нас на свята Перамогі.

Але дзяўчына не чакала тлумачэння: з лёгкім рэверансам падала мне руку і сказала:

— Вераніка.

Потым стала апраўдвацца, што спазнілася не так сабе, а па важнай прычыне — была са школай на мітынгу ў Брандэнбургу. Слухала там выступленні геносе Хонекера і савецкага пасла.

Гаварыла з намі па-нямецку, бо ўжо заўважыла, што Язэп Ігнатавіч усё разумее. Значыць, перакладзе і мне.

Мы ўжо ведалі, чаму не засталі Вераніку дома, хоць не надта і спадзяваліся на гэта, бо прыйшлі без ніякага папярэджання. Гаспадар кватэры ўсё расказаў нам. Нягледзячы на самую недаравальную нечаканасць нашага візіту і на адсутнасць гаспадыні, Герхард Пільц неяк вельмі хутка і ўвіротна, быццам

сапраўды чакаў гасцей, накрыў маленькі нізенькі столік, як ёсць халасцяцкі. Пацягваючы па глытку каньячок і не прамінаючы кожны раз чокнуцца з намі, ён спачатку падаў некаторыя штрышкі з уласнай біяграфіі і з цяперашняга жыцця. Былы афіцэр сучаснай арміі свае дзяржавы, обер-лейтэнант. Гэтым, пэўна ж, вельмі ганарыўся, бо паказаў нам свой вайсковы мундзір. У мінулай вайне не ўдзельнічаў — быў тады яшчэ падлеткам. А калі б удзельнічаў, запэўніў нас, то не страляў бы ў сваіх.

— А вы, мабыць, ваявалі? — звярнуўся ён да нас.— Абодва?

— Ваявалі,— пацвердзілі мы.

— І раненыя, напэўна?

— Па некалькі разоў.

Гаспадар на хвіліну змоўк, з яго сухаватага, але вельмі дабрадушнага твару знікла лагодная ўсмешка. Ён сумна паківаў галавою, потым ціха прамовіў:

— Якое шчасце, што мы вось сустрэліся як добрыя сябры... Хоць праз трыццаць год, але ў такі дзень...

Тады зноў пачаў гаварыць пра сябе і пра сваю сям'ю. Працуе начальнікам цэха аднаго з мясцовых прадпрыемстваў. Жонка таксама рабочая. Акрамя Веранікі ў іх яшчэ трое дзяцей: старэйшая дачка, Сузана, аграном, сын Раман — студэнт інжынернага вучылішча, і самы малодшы Дзетлаў — таксама студэнт, але вучыцца не дома, а за дзвесце кіламетраў адсюль.

— Гэты павінен прымчацца,— з гонарам паведаміў бацька.— Заўтра ў іх выхадны. Хіба толькі матацыкл сапсаваў.

Прадчуванні бацькі неўзабаве пачалі збывацца: першым з'явіўся Дзетлаў, вясёлы, абветраны хуткай яздою. Следам — Раман, плячысты, прысадзісты, а тварам зусім юнак, нібы школьнік.

— Наш спартсмен,— сказаў пра яго бацька.— Высокі разрад мае і медалі за рэкорды.

Не прыехала толькі старэйшая дачка, бо яна жыве ўжо самастойна, сваёй сям'ёю, і, відаць, не выпала ёй пабываць у гэты дзень у бацькоў.

Язэп Ігнатавіч перадаў Вераніцы Наташыны падарункі: ручнічок, вышыты беларускімі пеўнікамі,

калекцыю матрошак і шакалад. А праз якую хвіліну Вераніка ўжо стаяла перад намі са сваім падарункам для Наташы: гонгам.

— Збіралася паслаць,— з дзіцячай сарамлівасцю загаварыла яна.— Ды вось такі шчаслівы выпадак...

— Праўда ж,— пацвердзіла маці, стоячы побач.— Купіла нядаўна, прыбегла ўзрадаваная:

— Вось як ударыць Наташа, то, можа, і я пачую.

— А ты сама вытні,— параіў бацька.— Можа, і Наташа пачуе.

Мяккай балабешкай Вераніка ўдарыла ў гонг. Хоць і не моцны быў удар, чыста хатні, але звонны згук урачыста і ўладарна разнёсся па кватэры, і здавалася, што вырваўся праз вокны, а можа, нават і праз сцены на вялікі, неабсяжны прастор.

Мы запрасілі Вераніку і яе бацькоў на ўрачысты вечар, прысвечаны вялікай Перамозе. Дзяўчына зарадавалася, яшчэ не ведаючы, што скажуць на гэта бацькі. Але яны таксама прынялі наша запрашэнне са шчырай удзячнасцю.

Праз нейкі час мы, як кажуць, самай дружнай кампаніяй ішлі па Ратэнаўскай вуліцы: наперадзе маці з дачкою, а следам — мы ўтрох. Хлопцы асталіся дома, бо мелі на гэты час свае неадкладныя справы.

Дзе быў шырэйшы тратуар, жанчыны прысупыняліся, ішлі побач з намі. Урзула, так звалі гаспадыню, дружалюбна ўсміхалася і час ад часу паварочвала хараша прычасаную галаву больш да Язэпа Ігнатавіча, спадзеючыся пачуць што-небудзь на нямецкай мове. На ёй быў прыгожы малінавы... не берэцік, як у Таццяны Ларынай, а бручны касцюм, які вельмі падыходзіў ёй і прымаладзіў так, што ніхто не прызнаў бы ў ёй матку чацвярых дарослых дзяцей. Гаспадар таксама надзеў даволі элегантны светлы касцюм, ды пры яркім гальштуку, ды пры такім жа ражэчку хусцінкі, вытырклым з кішэнькі пінжака...

— Вось тут усюды сядзелі эсэсаўцы,— паказаў ён на будынкі непадалёку ад гарадской плошчы.— Ужо рэйхстаг быў узяты нашымі,— так ён увесь час называў чырвонаармейцаў,— а яны сядзелі тут у Ратэнаў і адбіваліся. А нас усіх, малых і старых, тры-

малі ў падвалах... Не толькі ў апошнія дні, а і да гэтага...

— Дзяцей многа загінула,— дадала Урзула.— Ад голаду і смагі. Нідзе нічога не было, усё выграблі эсэсаўцы. А нас не пускалі нават вады прынесці.

На вечары нашы госці з захапленнем слухалі мінскі канцэрт. Не верылі, што выступаюць не прафесійныя артысты, што ўсе музыканты, танцоры, вакалісты — удзельнікі мастацкай самадзейнасці вытворчага аб'яднання «Гарызонт». У перапынку музыкальная па натуры Вераніка напявала мелодыю «Ручнікоў», якую чула ўжо і раней.

Потым прыём у рэстаране. Урзула і Вераніка амаль бесперапынна танцавалі, бо духавы аркестр не шкадаваў ні труб, ні сваіх вуснаў. Герхард, калі не было побач Язэпа Ігнатавіча, падсядаў да каго-небудзь іншага з мінчан і старанна паўтараў тыя некалькі рускіх слоў, якія ведаў. Часам праз столікі ён заўважаў мяне і выклікаў на ўсю залу:

— Аляксей! Дружба, дружба! — І падымаў над сваёй галавою моцна сашчэпленыя рукі.

Пры развітанні ён сказаў Язэпу Ігнатавічу:

— Дык няхай Наташа ўдарыць у гонг. Моцна, моцна! Мы пачуем...

# ПЯЮЦЬ ДРАЗДЫ

Для душы пяюць, а не для славы. Толькі не ў лесе, як падаецца ў вядомай песні, а ў мяне пад акном. Тут няма вялікага лесу, тут мураваныя будынкі і каля іх бэзавыя прысады, толькі дзе-нідзе растуць аднаасобніцы-сосны. Гэта прыгарад Патсдама, гэта той камфартабельны інтэрнат мясцовай партыйнай школы, дзе мы часова кватаруем.

Уставаць тут даводзіцца не ў той час, як дома, бо і сонца ўзыходзіць не ў той час. Прызвычаены да свайго рэжыму, я, мабыць, прасыпаў бы і спазняўся на снеданне, калі б не тутэйшыя дразды, вельмі клапатлівыя і здагадлівыя. Яны пачыналі спяваць на самым світанку, і я слухаў іх песні яшчэ спрасоння. Слухаў і ведаў, што яшчэ можна трошкі паспаць ці хоць падрамаць пад гэтыя прыемныя спяванні. І адчуваў, што не прасплю, дразды не дадуць праспаць, не дазволяць спазніцца на ранні, але даволі трывалы сняданак. Іншы раз мне снілася, што дразды заляцелі ў мой пакой, лётаюць над маёй галавою і заклікаюць: «Уставай, уставай, пара, пара...»

Я хуценька падхопліваўся, глядзеў на гадзіннік: было роўна сем раніцы. У пакоі дразды не лёталі, а адзін з іх сядзеў на бэзавай галінцы ля самага акна, глядзеў у шыбу і залівіста спяваў. Я падыходзіў да акна, каб зблізку палюбавацца птушкай і быццам бы падзякаваць ёй за тое, што своечасова разбудзіла. Замілавана глядзеў на яе, а яна глядзела на мяне і шырока разяўляла дзюбу, спявала.

Дразды тут не баяцца людзей. Не баяцца і іншыя птушкі. А яшчэ зайцы і казулі.

Кажуць людзі: «Палахлівы, як заяц». Тут наўрад ці жыве такая прымаўка.

Выходзіў я на прагулку па вечарах, хадзіў, блукаў па асфальтаваных дарожках вакол будынкаў інтэрната. І побач са мною па ціхім прасторы гойсалі зайцы, перабягалі мне дарогу, а часам лапаталі і па асфальце.

Была тут непадалёку стаянка машын, якраз на

кругу заечых гульняў. І касыя не абміналі стаянку, праскоквалі каля машын, а то шмыгалі і пад машыны.

Аднаго разу на прыцемку падышоў я да аўтастаянкі пацікавіцца тутэйшымі маркамі. Ляснуў дубчыкам па капоце нашага «Масквіча», а з-пад яго — заяц. Выскачыў, кумільгнуў разоў некалькі, потым павярнуўся да мяне і сеў: відаць, яшчэ не даспаў да свайго часу.

Падыходзіла аднекуль да інтэрната і казуля. Гэтая глядзела на мяне крыху насцярожана, на асфальт ступаць не адважвалася, можа, таму, што быў чуцён стукат капытоў. Аднак і не ўцякала, паціху паварочвалася да мяне куцахвостым азадкам і падавалася ў недалёкія зараснікі.

Ціха ўсюды: ні самалётаў, ні гармат. Гэта ў тым месцы, дзе трыццаць год таму назад адбылася вялікая перамена над фашызмам. Цяпер і з дубальтоўкі тут ніхто не стрэліць у недазволеным месцы, у недазволены час, у недазволеную дзічыну. Людзі мірна працуюць, ствараюць і любоўна берагаюць створанае, берагуць дары прыроды. І дзяцей вучаць шанаваць птушак, даглядаць пчол. А пчолы не кусаюць дзяцей. А дразды спяваюць над вокнамі...

## ФЮР КІНДЭР

*(Са слоў Алаізы Элснер)*

Мы сядзім за адным сталом з філосафамі партыйнай школы ў Патсдаме.

Загадчык кафедры прафесар Элснер паклаў руку на спінку крэсла Язэпа Семяжона, крыху нахіліўся да яго.

Паміж імі ідзе такая дружалюбная і ўзаемарадасная гутарка, быццам бы гэта сустрэліся даўнія закадычныя сябры. А жонка Элснера чамусьці не далучаецца да іхняй гаворкі, хоць і сядзіць побач. Нарэшце яна ўлучае момант, калі перапыняецца ў сваёй перакладчыцкай дзейнасці мой сусед, аспірант Маскоўскай акадэміі грамадскіх навук Юрген Дрэхер, і цераз стол нешта гаворыць яму.

Той згодліва ківае галавой і потым звяртаецца да мяне:

— Фрау Алаіза хацела б успомніць сёе-тое з таго, што было тут трыццаць год назад. Ці згодны вы паслухаць?

— З вялікай цікавасцю,— адказаў я і ў той жа момант сустрэў ветлівы пагляд і добрую ўсмешку жанчыны.

— Мы таксама паслухаем,— заявілі бліжэйшыя ад нас суседзі па сталу.

І вось Алаіза расказала:

— Гэтае месца, дзе мы цяпер, было ўжо амаль вызваленае, а там, бліжэй да Патсдама, ішлі баі. Вылезлі мы неяк з адной дзяўчынкай, такой жа школьніцай, як і я, з таго сутарэння, дзе хаваліся нашы сем'і, і пабеглі па пасёлку шукаць чаго-небудзь з харчоў або хоць вады для малых. У нашай сям'і было іх яшчэ трое, а ў суседскай — двое. Глядзім: ідзе савецкі салдат па вуліцы, абедзвюма рукамі апіраецца на кіёк, а на грудзях — аўтамат. Мы бягом уцякаць, а наўздагон чуем голас, слабы такі, не пагрозлівы: «Ком, ком!»

Азірнуліся: ляжыць той салдат ужо на зямлі, а рукою нам махае, заве падысці. Мы хоць і баяліся, але падбеглі. «Васэр»,— ледзь вымаўляе салдат і па-

казвае на свой рот. Вусны ссінелыя, відаць, ад болі і засмяглыя.

Мая сяброўка пабегла шукаць вады, а я асталася каля раненага. Аўтамат у яго на грудзях, як і быў, а кіёк адкінуўся ўбок. Гляджу — кроў на гэтым кійку. Баялася я тады крыві і цяпер баюся. Але пачала аглядваць салдата, хоць яшчэ і не ведала, як яму памагчы...

Удзвюх з сяброўкай мы прыпаднялі яго і падалі кіёк. Але ён недавольна замахаў рукамі і абапёрся на нашы дзіцячыя плечукі. З натугай і стогнам узняўся на ногі, ды неяк гаротна і безнадзейна стаў глядзець на свае запыленыя боты. Я таксама агледзела іх яшчэ раз. Пылу на іх — тоўсты слой. Пылу і гразі: відаць, траплялiся па дарозе і пясок і раса. А раны, мабыць, там, у галяніпічах.

Мы павялі салдата ў свой склеп, бо яшчэ нельга было ўладзіцца дзе-небудзь наверсе: у пасёлку і навакол часта рваліся снарады і бомбы. Мая мутэр некалі была сястрой міласэрдзя пры шпіталі, яна адразу вызначыла, што салдат паранены ў нозі, і стала разуваць яго. Але гэта было нялёгка: галянішчы як прыраслі да галёнак, а рэзаць боты маці спачатку не дазваляла: як жа псаваць салдацкі абутак?..

...На другі дзень нехта моцна пастукаў у завалiну нашага склепа. Перад гэтым зямля ўздрыгвалася ад блізкіх выбухаў, нас ледзь не пазасыпала там жывымі. Мы падумалі, што вярнуліся эсэсаўцы і тады канец усяму: знойдуць параненага чырвонаармейца — расстраляюць і яго і нас.

Схавалі мы свайго госця ў куток, накрылі чым маглі і самі паселі пры ім, каб засланіць. А ён адхіліў нас рукою і наставіў на дзверы аўтамат.

Мутэр набралася сілы і крыкнула: «Хто там?!» І ў адказ пачулася рускае слова: «Свае!»

— Адчыняйце! — падаў знак наш салдат і ўвачавідкі ажвавеў, узняўся на локці і скінуў з сябе ўсе пакрыўкі, толькі перавязаныя ногі асталіся пад шынялём.

Увайшлі два рускія вайскоўцы, адзін, відно, камандзір, другі, можа, так. Ім нехта сказаў, што ў нас ранены баец. Пагаварылі з ім, аб нечым дамовіліся,

нешта пакінулі ў пакунку. Тады старшы падаў руку мутэр, відаць, падзякаваў за дапамогу і глянуў на нашых малых, якія сядзелі проста доле і ўставіліся на незнаёмага з цікавасцю і спалохам. Іх галодныя і пакутлівыя вочы блішчалі дзікавата, але даверліва.

Вайскоўцы паспешліва выйшлі, відаць, забеглі сюды праездам. Але праз некалькі хвілін адзін з іх зноў вярнуўся і пад крысамі шыняля прынёс дзве баханкі хлеба.

— Фюр кіндэр,— усміхнуўшыся, сказаў ён.

А па-руску гэта азначае: «Усё дзецям».

## МАЕ КАЛЁСІКІ

*(Таксама са слоў Алаізы Элснер)*

Ехала я на веласіпедзе. Пошта тады яшчэ толькі наладжвалася, машын не было, таму мне даручылі завезці ў суседні пасёлак нейкае вельмі важнае пісьмо. Еду, спяшаюся, і раптам няшчасце — стукнулася аб камень на дарозе і веласіпед сапсаваўся. Стаю на абочыне, плачу, не ведаю, што рабіць: бегчы далей самой, дык яшчэ далёка, і веласіпед шкада пакінуць — такія калёсікі, так хораша яны ў мяне круціліся...

Едзе насустрач грузавік з чырвонаармейцамі. Спыняецца. Гляджу са слязьмі, а яны пасміхваюцца. Я яшчэ больш плачу, а яны яшчэ больш пасміхваюцца. Потым адзін саскоквае з кузава, хапае мой веласіпед і — назад у кузаў. Машына загула маторам. Я ў крык: «Аддайце мае калёсікі, мне трэба ехаць!» Паказваю пісьмо...

Машына гула, але з месца не краталася. Потым чую — нешта лясь, лясь у кузаве. І быццам задрыжалі мае калёсікі, зазвінелі спіцамі.

«Нашто ж біць па іх, калі яны і так слабенькія, яшчэ дзіцячыя...»

Па дарозе пацягло ветрыкам, і абдало мяне дымам з-пад машыны. Заплюшчыла вочы, а калі расплюшчыла, то ўбачыла, што каля мяне стаіць той самы чырвонаармеец з маім веласіпедам і ласкава ўсміхаецца. Потым вымае з кішэні хустачку, выцірае мне слёзы і паказвае, што я магу ехаць, веласіпед спраўны.

Мне раптам стала так радасна, што я гучна засмяялася. А чырвонаармейцы з кузава адказалі мне ўжо зусім вясёлым смехам.

Потым я паехала, а яны памахалі мне рукамі.

# ЗМЕСТ

## АПОВЕСЦІ



## АПАВЯДАННІ

*Алексей Николаевич Кулаковский*

РОДНЫЕ ШИРОТЫ

Повести и рассказы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар М. М. Ваданосаў. Мастак В. П. Масцераў. Мастацкі рэдактар А. І. Труханава. Тэхнічны рэдактар С. А. Абрамчук. Карэктар Я. Ф. Харко.

ІБ № 109

Здадзена ў набор 07.12.77. Падп. да друку 31.07.78. АТ 09749. Фармат 84×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Друк высокі. Ум. друк. арк. 10,92. Ул.-выд. арк. 10,66. Тыраж 14 000 экз. Зак. 837. Цана 95 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Кулакоўскі А.**

К 90 Родныя шыроты: Аповесці і апавяданні. Мн.: Маст. літ., 1978.— 224 с.

У кнігу вядомага беларускага пісьменніка ўключаны аповесці «Родныя шыроты», «Дзе каму жыць» і апавяданні.

«Родныя шыроты» — дакументальная аповесць, прысвечаная людзям сённяшняга дня — салігорцам, будаўнікам і шахцёрам, учарашнім калгаснікам.

Па тэме сугучна з гэтым творам і другая аповесць.

Пра людзей працы расказваюць лірычныя апавяданні.

К $\frac{70303-153}{М 302(05)-78}$ 14—78 Бел 2